


# Шлях Коопэрацыі

## БЮЛЕТЭНЬ

КООПЭРАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАЎ БССР
БЕЛСЕЛЬБАНКУ І УСЕКОБАНКУ



НЯХАЙ ЖЫВЕ МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ КООПЭРАЦЫІ


№ 8-9 (68-69)
ЧЕРВЕНЬ—ЛІПЕНЬ
МЕНСК 1928

ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# ШЛЯХ КООПЭРАЦЫІ



ШТОМЕСЯЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КООПЭРАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАЎ БССР ПРЫ
ЎДЗЕЛЕ БЕЛСЕЛЬБАНКУ і УСЕКАБАНКУ

4-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 8-9 (68-69)
ЧЭРВЕНЬ-ЛІПЕНЬ
1928 года



МЕНСК

# НЯХАЙ ЖЫВЕ МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ КААПЭРАЦЫІ

## Сьвята Міжнароднага Дня Каапэрацыі

**(У нас і ў іх)**

6 год таму назад да ліку рабочых сьвятаў далучылася яшчэ адно сьвята—Міжнародны Дзень Каапэрацыі.

На моцы пастановы Міжнароднага каапэрацыйнага саюзу што год, у першую суботу ліпеня месяца, арганізаваныя ў каапэрацыю рабочыя і сяляне ўсіх краёў сьвяткуюць гэты дзень.

У краіне пераможнага пралетарыяту, ў Савецкім Саюзе, гэты дзень зьяўляецца сапраўды днём масавае ўрачыстасьці, масавае дэманстрацыі посьпехаў нашае каапэрацыі, выяўленьня сапраўдных адносін да яе з боку рабоча-сялянскіх мас нашае дзяржавы.

Але, як і ў мінулыя гады, іншае будзем мы бачыць сёлета ў краінах панаваньня капіталу, у краінах, дзе паняволена рабочая кляса, дзе кіраўніцтва каапэрацыяй у сваёй большасьці знаходзіцца ў цэпкіх лапах псэўда-сацыялістычных і дробна-буржуазных прыслужнікаў капіталу.

У саюзе савецкіх краін рабочыя і сяляне выйдуць у дзень свайго сьвята на дэманстрацыю, як пераможнікі, як вялізны адрад будаўнікоў сацыялістычнае гаспадаркі, будаўнікоў новага жыцьця, новага быту.

У буржуазных краінах рабочая кляса будзе прымушана покуль-што сьвяткаваць свой дзень каапэрацыі пад пільным вокам гіндэнбургаўскіх шуцманаў, пад дыктатарскай забароваю Мусаліні, пад пятай пілсудчыкаў-жандараў.

На сёньняшні дзень розьніца існасьці нашае каапэрацыі ад каапэрацыі буржуазных краін бязьмежна глыбокая.

Пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі, партыі пераможнага пралетарыяту, пад кіраўніцтвам ураду рабочых і сялян, савецкая каапэрацыя робіць сваю вялікую справу арганізацыі спажыўца, арганізацыі вытворшчыка.

І кожны крок савецкае каапэрацыі ёсьць крок наперад у справе паглыбленьня сацыялістычнага будаўніцтва.

І ня дзіва, што з ліку 45 мільёнаў пайшчыкаў каапэрацыі ўсяго сьвету да 25 мільёнаў прыпадае на каапэрацыю Савецкага Саюзу.

Іншая справа ў буржуазных краінах.

Моцна сьціснулі там кіраўніцтва каапэрацыяй ў сваіх лапах згоднікі ўсіх гатункаў і колераў—прыслужнікі каралёў капіталу, вартыя жалю фантазэры і лятуценьнікі, бяздарныя баязьліўцы і брахуны. Яны—супроць рэвалюцыйных ідэй у каапэрацыі, яны супроць дапамогі з боку каапэрацыі работніцкай клясе ў яе змаганьні з капіталам. Яны за нэйтралітэт каапэрацыі, яны за аб'яднаньне ў каапэрацыі ўсяе „нацыі", пачынаючы ад каралёў нафты, вугалю і жалеза і канчаючы беспрацоўным пралетарам.

Гэта гучыць натолькі-ж гучна, наколькі і цынічна-брахліва.

Брахуны і двудушнікі!

Яны спрабуюць выхаваць у рабочай клясе хімэру пра магчымасьць „мірнага" пераходу праз каапэрацыю ад капіталістычнага ладу да сацыялізму.

Бяздарныя, бяздарныя брахуны!

Жыцьцё б'е іх на кожным кроку...

Не такія ўжо дурныя ўладары капіталу, каб даць магчымасьць разьвівацца каапэрацыі хаця-бы на іоту больш, калі яна ўжо робіцца небясьпечнай для буржуазіі.

Ня так ужо наіўны яны, каб дазваляць разьвівацца каапэрацыі там, дзе яна хоць крышачку адкрыта робіцца цэнтрам прыцягненьньня і арганізацыі клясавых інтарэсаў рабочых мас.

Хто не памятуе разгрому баўгарскае каапэрацыі катамі Цанкава? Хто ня ведае пра разгром малойчыкамі Мусаліні італьянскае каапэрацыі, пра разгром, зьвязаны з фізычным зьнішчэньнем каапэратараў?

Хто ня ведае пра найганебнейшы акт згодніцкіх кіраўнікоў каапэрацыйнага Альянсу, што адмовіўся дапамагчы ангельскім вуглякопам у дні іх вялікае гэраічнае забастоўкі? Можна было-б пры жаданьні пералічыць сотні і тысячы падобных фактаў.

І што-ж, ці-ж можна пасьля гэтага гаварыць пра магчымасьць мірнага пераходу ад капіталізму да сацыялізму праз каапэрацыю?

Так могуць гаварыць толькі няшчасныя лятуценьнікі, фантазэры і цынічныя брахуны, прыслужнікі капіталу!

І ня дзіва, што, побач з вялікімі гаспадарчымі посьпехамі савецкай каапэрацыі, посьпехі заходніх эўрапейскіх каапэратараў фактычна зьяўляюцца ня чым большым, як тупатаньнем на адным месцы, навакол няпрыступных цьвярдынь капіталу.

„... справа агальнага сусьветнага братэрства і міру некалькі пасунулася наперад за мінулы год“,— гаворыцца ў згодніцкім маніфесьце, выданым міжнародным каапэрацыйным Альянсам да дня каапэрацыі.

Ці-ж можна думаць, што гэта ў сур'ёз сказаныя словы?

Справа агульнага братэрства і міру пасунулася наперад, пішуць лятуценьнікі з Альянсу!

Але адкуль-жа тагды ўзбраеньне імпэрыялістычных дзяржаў, якое ўсё працягваецца далей і далей? Адкуль змаганьне за рынкі, за сыравіну, якое расьце між імі? Ці-ж гэта прасоўваньне да агульнага міру?

А адхіленьне канфэрэнцыяй па разбраеньні савецкіх прапаноў аб поўным і нават частковым разбраеньні,—гэта таксама праяўленьне імкненьняў да міру?

А інтэрвэнцыя капіталістычных краін у Кітаі?

А разрыў дыплёматычных зносін між Англіяй і СССР?

А адносіны Польшчы і Літвы, Італіі і Юга-Славіі,—гэта таксама набліжэньне да агульнага міру?

Няшчасныя, няшчасныя лятуценьнікі! Конь з адзетымі на вочы шорамі можа бачыць больш за вас!

Маніфэст гаворыць пра „мір і ў напрамку эканамічнага аднаўленьня шляхам аб'яднаных намаганьняў усяе нацыі.

Мір у прамысловасьці, супрацоўніцтві клясаў і нацый!“

На якой гэта плянэце жывуць гэтыя лятуценьнікі, гэтыя дзівакі з Альянсу?

А наступ трэставанага капіталу ўсіх буржуазных краін і яго атакі на жыцьцёвы ўзровень рабочае клясы?

А дыктатура цэн, якая ўсё ўзрастае? а зьніжэньне зарплаты? а падаўжэньне працоўнага дня? а лёкауты ў цэлым шэрагу галін прамысловасьці і г. д. і г. д.? Гэтага ўсяго ня існуе? Гэтага ўсяго ня ведае, не адчувае на сваёй уласнай скуры заходня-эўрапейскі пралетар?

Мары і сапраўднасьць! Якія вы далёкія адзін ад аднаго!

Савецкая каапэрацыя ў гэты дзень будзе дэманстраваць свае посьпехі і дасягненьні. Яна будзе выяўляць свае слабыя мясьціны, свае недахопы. Яна будзе будаваць свае пляны далейшых дасягненьняў, далейшага росту. Яна будзе залучаць усё новыя і новыя пласты рабочых і сялян у свае шэрагі. Яна будзе паказваць, як на практыцы будуецца сацыялізм у савецкай краіне.

Заходня-эўрапейскі пралетар будзе сьвяткаваць сваё сьвята напалову легальна, пад занесенай над яго галавой нагайкай шуцмана і жандара.

Ён будзе сьвяткаваць свае невялікія дасягненьні і будзе радавацца вялізным посьпехам каапэрацыі рабочых і сялян Савецкага Саюзу. Ён будзе ведаць розьніцу свайго становішча

і яшчэ гарачэй, яшчэ больш рашуча будзе рыхтаваць свае сілы супроць наступу капіталу, супроць фашызму, супроць ваеннай небясьпекі, супроць нападу на Савецкі Саюз, абарону і цьвярдыню сусьветнага пралетарыяту. Заходня-эўрапейскага пралетара ня ашукаюць брахлівыя „елейные“ маніфэсты і лёзунгі сёньняшніх кіраўнікоў каапэрацыі буржуазных краін. Ён ведае, дзе праўда. І за гэтую праўду ён будзе змагацца. Ён будзе змагацца і ў сваіх каапэратывах—супроць прадажных кіраўнікоў каапэрацыі, і ў сваіх прафэсыянальных арганізацыях—за паляпшэньнэ свайго эканамічнага становішча, супроць палітыкі жоўтых лідэраў, і ў шэрагах свае кампартыі—пад сьцягам Камінтэрну за зрыненьне капіталу.

У Міжнародны Дзень Каапэрацыі савецкія каапэратары, дэманструючы свае посьпехі і дасягненьні, праз пагранічныя слупы, праз галовы прадажных кіраўнікоў замежнае каапэрацыі шлюць сваё магутнае прывітаньне каапэратарам пралетарам ўсіх краін, якія рыхтуюць свае сілы да рашучае і магутнае барацьбы.

---

А. Чумак

# Міжнародны Дзень Каапэрацыі і Ленінскі Камсамол

Ленінскі камсамол і ўся працоўная моладзь павінны прыняць самы актыўны ўдзел у правядзеньні Міжнароднага Дню Каапэрацыі. Ячэйкі ЛКСМБ на мясцох павінны практычна дапамагчы каапэрацыйным арганізацыям у падрыхтоўцы і правядзеньні каапэрацыйнага сьвята.

Перш за ўсё ячэйкі камсамолу не павінны праводзіць МДК сярод моладзі асобна. Міжнародны Дзень Каапэрацыі зьяўляецца сьвятам усіх працоўных мас, і таму камсамольскія арганізацыі павінны быць шырока ўцягнены ў агульнае сьвяткаваньне і стаць зачыншчыкамі масавай каапэрацыйнай урачыстасьці насельніцтва як у горадзе, так і ў вёсцы.

Дапамога ячэек ЛКСМБ у правядзеньні МДК павінна вызначыцца ў першаю чаргу ў культурным абслугоўваньні каапэрацыйнага дню: у пастаноўцы інсцэніровак, спэктакляй, жывых газэт, ва ўпрыгожаньні клюбаў і хат-чытален плякатамі, лёзунгамі, дыяграмамі; у падрыхтоўцы ўрачыстых пасяджэньняў, працэсій і г. д. Дзеля гэтага неабходна зьвязацца з камісіямі па правядзеньні МДК.

Моладзь можа быць добрым агітатарам і прапагандыстым задач і ідэй каапэрацыі. У часе падрыхтоўкі да сьвята трэба прыцягнуць усю камсамольскую масу да працы па зборы паёў і каапэраваньні, дапамагчы каапэратыву праводзіць гутаркі аб каапэрацыі, аб значэньні МДК, аб працы мясцовага каапэратыву; прыняць актыўны ўдзел у распаўсюджваньні кнігі і газэты і г. д.

Усім ячэйкам ЛКСМБ неабходна падвесьці вынікі свае каапэрацыйнае працы, праверыць выкананьне дырэктыў вышэйшых арганізацый у гэтым напрамку і вызначыць далейшы плян каапэраваньня моладзі і ўдзелу ячэек у працы каапэрацыі.

Перад кожнай камсамольскай арганізацыяй у Міжнародны Дзень Каапэрацыі павінна стаяць задача пагалоўнага каапэраваньня працоўнае моладзі гораду і вёскі і найбольшага ўцягненьня яе ў каапэрацыйнае будаўніцтва. У зьвязку з гэтым кожная ячэйка ЛКСМБ, ня чакаючы паказаньняў зьверху, павінна шырока разгарнуць каапэраваньне моладзі. Вядома, што раней, як прыступіць да запісу ў пайшчыкі неабходна правесьці шырокае растлумачэньне ільгог для моладзі. Да гэтага часу каапэраваньне моладзі ўпіралася ў велічыню пая. Улічваючы гэта, каапэрацыйныя арганізацыі пайшлі насустрэч моладзі і ўстанавілі для другіх членаў сям'і ільготны пай. У спажывецкай каапэрацыі, напрыклад, статутны пай для моладзі і другіх членаў сям'і ўстаноўлены на вёсцы 20-процантны (г. зн. 2 руб. замест 10 руб.) і ў горадзе—33 проц. (5 р. замест 15). Згодна дырэктывы сходу, упаўнаважаных Белкаапсаюзу каапэраваньне бядняцка-батрацкай моладзі—другіх членаў сям'і павінна ісьці за лік фондаў каапэраваньня беднаты. Каапэрацыйныя арганізацыі на мясцох для моладзі, якая ўступае ў каапэрацыю, павінны даваць магчымасьць уносіць пай натураю (хлебам, яйкамі і інш.), а таксама адрабляць пай (перавозка ў каапэратыў тавараў, убраньне памяшканьняў і г. д.).

Усе гэтыя прадастаўленыя каапэрацыяй для моладзі ільготы павінны быць шырока выкарыстаны кожнай ячэйкай ЛКСМБ для каапэраваньня сваіх членаў і ўсяе працоўнае моладзі ў часе правядзеньня Міжнароднага Дня Каапэрацыі. Каапэратывы ў сваю чаргу павінны садзейнічаць і дапамагаць ячэйкам ЛКСМБ у правядзеньні гэтага мерапрыемства.

Да Міжнароднага Дня Каапэрацыі многімі каапэрацыйнымі арганізацыямі будзе прысьвечана ўрачыстае адчыненьне новых каапэрацыйных прадпрыемстваў і культурна-бытавых устаноў (дзіцячыя сады, ясьлі, пляцоўкі, чайныя, каапэрацыйныя куткі і г. д.). Камсамольскія ячэйкі павінны дапамагчы каапэратывам арганізаваць гэтыя ўрачыстасьці і скарыстаць іх да каапэрацыйнай агітацыі і прапаганды як сярод моладзі, так і сярод усяго насельніцтва.

У насьценгазэтах неабходна высьветліць усю працу мясцовага каапэратыву, адзначыць як добрыя, так і дрэнныя бакі яго працы. Для гэтага трэба прыцягнуць увесь каапэрацыйны актыў з пайшчыкаў, разьвіць навакол недахопаў працы самакрытыку, унесьці прапановы для паляпшэньня працы каапэрацыі.

Наогул, Міжнародны Дзень Каапэрацыі ў камсамоле павінен прайсьці пад лёзунгамі: „Кожны камсамолец—член каапэрацыі", „працоўная моладзь—актыўны будаўнік каапэрацыі".

Моладзь заўсёды зьяўляецца будзільнікам усякіх новых пачынаньняў, яна больш чула адносіцца да ўсякіх мерапрыемстваў, яна можа быць добрым агітатарам і прапагандыстым задач і ідэй каапэрацыі,—аб гэтым павінны памятаць усе каапэрацыйныя арганізацыіі усе нашы каапэратары.

Для моладзі каапэрацыя зьяўляецца школай грамадзкіх навыкаў; на грамадзкіх калектыўных пачатках яна вучыць моладзь лепш весьці гаспадарку,—аб гэтым павінны памятаць усе камсамольскія арганізацыі, кожны камсамолец, кожны малады рабочы і селянін у паасобку.

На мясцох яшчэ не ў дастатковай меры ўцямілі гэтую двухбаковую карысьць.

Ленінскі камсамол і ўся працоўная моладзь Беларусі і на гэтым фронце сацыялістычнага будаўніцтва павінны паказаць прыгнечанай моладзі капіталістычных краін, як у краіне саветаў яны ўдзельнічаюць у будаўніцтве новага жыцьця.

М. Жукаў

# Сыстэма Сельска-гаспадарчай коопэрацыі к Міжнароднаму Дню Каапэрацыі

У міжнародны дзень каапэрацыі—дзень падліку нашых сіл неабходна азірнуцца на пройдзены шлях і падвесьці вынікі працы з тым, каб атрыманыя дасягненьні замацаваць: і паглыбіць, а недахопы ў працы за мінулы пэрыод улічыць і зжыць.

У гэтым артыкуле мы хочам даць кароткі аналіз росту сыстэмы сел.-гасп. коопэрацыі Беларусі, а таксама выявіць тыя асноўныя шляхі, па якіх накіроўваецца разьвіцьцё коопэрацыі, бо разьвіцьцё апошняй, ў сваю чаргу, строга адпаведае кірунку сельская гаспадаркі і ўсяе народнае гаспадаркі ў цэлым.

Апошнія гады працы характэрызуецца хуткім ростам разьвіцьця сельска-гаспадарчых аб'яднаньняў, што можа быць ілюстравана ніжэйадначанымі лічбамі:

| Віды сел.-гасп. коопэрацыі | На 1/X 26 г. | | Проц. коопэраваньня | На 1/IV 26 г. | | Проц коопэраваньня |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Кольк. арганізац. | Членаў у іх | | Кольк. арганізац. | Членаў у іх | |
| Сел. гасп. крэд. т-вы | 161 | 160116 | 20,10 | 230 | 266919 | 33,40 |
| Сель.-гасп. т-вы бяз крэд функц. | 176 | 23167 | 2.90 | 70 | 10560 | 1.30 |
| Калгасы | 391 | 5524 | 0.70 | 591 | 7688 | 1,00 |
| Малочныя арцелі | 79 | 3839 | 0,50 | 290 | 16088 | 2,00 |
| Пчалярн. т-ву | 15 | 594 | 0,07 | 37 | 1368 | 0,15 |
| Садова-гародныя т-вы | 46 | 743 | 0,10 | 51 | 633 | 0.08 |
| Бульба-цёрачн. т-вы | — | — | — | 1 | 28 | — |
| Ільнаводныя т-вы | — | — | — | 1 | 52 | — |
| Т-вы для агнятрыв. будаўн. | 6 | 239 | — | 44 | 649 | 0,08 |
| Млынарныя т-вы | 2 | 126 | — | 6 | 753 | 0,10 |
| Мэліорацыйн. і тарпян. т-вы | 55 | 3439 | 0,40 | 344 | 17747 | 2.20 |
| Машынныя т-вы | 24 | 468 | 0,06 | 192 | 3082 | 0,40 |
| Жывёлаводч. т-вы | 4 | 1242 | 0,20 | 62 | 2761 | 0,20 |
| Кантрольныя т-вы | 1 | 37 | — | 10 | 336 | 0,05 |
| Насеньняводныя т-вы | 11 | 894 | 0,10 | 41 | 1810 | 0,20 |
| Рыбалоўныя т-вы | 14 | 225 | — | 19 | 228 | 0,03 |
| Саматужна-прамысловыя т-вы | 27 | 1062 | 0,10 | 14 | 232 | 0,03 |
| Пасялковыя т-вы | — | — | — | 38 | 642 | 0,08 |
| Птушкаводныя т-вы | — | — | — | 8 | 301 | 0,03 |
| Іншыя т-вы | 1 | 7 | — | — | — | — |
| **Усяго** | **1013** | **201721** | **25.32** | **2039** | **332215** | **41,60** |

З прыведзенай табліцы відаць, што разьвіцьцё сеткі ідзе, галоўным чынам, за кошт росту крэдытных таварыстваў, спэцыяльных відаў аб'яднаньняў і калёктыуных гаспадарак; адбываецца няўхільны ўзрост спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі і значыцца коопэрацыі па лініі разьвіцьця спэцыяльных коопэратываў (малочныя т-вы, садова-гародныя і г. д.).

Побач з узростам сеткі неабходна зьвярнуцца і да дынамікі ўзросту пайшчыкаў сел.-гасп. коопэрацыі, якая характэрызуецца па гадох наступнымі дадзенымі:

| | На 1\|X 26 г. | На 1\|X 27 г. | На 1\|I 28 г. |
|---|---|---|---|
| Лік пайшчыкаў . . . . | 188022 | 221411 | 305026 |
| % коопэраваньня . . . | 27,4 | 32,2 | 38,29 |

Разгледжваючы больш дэтальна данныя коопэраваньня і выходзячы з паказаньняў па пасеўнасьці і забясьпечанасьці рабочай жывёлай і каровамі відаць, што асноўная пераважная маса коопэраванага сыстэмай сел.-гасп. коопэрацыі насельніцтва складае бядняцка-серадняцкая частка селянства, што відаць з наступных суадносін: беднякоў—35,5 проц., сераднякоў—56,2 проц., заможных—8,8 проц.

Зварочваючыся да высьвятленьня грашовага становішча нізавых сел.-гасп. крэдытных т-ваў можна канстатаваць, што становішча іх з кожным годам узмацняецца, што і відаць з наступных цыфр:

| | Сума балянсаў | Уласныя сродкі | Нерухомыя каштоўнасьці | Удзел уласных сродкаў у звароце | Пазычаныя сродкі | Рухомыя каштоўнасьці |
|---|---|---|---|---|---|---|
| На 1/ X-26 г. . . . . . . . | 7.942,1 | 897,6 | 624,8 | 272,8 | 6.944,5 | 7.217,3 |
| „ 1/ X-27 „ . . . . . . . | 15.213,5 | 1.576,9 | 996,7 | 580,2 | 13.636,6 | 14.216,8 |
| „ 1/IV-28 „ . . . . . . . | 14.850,2 | 1.690,7 | 983,4 | 707,4 | 13.159,4 | 13.866,8 |

Разам з гэтым трэба зьвярнуць увагу на пытаньні разьвіцьця ўкладных апэрацый і збору паявых узносаў, з мэтаю стварэньня ўласных сродкаў у сыстэме сел.-гасп. каапэрацыі Беларусі.

Паявы капітал на 1 сел.-гасп. крэдытнае т-ва выражаецца:

На I/ X-26 г. . . . . . . . . . 537 р.
„ I/ X-27 „ . . . . . . . . . 1.060 „
„ I/IV-28 „ . . . . . . . . . 1.343 „

Што-ж датычыцца росту ўкладаў насельніцтва, то ён характарызуецца наступнымі цыфрамі:

На I/ X-26 г. . . . . . . . . . . . . . 255.000 р.
„ I/ X-27 „ . . . . . . . . . . . . . 609.000 „
„ I/IV-28 „ . . . . . . . . . . . . . 824.000 „

Спыняючыся на гэтых даных належыць адзначыць, што рост як паявых капіталаў, так і ўкладаў сялянства, хаця няўхільна з году ў год і расьце, але ўсе-ж яго трэба лічыць нездавальняючым, і бліжэйшаю задачай сыстэмы сел.-гасп. каапэрацыі трэба прызнаць мабілізацыю ўсяе грамадзкае ўважлівасьці на пытаньні фарсаваньня капіталанамнажэньня ў нашай сыстэме.

Значна ўзрасла таксама роля сыстэмы сел.-гасп. каапэрацыі ў забясьпечаньні сельскае гаспадаркі сродкамі вытворчасьці і ў загатоўках сел.-гасп. прадуктаў і сыравіны.

Зварот сыстэмы па асобных зьвеньнях у галіне забесьпячэньня і збыту ўяўляецца ў наступным выглядзе:

1) праца па забесьпячэньні Белсельсаюзу:

За 25-26 г. выразілася ў суме . . . . . . . . . . . . 2.025,8 р.
„ 26-27 „ „ „ . . . . . . . . . . . . 3.013,0 „

Саюзаў

За 25 26 г. выразілася ў суме . . . . . . . . . . . . 3.452,2 р.
„ 26-27 „ „ „ . . . . . . . . . . . . 5.160,8 „

Нізоўкі

За 25-26 г. выразілася ў суме . . . . . . . . . . . . 4.961,6 р.
„ 26-27 „ „ „ . . . . . . . . . . . . 7,432,7 „



2) збытавая праца Белсельсаюзу

За 25-26 г. выразілася ў суме . . . . . . . . . . . . 1.458,3 р.
„ 26-27 „ „ „ . . . . . . . . . . . . 1.941,0 „

Саюзаў

За 25-26 г. выразілася ў суме . . . . . . . . . . . . 4.264,4 р.
„ 26-27 „ „ „ . . . . . . . . . . . . 5.380,2 „

Нізоўкі

За 25-26 г. выразілася ў суме . . . . . . . . . . . . 3.247,4 р.
„ 26-27 „ „ „ . . . . . . . . . . . . 5.043,8 „

Даныя аб апэрацыйнай працы нізовае крэдытнае сеткі за 1 паўгодзьдзе бягучага апэрацыйнага году гавораць аб яшчэ большым значэньні сел.-гасп. каапэрацыі ў справе гаспадарчага абслугоўваньня сялянства, так, напрыклад, звароты крэдыткі па забесьпячэньні і збыце складаюць 69,6 проц. да гадавога звароту 1926-27 г., пры чым пры аналізе даных відаць, што асабліва разьвіваецца дзейнасьць сыстэмы ў напрамку загатоўчае працы, на долю якой прыходзіцца 113,4 проц. і на долю забесьпячэньня толькі 39,8 проц. да агульнага звароту.

Ня глядзячы на шэраг адзначаных буйных дасягненьняў ў галіне каапэраваньня, абслугоўваньня насельніцтва і грашовага ўзмацненьня сыстэмы сел.-гасп. каапэрацыі, побач з гэтым маем шэраг недахопаў у нашай працы.

Галоўныя з іх наступныя:

1. Невыстарчальна шырока разгорнута сецьвытворчых аб'яднаньняў, і, як і даўней асноўная частка пайшчыкаў прыпадае на крэдытнасельска-гаспадарчую сетку.

2. Нездавальняюча ўцягнута ў вытворчыя віды аб'яднаньняў бядняцкая частка насельніцтва

3. Мала зьвяртаецца ўвагі на пытаньні каапэраваньня моладзі і жанчын.

4. Слабы ўдзел уласных сродкаў самога насельніцтва ў самаабслугоўваньні.

5. Ня поўна яшчэ ахоплены ўсе патрэбы пайшчыкаў як па забесьпячэньні іх сродкамі вытворчасьці, так і ў частцы збыту таварнае прадукцыі.

Улічваючы ўсе недахопы ў гэтай працы, ўсім практычным працаўнікам сыстэмы сел.-гасп. каапэрацыі трэба зьвярнуць увагу на наступныя асноўныя моманты, якія вызначаюць задачы сыстэмы на бліжэйшы час:

1) павялічэньне тэмпу каапэраваньня насельніцтва і падняцьце яго актыўнасьці, галоўным жанчын і моладзі;

2) пытаньні капіталанамнажэньня ў сыстэме: павялічэньне паявых узносаў, пагашэньне паявое запазычанасьці, уклады сялянства і пазыкі ў насельніцтва;

3) найбольш поўнае каапэраваньне і прыцягненьне да практычнае каапэрацыйнае працы батрацтва і беднаты;

4) узмацненьне працы па рацыяналізацыі апарату, барацьбе з бязгаспадарчасьцю, па скарачэньні выдаткаў, зьніжэньні цэн, паляпшэньні абслугоўваньня пайшчыкаў і поўным ажыцьцяўленьні прынцыпаў каапэрацыйнае дэмакратыі, а таксама па разьвязваньні самакрытыкі ў каапэрацыі;

5) узмацненьне ўдзелу каапэрацыі ў барацьбе за культурную рэвалюцыю шляхам паляпшэньня працы па абслугоўваньні бытавых і культурных запатрабаваньняў пайшчыкаў.

Трэба напрудзіць усе сілы, каб гэтыя задачы практычна ажыцьцявіць з тым, каб да наступнае ўрачыстасьці Міжнароднага Дня Каапэрацыі мы маглі ўбачыць вынікі выкананьня задач, якія ўзложаны на нашу сыстэму партыяй і ўрадам.

П. Рубін

# Рабочая каапэрацыя Беларусі да Міжнароднага Дня Каапэрацыі

Рабочая каапэрацыя Беларусі мае цэлы шэраг дасягненьняў і посьпехаў. Аб'ядная̌ючы больш як 142.000 пайшчыкаў, вылучыўшы каапэрацыйны актыў у 4.000 чал., рабочая каапэрацыя зьяўляецца зараз сапраўды масавым органам гарадзкога пралетарыяту Беларусі.

За мінулы год ЦРК і гарадзкія спажывецкія т-вы Беларусі правялі вялікую працу па яшчэ большым патаненьні свайго абслугоўваньня, па зьніжэньні цэн, па пашырэньні працы з сельгаспрадуктамі і па пашырэньні гандлёвае сеткі

Наколькі рабочай каапэрацыі ўдалося рацыяналізаваць і патаніць сваю працу, відаць з наступнага: сярэдні гадовы продаж на адзін гандлёвы пункт складаў у 1925-226 г.—111.900 руб., у 1926-27 г.—123.100 руб



Менскі Цэнтральны Рабочы Каапэратыў.



Сталоўка № 6, на Савецкай вуліцы.

і ў 1927-28 г. (паводле лічбаў першага паўгодзьдзя)—136.500 руб. Сярэдні ў 1927-28 г. (паводле лічбаў першага паўгодзьдзя)—136.500 руб. Сярэдн. месячны зварот па продажы на аднаго гандлёвага працаўніка складаў у 1925-26 г.—2.006 руб., у 1926-27 г.—2.842 руб. і ў першым квартале 1927-28 г.—2.842 руб.

Адначасова з павялічэньнем нагрузкі ішло і паменшэньне выдаткаў. Процант усіх выдаткаў да звароту па продажы складаў у 1925-26 г.—10,41 проц., у 1926-27 г.—10,24 проц і ў першым квартале 1927-28 г.—9,29 проц. Тут неабходна прыняць пад увагу павышэньне падаткаў і ўсялякіх іншых выдаткаў, якое адбылося ў 1926-27 г. Рух гэтых незалежных ад каапэрацыі выдаткаў дае няўхільнае павышэньне. У 1925-26 годзе

разьмер такіх выдаткаў у адносінах да звароту складаў—3,64 проц., у 1926-27 г.—4,45 проц. і ў першым квартале 1927-28 г.—4,55 проц. Але тыя выдаткі, зьніжэньне якіх залежыць ад каапэрацыі—«залежныя выдаткі», паказваюць паступовае зьніжэньне. Процант залежных выдаткаў да звароту складаў у 1925-26 г.—6,77 проц., у 1926-27 г.—5,79 проц. і ў першым квартале 1927-28 г. 4,74 проц. Калі ўзяць найбольш значны артыкул залежных выдаткаў—утрыманьне штату, то адносна звароту ён дае у 1925-26 г.—4,42 проц., у 1926-27 г.—3,83 проц. і ў першым квартале 1927-28 г.—3,24 проц. Дырэктывы аб 15-проц. зьніжэньні адміністрацыйна-гаспадарчых выдаткаў у 1926-27 г. і аб 20-проц. скарачэньні адміністрацыйна-упраўленчых выдаткаў у 1927-28 г. выкананы ў адпаведнасьці з інструкцыямі.

Цэны на прамтавары зьніжаны больш, як на 10 проц., налажэньні да звароту па продажы складалі ў 1925-26 г.—12,61 проц., а ў першым квартале 1927-28 г.—10,52 проц. Цэны зьніжаны як за кошт скарачэньня выдаткаў і зьніжэньня сабекошту, так і пры дапамозе значнага памяншэньня налажэньняў і прыбыткаў.

Гэтая акалічнасьць, разам з пагаршэньнем крэдытаваньня каапэрацыі з боку прамысловасьці і банкаў, рэзка пагоршыла фінансавае становішча ЦРК і гарадзкіх спажывецкіх т-ваў. Ступень удзелу ўласных сродкаў у гандлёвым звароце бязупынна зьмяншалася. На 1 кастрычніка 1926 г. адносіны сваіх зваротных сродкаў да чужых складалі 1 : 7,9, на 1 кастрычніка 1927 г.—1 : 11,2, на 1 студзеня 1928 г.—1 : 11,5. Падаў тэмп росту ўласных сродкаў і прыбыткаў. Прыбытак за 1925-26 г. складаў 859.001 руб., за 1926-27 г.—толькі 249.605 руб. Патрэбнасьць разгортваньня будаўніцтва, унясеньне паёў у вышэйшыя арганізацыі і ва Ўсекабанк павялічылі рост нярухомых каштоўнасьцяй. За 1925-26 г. нярухомыя сродкі павялічыліся—на 342.882 руб., за 1926-27 г.—на 830.392 руб.

Усё гэта прымусіла рабочую каапэрацыю аддаць сваю ўвагу на вышуканьне сродкаў, галоўным чынам, за кошт збору паёў. Да апошняга часу роля паёў у звароце рабочай каапэрацыі была нязначнай і рост паёў—невыстарчальным. За 1924-25 г. спагнана паёў 120.605 руб., за 1925-26 г. —118.745 руб., за 1926-27 г.—295.677 руб., за першы квартал 1927-28 г. —87.562 руб. Збор паёў адбываўся ў большай частцы самацёкам, бяз значнага актыўнага ўзьдзейнічаньня ЦРК. Пералом наступіў толькі з другога кварталу 1927-28 г., калі да гэтае справы была прыцягнута ўвага ўсяе наше грамадзкасьці, да збору паёў быў прыцягнуты каапэрацыйны актыў і гандлёвыя пункты, і калі ЦРК пачалі больш рашуча ўжываць эканамічнае ўзьдзейнічаньне і пераважнае абслугоўваньне пайшчыкаў. Пастаўленая перад ЦРК задача—спагнаць на працягу другога кварталу 200.000 руб. паявога капіталу—выканана на 134 проц.: спагнана—267.776 руб. Калі за ўвесь 1926-27 г. сярэдні пай павялічыўся з 4 р. 26 к. толькі да 5 р. 90 к., а за першы квартал 1927-28 г. да 6 р. 28 к., то на 1-ае красавіка сярэдні пай складае ўжо 8 р. 04 к., на 1-ае мая—8 р. 54 к. і на 1-ае чэрвеня—амаль што 9 руб.

Посьпех бязумоўны. Аднак, улічваючы ўсё яшчэ нязначнае месца паявога капіталу ў зваротах ЦРК, ня досыць добры финансавы стан рабочае каапэрацыі, вялікі недабор у суме больш за 700.000 р. да 15 р. паю, задача далейшага ўзмацненьня збору паёў робіцца яшчэ больш відавочна.

Гэтая крыніца сродкаў павінна быць папоўнена яшчэ аднэй крыніцаю адкуль рабочая каапэрацыя будзе браць свае сродкі. Справа ідзе аб укладах. Трэба, паводле прыкладу заходня-эўрапейскай каапэрацыі, давесьці разьмер укладаў да такой велічыні, каб да максымуму скараціць ужываньне іншых крэдытаў.

Сетка гандлёвых пунктаў даведзена рабочай каапэрацыяй да 500, а на 1 кастрычніка 1927 г. іх было 417. Вырасьлі таксама і звароты. Сярэдні месячны продаж складаў у 1924-25 г.—2.100 т. руб., у 1925-26 г.—3.300 тыс. руб., ў 1926-27 г.—4.200 тыс. руб., а ў 1927—28 г.—5.200 т. руб. Рост зваротаў адбываўся ў значнай меры за кошт якасьці. Узмацнілася праца з сельска-гаспадарчымі прадуктамі. Процант сельска-гаспадарчых прадуктаў ва ўсім асартымэнце складаў у 1926-27 г.—30,5 проц., у першым квартале 1927-28 г.—32,8 проц. Лік мясных і сальных крам павялічыўся з 42 на 1 кастрычніка 1926 года да 85 на 1 красавіка 1928 г. і будзе даведзены да канца года да 125. За ўвесь 1926-27 г. прадана мяса на 1.319.900 руб., а за першае паўгодзьдзе 1927-28 г.—на 1.304.000 руб., альбо 98,1 проц. усяго продажу мяса за 1926-27 год. Розных круп куплена ў 1926-27 г.—на 877.400 руб., а за першае паўгодзьдзе 1927-28 г.—на 805.900 руб. Кароўяга масла і малочных прадуктаў куплена за гэтыя ж тэрміны—на 1.267.400 руб. і на 924.600 руб., яек,—на 28.400 руб. і на 67.400 руб., розных гародных прадуктаў—на 6.900 руб. і на 47.900 руб. Садовіны на 11.800 р. і на 256.000 р. Разьвіваецца праца са сьвежай рыбаю, з бульбаю, з агуркамі і капустай. Плян на наступны год прадугледжвае яшчэ далейшае павялічэньне і пашырэньне гэтае працы.

У гэтым годзе рабочая каапэрацыя ўзяла асабліва рэзкі курс на паляпшэньне і пашырэньне грамадзкага харчаваньня. Атрамантаваны і прыведзены ў належны выгляд шэраг сталовак. Пашырана практыка водпуску абедаў на дом і разноскі па прадпрыемствах (у тэрмасах). Пытаньнямі грамадзкага харчаваньня зацікавілася ўся наша грамадзкасьць і прэса. Адбыўся шэраг спэцыяльных досьледаў. Распрацаваны пяцігадовы плян будаўніцтва сталовак. Ажывілася праца камітэту садзейнічаньня грамадзкаму харчаваньню і навукова-харчовага савету. Для падрыхтоўкі кваліфікаваных кухараў у Менску адчынена спэцыяльная школа на 20 чел.

Невыстарчальны абхоп насельніцтва хлебам і саматужны характар гэтае вытворчасьці паставілі перад рабочай каапэрацыяй пытаньне аб мэханізацыі і пашырэньні хлебапячэньня. Новая пякарня пабудавана ў Барысаве. Адбываецца пераабсталяваньне пякарні ў Воршы. Будуць пабудаваны новыя пякарні ў Рэчыцы, Добрушы і Шклове. Закончаны вялікі мэханізаваны хлебазавод у Менску і заканчваецца хлебазавод ў Магілеве. У наступным годзе будуць закончаны хлебазаводы ў Гомлі і Віцебску і пачнецца пабудова хлебазаводу, з млынам пры ім, у Бабруйску.

Распрацаваны плян капітальнага будаўніцтва па рабочай каапэрацыі на 1928-29 г. Вызначаны да пабудовы 6 складаў пры чыгунках, 13 магазынаў і крам, 47 латкоў, будуць пабудованы і пераабсталяваны 9 сталовак, закончаны хлебазаводы ў Гомлі і Віцебску і пабудаван хлебазавод з млынам у Бабруйску. Усё гэта будзе каштаваць больш як 1.600.000 р. Адпаведныя сродкі ўжо вытрабаваны.

У галіне грамадзка-масавае працы маюцца наступныя дасягненьні. Звыш 142.000 пайшчыкаў на 1 чэрвеня, 1.981 упаўнаважаны і 2.094 члены 400 крамных камісій. Дзіцячыя пляцоўкі і ачагі, гурткі і каапсэкцыі ў шэрагу гарадоў. Павысілася актыўнасьць пайшчыкаў, упаўнаважаных і іх сэкцый і крамных камісій. Адбываецца конкурс на лепшую крамную камісію ў Магілеве і Полацку і пераклічка крамных камісій у Воршы. Гомельскі ЦРК выдае пэрыодычную газэту «Наш Каапэратыў». Менскі ЦРК выступае на ўсесаюзным мітынгу-пераклічцы. Справаздачна-перадвыбарчая кампанія, якая адбылася, паказала рост актыўнасьці і самадзейнасьці пайшчыкаў і іх выбарчых органаў.

У выніку мінулага пэрыоду перад рабочай каапэрацыяй Беларусі стаяць дзьве асноўныя задачы: узмацніць каапэраваньне і грамадзка-масавую працу і палепшыць абслугоўваньне спажыўцоў. Толькі тады рабочая каапэрацыя зможа цалкам выканаць свае задачы, калі грамадзка-масавая

праца будзе на належный вышыні, і калі абслугоўваньне спажыўцоў будзе такім, каб адчувалася сапраўдная карысьць: выгоднасьць каапэрацыі.

Паляпшэньне абслугоўваньня спажыўцоў немагчыма без рацыянальнае пастаноўкі ўсяе працы каапэрацый, без пашырэньня і паляпшэньня сеткі крам, сталовак і пякарняў, без пашырэньня і паляпшэньня асартымэнту і пры наяўнасьці невыстарчальна-кваліфікаванага штату. У сувязі з гэтым каапэраваньне, збор паёў і ўкладаў, адшуканьне сродкаў на капітальнае будаўніцтва, павышэньне каапэрацыйна-асьветнай і грамадзка-масавае працы, падрыхтоўка кваліфікаванага штату—вось першачарговыя задачы рабочае каапэрацыі на бліжэйшы пэрыод часу.

**А. Дубіна**

# Крэдытная каапэрацыя напярэдадні Міжнароднага Дня Каапэрацыі

Калі мы гаворым аб Міжнародным Дні Каапэрацыі, мы павінны адзначыць палітычнае значэньне гэтага сьвята, нашы дасягненьні за мінулы год, а таксама тыя задачы, якія стаяць перад намі на далейшы час.

Каапэрацыя ў буржуазных капіталістычных краінах, дзе ўлада знаходзіцца ў руках буржуазіі, аб'ектыўна служыць мэтай ўзмацненьня буржуазнае капіталістычнае эканомікі шляхам уцягненьня ў каапэрацыю багатых, буржуазна-абшарніцкіх пластоў насельніцтва, капіталы якіх зьяўляюцца дадатковымі сродкамі прыватна-прававога парадку для палітычнага і эканамічнага панаваньня буржуазіі ў Заходняй Эўропе, а таксама і ва ўсіх іншых капіталістычных дзяржавах. Там рабочая кляса і бяднейшае працоўнае сялянства ня мае шырокага доступу ў каапэрацыю, якая такім чынам носіць капіталістычны характар і служыць сродкам закабаленьня і прыгнечаньня рабочага і бедняка-селяніна. Яна знаходзіцца ў поўнай залежнасьці ад таго капіталістага, які ўкладае капіталы ў каапэрацыю, і які праводзіць у ёй сваю капіталістычную палітыку. Дзеля гэтага каапэрацыя там ня мае масавага грамадзкага характару. Яна знаходзіцца ў руках буржуазіі і рабочай арыстакратыі і зьяўляецца вузка-гаспадарчай капіталістычнай арганізацыяй, якая працуе ў інтарэсах буржуазіі, на карысьць капіталістых і абшарнікаў.

Наша каапэрацыя, каапэрацыя Савецкага Саюзу, будуецца на аснове самадзейнасьці самых найшырэйшых пластоў рабочых і сялян. У нас у каапэрацыю ўцягнуты таксама батрацтва і сяляне-беднякі ўсіх нават самых далёкіх рэспублік і ўскраін усяго пралетарскага Саюзу.

Пры дапамозе каапэрацыі мы зьбіраем і злучаем сродкі вытворчасьці ў нашай краіне, арганізуем забесьпячэньне і збыт, эканамічна і палітычна ўзмацняем саюз рабочае клясы і сялянства і актыўна дапамагаем беднаце.

Такая каапэрацыя, якая злучае дзесяткі мільёнаў рабочых і сялян, што арганізуюць нашу гаспадарку, каапэрацыя, якая працуе выключна ў інтарэсах рабочае клясы і працоўных мас сялянства на карысьць свае сацыялістычнае, першае ў сьвеце, краіны,сапраўды зьяўляецца тэю масавай арганізацыяй, якая паляпшаючы дабрабыт найбольш бедных пластоў насельніцтва, ў поўнай меры дапамагае больш пасьпяховаму правядзеньню прамысловага будаўніцтва ў нашай краіне і справе правядзеньня рэканструкцыі сельскае гаспадаркі. Яна сапраўды зьяўляецца такім чынам сродкам запраўднага і поўнага будаўніцтва сацыялізму,—шляха да сацыялізму, як сказаў т. Ленін.

Вось чаму Міжнародны Дзень Каапэрацыі, які мы сьвяткуем 6 чэрвеня, павінен быць масавым камуністычным пралетарскім сьвятам, як у горадзе, так і асабліва на вёсцы. Гаворачы аб прынцыповых пытаньнях

нашых дасягненьняў за мінулы год, я спынюся на пытаньні сельска-гаспадарчае каапэрацыі, галоўным чынам, па лініі крэдытнае працы. Перш на перш трэба сказаць, што дзякуючы зусім правільнай палітыцы нашае камуністычнае партыі аўтарытэт каапэрацыі ў работніцка-сялянскіх масах вельмі ўзьняўся. Рабочыя і сяляне глядзяць на каапэрацыю, як на сваю ўласную арганізацыю. Клясавы склад кіраўнічых органаў за апошнія гады значна зьмяніўся ў сэнсе вылучэньня на кіраўнічую працу большае колькасьці камуністых і беднаты. Гэта палепшыла правядзеньне клясавае лініі ў практычнай працы ў галіне абслугоўваньня беднаты, якая карыстаецца ў нас самымі шырокімі ільготамі. Цяпер трэба асабліва старанна правесьці падрыхтоўчую працу, каб на працягу бліжэйшага-ж часу ўцягнуць у каапэрацыю шырокія пласты жанчын і нашае моладзі, асабліва на вёсцы.

Для лепшага абслугоўваньня сялянства і дзеля набліжэньня сеткі сельска-гаспадарчае крэдытнае каапэрацыі да насельніцтва за параўнальна кароткі час, за адзін год, з 1 красавіка мінулага году і да 1 красавіка мы павялічылі лік сельска-гаспадарчых крэдытных т-ваў з 180 да 233. Гэта значыць што за гэты час арганізавана новых 53 т-вы. Да 1 кастрычніка г.г. сетка крэдытных т-ваў па Беларусі будзе даведзена да 300.

За гэты апошні год значна павялічылася колькасьць каапэраваных сялянскіх двароў і колькасьць пайшчыкаў. Калі да 1 красавіка мінулага года крэдытнай каапэрацыяй было абхоплена 202.397 двароў, ці 25,25 проц., дык на 1 красавіка г. г. лік каапэраваных двароў па БССР павялічыўся да 266.700 двароў, што складае 33,5 проц. усяго ліку сялянскіх двароў на Беларусі. Трэба мець на ўвазе, што з усяе гэтае колькасьці 35 проц. прыпадае на бедняцкія гаспадаркі.

Па аднэй толькі нізоўцы нашы балянсы за адзін год з 10.291 тыс. руб. узрасьлі да 17.430 тыс. руб. Паявыя капіталы ўзрасьлі з 797.000 руб. у мінулым годзе да 1,246 тыс. руб. на 1-е красавіка гэтага году, значыцца ў мінулым годзе на аднаго пайшчыка прыпадала ў сярэднім 3 р. 90 кап. паю, а сёлета сярэдні пай узрос да 4 р. 60 кап.

Пазык на адно крэдытнае т-ва на 1 красавіка мінулага году ў сярэднім прыпадала 36.200 руб., з якіх 17.300 руб. доўгатэрміновых; а сёлета на 1 красавіка на адно крэдытнае т-ва прыходзіцца ў сярэднім 42.600 руб. пазык, з якіх 27.400 руб. доўгатэрміновых. З укладнымі апэрацыямі справа пакуль што абстаіць яшчэ кепска. Але ўсё-такі на 1 красавіка мінулага году мы мелі іх на суму 390.000 руб., або 3,8 проц. у адносінах да ўсяго нашага балянсу, а сёлета мы маем 824.000 руб., ці 4,8 проц. ўсяго балянсу.

Малюнак нашых дасягненьняў ня будзе поўным, калі мы да гэтага ўсяго не дадамо, што за мінулы год каапэравана за лік фонду беднаты 14.700 бядняцкіх гаспадарак. Усе гэтыя дасягненьні зьяўляюцца дасягненьнямі толькі нізавое сеткі нашае сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту. Мы не гаварылі аб агульных балянсах і аб працы Белсельбанку, накіраванае да завязваньня ў сельскай гаспадарцы нашых дзяржаўных крэдытных сродкаў. Але і ў гэтай галіне па лініі сацыялістычнага сэктару ў сельскай гаспадарцы мы маем таксама вялікія дасягненьні ў сэнсэ рэканструкцыі сельскай гаспадаркі на новы сацыялістычны лад.

У далейшым мы ставім перад сабою задачу максымальнага каапэраваньня сялянства і ў першую чаргу вясковае беднаты. Да канца гэтага года каапэраваньне вёскі павінна быць даведзена да 50 проц., а ў працягу бліжэйшых 5 год мы павінны поўнасьцю каапэраваць сялянства на ўсе 100 проц.

Трэба ў большай ступені забясьпечыць сродкамі беднату, пры пашырэньні спэцыяльных відаў сельска-гаспадарчае каапэрацыі і пры правядзеньні шэрагу мерапрыемстваў па калектывізацыі сельскае гаспадаркі, арганізуючы ў першую чаргу менавіта бяднейшае сялянства. Таксама

трэба забясьпечыць ільготным крэдытам паасобныя бядняцкія гаспадаркі шляхам водпуску крэдытаў у большым разьмеры і на тэрмін да 10 год і нават больш.

Пры дапамозе крэдыту трэба ўцягнуць у вытворчую каапэрацыйную дзейнасьць сялянскую масу з мэтаю правядзеньня найважнейшых работ па земляўпарадкаваньні, па мэліорацыі, па торпараспрацоўках і пераапрацоўцы сельска-гаспадарчае сыравіны шляхам правядзеньня машынізацыі і інтэнсыфікацыі нашае сельскае гаспадаркі, шляхам прыстасаваньня яе да агульных задач, зьвязаных з індустрыялізацыяй нашае краіны.

У справе ажыцьцяўленьня сацыялістычнага будаўніцтва праз каапэрацыю, грамадзкасьць і самадзейнасьць каапэраваных працоўных мас адыграюць рашучую ролю.

---

Л. Хейфец

# Наш баланс к МДК

В этом году в третий раз кустари, об'единенные в промысловые кооперативные артели и кредитно-промысловые т-ва, празднуют организовано Международный день кооперации. К социалистическому сектору на-



Арцель „Спартак" у Менску



Вытворчасьць грэбянцоў цэлюлёйдавых вырабаў

родного хозяйства БССР прибавилось 600 промысловых кооперативов, охватывающих 30 тысяч членов, разбросанных в разных уголках БССР. Ежегодно в МДК промысловая кооперация подсчитывает свои достижения, отмечает свои недочеты и в соответствии с директивами партии намечает план дальнейшей работы.

Первый год работы по этой линии проходил в тяжелой борьбе с консерватизмом кустаря, с влиянием филантропов на кустаря и был годом

начала строительства сети. Во втором году шел медленным, но верным темпом восстановительный процесс промыслов, но не на индивидуальных, а на кооперативных началах. В третий год промысловая кооперация подходит к МДК с сложной проблемой реконструкции промыслов, их механизации, вместо скрипящего деревянного колеса, приводимого в движение 2 кустарями, как привод к токарному станку, к нефтяному мотору (м-ко Шедра), вместо кропотливой ручной работы над размоткой мотков чулочной пряжи к усовершенствованной шпульмашине (Минск), вместо малоемких смолокуренных котлов, с убыточным выходом, к новым котлам, отвечающим последним требованиям техники (дер. Кострица) и т. д. Задача продвижения машины к кустарю в кустарную артель проводится ныне кустпромсоюзами с должным учетом того прогресса, каковой будет достигнут в результате проведения этого начинания.

В местечках промкооперация, втягивая в артели кустаря, ускоряет процесс переустройства экономических связей м-ка с городом и втягивает в ряды производителей новую силу, в большей части находившуюся в тесной зависимости от местечкового благодетеля, а в деревнях от кулака. Кроме указаных достижений, на ряду с ними вырастает потребность усиления кооперативно просветительной работы, поднятия культурного уровня широких масс кустарей. На этой почве, если не считать распространения периодической печати среди промысловых кооперативов, нельзя отметить налаженной повседневной работы по поднятию культурного уровня кустарей, а повышение техники при низком культурном уровне есть тормоз на пути, подлежащий устранению в ближайший же период.

В наш баланс, как одно из больших достижений третьего года работы, входит организация кассы промысловой кооперации (страховой), обеспечивающей кустаря медпомощью и прочими видами помощи в несчастных случаях, имеющей специальный дом отдыха для кооперированных кустарей и сумевшей направить значительное количество членов артели на курорты для лечения.

Суммируя изложенное, можно отметить ряд положительных моментов, а имеющиеся недочеты в работе в большей своей части являющиеся результатом недостаточно твердого проведения в жизнь организационных и хозяйственных мероприятий должны быть изжиты при нашей повседневной упорной работе над осуществлением практичсских мероприятий. Промысловая кооперация, не выдвигая не разрешимых проблем, будет твердо двигаться по пути, намеченному XV с'ездом ВКП(б).

Наша задача—к будущему МДК подойти с переоборудованными мастерскими, охватить всю кустарную бедноту в артели, выбрасывая на рынок высокого качества дешевый товар для деревни, распространить через курсы школы технические познания и поднять политический уровень широких масс кооперированных кустарей БССР.

---

І. Ігнацьцеў

# Жыльлёвая каапэрацыя на парозе Міжнароднага Дня Каапэрацыі

Жыльлёвая каапэрацыя Беларусі, як сыстэма, сёлета сустракае міжнароднае сьвята каапэрацыі, налічваючы за сабою няпоўныя тры гады працы.

Аднак, за параўнальна кароткі час свайго існаваньня маладая сыстэма мае значныя дасягненьні як у галіне адбудаваньня і эксплёатацыі муніцыпалізаванага фонду і новага будаўніцтва, так і ў справе ўзмацненьня свайго гаспадарчага арганізму.

Вынікі працы арэнднае каапэрацыі лепш усяго ілюструюцца шпаркім распаўсюджваньнем гэтае формы кіраўніцтва муніцыпалізаваным жыльлёвым фондам у працягу апошніх год.

Шэраг арганізацый у сваіх абсьледваньнях і рэзалюцыях ня раз адзначалі, што стаўка на самадзейнасьць працоўнага насельніцтва у кіраўніцтве дамамі поўнасьцю сябе апраўдала, асабліва ў справе захаваньня дамоў ад разбурэньня і ў справе іх адбудаваньня.

З усяга занятага пад жылыя памяшканьні муніцыпалізаванага фонду па ўсіх акруговых гарадох Беларусі на жыльлёва-арэндную каапэрацыю ў сярэднім прыпадае 70 проц. У Менску гэты процант звыш 80. Гэта гаворыць аб буйна-гарадзкім характары арэнднае каапэрацыі ў сучасны момант.

Некаторыя ніжэйпаданыя лічбы характарызуюць рост арэнднае каапэрацыі, яе гаспадарчае дзейнасьці, уцягненьне працоўнага насельніцтва да непасрэднага кіраваньня дамавою гаспадаркаю, рост культурна-бытавых устаноў і г. д.



Дзіцячы сад ЖАКТ'у № 18 (Менск).

Рост арганізацый ЖАКТ па БССР (бяз Гомельшчыны) зьяўляецца ў наступным выглядзе:

1925 г. . . 101 1926 г. . . 100 1927 г. . . 106

Па Гомлі лік ЖАКТ'аў на 1 студзеня 1928 г.—31.

Гэтыя лічбы нібы-та паказваюць зусім нязначны рост сеткі. Аднак у сапраўднасьці справа абстаіць ня гэтак. Пры росьце ЖАКТ'аў адначасова праводзілася вялізная праца па рэарганізацыі—ўзбуйненьні сеткі з мэтаю эканамічнага ўзмацненьня каапэратываў і скарачэньня выдаткаў. Вельмі паказальным для ўсяе БССР зьяўляецца працэс гэтага ўзбуйненьня ў Менску, дзе з ліку 50 ЖАКТ'аў засталося ў сучасны момант толькі 22. Паводле грубых папярэдніх падлікаў ўзбуйненьне павінна даць ў год да 30.000 руб. ашчаднасьці.

У дамох, што арандуюцца ЖАКТ'амі, жыве 47.859 кватарантаў, пры чым асноўная група—рабочыя (42,2 проц.). Жыльлёвая плошча па 132 ЖАКТ'ах складае 375 тыс. кв. мэтраў. Агульная плошча складае 572 тыс. кв. мэтраў. Сярэдняя норма забясьпечанасьці жыльлёвай плошчаю аднаго чалавека складае 7,8 кв. мэтр.

Гадавы прыбытак ад кватэрнае платы па 115 ЖАКТ'ах складае 811.751 руб., ад суб'арэнды—533.154 руб. Такім чынам, з вышэйпаданага відаць, што асноўнаю часткаю прыбытку зьяўляецца кватэрная плата, якая далёка яшчэ сябе не апраўдвае.

Кошт рэмонту паводле ўмовы з Камгасам на ўвесь час арэнды мяркуецца прыблізна ў 4.000.000 руб. Выканана ЖАКТ'амі да 1 студзеня 1928 г. на 2 600.000 руб., ці 65 проц. Па Менску рэмонт, які ЖАКТ'ы павінны былі паводле ўмоў з Камгасам да 1 студзеня 1928 г. выканаць, складае 514.000 руб., а выканана 1.620.000 руб., што дае перавышэньне на 315 проц.

Сума фактычна сабранага паявога капіталу па арэнднай каапэрацыі складае 65 200 руб.

Ня менш спрыяючыя вынікі мы маем і па будаўнічай каапэрацыі, рост якой выяўляецца ў наступным выглядзе:



Першамайская інсцэніроўка ў дзіцячым садзе ЖАКТ'у № 1 (Менск).

У 1926 г.—72 ЖБКТ'ы, 1927—69. Па будаўнічай каапэрацыі таксама, як і па арэнднай, праroблена вялікая праца па ўзбуйненьні сеткі таварыстваў і гэтым тлумачыцца скарачэньне ліку ЖБКТ'аў на 1 студзеня 1928 г. пры адначасовым колькасным іх росьце. Лік членаў ЖБКТ'аў у 1926 г.—3628 чал., у 1927 г.—4195 чал. Паралельна росту ліку членаў ЖБКТ ўзрастае і процант задавальненьня іх кватэрамі. Так, у 1926 г. з агульнага ліку членаў было задаволенa кватэрамі 17 проц., у 1927 г.—ужо 31 проц.

Агульная сума каапэрацыйнага будаўніцтва па Беларусі разам з Гомельшчынай складае прыблізна $5^1/_2$ млн. руб. З паказанае сумы каля 400.000 руб. уласныя паявыя сродкі будаўнічае каапэрацыі. Да 1 студзеня 1928 г. па Беларусі заселена звыш 1000 кватэр, задаволена плошчаю звыш 5.000 чал. Забясьпечанасьць жыльлёваю плошчаю ў ЖБКТ складае прыблізна 8 кв. мэтр. на аднаго чалавека.



Акрамя чыстае гаспадарчае працы ўводзіцца ў сыстэму культурна-бытавая і асьветная праца. Створаны моцны нізавы каапэрацыйны актыў. Членаў праўленьня і рэвізыйных камісій, ня кажучы ўжо пра

членаў розных камісій, што існуюць пры нізавых каапэратывах, налічваецца звыш 1.500 чал. Пры праўленьнях таварыстваў існуе 51 культурна-бытавая камісія, 44 санітарныя. У працы камісій удзельнічае звыш 300 чал., у тым ліку жанчын 146., а моладзі 18 чал.; выпускаецца 33 насьценныя газэты, арганізавана 19 чырвоных куткоў. Акрамя таго, арганізаваны розныя гурткі: ліквідацыі няпісьменнасьці, кройкі і шыцьця і г. д. Праз камісіі і бытавыя ўстановы закладаюцца расткі новага быту, арганізавана 8 дзіцячых садоў, 19 дзіцячых пляцовак, адны яськлі, 10 пральняй і г. д.

Значна палепшылася пастаноўка абслугоўваньня і інструктаваньня сеткі з боку Белжылсаюзу і акруговых саюзаў. Ня гледзячы на шэраг наяўных буйных дасягненьняў усёж-такі маюцца яшчэ і недахопы, да якіх у першую чаргу адносяцца дарагоўля будаўніцтва, недастатковасьць крэдытаў і цяжкасьць сваечасовага іх атрыманьня.

Бліжэйшымі задачамі жыльлёвае каапэрацыі зьяўляецца выкананьне дырэктыў партыйных і ўрадавых арганізацый аб зьніжэньні коштаў будаўніцтва і цьвёрдым скарачэньні непрадукцыйных выдаткаў.

Міжнародны Дзень Каапэрацыі павінен прайсьці пад знакам праверкі ўсяе працы сыстэмы жыльлёвае каапэрацыі.

---

Н. Н.

# Вынікі III Усебеларускага зьезду спажывецкай каапэрацыі

Спакойна і дзелавіта абгаварвалі прадстаўнікі вясковых, местачковых і гарадзкіх спажывецкіх т-ваў, што зьехаліся з усіх бакоў Беларусі, пастаўленыя на парадку дня пытаньні. Здаровай і дзельнай крытыцы падлягалі справаздачныя даклады. Усебакова разглядаліся і выяўляліся ўсе недахопы і адмоўныя бакі працы спажыўсыстэмы. Аб'ектыўна і бесстаронна адзначаліся і падкрэсьліваліся ўсе посьпехі і дасягненьні. І ў выніку ўсяе гэтае працы зьезд вынес шэраг рэзалюцый і пастаноў, якія ацэньваюць праробленую працу і даюць канкрэтныя дырэктывы для далейшае дзейнасьці.

III зьезд упаўнаважаных Белкаапсаюзу сабраўся ў вельмі адказны для спажывецкае каапэрацыі момант. Разьвіцьцё зваротаў, выцісьненьне прыватніка, пашырэньне асартымэнту і рост каапэраваньня зьяўляюцца асноўнымі паказьнікамі нашых посьпехаў і дасягненьняў. Разьвіцьцё сыстэмы спажывецкае каапэрацыі адбываецца значна барджэй за разьвіцьцё іншых галін народнае гаспадаркі. Сярэднія даныя па СССР паказваюць наступнае:

| ПАКАЗЬНІКІ | Рост у %% да мінулага году | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 1925-26 г. | 1926-27 г. | 1927-28 па контр. лічб. | Перш. пал 1927-28 г. (факт.) |
| 1. Сельская гаспадарка | 23 | 4 | 7 | — |
| 2. Прадукцыя дзяржпрамысловасьці (рэчы да спажываньня) | 42 | 14 | 15 | 15,2 |
| 3. Раздробны зварот | 55 | 10 | 9 | — |
| 4. Раздробны гандаль спажывецкае каапэрацыі | 75 | 30 | 19 | 22 |
| 5. Узрост ліку пайшчыкаў | 31 | 29 | 19 | 24 |

Адставаньне наглядаецца толькі ў галіне крамнага будаўніцтва. Рост каапэрацыйных крам за гэтыя тэрміны выражаецца ўсяго ў 25 проц., 15 проц. і 19 проц. (фактычны прырост за першае паўгодзьдзе 1927-28 г. 4 процанты).

Такі шпаркі рост спажывецкае каапэрацыі пры адначасовым выціснаньні прыватніка робіць нашу сыстэму манапольнаю на рынку, і гэта яшчэ больш павялічвае нашу адказнасьць за правільны стан працы спажывецкае каапэрацыі, які адпаведаў бы інтарэсам спажыўца.

Усьведамленьне вялікае адказнасьці, якая ўскладаецца на спажывецкую каапэрацыю ў выніку таго становішча, якое стварылася на рынку, чырвонаю істужкаю праходзіць па ўсіх дакладах і выступленьнях. Даклад намесьніка старшыні Цэнтрасаюзу т. Кнэсіна абхапіў асноўныя задачы, што стаяць перад спажывецкай каапэрацыяй і вынікаюць з яе ролі ў народнай гаспадарцы рэспублікі. Праз каапэрацыю праходзіць 52 проц. усяе прадукцыі дзяржаўнае скуранае прамысловасьці, 70 проц. абутку, 78 проц. галёш, 85 проц. запалак, 76 проц. мэталёвых вырабаў, 85-88 проц. баваўняных вырабаў, 96 проц. цукру. Такое становішча робіць спажыўкаапэрацыю бадай поўным манапалістым на рынку, і ў зьвязку з гэтым растуць да яе вымаганьні з боку спажыўца. Паколькі спажыўкаапэрацыя зьяўляецца галоўнаю крыніцаю яго пакупак, спажывец ускладае на яе адказнасьць за стан рынку і ў першую чаргу за недахват тавараў, за якасьць, за асартымэнт, за сэзоннасьць тавараў і г. д. Спажывец, такім чынам, ускладае на спажыўкаапэрацыю адказнасьць за арганізацыю рынку.

Але ў справе арганізацыі рынку спажывецкая каапэрацыя сустракаецца з вялікімі цяжкасьцямі. Асноўная прычына гэтых цяжкасьцяй у тым, што звароты растуць барджэй нашых фінансаў. Зваротных сродкаў у нашай каапэрацыйнай гаспадарцы значна менш, як у прадваенным і ў сучасным эўрапейскім гандлі. Недахоп сродкаў пазбаўляе нас магчымасьці мець неабходныя рэзэрвы тавараў. Калі ў Савы Марозава і ў іншых мануфактурных фабрыкантаў запас мануфактуры на іх фабрычных і правінцыяльных складах заўсёды быў роўны 4—7-месячнай патрэбнасьці, то ў нашых трэстах разам са складамі і аддзяленьнямі УсеТС маецца запасаў усяго не тры тыдні, а ў спажыўкаапэрацыі на 15 дзён.

Другі момант, які затрудняе нашу працу, гэта зьмены рынку і перасоўка рыначных цэнтраў у глыбіню вёскі. Наша гандлёвая сетка на толькі разьвіта і ў горадзе і ў вёсцы, што селянін ужо не адчувае такое вострае патрэбы за кожнай дробязьзю ехаць у горад. Тут мы сутыкаемся з пытаньнем аб адсутнасьці ў нас дастатковае колькасьці адпаведна прыстасаваных крамных памяшканьняў. Адсутнасьць крам, складаў, памяшканьняў для захаваньня гародніны і г. д. зьяўляецца значным тормазам у справе разьвіцьця нашае працы.

Нарэшце, самае галоўнае—гэта тое, што попыт не адпавядае прапанаваньню; самае галоўнае—гэта таварны голад. Калі-б такі голад здарыўся ў буржуазнай дзяржаве, там адбывалася бы шалёная спэкуляцыя, і меў бы месца шалёны ўзьлым цэн, а наша каапэрацыя ў савецкіх умовах здолела ўтрымаць цэны на нармальным узроўні.

Зьніжэньне цэн у значнай меры праводзілася за лік прыбыткаў, а таксама ў выніку шэрагу рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў. У выніку ўсяго гэтага, а таксама і шэрагу мерапрыемстваў арганізацыйнага парадку гандлёвыя выдаткі паменшыліся з 25,5 да 19 проц.

Перад намі стаяць вялізныя задачы ў справе паляпшэньня абслугоўваньня спажыўца, абхоп каапэрацыяй яго бюджэту яшчэ недастатковы. Ня зусім задавальняе і якасьць тавару. Пад націскам спажыўкаапэрацыі прамысловасьць палепшыла асартымэнт некаторых тавараў, але за апошні час наш націск некалькі аслабеў, а запатрабаваньні спажыўца ўсё растуць. Мы яшчэ не навучыліся ў дастатковай ступені ўлічваць патрэбы рынку, дзякуючы чаму часам бываюць цяжкасьці. Шмат з іх здараецца не па віне каапэрацыі: несваечасовыя адгрузкі, зьмены попыту і г. д.

У рэзалюцыі па дакладзе Цэнтрасаюзу ўсе гэтыя моманты падрабязна ацэнены, і адзначана неабходнасьць узмацненьня практыкі генумоў і папярэдніх заказаў. Зьезд катэгарычна высказаўся супроць тэндэнцыі

дзяржпрамысловасьці дэцэнтралізаваць па генумовах разрахункі і заказы, бо гэта можа прывесьці да дэзарганізацыі плянавага забесьпячэньня спажыўца. Побач з дзяржаўным рэгуляваньнем зьезд упаўнаважаных выказаўся за неабходнасьць узмацненьня ўнутрыкаапэрацыйнага рэгуляваньня, для чаго спажыўсаюзам і каапцэнтру трэба надаць больш праў у галіне разьмеркаваньня тавараў. У галіне ўзмацненьня фінансаў базы зьезд пастанавіў даручыць праўленьню Цэнтрасаюзу прапрацаваць пытаньне аб канцэнтрацыі фінансавых рэзэрваў і капіталаў спажыўсыстэмы і кіраваньні імі ў вышэйшых каапэрацыйных арганізацыях. У галіне ўзаемаадносін з транспартнай каапэрацыяй зьезд прызнаў, канечна, патрэбным, каб грамозныя ггузы, на якія ТСТ атрымліваюць ільготны тарыф, які значна ўплывае на патаненьне гэтых тавараў. ТСТ адпускалі толькі пайшчыкам, для чаго Цэнтрасаюз павінен ужыць адпаведныя захады.

Шмат часу аддаў сход абгаварэньню дакладу праўленьня Белкаапсаюзу і садакладу Белрабсэкцыі. Мінулыя паўтары гады характарызуюцца ўпартым і настойлівым змаганьнем за колькасны рост і якаснае паляпшэньне арганізацыйнае і гаспадарчае працы спажыўкаапэрацыі. За гэты час значна павялічылася ўдзельная вага спажыўкаапэрацыі ў таваразвароце рэспублікі, і павялічыўся абхоп бюджэту рабочага і селяніна. Намечаныя раней кантрольныя лічбы выкананы ў першым паўгодзьдзі 1927-28 г. з некаторым перавышэньнем, хоць паслабленьне попыту ў красавіку і маі стварае небясьпеку некаторага недавыкананьня гадавых кантрольных лічбаў па спажыўсаюзах і вясковай сетцы.

Гандлёвая праца спажыўкаапэрацыі вызначаецца двома момантамі: таварны голад і плянавы пачатак унутры сыстэмы і ўвязка з прамысловасьцю па лініі генумоў. Роля генумоў у гандлёвай працы ўсяе спажыўсыстэмы з кожным днём узрастае: у 1925-26 годзе—18 млн. руб., у 1927-28—73 млн. руб., ці 60—65 проц. раздробнага звароту. Хоць тэхніка выкананьня генумоў з кожным годам удасканальваецца, але ў гэтай працы маецца шэраг адмоўных момантаў, якія парушаюць правільную працу спажыўкаапэрацыі і пагаршаюць яе фінансавае становішча. Несваечасовы завоз, неабходнасьць выбіраць некаторыя тавары (вата, шкло) у працягу ўсяго году, незалежна ад сэзону,—гэтыя акалічнасьці выклікаюць затаварваньне па некаторых групах і парушаюць плацежаздольнасьць арганізацыі і плянавасьць у іх працы. Праўда, адносна генумоў маецца шэраг дэфэктаў і з боку спажыўкаапэрацыі. Сюды адносяцца недакладнасьць і малая абгрунтаванасьць заяў, якая вынікае з кепскага плянаваньня і вядзе часам да адмовы некаторых арганізацый ад сваіх заявак. Слаба вялася ў нас праца па папярэдніх заказах—праца па арганізацыі і выяўленьні спажывецкага попыту, якая можа ўплываць у сэнсе зьнішчэньня недахопаў асартымэнту.

У справе разьмеркаваньня таварных рэсурсаў між горадам і вёскаю праводзілася правільная лінія, якая грунтавалася на ўліку агульнага становішча нашае народнае гаспадаркі, хоць у працягу зімовых месяцаў, калі выявілася кан'юнктура хлебнага рынку, прышлося зрабіць вялікія адхіленьні ад папярэдняга пляну.

У галіне загатоўчае працы нашы посьпехі ў цыфравым выражэньні даюць павышэньне, але посьпехі гэтыя далёка недастатковыя. Справа ў тым, што на працягу 1926-27 году ставілася пытаньне аб паступовым зьмяншэньні хлебазагатоўчых апэрацый, што пры ўступленьні ў хлебазагатоўчую кампанію выклікала шмат скажэньняў. Нас здымалі з рынку, цягнулі, дэзарганізавалі. Аднак, плян выкананы на 65 проц.

У значна меншым разьмеры выкананы плян экспарту. У сучасны момант пытаньне аб загатоўках ставіцца наступным парадкам: пакуль сельска-гаспадарчая каапэрацыя яшчэ ня ўзмацнілася ў дастатковай ступені, спажыўсыстэма з загатоўчага рынку ня выйдзе. Дзеля гэтага загадзя трэба вырашыць пытаньне: ці будзем мы загатаўляць, ці не? якую сыравіну і ў якіх разьмерах мы будзем загатаўляць?

Трэба ўрэгуляваць узаемаадносіны з Наркамгандлем. У гэтай справе маецца вялікае незадаваленьне з боку арганізацыі спажыўкаапэрацыі. На зьезьдзе ўпаўнаважаных па гэтым пытаньні выказаўся шэраг таварышаў. Дзёрганьне і дробненькая апека не даюць магчымасьці належным чынам вясьці працу. Зусім недапушчальна, каб кожны крок спажывецкага т-ва і ЦРК рэгуляваўся Наркамгандлем і яго працаўнікамі на мясцох: гэта парушае працу і паніжае аўтарытэт спажыўкаапэрацыі. Павінна быць ўстаноўлена сыстэма ўнутрыкаапэрацыйнага рэгуляваньня пры агульным рэгуляваньні з боку Наркамгандлю. Зьніжэньне цэн спажыўкаапэрацыя Беларусі выканала. Па каапэрацыйным набору Цэнтрасаюзу маецца зьніжэньне на 12,1 проц. па ЦРК і на 12,6 проц. па вясковай сетцы. Гэта захавала спажыўцу шмат сродкаў і адыграла вельмі значную ролю ў народнай гаспадарцы рэспублікі.

Дзякуючы таму, што зьніжэньне цэн у значнай ступені праведзена за кошт прыбыткаў, у выніку таго, што выдаткі яшчэ ня былі зьніжаны ў дастатковай ступені, а таксама дзеля немагчымасьці рэалізаваць устаноўленую Наркамгандлем сярэднюю норму налажэньня, фінансавае становішча спажыўкаапэрацыі значна пагоршылася. Хоць за першае паўгодзьдзе становішча некалькі і палепшылася, але ў выніку адставаньня росту зваротных сродкаў і ўласных капіталаў ад росту зваротаў фінансавае становішча і на далейшы час застаецца напруджаным. Асноўнай задачаю зьўляецца дзеля гэтага збор паёў: кантрольныя лічбы на 1 кастрычніка павінны быць своечасова выкананы. Трэба таксама своечасова рабіць унутрыкаапэрацыйныя разрахункі па паёх.

Другая ня менш важная задача гэта разьвіцьцё ўкладных апэрацый. У гэтым напрамку мы значна адстаём ад нямецкае і інш. эўрапейскіх дзяржаў каапэрацыі, якая ўсю сваю працу вядзе на ўласныя капіталы і на ўклады, зусім не карыстаючыся таварным ці банкаўскім крэдытам. Справа прыцягненьня ўкладаў ад насельніцтва павінна быць шырока разьвіта. Трэба толькі дамагацца прыраўнаньня спажывецкае каапэрацыі аднosна ўкладаў да кас ашчаднасьці і крэдытных т-ваў.

Трэба дабіцца магчымасьці нармальнага накапленьня прыбыткаў і рэалізацыі сярэдніх нацэнак па нормах Савета Працы і Абароны. Пытаньні рацыяналізацыі апарату і зьніжэньня выдаткаў павінны ўвесь час стаяць у парадку дня працы спажывецкае канпэрацыі. Трэба ліквідаваць дэбіторскую запазычанасьць, трэба захоўваць строгую плянавасьць ва ўсёй працы і будаваць свае пляны толькі на грунце дакладнага ўліку сваіх фінансавых магчымасьцяй.

Далейшае разгортваньне працы спажыўсыстэмы ў бок разьвіцьця зваротаў і паляпшэньня якасьці абслугоўваньня спажыўцоў натыкаецца на неабходнасьць пашырэньня і паляпшэньня сеткі крам, складаў, сталовак, пякарняў. На ўсё гэта патрэбны вялізныя сумы, якіх нашы арганізацыі ня маюць. Укладаньне сваіх сродкаў у капітальнае будаўніцтва пагоршыць фінансавае становішча арганізацый і прымусіць іх павольніць тэмп разьвіцьця свае асноўнае працы па абслугоўваньні спажывецкіх патрэб пайшчыкаў. Дзеля гэтага трэба дамагацца спэцыяльных доўгатэрміновых пазык па бюджэце і па банкаўскім крэдытаваньні. Трэба таксама своечасова ўнесьці ўстаноўленыя адлічэньні ад прыбыткаў у фонд доўгатэрміновага крэдыту пры Ўсекабанку. Дзеля таго, каб ухіліцца ад усялякае бесплянавасьці і бессыстэмнасьці ў справе будаўніцтва, трэба ўзлажыць на праўленьне Белкаапсаюзу кіраўніцтва ім у адносінах да ўстанаўленьня маштабу і тыпаў будаўніцтва. Будаўніцтва нізоўкі павінна вясьціся па зацьвярджэньні спажыўсаюзамі.

Пытаньнямі арганізацыйнае і каапэрацыйна-асьветнае працы цікавіліся ўсе дакладчыкі. Спэцыяльны даклад на гэтую тэму зрабіў т. Гарноўскі. Арганізацыйная праца спажыўкаапэрацыі разгортваецца значна больш павольна за гаспадарчую і значна адстае ад апошняй паводле свайго

ўзроўню. Вялізныя задачы стаяць перад спажыўкаапэрацыяй у справе ўзмацненьня яе ролі ў народнай гаспадарцы краіны, у справе паляпшэньня якасьці яе працы і паляпшэньня яе грамадзка-масавай і культурна-бытавое працы. Гэтыя задачы пільна вымагаюць усямернага ўзмацненьня арганізацыйнай і каапэрацыйна-асьветнай дзейнасьці спажыўсыстэмы. Зьезд упаўнаважаных канстатаваў асноўныя дасягненьні і недахопы ў гэтай працы і вызначыў асноўныя мерапрыемствы да яе ўзмацненьня і да далейшага яе разьвіцьця.

Па лініі каапэраваньня насельніцтва зьезд упаўнаважаных паставіў перад спажыўсыстэмай задачу ў працягу бліжэйшага году пагалоўна каапэраваць усіх членаў індустрыяльных прафсаюзаў, падцягнуць тыя саюзы, якія адсталі. Пры гэтым асаблівую ўвагу трэба аддаць справе каапэраваньня тых груп рабочых, якія нанова ўліліся ў вытворчасьць у сувязі з ростам прамысловасьці. У працягу бліжэйшых двух год трэба каапэраваць усю вясковую беднату, батрацтва і сельска-гаспадарчых рабочых, для чаго неабходна ўзмацніць адлічэньні ў фонды каапэраваньня беднаты і дабіцца рэгулярнага пагашэньня пазык, дадзеных беднаце на яе каапэраваньне. Трэба ўзмацніць каапэраваньне жанчын, моладзі і другіх членаў сям'і. Трэба ўзяць рашучы курс на пераважнае і першачарговае абслугоўваньне пайшчыкаў.

Зьездам дадзены падрабязныя ўказаньні адносна ўзмацненьня каапэрацыйнае грамадзка-масавае працы і працы каапактыву. Грамадзка-масавая праца каапэрацыі павінна праводзіцца ў сьціслай сувязі з партыйнымі, прафэсыянальнымі і савецкімі арганізацыямі. Асноўнымі органамі каапэрацыйнага актыву і каапэрацыйнае грамадзкасьці зьяўляюцца рэвізыйныя камісіі, сходы пайшчыкаў, сходы і сэкцыі упаўнаважаных, каапэрацыйна-крамныя камісіі, а на вёсцы яшчэ і арганізацыйна-асьветныя камісіі. Праца каапактыву павінна праводзіцца ня ў парадку кампаніі, а як сталая плянава-сыстэматычная праца. Трэба ўцягнуць у гэту працу жанчын і моладзь. Трэба трымаць сталую сувязь з гандлёва-каапэрацыйнымі сэкцыямі гарадзкіх і сельскіх саветаў, з каапсэкцыямі дэлегатак жанаддзелу і з каапарганізатарамі ЛКСМБ.

Зьезд упаўнаважаных вызначыў асноўныя формы і мэтады культурна-бытавое працы. Для плянавага вядзеньня гэтае працы устаноўлены цьвёрдыя адлічэньні па каштарысе і з прыбыткаў. Далей зьезд вызначыў канкрэтныя шляхі ў галіне збору паёў і ў галіне рацыяналізацыі працы.

Апошнім дакладам, які заслухаў зьезд упаўнаважаных, быў даклад аб дырэктывах па пабудове пяцігадовага пэрспэктыўнага пляну спажыўкаапэрацыі Беларусі.

Зьезд заслухаў таксама прывітальную прамову старшыні Саўнаркому тав. Галадзеда, якая друкуецца у гэтым нумары.

Пасьля заключнага слова тав. Наўлянскага III зьезд упаўнаважаных Белкаапсаюзу зачыніўся. Пастановы і рэзалюцыі, усебакова абмяркованы і старанна прапрацаваныя на зьезьдзе, будуць служыць асноўнымі дырэктывамі ў працы спажыўсыстэмы Беларусі на працягу ўсяго наступнага пэрыоду

**Каапэрацыя—шлях да сацыялізму.**

**Узмацняючы каапэрацыю—узмацняеш СССР.**

**Бі каапэрацыяй па капіталістых 100-проц. каапэраваньне працоўных гораду і вёскі—вось наш лёзунг.**

**Галадзед**

# Чарговыя задачы спажывецкае каапэрацыі

*(Прамова старшыні Савета Народных Камісараў тав. Галадзеда на 3 (8) Усебеларускім зьезьдзе спажывецкай каапэрацыі)*

Тав. Наўлянскі мне слова яшчэ ня даў, але я ўзяў яго самавольна (воплескі).

Таварышы, дазвольце мне ад імя ўраду Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі перадаць вашаму сходу ўпаўнаважаных шчырае пралетарскае прывітаньне (бурныя воплескі).

Таварышы, сучасны пэрыод нашае мірнае працы па буданіцтве сацыялізму адрозьніваецца ад мінулага пэрыоду тым, што мы ўвайшлі ў паласу капітальнага будаўніцтва, у паласу, калі ад нас, ад усіх практычных працаўнікоў і кіраўнічых працаўнікоў нашай краіны патрабуецца больш, чым у мінулы час, больш дасканалага падыходу да ўсяе працы нашага будаўніцтва. Пэрыод аднаўленьня нашае народнае гаспадаркі, якая будавалася раней у большай частцы на выкарыстоўваньні асноўнага капіталу мінулых часоў адрозьніваецца тым, што мы ня можам зараз ужо здаволіцца толькі тым, каб карыстацца тымі ці іншымі пакінутымі нам прадпрыемствамі. Мы павінны зараз аднавіць і пусьціць у наш гаспадарчы зварот патрэбныя нам зараз новыя прадпрыемствы. Цяпер мы павінны думаць аб стварэньні новай капітальнай высоко-тэхнічнай базы, і вось гэтая грунтоўная задача зьяўляецца для нас вельмі цяжкай, бо яна патрабуе шмат ведаў ад усіх нашых працаўнікоў будзь-то інжынэр, будзь - то каапэратар будзь-то звычайны партыйны альбо савецкі працаўнік. Ад усіх працаўнікоў патрабуюцца зараз дасканалыя веды свае працы, якую яны робяць. Бяз гэтых ведаў пры выкананьні нашай працы мы ня можам думаць і быць упэўненымі ў тым, што мы будзем выконваць нашу працу так, як нам гэта патрэбна. У практычнай працы па будаўніцтве нашай народнай гаспадаркі, па яе рэканструкцыі нам прыходзіцца сустракацца з такімі выпадкамі, калі самы маленькі промах альбо недавучот тых ці іншых мерапрыемстваў, якія мы праводзім, цягне за собой цэлы шраг перашкод, цягне за собой вялікія затраты. У нас ёсьць шраг выпадкаў, калі мы пачалі праводзіць тое ці іншае будаўніцтва, на якое мы думалі з пачатку выдаткаваць, скажам, мільён альбо паўтары мільёны рублёў; і тады нам здавалася, што гэтая сума досыць вялікая, і што мы за гэтыя грошы можам пабудаваць на Беларусі такое прадпрыемства, з якім ня можа параўнацца нават і які-небудзь мэталёвы завод, а потым аказалася, што для таго, каб скончыць гэтае прадпрыемства, патрабуецца сродкаў чатыры—4$^1/_2$ мільёны рублёй, г. зн., што мы ў чатыры разы павінны былі павялічыць нашы выдаткі на будаўніцтва гэтага прадпрыемства. Канкрэтна ідзе справа аб Бабруйскім камбінаце, які зараз будуецца. Аб чым гэта гаворыць?—Гэта гаворыць аб тым, што мы пры падыходзе да будаўніцтва таго ці іншага прадпрыемства, пры падыходзе да працы ў тэй ці іншай галіне нашай народнай гаспадаркі не павінны забываць ні на адну хвіліну, што «сем разоў прымер, а раз адрэж». Але для таго, каб сем разоў прымерыць і адзін раз адрэзаць, нам трэба не забываць і аб тым, што кожнае мерапрыемства, якое мы пачынаем, павінна быць навучна і плянава высьветлена са ўсімі яго дэталямі. У сувязі з тым, што кадры нашых працаўнікоў, як кіруючых, так і практычных, яшчэ невялікія, ў сувязі з тым, што падрыхтаваных кадраў мы маем вельмі мала, мы церпім значныя цяжкасьці ў нашай працы і ў нашай тэхніцы. Я не гавару зараз аб нашай кан'юнктуры і нашай эканоміцы, якія ня могуць быць стабільнымі сёньня, заўтра і пасьлязаўтра. Эканамічныя зьявішчы зараз праходзяць у такіх умовах, калі мы павінны з зачыненымі вачыма глядзець на магчымыя затрудненьні,

Разьвіцьцё нашай эканомікі нямінуча будзе праходзіць праз усялякага роду ўхабы і аўрагі. Прыкладам гэтага зьяўляецца бягучы гаспадарчы год. Мы бачым, што ў бягучым гаспадарчым годзе мы натаўкнуліся на такое зьявішча, што адно пытаньне, якое намі было ня выканана на 100 проц., як пытаньне аб хлебазагатоўках, магло пацягнуць за сабой сур'ёзныя затрудненьні ва ўсёй нашай народнай гаспадарцы. Такое зьявішча ў нас можа быць ня толькі ў гэтым годзе, яно можа быць і ў будучым годзе, яны могуць быць і далей. Мы можам заўсёды мець такія выпадкі, калі нашае сацыялістычнае будаўніцтва можа папасьць у цяжкі пэрыод, у цяжкія ўмовы разьвіцьця. І ў сувязі з гэтым мне хацелася-бы сказаць, што роля нашых эканамічных арганізацый з боку папярэджваньня магчымых затрудненьняў, пры цяжкасьці эканамічных умоў, патрабуе самай напруджанай працы і думкі з боку нашых устаноў. Да такіх арганізацый, якія працуюць, і якія іграюць адну з рашучых роляй у агульнай сыстэме эканамічнага будаўніцтва, я адношу і сыстэму нашай каапэрацыі.

Роля каапэрацыйных арганізацый у агульным эканамічным звароце і агульным будаўніцтве сацыялізму практычным працаўнікам каапэрацыі вядома, і гаварыць аб значэньні каапэрацыі ў нашым сацыялістычным будаўніцтве, мабыць, ня мае сэнсу. Але калі ўзяць за прыклад бягучы гаспадарчы год, то можна яскрава ўявіць вялізнае значэньне працы каапэрацыйных арганізацый. Як працавала каапэрацыя, як наша сельска-гаспадарчая і спажывецкая каапэрацыя выконвалі задачы, якія пастаўлены ўрадам і партыяй? Гэтыя пытаньні былі амаль самыя галоўныя, самыя асноўныя з тых мерапрыемстваў, якія былі накіраваны да зьнішчэньня цяжкасьцяй у народна-гаспадарчай кан'юнктуры, перажываемай у гэтым годзе. Такім чынам, каапэрацыя адно з масавых разьвятвленьняў агульнай сацыялістычнай сыстэмы, якое павінна ўсё глыбей і глыбей пранікаць у поры народна-гаспадарчага жыцьця, адыгрываць у сыстэме агульнага эканамічнага будаўніцтва адну з галоўнейшых задач. Мы ва ўмовах Беларусі задачы, якія ставіла партыя па зьнішчэньні цяжкасьцяй бягучага году, выканалі нібыта здаваляняюча. Але, таварышы, мне хацелася-бы сказаць аб умовах выкананьня гэтых цяжкасьцяй. Многім з вас, удзельнікаў вашага зьезду, прыходзілася працаваць у вельмі цяжкіх умовах, прыходзілася парушаць часта тую сыстэму працы, каапэрацыйнай працы, якая вамі была ўсвоена. Мы патрабавалі перастройкі працы на больш ударны тэмп, а некаторыя ўжо адвыклі ад ударных кампаний; годы мірнай працы патрабавалі ад нас сыстэматычнай працы, а бягучы год патрабаваў перайсьці на ўдарныя мэтады. Я разумею, як цяжка працаўнікам такіх грамадзкіх арганізацый, як каапэрацыя, як цяжка ім было праходзіць на другія мэтады працы. І мы ведаем выпадкі, калі многія з працаўнікоў каапэрацыі былі нездаволены гэткімі мэтадамі працы, бо яны цалком пераварачвалі ўсё нутро, усю сыстэму, якая была заведзена ў нашых нізавых і сярэдніх зьвеньнях каапэрацыйнай сыстэмы, але мы ведалі, што для таго, каб выканаць задачу загатовак і папярэдзіць магчымыя цяжкасьці ў агульнай сыстэме народнай гаспадаркі, у агульным народна-гатпадарчым жыцьці і разьвіцьці нашага Саюзу, мы павінны былі скарыстаць усе меры, якія меліся ў нашым распараджэньні. На гэтым зьезьдзе вы, трэба думаць, падвялі вынікі ў адносінах працы спажывецкай сыстэмы за зімні пэрыод. На вялікі жаль, я ня меў магчымасьці прымаць сталы ўдзел у працы вашага зьезду і слухаць вынікі вашай працы, але я спадзяюся, што вы гаварылі аб выніках зімняга пэрыоду і тым больш гаварылі, як цяжка вам прыходзілася працаваць і як іншы раз атрымліваліся розныя дырэктывы цэнтру па адным і тым-жа пытаньні і як гэта нэрвавала нізавых працаўнікоў у штодзённай працы. Мне здаецца, што вы аб гэтым гаварылі, бо гэта было ў сапраўднасьці і было не таму, што многія з кіраўнічых устаноў нашай дзяржавы ня ясна разумелі задачы, а было таму, што ў шэрагу выпадкаў гэта выклікалася ўмовамі нашага жыцьця, агульнай задачай па зьнішчэньні цяжкасьцяй,

у якія мы папалі. Праўда, такіх выпадкаў супярэчнасьці дырэктыў было мала, але бяз іх не маглі абыйсьціся. І калі-б мы ня сталі на шлях правядзеньня мерапрыемстваў ударным парадкам, мы маглі-б мець горшыя вынікі бягучага гаспадарчага году, чым маем цяпер. Пасьля падагульненьня вынікаў зімовай працы можна думаць, што канец бягучага гаспадарчага года мы збалянсуем больш ці менш нармальна, але я думаю, што такая формула аб нармальным збалянсаваньні бягучага гаспадарчага года будзе залежаць ня толькі ад таго, што мы зрабілі, а і ад таго, што мы зробім да канца бягучага года і ўласна на рынку загатовак і разьмеркаваньня. Пленум ЦК КП(б)Б, разглядваючы пытаньні аб выкананьні плянаў загатоўчай кампаніі, ясна фармуляваў, што лёс бягучага гаспадарчага года ў значнай ступені будзе залежаць і ад таго, як мы ўтрымаем тэмп разгорнутай эканамічнай працы да канца бюджэтнага года. Тая практычная пастанова, якую прыме ваш зьезд, у першую чаргу павінна адбіваць гэту задачу, задачу ўтрыманьня тэмпу працы каапэрацыйных арганізацый і загатоўчых арганізацый да канца бягучага года. Гэта галоўнае, што павінна праходзіць у вашых пастановах. І гэту ўстаноўку—самы высокі тэмп вашай працы—вы павінны мець на ўвазе, падыходзячы і да наступаючага гаспадарчага года. Мне здаецца, што мы можам сёньня бяз усякага зазору совесьці адзначыць, што беларуская сыстэма спажывецкай каапэрацыі ў асноўным пастаўленыя партыяй і ўрадам задачы выканала, але мы таксама павінны адзначыць, што ў працэсе працы мы высьветлілі цэлы шэраг недахопаў, якія заключаюцца ў першую чаргу ў тым, што мы былі „тяжеленьки на под'ём", што калі нам давялося па загадзе партыі перабудаваць сваю працу на новыя рэйкі, то мы ня так лёгка пераарыентаваліся, многія з вас ня так лёгка маглі ўсвоіць неабходнасьць зьмены тых мэтадаў, па якіх вы працавалі, а мэтады, якімі вы працавалі тады, калі кан'юнктура народнай гаспадаркі была моцная, гэтымі мэтадамі вы не маглі вырашыць задач па зьнішчэньні гаспадарчых цяжкасьцяй. І тое, што мы ўбачылі ў працэсе выконваньня загатоўчых плянаў,—г. зн., што многія не маглі шпарка перабудавацца на новыя рэйкі працы, гэта ўсё зьяўляецца вялікім недахопам у працы нашых гаспадарчых органаў і ў тым ліку ў працы каапэрацыйнай сыстэмы. Мне думаецца, што, калі мы гаворым аб падрыхтоўцы да будучага гаспадарчага года, да будучых загатовак, нам трэба будзе ўлічыць гэтыя недахопы, як грунтоўныя недахопы. Выходзячы з гэтага, мы павінны ставіць і вырашыць пытаньні ўзмацненьня нашага апарату наогул і апарату каапэрацыйнага, які ў агульнай сыстэме працы іграе амаль што рашучую ролю. Калі нам удасца ўскалыхнуць наш савецкі і каапэрацыйны апарат у вёсцы, у раёнах і акругах, калі мы зможам добра камплектаваць наш апарат, калі мы зможам падабраць належных працаўнікоў і аслабаніць тых, якія толькі блытаюцца ў нас пад нагамі, якія ня могуць зразумець задачы партыі і ўраду, калі мы зможам вырашыць гэтыя грунтоўныя задачы, то, значыцца, мы зможам у будучым годзе выканаць задачы загатовак і прасоўваньня тавараў у вёску. А цяжкасьці ў загатоўках наступнага году таксама магчымы. Грунтоўныя прычыны гэтых цяжкасьцяй, якія былі высьветлены ў пастанове ЦК ВКП(б) і ў дакладах Сталіна і Бухарына, заключаюцца ў тым, што мы ўвайшлі ў новую паласу больш ажыўленай клясавай барацьбы ўнутры нашай дзяржавы, пры чым такая клясавая барацьба, як вам вядома, кіруецца нашымі клясавымі ворагамі з-за межаў—эўрапейскім капіталізмам. Трэба адзначыць, што мы ў гэтым годзе перамаглі нашых клясавых ворагаў, але гэта ня значыць, што калі мы ў будучым годзе выступім на заготоўкі, то ня сустрэнемся з такімі-ж імкненьнямі з боку нашых ворагаў, каб перашкодзіць нам у сацыялістычным будаўніцтве. Думаць, што мы ня сустрэнемся з супраціўленьнем клясавага ворага, г. зн. памыляцца,—наадварот, мы павінны браць такую ўстаноўку, што мы можам наштурхнуцца на тыя-ж цяжкасьці і клясавую барацьбу. І дзеля гэтага мы павінны ў падрыхтоўцы да будучай

кампаніі выходзіць з горшых умоў, якія мы можам дапусьціць у нашай працы. Акрамя таго, сёньня мы яшчэ ня можам сказаць, у якіх разьмерах будзе ўраджай у асноўных загатоўчых раёнах. Даныя ЦСУ сёньня цалком яшчэ ня могуць аб гэтым сказаць, адбіць сапраўднага становішча з ураджаем, але цяжкасьці ў нас магчымы, напрыклад, у нас на Беларусі пасьля ліўня і граду мы маем перашкоды. Я сёньня атрымаў павядамленьні ад Полацкай і Віцебскай акруг аб тым, што значную частку плошчы пад ільном трэба перасяваць і таксама значную частку плошчы пад бульбай, якая пашкоджана ліўнем, трэба перасяваць. Такія выпадкі магчымы ў нас і па іншых раёнах СССР. Адсюль вынік: раз мы можам сустрэцца з такою-ж вострай клясавай барацьбой у будучым годзе, якую мы мелі ў гэтым годзе, раз мы можам сустрэцца з магчымымі цяжкасьцямі і нашай эканомікі, то мы павінны выходзіць у будаўніцтве сваіх плянаў і ў падрыхтоўцы працы ўсяе сыстэмы каапэрацыі з горшых, а не з лепшых умоў. Гэта дасьць магчымасьць своечасова высьветліць усе магчымыя затрудненьні, з якімі мы можам сустрэцца. І тады такая абломаўшчына нашага загатоўчага апарату, якая намі былы дапушчана ў мінулым годзе, з пачатку загатоўчага сэзону, яна не павінна будзе мець месца ў наступным сэзоне. Тое, што мы спадзяваліся ў пачатку бягучага года на самацёк у нашай працы па загатоўках, было нашай памылкаю. На будучы год мы павінны паправіць гэту памылку у нашай працы, мы павінны на будучы год улічыць усе ўрокі гэтага года, каб не паўтараць нашых памылак. Зразумела, нашу задачу не цалком вырашае тое, як будзе працаваць наш апарат,—ёсьць яшчэ цэлы шэраг эканамічных фактараў, якія робяць уплыў на канчатковы вынік загатоўчай кампаніі, але нельга выкідваць з агульных умоў нашай працы і арганізацыйную ролю ўсяго нашага рэгулюючага і практычнага працуючага апарату на загатоўках.

Мне хацелася-бы, таварышы, яшчэ сказаць вам аб аднэй канкрэтнай задачы, да якой мы павінны падыйсьці, як гавораць, зусім узброенымі для будучага гаспадарчага года—гэта пытаньне аб экспарце. Экспартная справа адыгрывае адну з сур'ёзных роляй ва ўсёй сыстэме нашай народнай гаспадаркі. Я аб гэтым ня буду паўтарацца дзеля таго, што гэта павінна быць усім вядома, што ад ступені выкананьня нашых экспартных плянаў, ад іх разьмераў залежыць ня толькі ўстойлівасьць нашай валюты, але залежыць у значнай меры і выкананьне плянаў капітальнага будаўніцтва. Мы нашае капітальнае будаўніцтва праводзім, базуючысь ў асноўным на абсталяваньні, якое прывозіцца да нас з-за межаў паводле імпартнага пляну. Мы наша будаўніцтва грунтуем на высокай тэхнічнай базе і інакш мы ня можам падыходзіць да гэтага пытаньня. Але мы знаходзімся ў такім становішчы, што наша краіна яшчэ ня можа выраблять столькі і такіх патрэбных нам прадметаў абсталяваньня для нашай прамысловасьці, якія цалком і ў поўнай меры адпавядалі-б запатрабаваньням індустрыялізацыі, і таму мы прымушаны сёньня, і заўтра будзем прымушаны абсталёўваць нашае капітальнае будаўніцтва ў значнай меры ўвязёнымі з-за межаў машынамі і рознымі прыладамі абсталяваньня. А гэта мы можам зрабіць толькі тады, калі мы нашымі экспартнымі плянамі забясьпечым сабе імпартны плян. За тое, што мы ўвозім з-за межаў, у нас патрабуюць альбо тавары ў валюце, альбо чыстай валюты, а вам вядома ўжо з лічбаў, якія былі агалошаны ў друку, што такая значная экспартная прадукцыя, як хлеб, у гэтым годзе амаль што выпала з экспартнага пляну, і мы экспартавалі яе толькі на 25-27 мільёнаў рублёў. Гэтую дзірку мы павінны былі чымсьці залатаць, таму што невыкананьне экспартнага пляну пацягнула-б за сабою скарачэньне імпартнага пляну, а скараціць імпартны плян гэта значыць скараціць і плянавае капітальнае будаўніцтва і будаўніцтва сялянскае гаспадаркі. Нам удалося гэтую брэш значна запоўніць дзякуючы таму, што мы сталі ў гэтым годзе на выкананьні задач па разгортваньні дробнага экспарту.

Напрыкад, мы на Беларусі вышуквалі новыя крыніцы экспарту, вышуквалі тыя аб'екты, аб якіх мы ўч ра нават і ня думалі. І трэба адзначыць, што ў гэтых адносінах мы маем добрую пробу і што мы, дзякуючы гэтай практыцы, можам ска ·аць, што калі прыналегчы на выконваньне загатовак па тых дробных аб'ектах экспарту, якія мы вышукалі, то зможам падвоіць наш экспартны плян. У гэтым годзе мы рэальна падвоілі плян экспарту па БССР. Аб гэтым гавораць лічбы. У мінулым годзе мы экспартавалі на 6.700 000 руб., а ў гэтым годзе— плян выканаем у 12.700.000 руб. Гэта зьяўляецца для нас сур'ёзнейшай справай, бо мы дробязямі, якія часта ў нас блытаюцца пад нагамі, праз якія мы нагамі праходзілі і не глядзелі на іх,—у гэтым годзе змаглі падняць і ператварыць у чыстую валюту і гэтым самым забясьпечыць устойлівасьць нашай валюты і нашага імпартнага пляну, і гэтым самым забясьпечылі нашае капітальнае будаўніцтва. Трэба сказаць, што ў гэтай справе спажывецкая каапэрацыя адыграла каласальную ролю. Я гэтай справай увесь час цікавіўся і магу сказаць без павялічэньня, што сыстэма спажывецкай каапэрацыі дала нам каштоўны прыклад па разгортваньні экспартнай працы, па вышуканьні цэлага шэрагу тавараў, якія можна ператварыць у валюту і якія намі да гэтага года ня былі выкарыстаны. Гэту задачу (я лічу яшчэ з пачатку года) мы можам выканаць толькі тады, калі мы праз нашы масавыя арганізацыі зможам пранікнуць у самую гушчу вёскі, у самую гушчу нашых нізоў, у ўсе куткі народнай гаспадаркі. І дзеля гэтага я прапанаваў т. т. Наўлянскаму і Кансону спрабаваць усялякія мэтады, якія толькі ёсьць у распараджэньні каапэрацыі, каб праз нашу каапэрацыю пранікнуць у самую гушчу вёскі і гэтым самым падняць тую дробязь, якая там ляжыць, і потым каб пусьціць яе на экспарт. Для гэтага я прапанаваў стаць на шлях карабейніцтва. Вы ведаеце, што каб падняць на экспарт рызьзё, косьці, капыты і цэлы шэраг іншага роду прадуктаў экспарту, мы павінны самі пайсьці за гэтым у вёску. Наша сялянка пакуль што сароміцца ўзяць трап'ё і панесьці яго ў каапэратыў, каб купіць за гэта іголак, нітак і г. д., а іншая сялянка, калі і возьме, ідучы ў каапэрацыю, яку трапку, то ідзе і глядзіць, ці не ўгледзіць суседка праз вакно, што яна нясе трапь'ё ў каапэрацыю. Пры такой псыхалёгіі нашай сялянкі каапэрацыя сама павінна ісьці ў сялянскую хату і тады тая самая сялянка дасьць усю дробязь, якая ў сялянскай гаспадарцы ня ўтылізуецца, за хустку за ніткі, за іголкі і г. д. Дзеля гэтага нам патрэбна пранікнуць праз каапэрацыйную арганізацыю ў самую гушчу вёскі. Мы маем ужо ў гэтым напрамку вопыт і трэба адзначыць, што спажывецкая каапэрацыя дала нам у гэтых адносінах добрыя вынікі, якія нам патрэбна зараз улічыць, каб у наступным годзе яшчэ шырэй у некалькі разоў разгарнуць працу па экспарце. Для БССР экспарт мае ня меншае, а можа і большае значэньне, чым для ўсяго Саюзу, таму, што мы маем слабую прамысловасьць, мы маем прымітыўны грунтоўны капітал у нашай прамысловасьці, таму, што абсталяваньне для новага будаўніцтва нам патрэбна, як кажуць як кроў з носа. Мы можам атрымаць дастатковую колькасьць абсталяваньня для нашага будаўніцтва толькі тады, калі мы зробім досьпехі па экспартнай працы ў Беларусі. Гэты год нам ужо даў добры прыклад, і дзякуючы гэтаму плян імпарту Беларусі не скарочаны, а нават даецца яшчэ кампэнсацыйны імпарт, бо мы замест 9.500.000 рублёў, якія ад нас запатрабавалі па экспарце, плян выконваем на 12.700.000 рублёў. Мы павінны гэтую працу праводзіць і ў наступным годзе дзеля таго, што для нас яна зьяўляецца сур'ёзнейшым і грунтоўным момантам разгортваньня капітальнага будаўніцтва прамысловасьці на Беларусі, а экспарт мае вялікую сувязь з прамысловым будаўніцтвам. Вось таму я перад вашым зьездам і падкрэсьліваю асабліва задачу разгортваньня экспартнай працы. Каапэрацыя можа зрабіць тут тое, чаго ня зробіць ніводная гандлёвая арганізацыя таму, што каапэрацыя ёсьць масавая арганізацыя, але патрэбна толькі паставіць і ўзьняць

масу на выконваньне гэтых задач. Каапэрацыя павінна гэта зрабіць і адсюль высоўваецца задача аб большым пашырэньні ў нашай сыстэме грамадзкай працы. Бяз удзелу шырокай грамадзкасьці ў працы каапэрацыі мы ня толькі задачы па экспарце, але і іншыя задачы, якія стаяць перад каапэрацыяй, ня выканаем.

У заключэньне мне хацелася спыніцца яшчэ на наступным: вы будзеце на гэтым сходзе выбіраць вашае праўленьне, і вось я хачу сказаць, што сход упаўнаважаных, папершае, павінен будзе, улічваючы ўрокі загатовак мінулага і ўрокі бягучага года, абраць праўленьне такое, якое змагло-б і на далейшыя часы скарыстаць тыя вынікі вопыту працы, якія вы маеце, каб гэтае праўленьне, магло ўлічваць тыя недахопы, якія мы мелі ў мінулым і зьнішчаць іх у будучай працы каапэрацыі. Адпаведныя ўмовы для працы новага праўленьня, якое будзе вамі абрана, ваш зьезд таксама павінен стварыць. Гэтае-ж павінны мець на ўвазе акруговыя раённыя і сельскія каапэратывы. Стварэньне найбольш спрыяючых умоў для працы праўленьня зьяўляецца сур'ёзнейшай справай. Адначасова я падкрэсьліваю неабходнасьць усё большага кантролю над працай праўленьня зьнізу ня толькі на сходах, а і ў працэсе штодзённай працы. Гэта абавязковая задача, якая стаіць перад усімі каапэрацыйнымі прадстаўнікамі, перад масамі. З другога боку павінна быць поўная ўвязка працы і поўны кантроль над нізавымі каапэрацыйнымі органамі і з боку праўленьня Белкаапсаюзу. Абмен вопытам і ўзаемны кантроль—вось грунтоўныя лёзунгі ў вашай практычнай працы. Каапэрацыя—грамадзка-дэмакратычная арганізацыя, і трэба, каб гэта адчувалася ва ўсёй сыстэме, ва ўсёй практычнай працы. Трэба, каб уся сыстэма каапэрацыі будавалася і працавала на гэтым грунтоўным прынцыпе. Але мне хочацца сказаць вам, што такая ўстаноўка ні мала не гаворыць аб тым, што ў вашай грамадзка-дэмакратычнай арганізацыі пытаньні дысцыпліны могуць адыходзіць на задні плян. Дысцыпліна ў любой дэмакратычнай пралетарскай арганізацыі, дысцыпліна ў любой грамадзянскай арганізацыі—гэта ёсьць гвозд усяго пытаньня. Мы-ж ў практыцы працы бягучага года натыкаліся на такія зьявішчы, калі пытаньні дысцыпліны ў некаторых каапэрацыйных органах былі адсунуты на задні плян, альбо, больш таго, калі пытаньні дэмократыі няверна разумеліся. Сапраўдная пралетарская дэмакратыя (а каапэрацыйная арганізацыя павінна будавацца на прынцыпах пралетарскай дэмакратыі) заключаецца ня ў тым, што мы будзем расхлябывацца ва ўзаемаадносінах між сабой ва ўсёй сыстэме працы, а ў тым, каб мы проста і сваечасова маглі ставіць пытаньні перад вышэйшымі органамі, каб мы сваечасова маглі і мелі магчымасьць выпраўляць памылкі тых ці іншых цэнтральных працаўнікоў, каб мы маглі ўсё больш і больш уцягваць шырокія масы працоўных у крытыку і ў нашу працу і каб усё больш і больш мы маглі ставіць сваю працу пад кантроль мас, прытрымлівацца выконваньня прынцыпу абранасьці і ў той-жа час абгаворанае і вырашанае пытаньне павінна выконвацца з максымальнай дакладнасьцю і моцнай пралетарскай дысцыплінай. У гэтым сутнасьць пралетарскай дэмакратыі. Мы павінны вольна крытыкаваць і абгаворваць усе мерапрыемствы вышэйшых установ, і ў той-жа час мы павінны самым сур'ёзным чынам выконваць, як па гадзіньніку, усе даручэньні ўстаноў, якія ўжо вырашаны, бо нявыконваньне гэтых даручэньняў у хоць якой дэмакратычнай арганізацыі зьяўляецца не дэмакратыяй, а расхлябанасьцю. Так што побач з разгортваньнем самакрытыкі, з разгортваньнем узаемнага кантролю пытаньні дысцыпліны павінны быць першым пунктам ва ўсёй вашай працы, і мы павінны ставіць пытаньне аб дысцыпліне штодзённа. Калі мы пачалі падцягваць некаторыя разьвінцыўшыяся арганізацыі, то на нас пачалі скардзіцца асобныя зьвеньні каапэрацыйнай сыстэмы, а трэба сказаць, што мы сустракаліся з такімі выпадкамі, калі язык каапэратара інакш ня гучэў, як толькі: „Спадзяюся,

што вы зразумееце мяне і выканаецца нашае даручэньне, спадзяюся, што вы зразумееце сур'ёзнасьць гэтай задачы, як разумеем гэтае мы. З каапэрацыйным прывітаньнем такой і такой-та". Бачыце, які „лашчоны" разгавор. Куды ён варты? Ды ці гэта-ж дэмакратыя? Гэта-ж чыстай вады—размазьня. Калі перад дзяржавай стаіць пытаньне рубам аб узмацненьні загатовак, якія ня выконваюцца адпаведнымі загатоўчымі арганізацыямі, то нашто нам спадзявацца, што нас „зразумеюць", калі ў нас ёсьць агульны прынцып работы, устаноўлены партыяй і ўрадам, калі ў нас ёсьць сыстэма і статут, прынятыя самой каапэрацыяй, па якіх жыве каапэрацыя, у нас ёсьць адпаведныя ўмовы і сыстэма кіраўніцтва з боку нашых партыйных, савецкіх органаў, у нас ёсьць такое становішча, што амаль што кожнай арганізацыяй кіруюць выпрабаваныя рэвалюцыянэры, а ў рэвалюцыянэра ня можа быць размазьні, а павінен быць, зразумела, ветлівы тон, але цьвёрды, бяз „спадзяваньня", бо гэта ня ёсьць парушэньне дэмакратыі. Добрай таварыскай мовай, але моцнай, мы павінны гаварыць, гэта будзе лепш для самой пралетарскай дэмакратыі, бо тая мова, аб якой нам сьведчыць шэраг дакумэнтаў кіраўніцтваў каапэрацыйных арганізацый, ёсьць ня саблюдзеньне дэмакратыі, а размазьня ў нашай працы. Ня трэба пакрываць пытаньнямі самакрытыкі, пытаньнямі шырокага грамадзскага кантролю звычайнай размазьні і расхлябанасьці, бо гэтыя дзьве справы зусім розныя. Дысцыпліна павінна быць у любой дэмакратыі, дысцыпліна патрабуецца па прынцыпе пралетарскай дэмакратыі, а дэмакратыя бяз дысцыпліны ня ёсьць пралетарская дэмакратыя. Дысцыпліна ёсьць у нашай партыі, якая пабудавана на прынцыпах пралетарскай дэмакратыі, яна павінна быць і ва ўсіх нашых грамадзкіх установах, і інакш нельга падыходзіць да ўнутранай працы каапэрацыйнай сыстэмы. Мы, таварышы, з свайго боку прыймаем усе меры да таго, каб менш дзёргалі каапэрацыю. Савет Народных Камісараў вынес спэцыяльную пастанову аб тым, каб каапэрацыю, як грамадзкую арганізацыю абараніць ад усялякіх дзёрганьняў, ад усялякага ўмешваньня з боку розных устаноў. У нашай пастанове яскрава сказана аб умовах працы каапэрацыі, што ніхто ня мае права дзёргаць каапэрацыю, як яму захочацца, і даваць загады, якія ішлі бы ўразрез з тымі фінансавымі магчымасьцямі і тымі прынцыпамі, якія маюцца ў каапэрацыі. Нават наркамгандлеўскія органы і сам НКГандаль гэтай пастановай у шэрагу выпадкаў рэгуляваньня дзейнасьці каапэрацыі абмяжоўваецца. Але гэта ня ёсьць яшче тое, што каапэрацыя ня можа і не павінна плянаваць сваю працу. Мы ў гэтай пастанове гаворым, што ўся каапэрацыйная праца павінна ў гэтым выпадку ўзмацніць сваю плянавую працу, значыцца, мы хочам і думаем аб тым, каб каапэрацыйныя органы абараніць ад штодзённага ўмешваньня і даць ім магчымасьць працаваць і ня думаць аб тым, што сёньня яны атрымаюць адзін загад, а заўтра другі ад розных паасобных арганізацый,—але сама каапэрацыя павінна плянава падыйсьці да свае працы і праз вядомыя органы праводзіць выконваньне сваіх гадовых плянаў і квартальных,—гэта павінна быць цэнтрам ва ўсёй сыстеме вашай працы. Гэта пастанова гаворыць аб тым, што мы з свайго боку, з боку ўраду і партыі, будзем ужываць усе належныя меры, каб зрабіць больш менш добрыя ўмова для вашай працы, каб каапэрацыя магла працаваць ня толькі пры адпаведных добрых умовах, а пры максымальным усебаковым садзейнічаньні з боку ўрадавых устаноў, з боку партыйных устаноў і г. д. Гэту пастанову мы будзем праводзіць самым рашучым чынам. З другога боку, ваша задача павінна заключацца ў тым, каб пранікнуць ва ўсе поры народна-гаспадарчага жыцьця. Ведаючы, што каапэрацыя адыгрывае адну з сур'ёзнейшых роляй у нашым сацыялістычным будаўніцтве, і ведаючы, што без пранікненьня ў гушчу народных мас, без пранікненьня ва ўсе поры народна-гаспадарчага жыцьця, мы ня зможам выконваць задачы сацыялістычнага будаўніцтва,—мы павінны ўзмацніць гэтае пранікненьне ў масы праз нашу каапэрацыю.

Канчаючы сваю прамову, мне хацелася-б сказаць, што вопыт мінулага нас нечаму навучыў, з кожным годам мы ўносім цэлы шэраг папраўк як у сыстэму нашай працы, так і ў агульны напрамак яе, усе гэтыя папраўкі мы робім на грунце вопыту мінулага, а вопыт у нас ужо вялікі. Сёньня вынікі нашай працы мы можам ацэньваць як здавальняючыя вынікі, мы можам сказаць, што сыстэма спажывецкае каапэрацыі ўсе больш і больш пасоўваецца наперад у сваёй працы. Наша задача зараз заключаецца ў тым, каб добрыя вынікі замацаваць, пашырыць, а недахопы зьнішчыць і разгарнуць самую шырокую грамадзкую працу навакол працы каапэрацыі, і з усім гэтым мы павінны пасунуцца далей на выкананьне задач сацыялістычнага будаўніцтва.

Няхай жывуць працоўныя масы, каапэраваныя ў сыстэме каапэрацыі.

Няхай жыве Савецкі Саюз.

Няхай жыве саюз рабочых і сялян.

(Бурныя воплескі).

---

**Мар'ясін**

# Пра пашырэньне вясковых промыслаў

Перад кустпрамкаапэрыцыяй усё больш выразна і ўсё шырэй паўстае задача разьвіцьця розных промыслаў на вёсцы, якія базаваліся-б, галоўным чынам, на мясцовай сыравіне. У гэтым пытаньні, аднак, ня варта ісьці толькі па лініі найменшага супраціўленьня, па лініі стварэньня арцеляй для лесарасапрацоўкі. Трэба разьвіць новыя галіны вытворчасьці, з якіх галоўнымі могуць і павінны быць ткацкія, ганчарныя, стружкавыя. Апрацоўка гэтых вырабаў павінна атрымаць мастацкі характар. У якасьці прыкладу можна паказаць на Глускую арцель, якая выробляе тонкую саломку (спатры) і ў гэтай справе дасягнула значных посьпехаў; у сучасны момант ужо стаіць пытаньне аб экспарце „спатры" за межы. Такое самае становішча пасьля шэрагу мерапрыемстваў павінна заняць і ткацтва, якое дагэтуль разьвіта вельмі мала, ня гледзячы на наяўнасьць попыту на лён, пражу і г. д. Украіна ў гэтым сэнсе значна пасунулася наперад і там вытворчасьць ткацкіх вырабаў дасягнула грандыёзных памераў.

Акрсельсаюзы Беларусі покуль што зьвяртаюць на гэтае пытаньне вельмі мала ўвагі, — напрыклад, Віцебскі акрсаюз утрымлівае старасельскую ткацкую школу, на грунце якой вельмі магчыма стварэньне цэлага шэрагу ткацкіх арцеляй. Што-ж датычыць забесьпячэньня арцеляй ткацкімі варштатамі, то за гэтым справа ня стане. А рабочых рук шукаць ня прыдзецца. Яны ёсць і шукаюць сабе прыстасаваньня. Ня дрэнна абстаіць справа і з рынкамі збыту. Наш унутраны рынак можа праглынуць поўнасьцю вытворчасьць ткацкага цэху, ня кажучы ўжо аб магчымасьці экспарту.

У ганчарнай справе мы павінны таксама ўлічыць працаёмкасьць і забясьпечаны збыт, і ў тых мясцох, дзе маюцца ганчарныя арцелі мы павінны накіраваць іх на шлях вытворчасьці ня толькі вырабаў для шырокага карыстаньня, але і мастацкіх вырабаў.

На правільным шляху стаіць Гомельскі акрсаюз, які стварыў цэлы шэраг вясковых арцеляй, якія вырабляюць лазовыя кошыкі, чэшуць і мыюць чуні і г. д. Пры належнай ініцыятыве, а галоўнае, пры актыўным удзеле самога вясковага насельніцтва можна разьвіць шмат промыслаў. Мы ведаем наперад, што спачатку, канечна, патрэбна будзе падтрымліваньне

гэтакіх арцеляй з розных фондаў як доўгатэрміновага, так і кароткатэрміновага прызначэньня, ужываючы адначасова захады і для арганізацыі збыту. Але-ж побач з гэтым можна будзе разгарнуць і культурную працу.

Такім чынам, перад акрсаюзамі стаіць неадкладная задача прапрацоўкі да пачатку новага гаспадарчага года пытаньня аб разьвіцьці на вёсцы промыслаў, пры чым пытаньне гэтае неабходна прапрацаваць ня толькі тэарытычна, але і практычна, з каштарысамі і плянамі, з такім разрахункам, каб з восені гэтыя арцелі маглі ўжо пачаць сваю працу. Пры адсутнасьці ў тым ці іншым месцы знаўца-інструктара яго можна будзе атрымаць з цэнтру. Спазьненьне з арганізацыяй пагражае зрывам заявак на забясьпечаньне і не дае магчымасьці павялічыць экспарт другарадных тавараў, а галоўнае, павялічвае беспрацоўе на вёсцы.

Гэту задачу трэба своечасова паставіць і вырашыць.

---

**В. Адлерштэйн**

# НКРСІ БССР зьбіраецца рабіць абследаваньне сыстэмы спажывецкае каапэрацыі

Ня ўпершыню даводзіцца Наркамату РСІ займацца пытаньнямі каапэрацыйнага будаўніцтва. Калі раней у сваіх абсьледваньнях каапэрацыйнае сыстэмы ён цікавіўся, галоўным чынам, вывуэньнем стану паасобных каапэрацыйных арганізацый дык цяперашняе абсьледваньне НКРСІ мае пэўную мэтавую ўстаноўку—перагляд узаемаадносін іх паасобнымі зьвеньнямі спажывецкае сыстэмы. Як пераломліваюцца, як складаюцца на мясцох новыя формы арганізацыі таваразабесьпячэньня і таварарразьмеркаваньня (генумовы, транзытныя адпраўкі таварных мас і г. д.), выяўленьне і адбуджэньне актыўнасьці шырокіх мас каапэраванага насельніцтва, а таксама ступень падрыхтаванасьці кожнага зьвяна да абслугоўваньня насельніцтва,—усе гэтыя пытаньні упіраюцца перад усім у выразнасьць узаемаадносін між вышэйшымі, сярэднімі і нізавымі зьвеньнямі каапэрацыі. Дзеля гэтага абследаваньне НКРСІ ставіць сабе асноўнаю мэтаю вывучыць гэтыя ўзаемаадносіны для таго, каб бліжэй падыйсьці да вырашэньня праблэмы арганізацыйнага будаўніцтва каапэрацыйнае сыстэмы і да рацыяналізацыі ўнутрыкаапэрацыйнае працы ў галіне арганізацыйна-плянавай, гандлёвазагатоўчай і фінансавай.

Такім чынам перад НКРСІ стаіць задача выключнае важнасьці і цяжкасьці, для вырашэньня якой патрэбна шырокая самадзейнасьць і актыўнае падтрыманьне РСІ з боку шырокіх мас пайшчыкаў, усяе каапэрацыйнае грамадзкасьці і рэгулюючых органаў Беларусі. Найбольш мэтазгоднай формаю сувязі з РСІ мы лічым ня толькі непасрэдны ўдзел прафэсыянальных і рэгулюючых органаў у гэтым абсьледаваньні, але і высьвятленьне ў спэцыяльных каапэрацыйных старонках мясцовага друку паасобных ненармальнасьцяй у ўзаемаадносінах між зьвеньнямі каапэрацыйнае сыстэмы, а таксама і вызначэньне шляхоў да спрашчэньня функцый гэтых зьвеньняў. Толькі такая дзелавая сувязь і можа забясьпечыць працы НКРСІ чаканы ад яе эфэкт.

---

Гольдвасэр

# Вынікі культурнага будаўніцтва па Беларусі

Жыльлёвая каапэрацыя па Беларусі аформілася ў 1925 г., але культурна-бытавая праца пачала разьвівацца шмат пазьней. Недаацэнка гэтае працы прафэсыянальнымі і другімі арганізацыямі, і ў прыватнасьці, некаторымі каапэрацыйнымі працаўнікамі па жылкаапэрацыі і без спэцыяльна-вылучаных сродкаў для вядзеньня культурна бытавое працы. Але другі Ўсебеларускі сход упаўнаважаных па жылкаапэрацыі ў 1927 г. 6 ліпеня даў дырэктыву, якая вызначае важнасьць гэтае працы, і зацьвердзіў намечаныя формы і мэтады практычнага будаўніцтва культурна-бытавой працы па нізавой сетцы.

Узрост ліку дзіцячых пляцовак і ўкараненьне дашкольнага выхаваньня на падставе каапэрацыйнай актыўнасьці дае наступныя вынікі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Дзіцячых пляцовак у 1926 г. | 12 | колькасьць дзяцей | 240 |
| „ „ „ 1927 г. | 32 | „ „ | 900 |
| „ садов „ 1926 г. | 3 | „ „ | —[1]) |
| „ „ „ 1927 г. | 15 | „ „ | 600 |

У савет дзіц. пляцовак уваходзіць 90 матак.

Праца культурна-бытавых камісій была пабудавана так, каб, як мага, шырэй прыцягнуць да практычнае працы працоўных жанчын у розныя грамадзкія арганізацыі і камісіі, што характарызуецца наступным: грамадзкіх арганізацый налічваецца да 40, а ўласьне Мопр, Прыхільнік дзяцей, Асовіяхім, Чырвоны Крыж. Прыймаюць ў іх удзел жанчын 400 чал. У культурна-бытавых і санітарных камісіях—жанчын 100 чал. Пунктаў ліквідацыі няпісьменнасьці ў 1926 г. было 15, вучняў у іх 150 чал., у 1927 г. пунктаў ліквідацыі няпісьменнасьці было 30, вучняў у іх 300 чал. Гурткоў кройкі і шыцьця 10, наведвальнікаў 250 чал.; гурткоў Чырвонага Крыжу—3, наведвальнікаў 60 чал.

Удзел у органах кіраваньня і кантролю:

### У ЖАКТ'ах

У 1926 г. у праўленьнях жанчын было 88 чал., г. з. 5,1 проц., у 1927 г. 108 чал., ці 9,9 проц. У рэўкамісіях у 1926 г.—31 чал., у 1927 г.—52 чал., ці 11,5 проц.

### У ЖБКТ.

У 1926 г. жанчын 76 чал., ці 4,5 проц., у 1927 г. жанчын 138 чал. ці 5,4 проц. Чырвоных куткоў—20. Насьценных газэт—50. Пральняй—10.

Гэтыя лічбы паказваюць, што культурна-бытавая праца сябе спраўдзіла і разьвіваецца хуткім тэмпам, абхопліваючы найбольш неарганізаваную масу працоўных жанчын.

Канфэрэнцыі хатніх гаспадынь ЖАКТ і ЖСКТ, якія адбыліся па акругах Менскай, Бабруйскай і Барысаўскай у сэнсе падняцьця актыўнасьці сярод працоўных жанчын і вызначэньня шляхоў далейшага разьвіцьця цалком сябе спраўдзілі.

[1]) Вестак у распараджэньні рэдакцыі няма.

Канфэрэнцыя культурна-бытавых камісій ЖАКТ'аў і ЖСКТ, якая адбылася ў сьнежані 1927 г., намеціла плян далейшае працы і ў сваёй рэзалюцыі ўказала практычныя мерапрыемствы да далейшага пашырэньня і паглыбленьня культурна-бытавое працы ў ЖБКТ.

З усяго пералічанага відаць, што ў культурна-бытавой працы жыльлёвае каапэрацыі на Беларусі ўжо маюцца пэўныя дасягненьні. Мы маем рост ня толькі колькасьці культурна-бытавых адзінак, але мы маем таксама і разьвіцьцё ўсяе працы.

Вышэйпаказаныя вынікі яшчэ раз падкрэсьліваюць, што ЖАКТ'ы пры ўмове ўмелага кіраваньня іх працаю, бязумоўна, могуць быць ад ным з прыводных пасаў, якія злучаюць працу галоўпалітасьветы іншых арганізацый непасрэдна з масаю, што жыве ў ЖАКТ'ах. Актыў ЖАКТ'аў у справе разьвіцьця культурна-бытавой працы сярод хатніх гаспадынь сябе спраўдзіў.

---

# Асноўныя моманты кан'юнктуры народнай гаспадаркі БССР у першай палове 1927-28 г.

*(З паўгадовае кан'юнктуры дзяржпляну)*

## I. Сельская гаспадарка

Сельская гаспадарка БССР да новага гаспадарчага году характаразавалася наступным: 1) пашырэньнем пасеўнай плошчы ў сялянскіх гаспадарках на 2,7 проц.; 2) павялічэньнем пасеваў: ільна на 14,2 проц., бульбы на на 6,7 проц., пасеўных траў на 10,6 проц. Рост колькасьці жывёлы (у перакладзе на буйную) на 4,8 проц.; 3) у галіне жывёлагадоўлі: вострасьць кармовага попыту (зацяжка вясны) і недавоз аўсу, вотрубаў і жмакаў зрабілі ўплыў на рост асноўнае наяўнасьці жывёлы.

## II. Загатоўкі

1. У цэннасным выразе загатоўкі абграмаджанага сэктару ў першым паўгодзі бягучага года складалі 13 916,8 тысяч рублёў супроць 10.488,3 тыс. руб. першага паўгодзьдзя 1926-27 году, г. з. 32,6 проц. росту, а з улікам загатовак другарадных артыкулаў экспарту—павялічэньне на 245,7 проц. супроць першага паўгодзьдзя 1926-27 году, або інакш кажучы, мы маем агульны рост на 49,8 проц.

Выходзячы з даных кан'юнктурнага бюро сума рэалізацыі вёскі вызначаецца ў 40.809 тыс. руб. супроць 34.382 тыс. руб.

Такім чынам, мы маем рост абхопу сялянскага прапанаваньня дзяржаўнымі і каапэрацыйнымі загатоўкамі прыблізна з 33 проц. у 1926-27 годзе да 42 проц. Акрамя таго, мы маем асаблівае ўзмацненьне на рынку ролі мяса—рост на 54,6 проц. і асаблівы заняпад ролі ільнянога насеньня (на 43 проц.)

Аднак, рост выручкі вёскі тлумачыцца ня толькі абхопным ростам таварнае масы, але і павышэньнем рэалізацый ных цэн сялянства параўнальна з мінулым годам.

2. Выкананьне экспартнага пляну за першае паўгодзьдзе дало 56,3 проц. гадавога назначэньня, адстаючы ад вынікаў за весь 1926-27 г. толькі на 16 проц.

## III. Тавараразварот

### 1 Паказальнікі дынамікі тавараразвароту

| | 1 паўгодзьдзе 1926-27 году | 1 паўгодзьдзе 1927-28 году | %% да адпав. пэр. мін. г. 1 паўгодзьдзе 1926-27 г. | 1 паўгодзьдзе 1927-28 г. |
|---|---|---|---|---|
| I. Гуртавыя звароты | | | | |
| а) 10 сындыкатн. аддзел. . . | 28,0 млн. | 26,0 млн. | 127,1 | 92,8 |
| б) каапэрацыя . . . . . . . | 26,1 „ | 50,2 „ | 119,7 | 192.5 |
| II. Раздробн. зварот | | | | |
| а) гарадзкі . . . . . . . . . | 24,6 „ | 31,0 „ | 128,0 | 128,0 |
| б) вясковы . . . . . . . . . | 25.4 „ | 33,6 „ | 136,6 | 129,7 |
| III. Улічаныя звароты прыватнага гандлю . . . . . . . | 4,9 „ | 3,7 „ | — | 75,3 |

Рост абграмаджанага сэктару тавараразвароту ідзе ня толькі за лік росту спажывецкага попыту, але і за лік выцісканьня прыватнага гандлю.

2. Паявыя капіталы. Прыток паявых капіталаў запершае паўгодзьдзе даў 1.488 тыс. руб.

1.218 тыс. р. у вясковай, або+117,9 проц. да сумы п. к. на I/X-1927 г.

270 тыс. р. у гарадзкой, або+ 45,2 проц. да сумы п. к. на I/V-1927 г.

Сярэдні разьмер аплочанага паю на 1/IV-1928 г. па гарадзкой каапэрацыі—8 р. 02 к. і 4 р. 68 кап. па вясковай каапэрацыі.

3. Рэнтабельнасьць працы. Па ЦРК на 1 квартал прыбытак звыш 300 тыс. руб. супроць 250 тыс. за весь 1926-27 гасп. год; па спажыўсаюзах у суме 141 тыс. руб. супроць 83,5 тыс. руб. за весь мінулы год. Па лініі сельска-гаспадарчай каапэрацыі прыбытак перавысіў 200 тыс. руб. супроць 390 тыс. руб. за весь 1926-27 год.

4. Цэны. Бюджэтны індэкс за 1-е паўгодзьдзе 1927-28 года даў перавышэньне супроць сярэдняга ўзроўню папярэдняга паўгодзьдзя на 3,4 проц., пры гэтым сельска-гаспадарчыя цэны адчулі ўздым на 6,8 проц. Узровень прамысловай сыстэмы ў сыстэме бюджэтнага індэксу (у рынкавых цэнах) супроць папярэдняга года стабільны.

## IV. Прамысловасьць

Агульная прадукцыя рэспубліканскай прамысловасьці ў першым паўгодзьдзі гэтага году ў даваенных рублёх паднялася супроць 2 паўгодзьдзя 1926-27 года на 25,4 проц.

Абхватны рост вытворчасьці ішоў ня столькі за лік уцягненьня новага кадру рабочых, колькі за лік павышэньня прадукцыйнасьці працы, г. з. на 6,1 проц. супроць папярэдняга паўгодзьдзя.

Намінальная месячная зарплата рабочых рэспубліканскай прамысловасьці супроць першага паўгодзьдзя 1926-27 года павысілася на 15,5 проц.

Продажныя цэны прамысловасьці ВСНХБ паводле кантрольных лічбаў зьнізіліся на 5,0 проц. супроць сярэдніх гадовых 1926-27 г.

У першым паўгодзьдзі ўзровень цэн, аднак, не паказаў зьніжэньня

## V. Рынак працы

Колькасьць беспрацоўных (сярэдняя) за перщае паўгодзьдзе склала 32.240 чал. супроць 27.025 чал. у першым паўгодзьдзі мінулага года.

Увесь фонд зарплаты асоб наймовага пэрсаналу (выключаючы прадстаўнікоў чыгуначнага і воднага транспарту) у першым паўгодзьдзі 1927-28 г. выявіў рост на 16,0 проц.

## VI. Крэдыт

**Дынаміка асноўных паказальнікаў**

| | У проц. да папярэдн. пэрыоду | | У проц. адпав. пэр. мін. году | |
|---|---|---|---|---|
| | 1 паўг. 1926-27 г. | 1 паўг 1927-28 г. | 1 паўг. 1926-27 г. | 1 паўг. 1927-28 г. |
| Бягучыя рахункі (без НКФ) . | 99,9 | 97,4 | 96,7 | 108,0 |
| Вучотна-пазыкавыя апэрацыі . | 122,9 | 124,1 | 148,3 | 153,8 |

Наглядаецца інтэнсыўны рост крэдытных апэрацый, якія апяр джваюць паводле свайго тэмпу дынаміку іншых паказальнікаў народна гаспадарчага разьвіцьця.

Унутры вучотна-пазыкавых апэрацый адбылася перасоўка ў бок росту значэньня доўгатэрміновага крэдыту, які павялічыўся на 50,4 проц. супроць папярэдняга паўгодзьдзя.

## VII. Кан'юнктурныя працэсы

Рынкавыя працэсы ў апошняй часьціне мінулага году складаліся ў асноўным пад уплывам наступных фактараў:

1) росту пакупальнага фонду гораду і вёскі ў выніку росту неземляробскіх прыбыткаў вёскі, разьвіцьця будаўніцтва і павышэньня намінальнае зарплаты;

2) паслабленьня завозу прамтавараў і хлеба;

3) зьніжэньня прамысловых цэн, якое ўзмацніла рэальны пакупальны фонд насельніцтва.

Акрамя таго, гандлёвая сетка ўступіла ў новы гаспадарчы год з вельмі нязначнымі запасамі тавараў.

Кола дэфіцытных тавараў у першым квартале прыкметна пашыраецца, абхапіўшы блізка ня ўсе гатункі тэкстылю, селядцы, расьліннае масла, дахавае жалеза, шын. і адзін. жалеза, шкло ваконнае, калёшы, скуру падашвяную, палувал, хром, мыла і г. д.

Завоз хлеба значна панізіўся супроць адпаведных кварталаў 1926-27 году (24,2 проц.), што пры павышаным нясэзонным попыце вёскі на хлеб абумовіла надзвычайную напруджанасьць хлебнага рынку.

## Вынікі

Паралельна з ростам прыбыткавасьці гаспадаркі на вёсцы адбыўся недабор па сельска-гаспадарчым падатку і па страхаваньні (на 1/I-1928 г — 1,6 млн. руб.), што прывяло да павялічэньня вясковага попыту.

Абстаноўка, якая стварылася на рынках прамысловых і сельска-гаспадарчых тавараў, абумовіла правядзеньне шэрагу мерапрыемстваў

па лініі выняцьця грошай з вёскі, што ў выніку дало 6.583,8 тыс. руб. за другі квартал 1928 года супроць 3.812,8 тыс. руб. за другі квартал мінулага года, вынутых па ўсіх відах плацяжоў, г. з. больш на 72,7 проц.

Завоз прамтавараў у 2 квартале 1927-28 году паказаў прыкметны рост па мануфактуры на 22,2 процанта, па скураных таварах—на 33,9 проц. і г. д.

Рэалізацыя прадуктаў вёскі. асабліва вышэйшых пасеўных груп вёскі, значна ўзрасла. Загатоўкі (акрамя ільнянога насеньня) даюць рост па ўсіх відах. Завоз хлеба ў другім квартале, параўнальна з першым кварталам, павялічыўся на 46,9 проц., што прывяло да некатарага аздараўленьня хлебнага рынку.

Вышэй пералічаныя фактары прывялі да памягчэньня вострасьці рынкавае кан'юнктуры.

Таварныя запасы вясковай каапэрацыі прыкметна павысіліся, складаючы на 1/IV звыш 8,0 млн. руб. супроць 4,8 млн. руб. на 1 кастрычніка 1927 г.

Адбылося рэзкае скарачэньне сфэры дзейнасьці прыватнага капіталу. Паводле няпоўных даных НКФ колькасьць прыватных гандлёвых патэнтаў, якія выбраны ў палове 1927-28 гаспадарчага году, паменшылася параўнальна з 1926-27 годам на 15 проц. Па некаторых акругах зварот прыватных прадпрыемстваў, якія зачыніліся, вызначаецца да 1/3 усяго прыватнага гандлёвага звароту (Віцебск).

---



---

**Міжнародны Дзень Каапэрацыі—дзень праверкі нашых дасягненьняў**

**Міжнародны Дзень Каапэрацыі—дзень штурму цьвярдынь капіталізму**

**Міжнародны Дзень Каапэрацыі ў горадзе—сьвята работніцкіх мас**

**Міжнародны Дзень Каапэрацыі на вёсцы—сьвята беднякоў, маламоцных і сераднякоў**

**Міжнародны Дзень Каапэрацыі — дзень змычкі гораду з вёскай**

# ПРАКТЫКА НАШАЙ ПРАЦЫ

Бэрман

## Папярэднія вынікі працы з мануф. галянтэрэйна-скурынымі таварамі

*За 1-е паўгодзьдзе 1927-28 апэрац. году і пэрспэктывы на 1928-29 апэрацыйны год*

### Тэкстыль

#### Бабваўняная мануфактура У. Т. С.

За 1-е паўгодзьдзе 1927-28 аперацыйнага году баваўняная мануфактура УТС завазілася ў БССР Наркамгандлем СССР яна згодна з устаноўленымі нормамі, акуратна. Неабходна адзначыць, што тавар гэты быў дэфіцытным па ўсіх гарадох БССР і ў большай частцы вясковых мясцовасьцяй, за выключэньнем Віцебскага і Аршанскага ільнаводных раёнаў, куды ён быў завезены ў празьмерных колькасьцях, што не адпавядала попыту, які існаваў ў гэтых раёнах.

Палітыка Наркамгандлю БССР стварыла вельмі цяжкае становішча ў сыстэме спажыўкаапэрацыі, і ў той час, калі Віцебскі і Дняпроўскі Саюзы мелі непасільныя лішкі мануфактуры (да-рэчы, забраніраваныя спэцыяльна для загатовак), астатняя частка нашае сыстэмы адчувала значныя цяжкасьці, якія былі выкліканы адсутнасьцю баваўняных тавараў і толькі на 30-40 проц. здавальнялі наяўны спажывецкі попыт.

Адносна асартымэнту адзначаўся недахоп шэрагу неабходных тавараў: бялізнавы, мэлянж адзеньневы, хусткі, міткалявыя тканіны, паркалю, мультану і г. д. Папярэднія заказы ў першы раз былі ўжыты ў адносінах да баваўняных тавараў, але ня здолелі выявіць свайго сапраўднага значэньня, прымаючы пад увагу, што пачалі толькі практыкавацца з II-й квадры гэтага году.

Апрача таго, згодна загадаў НКГандлю СССР, баваўняныя тканіны ў большай частцы былі адпраўлены для ўзмацненьня хлебанарыхтоўчых раёнаў.

Зварот пабаваўнянай мануфактуры значна ўзрос і, паводле даных 1-га паўгодзьдзя, зложыць у 1927-28 апэрацыйным годзе—17 млн. руб., а паводле кантрольных лічбаў за 1928—29 апэрацыйны год—20 міл. руб. Разьмеркаваньне прапануецца: па сельскай сетцы—70 проц. і па гарадзкой—30 проц.

#### Баваўняная мануфактура Дняпроўскай фабрыкі

Дняпроўская фабрыка значна падтрымлівала нашы звароты баваўнянай мануфактурай і, што вельмі каштоўна, на лагодных умовах разрахунку. Адгрузка наогул рабілася акуратна, а ў галіне асартымэнту наглядалася невялікае паляпшэньне. Зварот 1927-28 апэрацыйнага году зложыць 2 міл. руб., а на 1928-29 апэрацыйны год мяркуецца ў суме 2.750.000 руб.

### Суконна-ваўняныя тавары

Згодна разьмеркаваньня НКГандлю БССР, значная частка суконна-ваўняных тавараў была завезена для Віцебскага і Дняпроўскаго саюзаў, а іншыя сельскія раёны, як і ўсе ЦРК, атрымалі гэтыя тавары ў мізэрных колькасьцях, што стварыла на рынку становішча хранічнага голаду.

Неабходна таксама адзначыць, што нашы нарады па камвольным тканінам выконваліся нездавальняюча—ў разьмеры 70 проц. У галіне асартымэнту асабліва адчуваўся недахоп сукна больш дарагіх гатункаў: гарнітурных і пальтовых. Зварот за 1927-28 апэрацыйны год арыентыравальна складае 3.000.000 руб., а паводле кантрольных лічбаў на 1928-29 апэрацыйны год мяркуецца ў суме 3.500.000 руб.

### Ільняныя тканіны

У бягучым годзе сельская сетка значна разьвіла звароты па ільняных таварах, якія да гэтага часу на вёсцы амаль зусім не рэалізаваліся. Найбольш здавальняючае тлумачэньне гэтага зьявішча—ў недахопе баваўняных тканін і ў прыватнасьці бялізнавых. Што датычыцца асартымэнту ільняных тканін, то ён быў мала здавальняючы. Наглядаўся недахоп штучнага тавару, белых і паўбелых тканін. У 1927-28 апэрацыйным годзе рэалізацыя зложыць 700 тыс. руб., а на 1928-29 апэрацыйны год мяркуецца ў суме 1.000.000 руб.

Усяго па тэкстыле зварот за 1926-27 апэрацыйны год складаў 15.419.000 руб., за 1927-28 г.—22.700.000 руб., на 1928-29 апэрацыйны год мяркуецца ў суме 27.250.000 руб.

## Галянтэрэя, трыкатаж і ніткі

### Ніткі

Тавар гэты ў бягучым годзе знаходзіўся на мяжы паміж дастатковымі і дэфіцытнымі таварамі. Увесь час адчуваецца недахоп у чорных нітках. Выкананьне нашых нарадаў за 1-ое паўгодзьдзе нездавальняючае і складае 72,2 проц. Зварот за 1927-28 апэрацыйны год, відавочна, зложыць 600 тыс. руб., а на 1928-29 апэрацыйны год мяркуецца ў суме 650 тыс. руб.

### Трыкатаж

Значнае разьвіцьцё нашых апэрацый трыкатажнымі таварамі зьявілася, галоўным чынам, ў выніку выцісьненьня з рынку прыватнага гандлю. Аднак, у гэтай галіне праца толькі пачала разьвівацца, і магчымасьці далейшага ўзросту бязумоўна вельмі значныя. Трэба адзначыць, што ва умовах як наймацнейшага недахопу ў трыкатажы трэстаўскім мы мелі вельмі вялікія прапановы трыкатажу саматужнага, але па больш дарагіх цанах, значна горшае якасьці і асартымэнту.

У мэтах разьвіцьця нашых ўзаемаадносін з мясцовай прамысловасьцю, мы зладжылі ўмову на штомесячную выбарку панчох на суму 12.500 руб., самавязаў—на 4000 руб., гатовае бялізны—на 5000 руб., коўдраў на 1.000 руб. і г. д. Практыка працы паказала, што вырабы мясцовае саматужнае прамысловасьці паводле свае якасьці нягоршыя за вытворчасьць іншых раёнаў, а паводле цаны і ўмоў разрахунку больш выгодныя. У мэтах разьвіцьця мясцовай прамысловасьці, мы мяркуем, што на наступны год канечна трэба нашы сувязі з саматужнай прамысловасьцю разьвіць і ўзмацніць. Зварот за 1927-28 апэр. год выразіцца прыблізна ў 2.300.000 руб., а меркаваньні на 1928-29 апэр. год вызначаюцца ў 3.000.000 руб.

### Галянтэрэя

Яшчэ большэ значны рост нашых зваротаў выявіўся ў галіне гандлю галянтэрэяй, бо да бягучага году наша сыстэма вельмі слаба праводзіла гэты тавар. Вялікая рознастайнасьць асартымэнту галянтэрэі і адсутнасьць значных дзяржфабрык перашкаджалі ахопу каапэрацыяй працы з паказанымі таварамі. Разьвіцьцё далейшых апэрацый галянтэрэей вымагае асьцярожнага падыходу і перш за усё замацаваньня дасягнутага звароту, які суправаджаўся некаторым „аседаньнем“ асобных груп галянтэрэі і цяжкасьцямі ў збыце часткі галянтэрэйнай вытворчасьці (грэбні).

З прычын вышэйпаказанага дасягнуты ў 1927-28 апэр. годзе зварот у 1.500. руб. 1928-29 апэр. год будзе, магчыма, павялічаны на 23-25 проц. У працы з галянтэрэей мы таксама мяркуем ў першую чаргу скарыстаць магчымасьць закупкі ў мясцовых саматужных прадпрыемствах.

### Скураныя тавары

У гандлю скураным таварам у працягу бягучага году адбываўся значны зрух у асартымэнце тавараў, які мэла наша сыстэма. Поўная адсутнасьць хрому, які складаў раней найбольш ходавы асартымэнт у скураным гандлі, сьцісканьне ў зваротах палувалам і падклейкавым таварам, з аднаго боку, увядзеньне ў асартымэнт значнае колькасьці абутку—зусім зьмянілі форму і мэтады гандлю скуранымі таварамі.

Усяго за 1927-28 апэр. год будзе рэлізавана скуратавараў на 2.875.000 руб. і абутку на 1.000.000 р., а ў 1928-29 апэр. годзе мяркуецца скуратавараў рэалізаваць на 3.650.000 руб. і абутку на 1500 тыс. руб.

Зусім магчыма, што з прычыны пашырэньня водпуску скураных тавараў вытворчым арганізацыям—нам прыдзецца ўзмацніць рэалізацыю абутку за кошт скураных тавараў, асабліва—хрому.

Канечна трэба асабліва завастрыць увагу як на асартымэнце і якасьці абутку, так і на выгоднасьці пакупных цэн. Адначасова трэба прыняць адпаведныя меры асьцярожнасьці, каб абутак, які праводзіцца, ня быў ніжэйшае якасьці, што часта зьвязана з нізкаю цаною, бо такі гандаль можа падарваць давер'е спажыўца да нашага абутковага гандлю, які яшчэ разьвіваецца.

У працы з абуткам асабліва рэльефна адбіваюцца сэзонныя ўмовы і падбор тавару, што выклікае небходнасьць спэцыялізацыі гэтае справы. Далёка не ва ўсіх нашых арганізацыях зьвяртаецца дастатковая ўвага на гандаль абуткам, што неабходна ў самым хуткім часе ўпарадкаваць.

Асобна стаіць пытаньне аб неабходнасьці ўсямернага абхопу рэалізацыі мясцоваго абутку: Белскуртрэсту, саматужнай прамысловасьці і працкалектываў. Шляхам выяўленьня нашага асартымэнту мы павінны даць мясцовай прамысловасьці цьвёрды заказ на максымальную колькасьць патрэбнага нам абутку і толькі астатак неабходнага абутку, які Белскуртрэст і мясцовая прамысловасьць ня змогуць нам даць, нам прыдзецца перадаць для выкананьня за межы БССР. Напэўна, гэтыя пастаўкі прыдзецца зьвязаць адным дагаворам, які гарантаваў бы нам поўнае забясьпечаньне спажывецкага асартымэнту і магчымасьць некатораго карэктаваньня і г. д.

### Калёшы

Зварот бягучага году складзе каля 1.600 тыс. руб., а на 1928-29 апэр. год мяркуецца ў суме 2.000.000 руб. Мы мяркуем, што каапэрацыйная сыстэма поўнасьцю забясьпечыць спажыўца БССР. З практыкі бягучай працы трэба адзначыць, што ня гледзячы на катэгарычнае

абяцаньне „Резинотреста“, ён своечасова не прыслаў патрэбнага нам асартымэнту, асабліва ў дамскіх калёшах маркі „КТ“ і толькі ў канцы сэзону адразу здаў гадавы заказ, выклікаўшы гэтым затаварываньне. Неабходна дзеля гэтага ў наступным годзе забясьпечыць сябе ад паўтарэньня непаразуменьняў, абавязаўшы „Резинотрест“ да рэгулярнага і своечасовага выкананьня нашага заказу.

### Гатовае адзеньне і хутры.

У значнай меры мы наглядаем развіцьцё гандлю гатовым адзеньнем у гарадох і менш значны зварот па вясковай сетцы. Усяго, відавочна, гэтых тавараў за бягучы год будзе рэалізавана на суму 3.400.000 руб., а на 1928-29 апэр. год мяркуецца далейшы рост да 4.000.000 руб.

У гарадох зьявіліся спэцыяльныя магазыны, якія гандлююць гатовым адзеньнем, што, напэўна, больш цяжка ажыцьцявіць на вёсцы. Відавочна, у адносінах вёскі прыдзёцца ўжыць некаторыя іншыя мэтады гандлю, якія ў асноўным павінны будуць здавальняць патрабаваньням танных і стандартных тавараў. У гэтым выпадку пад словам „стандартны“ трэба разумець абмежаванае і найбольш ходавае кола тавараў, спэцыяльна разьлічаных на вясковы попыт. Відавочна, стварыць на вёсцы больш align="center"рознастайны асартымэнт гатовага адзеньня ў 1928-29 апэр. годзе ва ўсякім разе дасягнуць будзе немагчыма. Калі ў бягучым годзе забесьпячэньне гатовым адзеньнем рабілася амаль выключна праз Вітшвэй, Меншвэй і мясцовыя саматужныя прадпрыемствы, то на наступны год мы зусім павінны разьлічваць на магчымасьць увозу гатовага адзеньня, і дзеля гэтага заяўка на гатовае адзеньне мясцовай прамысловасьці павінна ў поўнай меры пакрыць нашу патрэбнасьць. У галіне цэн і асартымэнту на 1928-29 апэр. год ня будзе таго разыходжаньня, якое тыпова для бягучага году і характарызуецца якасна лепшым і больш дарагім па цане таварам мясцовых арганізацый параўнальна з вырабамі трэстаў „Ленінградодежда“ і „Москвошвей“.

Неабходна таксама пашырыць звароты гатовым адзеньнем шляхам увядзеньнч ў асартымэнт шапак, гатовае бялізны і г. д.

У ўмовах шырокага росту кравецкае прамысловасьці, мы павінны ўлічыць магчымасьць скарачэньня нашых зваротаў, асабліва, суконнаваўнянымі таварамі і кампэнсаваць гэта адпаведнымі зьменамі ў структуры нашага таварнага асартымэнту, г. зн. павялічэньнем зваротаў гатовым адзеньнем.

У бягучым годзе некаторыя арганізацыі няправільна вызначылі свае патрэбнасьці і толькі дзякуючы згодзе Вітшвэя і Міншвэя аслабаніць нас ад выбаркі часткі тавараў, ухіліліся ад затаварываньня.

Трэба ўлічыць гэту спробу і больш асьцярожна вызначаць наш удзел у наступных гэнумовах. Адначасова мы не павінны зьмяншаць нашы заяўкі, бо гатовае адзеньне ў бягучым годзе не зьяўлялася лішкавым таварам, а ў 1928-29 апэр. годзе, відавочна, будзе адным з найбольш дэфіцытных тавараў. У гэтых адносінах не павінна быць лішніх надзей, зьвязаных з вялікай колькасьцю кравецкіх арганізацый у нашым раёне, бо калі яны будуць зьвязаны ўмовамі з другімі арганізацыямі, мы разьлічваць на іх прадукцыю ня можам. Часткова такое становішча стварылася ў бягучым годзе, калі паводле пастановы НКГандлю СССР, нам скарацілі водпуск тавараў у III-й квадры з Вітшвэю, і выпадкова гэта колькасьць аказалася лішкавай. Аднак, зусім магчыма, што ўжо ў IV-й квадры мы ня зможам поўнасьцю атрымаць неабходную нам колькасьць гатовага адзеньня. Такім чынам вызначэньне нашай патрэбнасьці у гатовым адзеньні на 1928-29 апэр. год павінна быць складзена з вялікай асьцярожнасьцю і дакладнасьцю.

### Хутры

Толькі асобныя ЦРК у вельмі абмежаваных разьмерах стараліся разьвіць працу з хутрамі. У сучасны момант гэта галіна гандлю ў нашым раёне згрупавана амаль выключна у руках прыватнікаў і працкалектываў. Трэба, напэўна, у наступным годзе таксама ўвесьці хутры ў зварот спажыўкаапэрацыі, хоць бы ў мінімальных разьмерах. На наступны год мяркуецца наш удзел у гэнумове праз Цэнтрасаюз у суме ня менш 250 тыс. руб. Гандаль хутрамі можа быць згрупаваны ў магазынах гатовага адзеньня. Асартымэнт хутраў пераважна будзе складацца з недарагіх гатункаў, выпрацаваных у межах СССР.

---

Лур'е

# Асноўныя прынцыпы гандлю бакалейнымі і гаспадарчымі таварамі

Забесьпячэньне спажыўсыстэмы металёвымі таварамі ў асноўным праходзіць паводле гэнэральных умоў. Нездавальненьне нашага попыту па гэтых таварах тлумачыцца нязначнымі нормамі, вылучанымі для нас з агульнага пляну завозу, дзякуючы пашырэньню дзейнасьці сельска-гаспадарчай сыстэмы ў гэтай галіне. Наш плян прадугледжвае адмову ад працы з сельска-гаспадарчымі машынамі і інвэнтаром, павялічэньня нашага ўдзелу ў збыце чыгуннае, эмаляванае і алюмінавае пасуды, а таксама ўсіх прыладаў гаспадарчага ўжытку, інструмэнтаў і цьвікаў, пры стабільнасьці нашых апэрацый з дахавым і сартавым зялезам.

Па пытаньні аб зьмене ўмоў генумовы мы высоўваем наступныя моманты: павялічэньне тэрмінаў крэдытаў да 75—90 дзён адпаведна зваротаздольнасьці таго ці іншага тавару; акрамя таго, мы думаем, што ў мэтах стымуляваньня пашырэньня гандлю эмаляванай пасуды трэба ўстанавіць умовы разрахунку на пасуду поўнасьцю ў крэдыт на 90 дзён: гэта дасьць магчымасьць найбольш буйным арганізацыям заказваць пасуду вагонамі навалам. Агульны зварот па мэталёвых таварах паводле пляну на 1928-29 год намечаны ў 2 мільёны рублёў.

### Па хэмічных прадуктах

Прадугледжваецца стабільнасьць умоў старога гендагавору пры павялічэньні нашае нормы содавае прадукцыі. Дзеля меркаванага пераводу ў Хэмсындыкат „Анілтрэсту" і „Лакокраскі" мы лічым мэтазгодным уключэньне ў генумову вырабаў „Анілтрэсту" і цёртых фарбаў. Меркаваны зварот на 1928-29 год намечаны ў 1 мільён рублёў.

### Па сілікатных таварах

Пры пашырэньні нашага гандлю сілікатнымі таварамі мы лічым патрэбным у генумову ўнесьці наступныя зьмены: зьняцьце сындыкацкае надбаўкі на ўсе тавары, якія атрымліваюцца ад Белшклотрэсту, устанаўленьне ўмоў разрахунку ў залежнасьці ад сэзону: на сэзонныя месяцы крэдыт 60-70 дзён, на несэзонныя месяцы—150-180 дзён, з аплатаю 20 проц. толькі за неабходны для нармальнага таваразвароту час, за 75-90 дзён. Гэта дасьць нам магчымасьць прыймаць тавар у працягу ўсяго году ў адпаведнасьці з ходам вытворчасьці.

Адносна фаянсава-фарфоравай пасуды трэба абумовіць, што заказы павінны выконвацца ў адпаведнасьці са спэцыфікацыяй.

Па меры найбольшага ахопу спажыўсыстэмай гандлю сілікатнымі таварамі магчыма пастаноўка пытаньня аб ліквідацыі аддзяленьня Продасілікату, бязумоўна, без таварных астаткаў, якія ў працягу некалькіх гадоў накапліваліся на складах. Зварот па сілікатах на 1928-29 год намечаны ў 2 мільёны рублёў.

### Па бакалейных таварах

Умову з Маслатлушчсындыкатам трэба поўнасьцю перагледзець, як адносна колькасьці завозу, так і адносна ўмоў разрахунку. Ня можа быць такога становішча, каб спажывецкая каапэрацыя давала авансы ў 25 і 29 проц. за 18 дзён перад наступленьнем месяцу адгрузкі. Як асноўны прадукт масавага ўжытку гораду і вёскі, бакалейныя тавары павінны дастаўляцца ў такой колькасьці, каб спажывецкая каапэрацыя мела магчымасьць максымальнага задаваленьня каапэраванага пайшчыка. Новыя ўмовы павінны прадугледзець выдачу авансавых вэксаляў перад пачаткам кожнага кварталу тэрмінам на 75-90 дзён і разрахунак супроць дублікату. Абавязковасьць забору туалетнага мыла з спажыўсыстэмы павінна быць зьнята.

Умовы, зложаныя канторамі на кандытарскія вырабы (у прыватнасьці, умова, зложаная ленінградзкаю кантораю), не забясьпечылі сыстэму ў поўнай меры кандытарскімі вырабамі ў часе сэзону, у выніку чаго кандытарскія вырабы былі адзін час далучаны да ліку дэфіцытных тавараў. У далейшым утварылася такое становішча, што некаторыя арганізацыя адмовіліся ад сваіх заказаў, чым была створана пагроза нявыбаркі поўнае колькасьці паводле ўмовы.

У гэтае пытаньне павінна быць унесена яснасьць. Маскоўская кантора ўлічыць заяўкі нашых арганізацый на кандытарскія вырабы і павядзе перамовы з Моссельпромам аб злажэньні ўмовы. Тую колькасьць, якой ня хопіць у Моссельпроме, прыдзецца разьмясьціць у Центрасаюзе і ў ленінградзкім „Харчтрэсьце“. Калі ў гэтым годзе будзе арганізавана цукерачна-шакалядная фабрыка Белхарчтрэсту, Белкаапсаюз павядзе перагаворы з мясцовай прамысловасьцю ў першую чаргу.

Забесьпячэньне спажыўсыстэмы рыжам, макаронамі і сухою садавінаю павінна быць гарантавана згодаю з бакалейным аддзелам Центрасаюзу, пры чым адносна макарон перамовы будуць праводзіцца ў залежнасьці ад пабудоўлі беларускае фабрыкі.

Па пытаньні аб нашым гандлі прысмакамі і іншымі імпартнымі таварамі павінна быць праведзена наступная лінія: акрамя кампэнсацыйнага імпорту, які атрымліваецца непасрэдна Белкаапсаюзам, за спажывецкай каапэрацыяй павінен быць замацаваны увесь імпарт, якія атрымлівае Белдзяржгандаль, як у парадку плянавага імпарту, так і ў парадку кампэнсацыйным. Рэалізацыя імпартных тавараў Белдзяржгандлям пры дапамозе сваіх карабейнікаў і прасолаў для заахвочваньня іх экспартных загатовак парушае правільнае разьмеркаваньне імпартных дэфіцытных тавараў сярод спажыўцоў. Трэба таксама паставіць пытаньне перад Цэнтрасаюзам аб вылучэньні для беларускае каапэрацыі кантынгэнту агульнага імпарту, адпаведна з удзелам беларускае каапэрацыі ў экспарце.

Пашырэньне нашага гандлю гарбатаю і гарбатнымі сурагатамі павінна ісьці ўзмоцненым тэмпам у сэнсе ахопу тае часткі рынку, якая дагэтуль забясьпечвалася прыватнікам.

Адноснае павялічэньне сумы нашых зваротаў па бакалейных таварах і памяншэньне ўдзельнае вагі бакалейных тавараў у агульным нашым звароце паказвае на задачу, якая стаіць перад намі, задачу пашырэньня гандлю гэтымі таварамі, асабліва па вясковай сетцы. Неабходнасьць арганізацыі на Беларусі бакалейнае базы, куды можна было-б завозіць тавар непасрэдна з месца вытворчасьці, для нас зусім ясна. Гэта пытаньне павінна быць вырашана ў залежнасьці ад ступені павялічэньня нашага гандлю бакалейнымі таварамі. Гэта дасьць магчымасьць больш дробным арганізацыям хутка атрымліваць тавар на выгодных умовах, незалежна ад разьмеру партыі.

Вольфсон

# Агляд працы па лабазных таварах

Па ўсёй групе тавараў (цукер, соль, нафта, запалкі, тытуновыя вырабы, хлеб, віно, рыбныя тавары) забесьпячэньне нашай сыстэмы за мінулае паўгодзьдзе адбывалася больш-менш нармальна, за выключэньнем рыбных тавараў, якімі попыт ў поўнай меры ня быў здаволены.

Зварот па лабазнай групе, параўнальна з 1926-27 годам, значна ўзрос. За ўвесь 1926-27 гасп. год зварот па гэтай групе тавараў вызначыўся ў суме 10.963 тысяч рублёў, а за першае паўгодзьдзе дасягнуў 11.444 тысячы рублёў.

Такі значны рост зваротаў Белкаапсаюзу ў асноўным тлумачыцца пашырэньнем унутрыкаапэрацыйнае сувязі сыстэмай генумоў (махорка, нафта, запалкі, гарэлка). Зварот на другое паўгодзьдзе намечаны ў суме 10.693 тысяч рублёў. Пры вызначэньні зваротаў на другое паўгодзьдзе мы выходзілі: з арыентавальных заявак арганізацый па цэлым шэрагу тавараў (цукер, соль, рыбныя тавары), з таварных мас, якія падлягаюць забору паводле генумоў, з улікам сэзоннасьці ці іншага тавару (цукер, нафта) і з неабходнасьці стварэньня некаторых рэзэрваў перад пачаткам хлебазагатоўчай кампаніі.

Пры вылічэньні патрэбнасьцяй і пры складаньні генумоў на 1928-29 год мы павінны выходзіць з асноўнае задачы, якая стаіць перад намі і якая ў асноўным зводзіцца да далейшага пашырэньня зваротаў па групе дастатковых тавараў, з улікам ня толькі ўзросту спажываньня, але і працэсу далейшага выціcканьня прыватнага гандлю.

Арыентавальны зварот па лабазнай групе тавараў на 1928-29 год намечаны ў суме 26.088 тысяч рублёў.

Параўнальна з 1927-28 годам (22.137 тысяч рублёў) зварот павінен павялічыцца на 3.951 тысячу рублёў, або 17,4 проц.

### Цукер

Колькасьць цукру, якая намечана да рэалізацыі ў 1928-29 годзе, па ўсёй Беларусі вызначаецца ў 1.570 вагонаў, з ліку якіх спажыўсыстэма паводле генумовы атрымае 1.000 вагонаў.

Паводле даных Цукратрэсту ўдзельная вага розных арганізацый у справе рэалізацыі цукру разьмяркоўваецца наступным парадкам:

| | | |
|---|---|---|
| 1. Спажыўсыстэма | 1.014 | 64.58 проц. |
| 2. Тран. спаж. т-вы | 60 | 3.82 „ |
| 3. Працкалектывы і інш. дзярж. органы | 142 | 9,05 „ |
| 4. Хлебапрадукт | 220 | 14,01 „ |
| 5. Дробна-гуртавы (прыватны гандаль) | 134 | 8.64 „ |
| | 1.570 | 100.00 проц. |

Трэба ўлічыць, што удзельня вага прыватн. значна вышэй, бо ён у працягу некаторага часу забясьпечваецца праз Хлебапрадукт.

У зваротах Хлебапрадукту ў значнай частцы ўдзельнічае нізоўка, і фактычная ўдзельная вага спажывецкай каапэрацыі ў справе рэалізацыі цукру вызначаецца прыблізна ў 70-72 проц.

Улічваючы рост спажываньня ў 1928-29 годзе і неабходнасьць далейшага выціcканьня прыватнага гандлю, зварот цукру намечаны ў 1.100—1.200 вагонаў на суму 11.000—12.000 тысяч рублёў.

У мінулым паўгодзьдзі мы мелі зьмену ўмоў разрахунку ў бок пагаршэньня. Крэдыты на 49 дзён з надбаўкаю 16 дзён на той тэрмін, у працягу якога цукер знаходзіцца ў пуці, былі адпаведна скарочаны да 41 дня і 9 дзён.

У сучасны момант тэрмін чыстага крэдыту ўстаноўлены ў 50 дзён. Тэрміны крэдыту павінны быць павялічаны на ўвесь год без усялякіх зьмен у бок пагаршэньня. Таксама павінна быць ліквідавана сыстэма авансаваньня, якая ўскладняе разрахункі і прыводзіць да затрыманьня нашых сродкаў у прамысловасьці.

Улічваючы, што прыватны гандаль значна скарочаны, і што Хлебапрадукт у значнай частцы абслугоўвае спажывецкія таварыствы, далейшы ўдзел Хлебапрадукту ў рэалізацыі цукру немэтазгодны.

### Соль

За мінулае паўгодзьдзе перабояў ў забесьпячэньні сольлю не наглядалася, хаця адгрузкі не заўсёды рабіліся акуратна. З недахопаў трэба адзначыць недастатковае скарыстаньне водных шляхоў для перавозкі солі.

Ня ўсімі арганізацыямі робіцца правільны ўлік патрэбнасьцяй і тэрмінаў завозу паводле паасобных раёнаў і пунктаў. Частае ануляваньне нарадаў і тэлеграфныя звароты аб паскарэньні маюць яшчэ месца ў некаторых арганізацыях.

Пры складаньні пляну забору солі на наступны 1928-29 год трэба асабліва ўлічыць, што каапэрацыя зьяўляецца ледзьве не манапалістым у справе рэалізацыі солі. З асаблівай стараннасьцю трэба вызначыць як колькасьць, так і тэрміны завозу, улічваючы недапушчальнасьць хаця бы найменшага перапынку ў нармальным забесьпячэньні насельніцтва сольлю.

### Нафтапрадукты

Паводле пляну на 1927-28 год намечана да рэалізацыі нафтапрадуктаў на суму 1.100 тысяч рублёў. Плян будзе выкананы. Удзельная вага наша далёка яшчэ не дастаткова (арыентавальна 60-65 проц.) Неабходна паскорыць перадачу шэрагу нафтавых бакаў у арэнду каапэрацыйным арганізацыям.

ЦРК неабходна пашырыць сетку газавых крам і арганізаваць развоз газы (на ўмовах бязубыткавасьці).

Нізоўцы трэба больш увагі аддаць гандлю газаю. Толькі пры гэтых умовах мы здолеем павялічыць удзельную вагу каапэрацыі ў зваротах з газаю, забясьпечыўшы спажыўца найбольш таннаю цаною і выжыць прыватніка.

### Махорка і тутунёвыя вырабы

Да арганізаванага забесьпячэньня махоркаю Белкаапсаюз прыступіў толькі ў другім квартале бягучага году. Наяўнасьць шэрагу паасобных дагавароў на розных умовах, адсутнасьць плянавасьці ў раёнаваньні збыту махоркі рэспубліканскае прамысловасьці, закупкі некаторымі арганізацыямі ў розных саматужніцкіх аб'яднаньнях не далі магчымасьці ў дастатковай ступені ўплываць на правільную арганізацыю збыту махоркі і ўзмацніць значэньне каапэрацыі на гэтым рынку.

На наступны гаспадарчы год забесьпячэньне спажыўсыстэмы неабходна праводзіць арганізаваным парадкам. Трэба намеціць раёнаваньне збыту мясцовай і рэспубліканскай прамысловасьці.

Таксама недастаткова ўдзельная вага спажыўсыстэмы ў рэалізацыі тутунёвых вырабаў.

У мэтах стымуляваньня рэалізацыі махоркі і тутунёвых вырабаў мэтазгодна імкнуцца да злажэньня ўмоў на камісыйных пачатках.

### Рыбныя тавары

За першае паўгодзьдзе забесьпячэньне рыбнымі таварамі было далёка недастатковае. Ступень задавальненьня ня больш 60-65 проц. Пэрспэктывы на другое паўгодзьдзе (паводле наяўнае інфармацыі) вельмі неспрыязны, асабліва адносна астраханскіх селядцоў і воблы.

Умова зложана з Рыбсындыкатам на 1.800 тысяч рублёў. Сюды не ўваходзіць улоў восеннае пуціны. Магчымы і некаторы завоз імпартных селядцоў. Улічваючы ўсе гэтыя моманты, мы намячаем зварот на 1928-29 год у 4.600 тысяч рублёў.

### Запалкі

Удзельная вага спажыўкаапэрацыі ў гандлі запалкамі дасягае 90 проц. Умова, зложаная ў гэтым годзе, у поўнай меры пакрывае патрэбнасьць сыстэмы. Адгрузка робіцца акуратна.

### Гарэлка

Умову трэба перагледзець у бок павышэньня процанту камісіі за складзкія апэрацыі, унясэньня яснасьці ў пабудову сеткі і ўстанаўленьня аплаты за фрахт паводле фактычнага кошту.

---

Байцоў.

## Фонды доўгатэрміновага крэдытаваньня пры Ўсекабанку

На падставе пастановы Саўнаркому СССР ад 20 лютага г.г. пры Усекабанку, а ў прыватнасьці, на падставе пастановы Саўнаркому БССР пры Беларускім Аддзяленьні Ўсекабанку устанаўляюцца фонды доўгатэрміновага крэдытаваньня каапэрацыі.

Фонды падзяляюцца на:

1) агульны для крэдытаваньня ўсіх сыстэм каапэрацыі; гэты фонд складаецца с асыгнаваньняў па дзяржаўным бюджэце, а таксама з сум, што зварочвае каапэрацыя ў парадку тэрміновага пагашэньня раней атрыманых доўгатэрміновых пазык, з сродкаў з НКФ і %% на іх.

2) спэцыяльныя фонды для кожнай сыстэмы каапэрацыі, з якіх крэдытуецца толькі тая каапэрацыйная сыстэма, з сродкаў якое складаецца той ці іншы фонд.

У спэцыяльныя фонды каапэрацыі паступаюць:

1) абавязковыя штогодныя адлічэньні, у разьмеры 10%, з прыбыткаў каапэрацыйных арганізацый, пачынаючы з 1926-1927 г.;

2) капіталы, якія перадаюцца Ўсекабанку каапэрацыйнымі арганізацыямі з мэтавым прызначэньнем на доўгатэрміновае крэдытаваньне;

3) адлічэньні ад чыстага прыбытку каапэрацыйных банкаў;

4) штогодныя %%, якія прылічваюцца ад каапэрацыйных банкаў за карыстаньне сродкамі, што былі унесены ў спэцыяльныя фонды.

Пазыкі з вышэйназваных фондаў выдаюцца на капітальныя выдаткі, на павялічэньне зваротных сродкаў і на складаньне ці павялічэньне асноўных і спэцыяльных капіталаў.

Доўгатэрміновае крэдытаваньне з вышэйназваных фондаў ажыцьцяўляецца аддзелам доўгатэрміновага крэдыту, які пры Беларускім Аддзяленьні Ўсекабанку ўстаноўлены з 15 сакавіка г.г.

Агульны фонд (сродкі НКФ) крэдытаваньня каапэрацыі Беларусі на 1 чэрвеня г.г. быў роўны 2.022.579 руб. 38 кап.

У справе стварэньня сваіх спэцыяльных фондаў доўгатэрміновага крэдытаваньня розныя каапэрацыйныя сыстэмы выявілі сябе розна.

У даным выпадку першае месца па прызнаньні неабходнасьці складаньня ўласных фондаў доўгатэрміновага крэдытаваньня і па дысцыплінаванасьці правядзеньня ў жыцьцё пастаноў кіраўнічых органаў займае спажывецкая каапэрацыя.

Яшчэ да апублікаваньня закону СНК СССР ад 20-га лютага 1928 г. „аб асновах доўгатэрміновага крэдытаваньня каапэрацыі", Цэнтрасаюз і Цэрабсэкцыя лістамі-абежнікамі зьвярнуліся да пэрыфэрыі з заклікам аб неабходнасьці адлічэньняў з прыбыткаў 1926-1927 г. у фонды ўзаемадапамогі каапэрацыі, у фонды будаўніцтва.

Праўленьне Белкаапсаюзу і Прэзыдыум Белрабсэкцыі зараз-жа па апублікаваньні памянёнага закону СНК СССР ад 20-га лютага выносіць пастанову аб абавязковым 10% адлічэньні з прыбыткаў каапэрацыйных арганізацый спажыўсыстэмы паводле балянсаў на 1-е кастрычніка 1927 г. Далей паказаныя пастановы пацьвярджаюцца сэсіяй савету Белкаапсаюзу ад 11-14 красавіка і сходам упаўнаважаных кожнага раённага спажыўсаюзу Беларусі.

У выніках гэткае прадуманае і пасьпяхова праведзенае агітацыйнае працы маем наступныя дасягненьні:

1) У 1926-27 г. спажыўсыстэма атрымала прыбыткі:

| | | |
|---|---|---|
| Саюзы | 206.812 | руб. |
| Спажыўтаварыствы | 398.824 | „ |
| Рабочая каапэрацыя | 261.009 | „ |
| Усяго | 866.645 | руб. |

Значыцца 10% адлічэньне ў ФДК павінна скласьці 86.664 руб.

2) Да сучаснага моманту паступіла: (у рублёх):

| | Гатоўкаю | Вэксалямі тэрміновымі | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Чэрвень | Ліпень | Жнівень | Верасень |
| Ад саюзаў | 30545 | — | — | 1787 | — |
| Ад рабочае каап. | 6730 | 1955 | — | 1200 | 10182 |
| Ад спаж. т-ваў | 6302 | 1373 | 772 | — | — |
| | **43577** | **13328** | **772** | **2987** | **10182** |

Такім чынам гатовымі грашыма пакрыта 50,2% і вэксалямі 17.269 р., ці 19,9% тых адлічэньняў, якія павінны былі паступіць.

Перавышэньне паступленьняў ад спажыўсаюзаў і параўнальна малае паступленьне ад спажыўтаварыстваў тлумачыцца тым, што ў сумах, перададзеных Саюзамі, маюцца адлічэньні і спажыўтаварыстваў

Можна меркаваць. что выяўленьне і дакумэнтальнае афармленьне фонду спажыўсыстэмы будзе зроблена не пазьней 5-10 чэрвеня г.г. гэта значыць да МДК.

Разам з перадачай у ФДК адлічэньняў з прыбыткаў 1926-27 г., спажыўсыстэма перадае ў гэты фонд і зробленыя ёю адлічэньні ў фонд узаемадапамогі спажыўсыстэме з прыбыткаў 1925-26 году.

Такім чынам спажыўсыстэма ў бягучым годзе зьбірае ў Усекабанку звыш ста тысяч рубл. сваіх сродкаў, якія можа кінуць паводле ўласнага жаданьня туды, дзе гэта будзе самой жа сыстэмаю знойдзена найбольш патрэбным і мэтазгодным.

У спэцыяльны фонд доўгатэрміновага крэдытаваньня саматужнай прамсыстэмы паступіла ад саюзаў: гатоўкаю 1.750 руб. і вэксалямі тэрмінам на ліпень месяц 1330 руб.

Адначасовае паступленьне і сродкаў у спэцыяльныя фонды крэдытаваньня і даволі шматлікіх заяў аб выдачы доўгатэрміновых пазык то на будаўніцтва (у большай частцы), то ў зваротныя капіталы красамоўна само за сябе гаворыць аб неабходнасьці для каапэрацыі стварэньня сваіх сыстэмных фондаў для доўгатэрміновага крэдытаваньня.

---

**А. Рыбакоў**

# Да пытаньня аб арганізацыі садова-гародніцкага саюзу [1])

Адным з адмоўных бакоў працы ў галіне садаводзтва і гародніцтва зьяўляецца: а) неналаджанасьць збытавых апэрацый па садовіне і гародніне, б) малая сетка спэцыяльных садова-гародных аб'яднаньняў, в) адсутнасьць тэхнічнай пераапрацоўкі продуктаў садовіны і гародніны і г) адсюль слабае разьвіцьцё і пашырэньне садовадзтва гародніцтва. Апэрацыі па садаводзтве і гародніцтве маюць свае наступныя асаблівасьці:

1. Галоўная частка збыту пладоў садавіны і гародніны не ахоплена сел.-гасп. каапэрацыяй і дзяржаўнымі арганізацыямі, а ідзе праз прыватных асоб. Каб выбіць з гэтых галін працы прыватніка, трэба шырока і грунтоўна арганізаваць збытавыя апэрацыі.

2. У апэрацыях па садавіне і гародніне мы маем справу з хутка псуючыміся прадуктамі, якія патрабуюць хуткасьці звароту апэрацый і выразнасьці ў самой працы.

3. Апэрацыі патрабуюць высока кваліфікаваных спэцыялістых і тэхнікаў.

4. Вялікая частка прадукцыі садаводзтва і гародніцтва вывозіцца за межы Беларусі.

Унівэрсальная праца існуючых саюзаў не дае нават тэхнічнай магчымасьці справіцца з працаю па арганізацыі вытворчых аб'яднаньняў і наладжваньні арганізацыйна-вытворчай і гаспадарчай працы ў галінах садоўніцтва і гародніцтва, а гэтым затрымліваецца разьвіцьцё гэтых галін сельскай гаспадаркі.

Усе вышэйпамянёныя абставіны прымушваюць да неабходнасьці выдзяленьня апэрацый па садоўніцтве і гародніцтве з існуючых саюзаў і арганізацыі самастойнага спэцыяльнага садова-гароднага саюзу.

Садова-гародны саюз патрэбна будаваць не па сыстэме трохступнай (нізоўка, акруговы саюз і беларускі цэнтральны саюз), а па двуступнай —нізоўка і беларускі цэнтральны саюз з сваімі ўпаўнаважанымі ў некаторых акруговых гарадох. Нізавая сетка павінна будзе мець такую пабудову: садова-гародныя арцелі, калгасы, маючыя вялікія садова-гародныя плошчы, буйныя садова-гародныя т-вы (1—2—3 на адміністрацыйны раён, а ў некаторых выпадках, у залежнасьці ад таварансьці—адно т-ва на $1^1/_2$—2 раёны).

---

[1]) У парадку абгаварэньня.—Рэд.

Усе арцелі і калгасы сваю збытавую працу павінны будуць весьці праз садова-гародныя-т-ва, ажыцьцяўляючы праз апошнія і сваё членства ў сыстэме сел.-гасп. каапэрацыі.

Двухступенная сыстэма пабудовы садова-гароднай каапэрацыі выклікаецца наступнымі вымаганьнямі:

1. Пры правядзеньні апэрацый па садавіне і гародніне, мы, маючы справу з хутка псуючыміся прадуктамі, павінны так пабудаваць сваю працу, каб зварот тавараў ішоў найхутчэйшым тэмпам, бяз усякіх перадатачных нстанцый. У даным выпадку акруговы ці раённы садова-гародны саюз будзе перашкодаю да наладжваньня працы ў сэнсе хуткасьці. Тут не патрэбна арганізацыя, якая-б зьбірала тавар ад нізоўкі малымі партыямі і прадавала-б яго павагонна, бо кожная з нізовак будзе мецъ да збыту садавіны і гародніны цэлымі вагонамі. Пры трэцім зьвяне няўхільны затрыманьні з адпраўкаю тавару, а адсюль і прастой вагонаў, псаваньне прадуктаў і страта.

2. Вываз прадукцыі за межы Беларусі вымагае рабіць гэту апэрацыю ў сурова цэнтралізаваным парадку. Пры трохступеннай сыстэме немагчыма наладзіць цэнтралізаваны вываз, і заўсёды будуць наглядацца самастойныя выступленьні серадзіннага зьвяна, што, не гаворачы ўжо аб ударажонасьці апэрацый, павядзе да зрыву збытавой працы па вывазу.

3. Спэцыфічнасьць працы па апэрацыях садовіны і гародніны патрабуе такіх абсалютна неабходных мерапрыемстваў, як стандарт тары, упакоўка, сартыроўка і інш. Гэта мажліва зрабіць выключна пры цэнтралізаванай пабудове працы.

4. Малы разьмер самой тэрыторыі Беларусі гаворыць за тое, што ўся арганізацыйная і гаспадарчая праца можа быць ахоплена адным саюзам, тым больш, што галоўная маса прадукцыі знаходзіцца ў 4-х акругах: Гомельскай, Магілеўскай, Бабруйскай і Віцебскай, дзе і будзе сканцэнтравана галоўная праца.

5. Цэннастнае выражэньне збываемай прадукцыі дае нагрузку толькі аднаму саюзу. Калі-ж гэту працу распыліць па некалькіх саюзах, дык яны ня будуць мець нагрузкі ў працы.

Па арыентыровачным каштарысе для беларускага садова-гароднага саюзу пры звароце у 2.990 тыс руб. у год чысты прыбытак складзе 3 тыс. руб. у год.

Калі-ж мы паказаныя апэрацыі распылім, дык прыбытковая частка не павысіцца, бо абхват рынку будзе аднолькавы як і пры двухступеннай сыстэме, гэтак і пры трохступеннай сыстэме, а выдаткі значна павысяцца і саюзы будуць прыносіць прамую і непасрэдную страту. Каб паменшыць страты, саюзы павінны будуць браць у свой кошт вялікія процанты, што бязумоўна зьявіцца адмоўным бокам у гэтай справе.

6. Пры скарацiўшайся садовай плошчы за апошнія гады, пры масавым аднаўленьні садовай плошчы, пачаўшымся толькі з гэтага году, таварнае пладанашэньне якое наступіць не раней 1941 г., пры адначасовай штогоднай убылі пладаноснай садовай плошчы ў $3^1/_2$—4 проц. у год, мы будзем мець пры павялічэньні абсалютнага разьмеру садовай плошчы паступовае зьмяншэньне пладаноснай садовай плошчы.

Пры такіх абставінах чакаць вялікага павялічэньня валавых збораў ня прыдзецца. Галоўная ўвага павінна быць саюзам накіравана на рацыяналізацыю і інтэнсыфікацыю садовай культуры і ахоп таварнай часткі прадукцыі. А адсюль ніякіх пэрспэктыў на бліжэйшы час для працы акруговых, ці раённых садова-гародных саюзаў няма.

7. Пры двухступеннай сыстэме арганізацыйна-гандлёвыя выдаткі будуць меншыя, і рэнтабельнасьць апэрацый як для нізоўкі, гэтак і для вытворца павялічыцца.

8. Камісыйна-пасрэдніцкія апэрацыі ў дзейнасьці каапэрацыі наогул маюць вялікае значэньне, а ў садова-гароднай асабліва, дзе маецца большая рызыка самых опэрацый. На комісыйны збыт пойдзе селянін тады, калі проц. камісіі будзе малы, а гэта магчыма ажыцьцявіць пры двухступеннай сыстэме арганізацыі садова-гароднай каапэрацыі.

9. Арганізацыя тэхнічнага спэцыяльнага апарату адпаведнай кваліфікацыі затрудняецца ў сувязі з недахопам спэцыялістых па гэтых галінах працы, што трэба мець на ўвазе пры пабудове саюзу. Пры двухступеннай сыстэме спэцыялістых трэба будзе мець менш, бо іх магчыма будзе паўнее скарыстаць, павялічыўшы нагрузку іх працы.

Усё вышэйпамяненае прымушае нас: а) зараз жа прыступіць да падрыхтоўчай працы па выдзяленьні садова-гароднага саюзу з тым, каб саюз быў утваран да лютага 1929 году; б) саюз будаваць па двухступеннай сыстэме—нізоўка і беларускі цэнтральны саюз.

---

З. Кофман

# Цяганіна з кіно-працаю

У сучасны момант, калі мы маем цэлы шэраг аўтарытэтных пастаноў пра кінофікацыю вёскі, кіно-праца каапэрацыйнае сеткі набывае асабліва важнае значэньне.

Мы маем цэлы шэраг фактаў, якія даводзяць, што праца віцебскага саюзу ў справе абслугоўваньня вёскі кіно заслугоўвае пільнае ўвагі. Трэба заўважыць, што Віцебскі спажыўсаюз пачаў працу толькі з аднэю перасоўкаю, а цяпер праз 4 месяцы мае па сваёй сетцы 4 каапэрацыйных кіно-перасоўкі. Паводле падрахункаў працы першай кіно-перасоўкі за 2 з палов. месяцы абслужана 27 спажывецкіх т-ваў; было зроблена 55 кіно-сэансаў у 50 пунктах, праз якія прайшло 13.385 чал.

Вось якімі водгукамі характарызуюць працу каапэрацыйных кіно-перасовак глядачы:

„З ліку пастановак кіно-перасовак, якія працавалі на тэрыторыі Межанскага раёну ў працягу апошніх гадоў, праца апошняй кіно-перасоўкі віцебскага спажыўсаюзу ў сэнсе тэхнікі працы зьяўляецца нябывалаю... Уся маса глядачоў засталася з найлепшай думкаю пра кіно"

Заг. Нардому ў Межы.

„Кіно прайшло з посьпехам. Аб гэтым сьведчаць два сэансы, якія ахапілі ня менш 500 чал.".

Заг. школаю ў вёсцы Халамер'е.

„Мы вельмі ўдзячны за дасягненьне нашага саюзу. Просім не забываць нас. Больш асьветы на вёску".

Пайшчык з вёскі Дуброўкі.

У сувязі з кіно Віцебскім спажыўсаюзам праводзіцца праца па каапэрацыйнай асьвеце. Перад кіно-сэансамі зроблена 37 дакладаў-гутарак на каапэрацыйныя тэмы. Кіно-мэханікам абсталяваны 4 каапэрацыйных куткі. Набыты тры кароткамэтражныя кіно-фільмы з каапэрацыйным зьместам. Пры такіх умовах, здаецца, няма чаго і гаварыць аб вялікім культурным значэньні, якое мае праца віцебскага спажыўсаюзу ў галіне кінофікацыі вёскі. Трэба думаць, што ў гэтай справе саюз павінен быў-бы карыстацца належным падтрыманьнем Белдзяржкіно, і ў кожным разе ён мае поўнае

права на самыя чулыя адносіны да гэтай яго працы з боку Белдзяржкіно. Аднак, мясцовая і цэнтральная канторы Белдзяржкіно ня толькі не дапамагаюць, але фактычна сваёй цяганінай перашкаджаюць сыстэматычнай працы каапэрацыйных кіно-перасовак.

Цяпер, калі па сетцы віцебскага спажыўсаюзу працуюць 4 кіно-перасоўкі, адносіны Белдзяржкіно надзвычайна балюча адбіваюцца на іх працы.

Спажыўсаюзу прыходзіцца атрымліваць кінофільмы для пракату ў мясцовым аддзяленьні Белдзяржкіно. З першых-жа дзён сваёй працы ў гэтай галіне саюз наткнуўся на процідзейнасьць гэтае ўстановы. Калі праца вядзецца паводле строга выпрацаваных маршрутаў, своечасовае атрыманьне фільмаў на пэўны тэрмін адыгрывае надзвычайна важную ролю. Але за кароткі час мясцовае аддзяленьне Белдзяржкіно ўжо не аднойчы парушала гэтыя неабходныя ўмовы працы і ўносіла ў справу спажыўсаюзу поўную блытаніну.

Вось некалькі фактаў: саюзу кіно-фільма патрэбна на месяц; Белдзяржкіно рашуча адмаўляецца даць яе на гэты тэрмін і дае яе толькі на два тыдні; пасьля сканчэньня гэтага двухтыднёвага тэрміну саюз патрабуе, каб фільма яшчэ нейкі час засталася ў распараджэньні яго кіно-перасовак, і мясцовае аддзяленьне Белдзяржкіно на гэты раз знаходзіць магчымым адтэрмінаваць пракат фільмы яшчэ на два тыдні. У выніку Белдзяржкіно „зарабіла“ лішніх 10 руб., а плянавая праца саюзу ўсё-такі сарвана.

Вось другі факт: Спажыўсаюз дае аддзяленьню Белдзяржкіно цьвёрды заказ на тры кіно-фільмы для трох кіно-перасовок. Заказ гэты даецца 8-га красавіка. Дзьве фільмы заказаны на 16 красавіка і адна фільма на 25-ае. Аддзяленьне Белдзяржкіно запэўняе, што заказ будзе выкананы своечасова. 16-га красавіка раніцаю ў аддзяленьні Белдзяржкіно гавораць, што з Менску атрымана для спажыўсаюзу толькі адна кінофільма, якую яму і абяцаюць выдаць у гэты-ж дзень. Але гадзіны праз дзьве аддзяленьне Белдзяржкіно рашуча адмаўляецца выдаць і гэтую фільму. У той-жа вечар фільма дэманструецца ў камэрцыйным кіно-тэатры і ў адным з клюбаў. На пратэст спажыўсаюзу аддзяленьне адказвае брахлівымі адгаворкамі. Вынікі: Белдзяржкіно атрымлівае прыбыткі, а вызначаны спажыўсаюзам маршрут сарваны. Другая кіно-фільма, якая была заказана на 15-ае красавіка, была атрымана толькі 25 красавіка, а кіно-мэханік і кіно-перасоўка на працягу 10 дзён не працавалі. Дарэчы: трэцяя карціна, якая была заказана на 25-ае, 27-га красавіка спажыўсаюзам яшчэ ня была атрымана.

Характэрна, што на запытаньне віцебскага спажыўсаюзу ад 21-га лютага за № 2679 аб парадку ўрэгуляваньня забясьпечаньня кіно-перасовак фільмамі цэнтральная кантора Белдзяржкіно нават ня лічыць патрэбным адказваць. Ці можа яна хоча гэтым самым паказаць сваю салідарнасьць са сваім аддзяленьнем?

Між іншым, тэлеграфныя напамінаньні віцебскага аддзяленьня Белдзяржкіно ў Менск аб высылцы кіно-істужак для спажыўсаюзу таксама даюць вельмі мала вынікаў.

Пытаньня-ж аб агульнай балячцы—аб беднасьці асартымэнту—мы ўжо нават і не ўзьнімаем.

Мы лічым, што кіно-праца каапэрацыйных арганізацый павінна будзе разгортвацца, бо мы ўпэўнены, што ёсьць арганізацыі, якія навучаць Белдзяржкіно больш сур'ёзна адносіцца да справы культурнай рэвалюцыі на вёсцы.

# ПРАЦА НА МЯСЦОХ

Ваўкавіцкі

## Вынікі працы сходу ўпаўнаважаных спажыўкаапэрацыі Менскае акругі

6-га чэрвеня скончыў сваю працу зьезд упаўнаважаных спажыўкаапэрацыі Менскай акругі. Паводле заслуханых дакладаў аб дзейнасьці Менскага аддзяленьня БКС і сеці зьезд канстатаваў, што ў мінулым пэрыядзе маецца шэраг дасягненьняў у працы спажыўкаапэрацыі акругі: праведзена ўзбуйненьне сеці: на 1/X-27 г. было 93 спажыўтаварыстваў з колькасьцю крам 259, на 1/IV-28 г. маецца 89 спажыўтаварыстваў з колькасьцю крам 285. Узбуйненьне сеці праводзілася так, каб запоўніць каапэрацыйныя пустоты і наблізіць тавары да спажыўца. Значныя посьпехі дасягнуты ў галіне каапэраваньня сялянскага насельніцтва і збору паявых узносаў, галоўным чынам, у пэрыядзе з 1/X-27 г. да 1/IV-28 г.



Група актывістых Анопаль-Крупіцкага спажыв. т-ва „Гаспадар“ (Меншчына, Самахвалавіцкі раён)

За 1926-27 г. было каапэравана 8.405 пайшчыкаў, за паўгодзьдзе 1927-28 г., каапэравана 12.296 пайшчыкаў. За 1926-27 г. было сабрана паявых узносаў 51.964 руб., за паўгодзьдзе 1927-28 г. сабрана 182.952 руб.

У першым паўгодзьдзі 1927-28 г. была ўзмацнена праца па каапэраваньні бядняцкіх гаспадарак за лік вылучаных спэцыяльных фондаў з прыбыткаў. Спажывецкая каапэрацыя Менскай акругі каапэравала 12.665 бядняцкіх гаспадарак.

Зварот па прамтаварах па сеці ў першым паўгодзьдзі 1927-28 г. параўнальна з мінулым годам павялічыўся на 26,8 проц. Зварот за паўгодзьдзе зроблен у суме 5.129 руб., або амаль столькі-ж, сколькі за ўвесь 1925-26 год.

Адпаведная праца зроблена адносна ахопу загатоўчага рынку. За 1-ы квартал 1927-28 г. загатавана 53 проц. усяе сумы загатоўкі за 1926-27 г. За 2-гі квартал гэтага-ж году загатавана на 46 проц. больш, чым за ўвесь мінулы год.

За ўвесь 1926-27 год было рэалізавана зернавых прадуктаў мясцоваму насельніцтву на 34.233 руб., а за адно толькі паўгодзьдзе гэтага году прададзена на 34.468 рублёў.

Спажыўкаапэрацыя поўнасьцю выканала дырэктыву ўрадавых органаў аб 10-проц. зьніжэньні цэн і дырэктыву аб 15-проц. скарачэньні выдаткаў у 1926 27 г. параўнальна з 1925-26 г.

Процант закупкі ад прыватных асоб выражаецца ў разьмеры 1,9 проц.

Разам з посьпехам ў працы зьезд канстатаваў наяўнасьць наступных дэфэктаў у працы спажыўкаапэрацыі: пасьля 2-га кварталу маецца аслабленьне тэмпу збору паявых узносаў і загатовак; недастаткова разьвіты транзытны завоз тавараў непасрэдна у с-т.; недастатковасьць уласных сродкаў у звароце; (уласныя сродкі ў звароце займаюць 31 проц.); наяўнасьць выпадкаў растрат.

Зьезд у сваёй пастанове даў катэгарычную дырэктыву давесьці сярэдні аплачаны пай да 1/X-28 г. ня ніжэй 7 руб. Менаддзяленьню перабудаваць свой асартымэнт тавараў у бок найпаўнейшага абслугоўваньня спажыўтаварыстваў. Распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы па ўзмацненьні транзытнага завозу непасрэдна ў спажыўтаварыствы. У рабоцесеці ўвесьці плянавасьць. Палепшыць гаспадарчае інструктаваньне с.-т. Весьці рашучую барацьбу з растратчыкамі і ў карані выжыць растраты. Строгія дырэктывы дадзены адносна скарачэньня выдаткаў на 20 проц. да 1/X-28 г. Зьездам прынята пастанова, каб перавыдаткі па каштарысе зварочваліся ўналічку вінаватых асоб; для гэтай мэты прапанавана ўзмацніць кантроль з боку рэвізыйных камісій. Адносна культпрацы дадзены дырэктывы аб разьвіцьці працы сярод каапэрацыйнага актыву. Арганізаваць пры спажывецкіх таварыствах сэкцыі ўпаўнаважаных і аргасьветкамісіі. Часьцей рабіць нарады крамных камісій для азнаямленьня з каапэрацыйнай працай.

Зьезд, заслухаў даклад загадчыка Менаддзяленьнем тав. Цырліна аб бліжэйшых задачах у галіне арганізацыйна-гаспадарчай працы спажыўкаапэрацыі акругі. Гэты даклад быў заслухан з вялікай увагай.

У дакладзе адзначалася, што галоўнейшыя задачы на бліжэйшы пэрыяд наступныя: далейшае падвышэньне ўдзельнае вагі спажыўкаапэрацыі ў таваразвароце акругі. Пашырэньне ўласнае фінансавае базы праз падвышэньне матар'яльнага ўдзелу пайшчыкаў у капіталанамнажэньнях каапэрацыі. Скарачэньне выдаткаў і паляпшэньне абслугоўваньня пайшчыка. Узмацненьне арганізацыйных і матар'яльных сувязяй і зацікаўленасьці пайшчыкаў у працы свайго каапэратыву.Ператварэньне спажыўкаапэрацыі на справе ў грамадзка-масавую арганізацыю.

Для ажыцьцяўленьня гэтых задач неабходна весьці штодзённую працу па каапэраваньні новых пайшчыкаў і выканаць да 1/X—28 г. кантрольныя лічбы Менаддзяленьня, якія дадзены кожнаму спажыўтаварыству. Трэба ўзмацніць матар'яльную зацікаўленасьць пайшчыкаў. Найбольш важным сродкам матар'яльнай зацікаўленасьці пайшчыкаў трэба лічыць пераважнае забесьпячэньне іх дэфіцытнымі таварамі і першачарговасьць водпуску ім ўсіх тавараў.

У бліжэйшыя два гады неабходна ажыцьцявіць поўнае каапэраваньне бядняцкіх гаспадарак акругі. Для выкананьня гэтай задачы трэба прадаўжаць далейшае адлічэньне з прыбыткаў і своечасова скарыстоўваць фонды. Неабходна ў бліжэйшы час ажыцьцявіць пагалоўнае каапэраваньне батракоў і сельска-гаспадарчых рабочых, пры чым для палягчэньня доступу ў каапэрацыю батрацкім элемэнтам трэба адначасна з вясковай беднатой даваць і апошнім пазыкі з фондаў каапэраваньня беднаты.

Палітыка, якая праводзіцца ў справе зьніжэньня цэн і давядзеньня разьмеру прыбытку да мінімальнага ўзроўню, усё больш аслабляе значэньні прэміі на забор. З прычыны гэтага неабходна адмовіцца ад гэтага віду адлічэньняў і падвысіць адлічэньні з прыбыткаў на бытавыя і культурныя мерапрыемствы (дзіцячыя яслі, дзіцячыя пляцоўкі, куткі „Маці і Дзіця“).

Аднэй з форм культпрацы зьяўляецца пашырэньне каапэрацыйнае літаратуры і кнігі ў вёску. Неабходна разьвіць гэтую галіну працы: арганізаваць пры буйных местачковых спажыўтаварыствах спэцыяльныя кніжныя магазіны, а пры вясковых—кніжныя полкі і ларкі. Кожнае сельскае спажыўтаварыства павінна мець кніжную полку або ларок. Фінансавай базай для вядзеньня культпрацы павінны зьяўляцца культфонд і адлічэньні ў разьмеры 0,25 проц. ад звароту на культурныя патрэбы Сродкі павінны выдаткавацца па простым прызначэньні, паводле загадзя выпрацаваных каштарысаў аргасьветкамісіяй разам з праўленьнем.

Гаспадарчае абслугоўваньне павінна ісьці ў плянавым парадку, шляхам складаньня штомесячных плянаў і ўвязкі з патрэбамі і фінансавымі магчымасьцямі, унікаючы затаварваньня і закупкі нехадавых гатункаў.

Гаспадарчая праца павінна быць рацыяналізавана па лініі павялічэньня нагрузкі апарату ў сельскіх спажыўтаварыствах да 3.000 руб. і местачковых—да 6000 руб. Шпаркасьць звароту тавараў, як правіла, не павінна перавышаць 30 дзён і капіталу—38 дзён.

У корані павінна быць выжыта якое-б то ні было крэдытаваньне пакупнікоў. Неабходна прыцягваць да адказнасьці і звальняць з працы тых прыказчыкаў, якія дапускаюць гэтае крэдытаваньне.

Пашырэньне ўласнай фінансавай базы павінна зьяўляцца штодзённай задачай спажыўкаапэрацыі, як адзін з стымулаў патаненьня сабекошту тавараў, шляхам скарачэньня выдаткаў па таварным крэдыце і паляпшэньня гаспадарчага абслугоўваньня.

Зьезд поўнасьцю зацьвердзіў тэзісы тав. Цырліна.

Наогул зьезд ўпаўнаважаных прайшоў жвава і актыўна. Таварышы, якія выступалі ў спрэчках, закраналі ўсе асноўныя моманты працы спажыўкаапэрацыі.

---

**Глікін**

# Да дзесяцігодзьдзя існаваньня Аршанскага цэрабкоопа

25 траўня канчаецца 10 год ад дня існаваньня рабочай каапэрацыі ў г. Воршы.

Гісторыя сучаснага нашага ЦРК—гэта гісторыя савецкай улады ў г. Воршы з усімі яе асаблівасьцямі і цяжкасьцямі ўмоў нашага савецкага будаўніцтва.

Камень за камнем закладваў рабочы г. Воршы пад кіраўніцтвам сваае бальшавіцкае партыі. Пры поўным падтрыманьні савецкіх органаў, пры ўсямерным садзейнічаньні сваіх прафэсыянальных арганізацый ён здолеў пабудаваць і пабудаваў сваю моцную рабочую арганізацыю—рабочы каапэратыў і накіраваў усю яго дзейнасьць на шырокае абслугоўваньне спажывецкіх патрэб пралетарыяту гораду і на выкананьне тых задач, якія сталіся перад ім партыяй і якія наогул вынікалі з факту дыктатуры пралетарыяту.

Рабочыя гораду да дзесяцігодзьдзя існаваньня свайго каапэратыву маюць поўнае права ганарыцца сваім каапэратывам: на сваіх плячох іх каапэратыў нёс і вынёс усе тыя цяжкасьці, якія выпалі на яго долю, у гады вялікай грамадзянскай вайны, у справе забесьпячэньня і здавальненьня

рабочых у меру магчымасьці усім неабходным з бедных запасаў, якія адпускаліся каапэратыву з дзяржаўных фондаў і якія з вялікімі цяжкасьцямі даставаў па сваёй ініцыятыве рабочы каапэратыў.

Прайшлі гады напруджанай клясавай барацьбы рабочых і сялян з сваімі ворганамі—замежнымі і мясцовымі.

Адгрымелі гарматы, ачысьціў чырвонаармейскі штык сваю сацыялістычную бацькаўшчыну ад белагвардзейскае поскудзі, і савецкая ўлада, пад кіраўніцтвам свае партыі і яе выдатнага правадыра Ільліча, накіроўвае сацыялістычнае будаўніцтва на новыя рэйкі, на рэйкі новае эканамічнае палітыкі. Перабудоўваецца шэраг і барацьбітоў, пераходзяць з фронту вайны на другі фронт—гаспадарчы, і каапэрацыя пачынае працаваць так, як гэтага вымагаюць новыя ўмовы працы.

„Вучыся гандляваць“—гаворыць Уладзімер Ільліч Ленін і ў сваёй брашуры „Аб каапэрацыі“ намячае ясны і канкрэтны плян і шлях дзейнасьці каапэрацыі ва ўмовах савецкае ўлады і пралетарскае дыктатуры. Перабудоўваецца ўся праца нашага рабочага каапэратыву.

„Не павінна быць саюзу па-за межамі каапэрацыі“ выклікае практычны лёзунг праўленьне і прыступае да каапэраваньня. Цьвёрда і ўпэўнена



Ложкі для хворых пайшчыкаў ў Талачынскай больніцы. якія ўтрымліваюцца на сродкі мясцовага Спажывецкага Т-ва.

праводзіцца гэтая праца. Вось як характарызуецца праробленая праца: у 1923 годзе на 1 кастрычніка было пайшчыкаў—529 чал., у 1924 г.—1.876 чал., у 1925 г.—2.430 чал., у 1926 г.—3.549 чал., у 1927 г.—4.660 чал. і ў 1928 годзе на 1 траўня—5.731 чал.

Адпаведна з гэтым перад рабочымі г. Воршы ставіцца пытаньне:

„Ты хочаш, каб твой каапэратыў добра працаваў?—дапамагай яму штодзенна ў яго працы, узмацняй яго сваім паем“.

Рабочыя адказваюць свайму каапэратыву: „Дапаможам“. Паявы капітал з 18.034 руб. на 1 кастрычніка 1927 году цяпер павялічыўся да 38.000 руб.

Наша каапэрацыя павінна стаць масавай арганізацыяй ня толькі паводле ліку пайшчыкаў, якія аб'яднаюцца ёю, але і паводле ліку актыўных удзельнікаў у яе будаўніцтве. І тут мы маем значны каапэратыўны актыў, які налічвае да 260 асоб па г. Воршы (крамныя камісіі і ўпаўнаважаныя). Гэты актыў уцягваецца ў штодзённую працу каапэратыву. На нарадах

гэтага актыву вырашаюцца важнейшыя пытаньні, якія стаяць перад нашым кааператывам, і каапэратыў атрымлівае дэтальныя паказаньні аб сваёй працы ў сябе на прадпрыемствах і ва ўстановах.

З жаночым актывам праводзіцца асобная праца па ўцягненьні яго ў каапэрацыйнае будаўніцтва.

З практычнай дзейнасьцю ЦРК знаёмяцца шырокія колы рабочых мас і служачых гораду—пайшчыкаў ЦРК.

Праўленьне робіць даклады аб сваёй працы перад выбаршчікамі, і яны горача абгаворваюць і выступаюць па дакладах свайго каапэратыву, адзначаючы адмоўныя і станоўчыя бакі ў яго дзейнасьці. Даклады праўленьня каапэратыву выклікаюць дзесяткі і сотні запытаньняў, у спрэчаках прымаюць удзел сотні рабочых. Разгортваецца праца з каапэрацыйным актывам праз розныя нарады крамныя камісіі, сэкцыі ўпаўнаважаных, сыстэматычныя абсьледваньні, крамнымі камісіямі тых магазынаў і пунктаў, да якіх яны прымацаваны наладжваюцца дзяжурствы камісій па магазынах - гэта тыя ніці, праз якія праўленьне ЦРК падтрымлівае цесную і моцную сувязь з сваімі пайшчыкамі—рабочымі і служачымі гораду.

## Гандлёвая дзейнасьць

Гандлёвая дзейнасьць праўленьня накіравана, галоўным чынам, на выкананьне задач па максымальным абслугоўваньні рабочых і служачых, на абхоп бюджэту працоўных і на барацьбу з прыватным гандлёвым капіталам.

Гэтыя задачы вымагалі разьвіцьця гандлёвай сеткі такім чынам, каб яна, з аднаго боку, была набліжана да рабочага спажыўца, а, з другога боку, каб яе распалажэньне поўнасьцю спрыяла ўдару па прыватніку, і каб у гэтым сэнсе яна дала неабходны эфэкт ад удараў па прыватніку: 18 магазынаў і 8 мясных крам, якія месьцяцца на ваколіцах гораду, у цэнтры і на рынку, гавораць за тое, што задача ў гэтай галіне цьвёрда і няўхільна рушыцца наперад пры далейшым росьце таваразвароту. Прададзена тавараў за 1924-25 год на 1.701.896 руб., за 1925-26 год на 2.486.401 руб. 29 кап., за 1926-27 год на 2.810.291 руб. і за першую палову 1927-28 года—на 1.652.008 руб. 65 кап.

Актуальнейшая задача партыі, якая пастаўлена перад каапэрацыяй, задача зьніжэньня цэн была выканана, і справа выкананьня гэтае дырэктывы знаходзіла жывы водгук на сходах, дзе ЦРК праводзіў сваю справаздачу.

Грамадзкага хлебапячэньня з моманту пераходу на новую эканамічную палітыку да канца 1924 году ў горадзе ня было. Без адпаведных сродкаў і амаль што без усялякай напрактыкаванасьці ў гэтай галіне было прыступлена да разгортваньня гэтай працы. Трэба зазначыць, што першыя і нерашучыя крокі ў гэтым напрамку ў першым годзе ня далі належнага эфэкту. Прайшло некалькі часу, і праўленьне ўжо цьвёрда і рашуча прыступіла да разгортваньня грамадзкага хлебапячэньня. Гэта галіна працы, якая давала раней дэфіцыт, стала рэнтабельным прадпрыемствам; пераабсталявана было ўсё памяшканьне, прыбудаваны новы каменны будынак. Рабочыя, што працуюць там, маюць магчымасьць добра вымыцца ў прыстасаваным для гэтай мэты памяшканьні, правесьці свой сход тут-жа ў абсталяваным чырвоным кутку.

Усе пякарні аршанскага ЦРК даюць да 400 пудоў розных вырабаў, што ў нашых умовах дае поўную магчымасьць сказаць, што значны процант рабочага спажыўца абслугоўваецца і здавальняецца грамадзкім хлебапячэньнем.

Пэрспэктывы разьвіцьця нашай акругі ўскладаюць на ЦРК вялізарныя абавязкі ў справе грамадзкага хлебапячэньня. Грамадзкае хлебапячэньне ня толькі не павінна адставаць ад агульнага росту прамысловасьці, але яно павінна разгарнуцца ў мэтах поўнага абслугоўваньня тых рабочых, што будуць заняты на ўсіх капітальных будаўнічых работах.

У муках нарадзілася ў нас мясная справа, якая цяпер шырока разгарнулася.

Да пачатку 1924 году ўся гэта важная галіна была поўнасьцю ў руках прыватнікаў, трэба было разгарнуць гэту працу, а разгарнуць яе амаль што ня было з кім. Членаў саюзу належнай кваліфыкацыі ня было і прыходзілася рукамі былых прыватных гандляроў, пад пільным доглядам праўленьня, будаваць гэту працу. Быў час, калі рабочыя страшэнна абураліся тым, што праўленьне прыймае гэтых гандляроў. Прыходзілася ўказаць рабочым на практыку Чырвонай арміі, дзе таксама прыцягвалі да працы старых генэралаў пад кантролем бальшавікоў-камісараў і дзе, ня гледзячы на гэта, чырвонаармейцы білі белагвардзейцаў. Рабочыя згаджаліся, але давалі наказ: „Пільна сачэце за гэтымі спэцамі". Трэба сказаць, што ўсе гэтыя спэцы пераварыліся ў пралетарскім катле і працавалі здавальняюча. Паступова пачалі туды паступаць бронь-падлеткі, камсамольцы, і зараз апарат мясной справы можна лічыць наогул „нашым".

Трэба сказаць, што мясны аддзел захапіў агульны мясны рынак на 70-80 проц. і поўнасьцю абслугоўвае вайсковыя часткі і тэрзбор.

Падагульваючы ўсю дзейнасьць ЦРК за апошнія гады, мы бачым, як на вачох усіх рабочых гораду ўзрастаў наш рабочы каапэратыў і ўзрос у буйнейшую арганізацыю гораду. Мы ня можам сказаць і ня кажам, што ў працы ЦРК зусім няма недахопаў. У арганізацыі, якая мае некалькі дзесяткаў прадпрыемстваў (магазыны і інш.), у арганізацыі, якая мае больш 200 рабочых і служачых, якія штодзённа праводзяць сваю працу на вачох грамадзкасьці, з боку бязумоўна хутчэй відаць тыя недахопы, якія маюцца ў тэй альбо іншай галіне.

Але ўсе рабочыя і служачыя ЦРК, якім яшчэ больш кідаюцца ў вочы дробныя недахопы вялікага мэханізму, павінны своечасова паказваць на тыя недахопы, якія ёсьць і павінны быць сапраўднымі ўдзельнікамі каапэратыўнага будаўніцтва.

Цяпер, як ніколі, паўстаюць перад рабочай каапэрацыяй вялізарныя задачы палітычнай і эканамічнай важнасьці, як максымальнае каапэраваньне членаў саюзаў, поўны збор паявых узносаў, разьвіцьцё каапэратыўнай грамадзкасьці, яшчэ большае і лепшае абслугоўваньне рабочага спажыўца, далейшае правядзеньне зьніжэньня цэн і паляпшэньня ўсіх сваіх выдаткаў, разьвіцьцё каапэрацыйнага хлебапячэньня і грамадзкага харчаваньня, усямернае разьвіцьцё працы с сельска-гаспадарчымі прадуктамі і г.д.

Пайшчык-рабочы ў сваім каапэратыве заўсёды павінен бачыць сапраўдны яго твар. Ён павінен ведаць, што ён зьяўляецца поўным гаспадаром, і гэта ён павінен адчуваць ня толькі на сходах, калі ён выслухоўвае даклады ЦРК, а і ў крамах ЦРК, канторы і г. д., куды ён прыходзіць па сваёй справе.

Калі мы здолеем у яшчэ большай меры прыцягнуць да актыўнага ўдзелу ў нашай працы каапэраваныя масы рабочых і служачых, нам зусім ня цяжка будзе выконваць тыя задачы, якія перад намі стаяць.

Гэта пацьвярджаюць вынікі працы нашага ЦРК за апошнія гады.

---

Шэфтэр

## Сьвяткаваньне дзесятых угодак існаваньня рабочае каапэрацыі г. Воршы

1 чэрвеня Аршанскі Цэрабкооп сьвяткаваў дзесятую гадавіну свайго існаваньн

У летнім тэатры адбыўся ўрачысты сход упаўнаважаных разам з каапактывам ЦРК і каапэрацыйнай сэкцыяй гарсавету, з удзелам прадстаўнікоў партыйных камсамольскіх, дзяржаўных і прафэсыянальных арганізацый, вайсковых часьцей і мас пайшчыкаў, Заля тэатру была перапоўнена. Сабралася каля 1 000 чал. Старшыня прэзыдыуму прафсавета тав. Калінін адчыніў сход кароткаю прамоваю, у якой высьветліў значэньне гэтага сьвята для рабочага насельніцтва гораду. З прывітаньнямі выступалі прадстаўнікі акругкому партыі, гарсавету, акрвыканкому, Дняпросаюзу, прафсаюзу друкароў, будаўнікоў і краўцоў, а таксама прадстаўнікі рабочых прадпрыемстваў.

Ад імя рабочых друкарні імя Скарыны Цэрабкоопу паднесены адрас—прыгожы альбом-блёкнот. Акрамя таго. Цэрабкоопу паднесены адрас ад імя прэзыдыуму акрпрафсавету, ад працаўнікоў міліцыі і інш.

Ад імя рабочых заводу „Чырвоны Кастрычнік" паднесены падарунак... стопроцантвае каапэраваньне рабочых і служачых заводу. Заля сустракае гэты падарунак гучнымі воплескамі. Атрыманы прывітальныя тэлеграмы ад вялікай колькасьці арганізацый і устаноў, а таксама і ад шэрагу выдатных каапэратараў.

Сход пастанавіў адправіць прывітальную тэлеграму: ЦК КП(б)Б, ЦВК, СНК, Белкаапсаюзу, Белрабсэкцыі і Цэрабсэкцыі.

Пасьля урачыстай часткі адбыўся канцэрт і кіно-сэанс.

---

## Прывітальныя тэлеграмы

БЕЛКААПСАЮЗУ МЕНСК

Сход упаўнаважаных Аршанскага цэнтральнага рабочага каапэратыву, сумесна з прадстаўнікамі партыйных, прафэсыянальных, савецкіх і камсамольскіх арганізацый, вайсковых часьцей і мас пайшчыкаў Аршанскага ЦРК, сабраўшыся для падвядзеньня вынікаў шляху, пройдзенага рабочай каапэрацыяй гораду Воршы за дзесяць год, шле свае шчырае прывітаньне спажывецкаму каапэрацыйнаму цэнтру Беларусі.

Пры вашым садзейнічаньні, пад кіраўніцтвам нашай камуністычнай партыі, мы ўцягнулі шырокія колы рабочіх і служачых ў пайшчыкі нашага ЦРК і накіравалі ўсю яго дзейнасьць на вырашэньне задач, пастаўленых перад каапэрацыяй савецкай уладай і рабочаю клясаю.

Мы ўпэўнены, што і далей, пры вашым садзейнічаньні і падтрыманьні, пры поўным удзеле шырокіх каапэраваных рабочых мас, пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі, мы будзем вырашаць задачу, пастаўленую перад каапэрацыяй, у справе абслугованьня рабочага спажыўца і барацьбы з прыватным гандлёвым капіталам з яшчэ большымі посьпехамі і з яшчэ большай эфэктнасьцю ў сваёй практычнай працы па сацыялістычным будаўніцтве.

Няхай жыве каапэрацыя СССР—шлях да камунізму!
Няхай жыве наш правадыр—наша камуністычная партыя!

Прэзыдыум сходу.

---

БЕЛРАБСЭКЦЫІ МЕНСК

Сход упаўнаважаных Аршанскага цэнтральнага рабочага каапэратыву сумесна з прадстаўнікамі партыйных, прафэсыянальных, савецкіх і камсамольскіх арганізацый, вайсковых часьцей і пайшчыкаў Аршанскага ЦРК, сабраўшыся для падвядзеньня вынікаў шляху, пройдзенага рабочай каапэрацыяй гораду Воршы за дзесяць год, шле шчырае прывітаньне рабочаму каапэрацыйнаму цэнтру Беларусі.

Пры вашым садзейнічаньні і пад кіраўніцтвам нашай камуністычкай партыі мы ўцягнулі шырокія колы рабочых і служачых у пайшчыкі нашага ЦРК і накіравалі ўсю яго дзейнасьць на вырашэньне задач, пастаўленых перад каапэрацыяй Беларусі савецкай уладай і рабочай клясай.

Мы ўпэўнены, што і далей пры вашым садзейнічаньні і падтрыманьні, пры поўным удзеле шырокіх каапэраваных рабочых мас, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, мы будзем вырашаць задачу, пастаўленую перад каапэрацыяй, у справе абслугоўваньня рабочага спажыўца і барацьбы з прыватным капіталам з яшчэ большымі посьпехамі і з яшчэ большай эфэктнасьцю ў сваёй практычнай працы па сацыялістычным будаўніцтве.

Няхай жыве каапэрацыя СССР—шлях да камунізму!
Няхай жыве наш правадыр—наша камуністычная партыя!

Прэзыдыум сходу.

---

Ратнэр

# У Шклоўскім ЦРК

Шклоўскі ЦРК абслугоўвае, між іншым, 2 фабрыкі, з колькасьцю рабочых да 900 чалавек, і 14 гарадзкіх саюзаў, якія аб'яднаюць каля 800 членаў. Шмат членаў саюзаў жыве на вёсцы на раёне. Часта здараецца, што на фабрыках працуе некалькі членаў аднае сям'і. Каапэраваньне іх на 100 проц. у сучасны момант немагчыма.

Як вынік кампаніі каапэраваньня і збору паёў, якая зараз праводзіцца, мы маем пайшчыкаў на 1 траўня 1.258 чал.; паявога капіталу—13.050 руб., і, такім чынам, на аднаго пайшчыка прыходзіцца 10 руб. 38 кап. Паявы капітал супроць яго велічыні на 1 кастрычніка цяпер павялічыўся на 59 проц.

Крамная сець шырокая і абхоплівае ўсе раёны. Маюцца крамы пры фабрыках, маюцца спэцыяльныя крамы, напрыклад, жалеза-скабяная, мясная, хлебная, лабаз і г. д. Усяго ЦРК мае 14 гандлёвых пунктаў і 4 вытворчых.



Крама Шклоўского ЦРК

Колькасьць пунктаў павялічваецца кожны год, але ў выніку рацыяналізацыі паляпшэньня пастаноўкі працы зьявілася ўсё-такі памяншэньне штату, параўнальна з мінулым годам, на 7 адзінак. Абароты па ЦРК таксама павялічваюцца з кожным годам. Так, за першае паўгодзьдзе мінулага года закуплена тавараў на 377.000 руб. і прадана на 369.019 руб. У гэтым-жа годзе за першае паўгодзьдзе закуплена на 451.000 руб., а прадана на 513.000 руб.—павялічэньне па пакупцы на 20 проц. і па продажы—на 39 проц. Нагрузка на аднаго працаўніка ў выніку гэтага павялічылася да 2.513 руб. Дзеля гэтага-ж паменшыўся і процант выдаткаў з 12,7 проц. у мінулым годзе да 9,4 проц. сёлета. ЦРК арандуе ў колішняга саматужніка хлебапякарню. Цяпер ён прыступіў да пабудовы і абсталяваньня ўласнае пякарні, разам з чым ён мяркуе павялічыць выпечку хлебу ў два разы супроць тае колькасьці, якую выпякае існуючая цяпер пякарня. Зварот пякарні за першае паўгодзьдзе роўны 22.200 руб.

Ёсьць у ЦРК сталоўка са зваротам у 20.000 руб. за паўгодзьдзе, транспарт з 4 коняй і маёнтак с пасеўнай плошчаю і сенажацямі і вялікім садам. За выключэньнем сталоўкі, прадпрыемствы даюць некаторы прыбытак. Сталоўка за першае паўгодзьдзе дала дэфіцыту 1.200 руб.

Аналіз балянсу Шклоўскага ЦРК на 1 красавіка дае малюнак рэальнасьці і інвэнтарызаванасьці яго сум, зусім здавальняючых суадносін сродкаў і рэалізаванасьці. Так, з агульнае сумы балянсу ў Р. 266.811.13 мы маем:

I.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Каштоўн. у звароце | Р. 247.152.08, | ці 92,7% | Уласн. сродкаў | Р. 806.99.50, | ці 30% |
| „ не ў звароце | „ 19.659.05 | „ 7,3 „ | Прыцягн. „ | „ 186.111.63 | „ 70 „ |
| Усяго | Р. 266.811.13, | ці 100 „ | Усяго | Р. 266.811.13, | ці 100 „ |

II.

| | |
|---|---|
| Уласных сродкаў у звароце | Р. 61.040.45 |
| Пазычаных „ „ „ | „ 186.111.63 |
| Усяго | Р. 247.155.08 |
| Уласных сродкаў у маемасьці | Р. 19.659.05 |
| Усяго | Р. 266.811.13 |

Прыблізны прыбытак на першае паўгодзьдзе роўны Р. 12.223.10

Такім парадкам, калі яшчэ ўзяць пад увагу стан рынку па многіх таварах, дэфіцытнасьць па мануфактуры і па частцы бакалейных тавараў, а таксама цяжкія ўмовы разрахункаў з дзяржпрамысловасьцю і крэдытамі, аглядаючы шлях, які прашоў Шклоўскі ЦРК, аглядаючы праробленую ім працу, мы павінны канстатаваць, што ўсе яго посьпехі, бязумоўна, зьяўляюцца дасягненьнем у справе пасоўваньня па правільным каапэрацыйным шляху.



Крама Шклоўскага ЦРК.

**Рафаіл Фрыдлянд**

# Становішча і праца сельска-гаспадарчай каапэрацыі Аршанскае акругі

*(Паводле матар'ялаў абсьледваньня Белсельсаюзу)*

## Гісторыя арганізацыі

У Аршанскім павеце саюз с.-г. каапэрацыі існуе з 23/Х-21 году. Ён арганізаваны 5 с.-г. таварыствамі па закупцы і збыту і 3 с.-г. т-вамі па агульнай апрацоўцы зямлі. Гэты саюз прыступіў да сваіх апэрацый у 21 г. са зваротнымі сродкамі ў 16 пуд. збожжа.

У гэты саюз не ўвайшлі калгасныя гаспадаркі, якія ў сакавіку 1922 г. арганізавалі другое аб'яднаньне—саюз вытворчых каапэратываў па агульнай апрацоўцы зямлі, які аб'яднаў 29 калгасаў.

У Х-22 г. абодвы гэтыя саюзы злучыліся ў адзін саюз.

20 лютага 22 г.—у сумежным тагочасным Горацкім павеце 10 с.-г. арцеляў па агульнай апрацоўцы зямлі і адно закупачна-збытавае т-ва арганізавалі райсельсаюз, зваротныя сродкі якога складаліся з 45 пуд. збожжа і які фактычна прыступіў да працы 1 чэрвеня 1922 г.

Раён дзейнасьці Аршанскага Сельпрамсаюзу пашыраўся на б. Аршанскі павет з лікам двароў у 36.000, раён-жа дзейнасьці Горацкага Райсельсаюзу—на 30.000 сялянскіх двароў уключаючы ўвесь Горацкі і 5 воласьцяй б. Мсьціслаўскага павету. У часе ўзбуйненьня БССР у 1925 г.— Аршанскі і Горацкі Сельсаюзы зьліліся ў адзін Акрсельсаюз, што адбылося 21/IV-25 г., і з гэтага часу існуе Аршанскі Акрсельсаюз. Агульная сума страт гэтага аб'яднанага саюзу складала ня менш 36 тыс. руб. (паводле балянсу Горацкага - 15 і паводле балянсу Аршанскага—21 тыс. руб.). Аднак, ня гледзячы на гэта, праўленьні абодвых саюзаў імкнуліся да таго, каб заключны балянс паказаць у як найлепшым выглядзе і вывелі паводле балянсу Горацкага саюзу чысты прыбытак у 2.475 р, а паводле балянсу Аршанскага—615 р.

Такі неправільны балянс з пачатку існаваньня Акрсельсаюзу ня мог спрыяць далейшай правільнай яго дзейнасьці.

## Кароткая характэрыстыка эканамічнага становішча акругі

У параўнаньні з 24 г. нормы забясьпечанасьці сялянскіх гаспадарак у 27 г. значна павялічыліся і па сенажацям дасягнулі нормы 17 г. і блізка падыходзяць да іх па воране, што відаць з наступнага: на адну сялянскую гаспадарку прыходзілася:

| | Ворнае зямлі | Сенажаці |
|---|---|---|
| У 1917 г. . . . . . . . . . . . . . | 5,65 | 1,68 |
| „ 1924 г. . . . . . . . . . . . . . | 4,60 | 1,50 |
| „ 1927 г. . . . . . . . . . . . . . | 5,16 | 1,68 |

Але наогул эканамічнае становішча ў новых межах зьяўляецца горшым: пры павялічэньні тэрыторыі на 40,7 проц. выгодная плошча павялічылася

толькі на 39,7 проц., а няўдобная—на 52,5 проц. Такім чынам, прыдзецца шмат паклапаціцца ў справе разгортваньня працы па асваеньні бросавых зямель, шляхам мэліорацыі.

Эканамічны стан сялянскіх гаспадарак акругі можна ўявіць сабе з разьмеркаваньня іх па галоўных эканамічных адзнаках: пасеўнасьці, забясьпечанасьці жывым і мёртвым інвэнтаром.

| Групы гаспадарак паводле пасеўнасьці | Лік гаспадарак у проц. | У процантах да ўсіх гаспадарак | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Без пасеваў і з пасевам да 0,9 дз. . . . . . . . | 0,9 | Без усякай жывёлы | 1,6 | Без кароў . | 5,4 |
| З пасевам да 1 дз. . . . | 5,8 | | | | |
| „ ад 1,1 „ 2 „ . . . | 23,5 | „ рабочай „ | 10,0 | З 1 каровай | 56,9 |
| „ „ 2,1 „ 3 „ . . . | 28,9 | | | | |
| „ „ 3,1 „ 4 „ . . . | 18,4 | З 1 канём . . . . | 70,6 | „ 2 „ . | 31,0 |
| „ „ 4,1 „ 6 „ . . . | 16,2 | „ 2 конямі . . . . | 16,4 | „ 3 „ . | 5,7 |
| „ „ 6,1 „ 8 „ . . . | 4,3 | | | | |
| „ „ 8,1 „ 16 „ . . . | 1,9 | „ 3 „ . . . . | 1,4 | „ 4 і звыш . | 1,0 |
| Звыш 16 . . . . . . . . | 0,1 | | | | |
| Усяго . . | 100,0 проц. | | 100,0 проц. | | 100,0 проц. |

Гэта сьведчыць аб тым, што асноўная маса сялянскіх гаспадарак прыпадае на сярэднія групы; колькасьць безінвэнтарных гаспадарак акругі значна паменшаецца, пры чым адносна больш складаныя машыны прыходзяцца на калгасныя гаспадаркі—на 100 дзесяцін ворнае зямлі прыходзіцца:

| | Плугоў і барон | Жняярак | Малатарняў і веялак |
|---|---|---|---|
| У калгасах . . . . . . . . . . . . | 28,25 | 1,56 | 3,2 |
| „ сялянскіх гаспадарках . . . . . | 36,69 | — | 0,87 |

Аднак, трэба падкрэсьліць памяншэньне жывёлы ў камунах акругі—на 100 дз. ворнае зямлі прыходзіцца:

| | Рабочых коняй 1925-26 г. | Рабочых коняй 1926-27 г | Проц. зьмян. | Кароў 1925-26 г. | Кароў 1926-27 г | Проц. зьмян. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Камуны . . . . . . . . . . | 20 | 18 | —10 | 34,8 | 32 | — 8,1 |
| Арцелі . . . . . . . . . . | 17,4 | 18,6 | + 7 | 23,5 | 30,1 | +36,0 |
| Т-вы . . . . . . . . . . . | 31,5 | 21,8 | —0,15 | 35,6 | 35.7 | — |
| У сярэднім . . | 19,6 | 19,5 | —0,5 проц. | 31,3 | 32,6 | 4,1 проц. |

Гэта ўтваралася дзякуючы нізкай даходнасьці калгасаў і неабходнасьці атрымаць больш доўгатэрміновыя крэдыты, а таксама з-за таго, што жывёлаводзтва акругі ў 27 г. знаходзіцца ў некалькі горшых умовах, як у мінулым годзе і ўзросту яго няма з прычыны недахопу кармоў, што выклікае ўзмацнёны збыт жывёлы, у выніку чаго ў сярэднім па акрузе яе зьменшылася на 3,4 проц.

Наогул сельская гаспадарка акругі ідзе ў напрамку павялічэньня яе таварнасьці: зернавыя культуры панізіліся супроць 1916 г., узрасьлі прапашныя, некалькі меньш травы, а тэхнічныя культуры амаль не дасягнулі дарэвалюцыйнага ўзроўню.

## Становішча нізоўкі акрсельсаюзу

Аб дзейнасьці Аршанскага акрсельсаюзу ў галіне арганізацыі нізоўкі і каапэраваньня насельніцтва можна ўявіць сабе з наступнага:

Сець і лік пайшчыкаў

| НАЗВА Т-ВАЎ | На 1/X-1926 г. | | | На 1/I-1928 г. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік арганізац. | Лік пайшчык. | У сярэдн. пайшч. на 1 арганіз. | Лік арганізац. | Лік пайшчык. | У сярэдн. пайшч. на 1 арг. |
| Крэдытныя с.-г. т-вы . . | 17 | 21.257 | 1.250 | 22 | 34.006 | 1.546 |
| С.-г. т-вы без крэдытн. функцый . . . . . . . | 17 | 1.965 | 115,5 | 7 | 338 | 47 |
| Малочныя . . . . . . . | 6 | 373 | 62 | 17 | 1 554 | 91,5 |
| Пчалярскія . . . . . . . | 3 | 142 | 47 | 3 | 240 | 80 |
| Млынарныя . . . . . . . | 1 | 103 | 103 | 2 | 409 | 204,5 |
| Машынныя . . . . . . . | 7 | 154 | 22 | 11 | 207 | 19,5 |
| Мэліорацыйныя . . . . . | 18 | 732 | 40,5 | 59 | 2.355 | 40 |
| Тарпяныя . . . . . . . | — | — | — | 3 | 84 | 28 |
| Агнятрывалыя . . . . . | — | — | — | 8 | 118 | 14,5 |
| Рыбалоўныя . . . . . . | 2 | 29 | 14,5 | 2 | 29 | 14,5 |
| Быч'і . . . . . . . . . . | — | — | — | 2 | 60 | 30 |
| Прамысловыя . . . . . | — | — | — | 1 | 17 | 17 |
| Садова-гародныя . . . . | 3 | 30 | 10 | 3 | 30 | 10 |
| Камуны[1]) . . . . . . . . | 6 | 53/143 | 9-24 | 6 | 62-146 | 10-24 |
| Арцелі . . . . . . . . . | 15 | 116/1.170 | 8-11 | 18 | 126-306 | 7-17 |
| Т-вы па агульн. апрац. зямлі . . . . . . . . . | 40 | 398/1.489 | 10-37 | 48 | 488-1.584 | 10-33 |
| **Усяго . . .** | **135** | **2.535/1802** | **188** | **212** | **401-2.036** | **189,3** |
| У проц. . . . | 100,0 | 100,0 | — | 87,0 | 58,2 | +0,7 |

Шпаркі рост ліку с.-г. каапэратываў за апошні час абганяе рост ліку пайшчыкаў, напрыклад: на 1 студзеня 1928 г. лік с.-г. каапэратываў павялічыўся на 87 проц., а лік пайшчыкаў—толькі на 58,2 проц. супроць 1 кастрычніка 1926 г.

Павялічэньне нізавой сеткі галоўным чынам ідзе за лік вытворчых аб'яднаньняў, у прыватнасьці, мэліорацыйных т-ваў.

Адначасова ў нізавую сетку ўваходзяць і такія каапэратывы, якія па сутнасьці зьяўляюцца прамысловымі—бандарныя, агнятрывалыя і інш.

Выкананьне пляну арганізацыі вытворчых аб'яднаньняў на 1-е паўгодзьдзе 1927-28 г. па некаторых відах с.-г. каапэрацыі дасягае значнага разьмеру з перавышэньнем плянавых меркаваньняў; напрыклад, па малочнай сетцы арганізавана 15 замест 12 арцеляй, а па мэліорацыйнай—45 замест 42.

Наогул, тэмп каапэраваньня насельніцтва ў 1926-27 году абганяе 1925-26 г., а 1927-28—1926-27 г. г., што можна відаць з наступнага:

| | | |
|---|---|---|
| На 1/X 26 г. каапэравана | . . . . . . | 29,7 проц. |
| „ 1/X-27 г. „ | . . . . . . | 45,8 „ |
| „ 1/I-28 г. „ | . . . . . . | 47,03 „ |

[1]) Зьверху—лік членаў, зьнізу—лік едакоў.

Таксама некалькі павялічыўся процант каапэраваньня жанчын ад 1,92 проц. на 1/X-26 г. да 4,04 проц. на 1/X-27 г., аднак, па малочнай сетцы ён складае ўсяго 0,21 проц. Фонды каапэраваньня беднаты скарыстоўваюцца нізоўкай несваечасова: ёсьць такія таварыствы, якія на 1/IV-1928 г. яшчэ не скарысталі частку фондаў 26-27 г., ня гледзячы на наяўнасьць дырэктыў аб неабходнасьці скарыстаньня іх да 15 сакавіка 1928 г., напрыклад, Коханаўскае—66 руб., Талачынскае—136 руб., Дрыбінскае—137 руб.

На 1 красавіка 1928 г. з наяўных па ўсёй с.-г. крэдытнай сетцы акруг фондаў 26-27 г. і 27-28 г. у суме 13.180 руб. скарыстана толькі 4.339 р., каапэравана 1.424 бедняцкіх гаспадаркі, што гаворыць аб слабым тэмпе скарыстаньня фондаў каапэраваньня беднаты; згодна пастаноў апошняга лютаўскага пленуму ЦК КП(б)Б яны павінны поўнасьцю быць скарыстаны да 1 чэрвеня 1928 г.

Ня гледзячы на шэраг дырэктыў з боку Белсельсаюзу аб тэрмінах і ўмовах скарыстаньня фондаў каапэраваньня беднаты, ёсьць аднак выпадкі ня толькі несваечасовага скарыстаньня, але каапэраваньня за лік фондаў сераднякоў і нават заможнікаў, што магчыма бачыць з маёмаснага стану каапэраваных з фонду беднаты па Коханаўскім т-ве.

| Паводле пасеўнасьці і паводле жывёлы | Бясконных і бескароўных | Бясконных і з 1 кароваю | Бясконных і з 2 каровамі | З 1 канём і без кароў | З 1 рабоч. жывёл. і з 1 каровай | З 1 канём і з 2 каровамі | З 2-мя конямі і 2-мя каровамі | З 2-мя канямі і 3 каровамі | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Бяз выг. | 1 | 1 | — | — | — | — | — | — | 2 |
| З 1 дзес. | 1 | 4 | — | 1 | 2 | — | — | — | 8 |
| Ад 1-2 дзес. | 6 | 9 | — | 3 | 20 | 3 | 1 | — | 41 |
| Да 4 „ | 4 | 8 | 3 | 6 | 39 | 15 | 1 | — | 76 |
| „ 6 „ | — | — | — | — | 6 | 3 | 1 | 1 | 11 |
| . | 12 | 22 | 3 | 10 | 67 | 21 | 2 | 1 | 138 |

Такое здарэньне тлумачыцца тым, што некаторыя таварыствы ня кіруюць гэтай важнай працай і ня правяраюць, ці ў сапраўднасьці зьяўляюцца гаспадаркі бядняцкімі (хаця б яны і былі вызначаны КСУД). Гэта адбываецца таксама з прычыны недастатковага ўдзелу каапэрацыйнага активу ў працы нізоўкі, у прыватнасьці таму, што партыйная праслойка ў кіраўнічых органах аб'яднаньняў (асабліва ў вытворчых) невялікая.

Удзельная вага беднаты ў с.-г. каапэратывах нязначна, асабліва ў пчалярскіх і машынных, у якіх заможных больш як беднаты, напрыклад, беднаты ў машынных т-вах 12,2 проц., а заможных 18 проц., у пчалярскіх—11 проц. і 33 проц.

Ня гледзячы на шэраг дадзеных дырэктыў аб спагнаньні паявых капіталаў, збор іх па ўсёй сыстэме акругі праходзіць вельмі паніжаным тэмпам і выкананьне дадзеных Белсельсаюзам заданьняў аб спагнаньні 90.000 руб. за час ад 1 кастрычніка 1927 г. да 1 красавіка 1928 г. выканана толькі на 27,5 проц. і на 1/IV-28 г. агульная сума паявых капіталаў складае 165.479 р.

Звароты нізоўкі (с.-г. кр. т-ваў) за апошні год значна павялічыліся, асабліва па збыту; так за 1925-26 г. агульны зварот складаў 1.111.424 р., з іх па дастаўцы 765.715 р. і па збыту 345.709 р.; за 1926-27 г. агульны зварот 1.519.236 р., з іх па дастаўцы—954.355 р. і па збыту—564.881 р. (па дастаўцы павялічэньне—на 25,3 проц., а па збыту—на 68,4 проц.). На

адзін двор прыходзіцца звароту 12 р. 10 к. (8 р. 30 к. па дастаўцы і 3 р. 80 к. па збыту) за 1925-26 г. і 16 р. 60 к. (10 р. 40 к. па дастаўцы і 6 р. 20 к. па збыце) за 1926-27 г.

Процант налажэньня на тавары ў сярэднім паменшыўся з 13,1 проц да 10,8 проц.

Гаспадарчая сувязь нізоўкі з сваім саюзам наогул значна павялічылася.

Сума пратэрмінаваных пазык па с.-г. крэдытных т-вах акругі на 1/I-28 г. значна павялічылася (на 39,5 проц. супроць 1/X-27 г.), а на 1/IV-28 г. значна паменшылася (на 66,5 проц. супроць 1/I-28 г.).

Наогул грашовае становішча крэдытнай сеці акругі некалькі палепшылася. Адносіны ўласных сродкаў да чужых складалі 1:8,6 проц. на 1/X-26 г. і 1:7,6 проц. на 1/X-27 г.; аднак становішча застаецца напружаным. Разьмеркаваньне ўласных сродкаў характэрызуецца наступным: на 1/X-26 г. з агульнай сумы ўласных сродкаў у 127.066 р. у звароце было 32.247 р., ці 3,05 проц. а на 1/X-27 г. з 234.483 руб.—82.737 руб., ці 4,12 проц. да агульнай сумы балянсу.

Нязначна ўдзельная вага ўласных сродкаў і па малочнай сетцы акругі. Тут яны складаюць 4,5 проц. да балянсу на 1/X-27 г. і адносяцца да чужых як 1:2,3 проц., што гаворыць аб неабходнасьці прыняцьця адпаведных мерапрыемстваў да павялічэньня ўласных сродкаў, паявых капіталаў і вядзеньня вытворчасьці з прыбыткамі. Гэтае становішча малочнай сеткі тлумачыцца тым, што звароты сеткі, ня гледзячы на значнае павялічэньне, ўсё застаюцца нязначнымі: у сярэднім у 26-27 г. на 1 арцель закуплена малака на 4.367 руб., кармоў—на 4.069 руб. (павялічэньне на 105 проц. параўнальна з 25-26 г.); выпрацована масла 3.448 кгр. на 5.308 р. і сыру—60.896 кгр.—на 59.456 руб. Выдаткі зьяўляюцца яшчэ вельмі значнымі і ў сярэднім складаюць 20,3 проц. да звароту малочнай сеткі.

Спэцыяльныя віды с.-г. каапэрацыі акругі слаба абслугоўваюцца акрсельсаюзам, што тлумачыцца малай колькасьцю інструктароў, правядзеньнем шэрагу кампаній за апошні час і неабходнасьцю мабілізацыі ўсяго апарату. Дзеля гэтага маем слабую пастаноўку ў іх рахункаводзтва і справаздачнасьці і адсутнасьць матар'ялаў аб іх працы; бываюць і такія выпадкі, калі яны не займаюцца сваімі справамі, а, напрыклад, гандлююць спажывецкімі таварамі.

Што датычыцца калгасных гаспадарак і мэліорацыйных таварystваў, то неабходна адзначыць наступнае:

1) доўгатэрміновыя пазыкі на калектывізацыю выдаюцца так, што большая частка іх зварочваецца да эфэктыўнасьці ўкладаньняў, што не спрыяе іх больш пасьпяховаму разьвіцьцю;

2) неўстанаўленьне разьмераў паявых узносаў. Па частцы мэліорацыйных таварystваў паявыя ўзносы ўстаноўлены ў 20-30 кап.;

3) бягучы склад часткі калгасаў у сувязі з тым, што няма ўжыўчасьці паміж членамі і цьвёрда спаянага асяродку;

4) амаль што ва ўсіх калгасах няма вылучаных фондаў па забясьпецы інвалідаў, хворых, старых; камунізацыя дабрабыту ў камунах наогул слабая, у прыватнасьці, за аднолькавую працу не ўстаноўлен аднолькавы заробак мужчынам і жанчынам і г. д.

(Працяг будзе)

А. Левинзон

# Итоги и перспективы развития с.-х. кооперации Гомельщины

(*Окончание*)

В отношении социального состава сейчас могу привести лишь частичные сведения, относящиеся к ближайшему от Гомеля району и касающиеся 11 товариществ. В эти товарищества втянуто 769 хозяйств, что составляет, примерно, 57 проц. общего числа хозяйств этого района. Безлошадных втянуто лишь 30 проц. общего числа безлошадных района, а бескоровных—36 проц., между тем как из хозяйств с 2—3 лошадьми вовлечено 67 проц.,а с 3 и более коровами—61 проц. Такова общая тенденция. Но имеются отдельные еще более серьезные извращения кооперативного строительства. Одно мелиоративное т-во, об'единяющее 16 хозяйств, составляющих 24 проц. общего числа крестьянских хозяйств своего района, не втянуло в свой состав ни одного безлошадного (из 5 безлошадных района), ни одного из 30 бескоровных и однокоровных хозяйств района, между тем из 8 двухлошадных—6 кооперировано т-вом. Из всего этого видно, что вполне своевременно поднять вопрос о правильноми постоянном организационном обслуживании мелиоративной кооперациии, о проведении ряда мероприятий, кооперативных и иных, в направлении улучшения социального состава и вместе с тем и качества работы самих товариществ.

Кооперация по огнестойкому строительству, за единичными исключениями, является замкнутыми об'единениями типа кустарной артели с определенным предпринимательским уклоном. Из 27 кооперативов этого вида только 3 связаны с системой с.-хоз. кооперации, организационное же обслуживание проводится через специальное бюро, находящееся при ОКРЗО. Поскольку сейчас дана директива втянуть и т-ва по огнестойкому строительству в систему с.-х. кооперации и передать бюро и руководство им союзу, предстоит большая работа по изучению этого вида кооперации и намечению плана его укрепления, как кооперативной организации. Некоторые трудности тут имеются в связи с тем, что на ближайшее время кооперативному союзу вряд ли удастся установить хозяйственную связь с т-вами по огнестойкому строительству. Так, например, снабжение т-в цементом уже намечено по линии Центроземсклада, а не союза, и вообще в данном случае, как в ряде других обстоятельств, ряд товарных операций по низовке, регулируемых земельными органами, осуществляется помимо кооперативной системы даже тогда, когда она данную задачу могла бы выполнить с должным успехом, а в подобных условиях не вполне последовательным является подход к кооперативному союзу, как к учреждению, обязанному выполнять организационно-кооперативное обслуживание, независимо и помимо хозяйственных и товарных взаимоотношений, между тем только при наличии таковых взаимоотношений можно было бы кооперативной системе втянуть и правильно поставить работу огнестойких т-в, как организаций, которые действительно содействовали бы и проводили в деревню дешевое и доброкачественное огнестойкое строительство.

За последние годы в округе наблюдается быстрый рост машинных и поселковых т-в. Если на 1 октября 25 г. у нас числилось 3 машинных т-ва, то на 1 октября 26 г. их было 23, а на 1 июля 27 г.—42, сейчас этих т-в—70. Особое внимание в последнее время уделяется вопросу организации таких т-в на основаниях, делающих их доступными для самых бедных групп крестьянства. Использовывая на дело машиноснабжения, на ряду с общими банковскими кредитами, и часть средств бедняцкого кредитования, у нас создана система льготного отпуска машин для машинных т-в

по 3 категориям, в зависимости от социального состава членов, при чем для самых бедных т-в усматривается рассрочка платежей за весь набор машин до 5 лет с самым небольшим взносом при получении машин. Конечно, на практике были допущены некоторые ошибки. не во всех районах отнеслись с должным вниманием к делу правильного подбора состава, целый ряд т-в ограничились приобретением только коммерчески выгодных машин, как-то: молотилки, не интересуясь сеялкой или веялкой и т. д. Сейчас все имеющиеся недочеты внимательно изучаются, и в ближайшем будущем придется серьезно заняться вопросом налаживания и укрепления существующих т в и создания сети новых, уделяя основное внимание не столько количественному росту, сколько качественной стороне дела. По планам нашей кооперативной системы, предположено в этом же году реорганизовать 3—4 машинных или поселковых т-ва в простейшие коллективы—т-ва по общественной обработке земли. Этому начинанию, как опыту, нами придается большое значение, как конкретному методу последующей работы плановой коллективизации сельского хозяйства.

Колхозное дело в последнее время в работе нашей системы занимает серьезное место, в особенности с мая месяца, когда при союзе была создана колхозная секция, со специальным обслуживающим аппаратом—2 инструкторами. Число колхозов за последние годы остается стабильным в 37 единиц, из них 3 коммуны, 26 с.-хоз. артелей и 8 садовых т-в. В связи с переходом на новый устав и повышенными требованиями к колхозам возможно, что 2—3 садовых т-ва придется исключить из состава колхозной сети. Из общего количества в 4.250 гект. земли, в колхозах 42 проц. приходится на пашни и 13 проц. на сады. Земельное обеспечение на трудовую единицу выражается в данное время в среднем в $4^1/_3$ гект.; при подсчете, согласно существующим у нас нормам земленаделения, в колхозах не достает 312 трудовых единиц, которыми наши колхозы должны быть в ближайшее время пополнены. Стоимость с.-хоз. инвентаря выражается в 11 р. 65 к. на гектар. Одна рабочая лошадь приходится в среднем на 7 гектаров пахотной земли, одна корова—на 3,2 гект. пашни и 2 гект. естественного сенокоса. По культурам посевная площадь в колхозах распределяется следующим образом: 46 проц. составляют зерновые культуры, 20 проц.—картофель и корнеплоды, $32^1/_2$ проц.—сеяные травы. По сравнению с крестьянскими хозяйствами повышенность урожайности в коллективах выражается следующими средними данными: по ржи 58 п. с дес. (в крестьянских хоз.—47,3 п.), по овсу—57 п. (в крест. хоз.—47 п.) и т. д.

В результате различных государственных мероприятий по укреплению колхозов и лучшему их организационному обслуживанию имеются известные достижения в отношении хозяйственного улучшения состояния колхозов, имеются некоторые улучшения и в отношении внутриколлективного уклада, но не мало еще у нас серьезных недочетов, какие могут быть изжиты только в процессе самой упорной работы по организационному и хозяйственному обслуживанию колхозов.

По национальному признаку 16 колхозов из общего числа в 37 являются еврейскими. В основном они имеют те же достижения, но и те же недочеты, как и не-еврейские колхозы; тут трудности лежат в плоскости не ликвидированной во многих случаях связи колхозистов с местечком, в несколько повышенной текучести состава, но в основном, как наиболее существенная форма привлечения в данное время деклассированного местечкового еврейства к с.-хоз. труду тут, на месте, еврейские колхозы начинают себя вполне оправдывать.

В целом, на 1 июля 1927 г. в округе находилось 315 разных первичных об'единений с общим числом членов около 28 тыс., из них с системой непосредственно, через секции или кредитные т-ва, связано 115 об'единений с 23.260 членами. Происходящая теперь отчетно-перевыборная кампания по системе с.-хоз. кооперации ставит одной из своих первооче-

редных задач доведение до минимума числа диких кооперативов, и эта задача, без сомнения, будет в общем выполнена удовлетворительно. Но организационные возможности все же остаются весьма ограничеными, поскольку пред системой с.-хоз. кооперации и окружным союзом в частности стоят еще неразрешенными основные задачи, определяющие хозяйственную и организационную прочность с.-х. кооперации, а именно: устранение параллелизма в области машиноснабжения со стороны госорганов снабжения, в отношении соответствующей нагрузки в области заготовок, в вопросе о кредитной работе и т. д. Вопросы правильного кооперирования и обслуживания крестьянства тесно связаны с масштабом и характером работы кооперативного об'единения окружной системы—союза, и функции, которые подлежат присвоению окрепшим хозяйственно и организационно союзам, без сомнения, являются весьма серьезным фактором для правильного роста и дальнейшего укрепления системы с.-х. кооперации округа.

---

Цыперман

# Климовичское кредитно-промысловое т-во

В городе Климовичах имеется 370 кустарей, из числа коих т-вом кооперировано 240 кустарей, или 65 проц. Основная масса кооперированых падает на сапожный и портняжный цех. Финансовое положение т-ва весьма тяжелое, и это не позволяет ему в достаточной степени обслуживать своих пайщиков-кус арей. Привлеченные средства покрываются легко реализуемыми активами и ценностями на 82 проц., а остальные 18 проц. трудно реализуемым активом. Собственные же средства т-ва в сумме 3 036 руб 53 к. поглощены убытками, которые на 1 апреля 1928 г. составляют более 3.000 руб. Причины убытка кроются в неправильных действиях прежнего состава правления.

Так, напр., выдано материалов на переработку, из имеющегося для этой цели сырья жене быв. предправления т-ва на 629 руб. 99 к., не—членам т-ва выдано на 547 руб. 42 к., остальное, на 82 р. 57 к. выдано четырем только пайщикам, не вернувшим, кстати сказать, своей работы и поныне. Зарплата за переработку выдавалась вперед авансом на сто и более процентов, одновременно с выдачей сырья; готовые изделия сдавались через 3 месяца и более; напри ер, жене быв. председателя правления причиталось зарплаты 123 руб. 40 к., выдано же вперед зарплаты 344 руб. т. е. больше на 220 руб. 60 коп. Как видно, эта операция не имела массового характера, а преследовала корыстные цели. Таке картина наблюдается и в области ссудных операций. Из остатка ссуд в 10.000 руб. на 1 апреля 1928 г. 3.559 руб., или 35,5 проц., находились на руках всего только 20 пайщиков, 3.253 руб., или 32,4 проц, находились на руках 31 пайщика, т. е. 6.812 руб., или другими словами, 67,9 проц. остатка ссуд, находились на руках только 51 пайщика из общего числа 240; только одни 9 пайщиков, из самих правленцев и их родственников, пользовались кредитом в 1.808 руб. 01 к., или 18 проц. общего процента остатка ссуд. Получая крупные ссуды, сами правленцы паев полностью не вносили и сроки для себя устанавливали от 6 месяцев до одного гола, в то время как другим ссуды выдавались на сроки не более 3 месяцев. Широко практиковалась п-реписка ссуд. Общая линия правленцев была такова, что они обслуживали небольшую группу зажиточных пайщиков, которая, защищая данный состав правления, аккуратно являлась на все собрания и своей „активностью" закрывала рог основной массе кустарей. В результате такого положения, ссудами на 1 апреля пользуются только 127 пайщиков из 240, или 53 проц.; таким образом, 47 проц. пайщиков были лишены возможности пользоваться кредитом, и это в свою очередь оттолкнуло от т-ва некооперированных еще 35 проц. кустарей. Надо отметить, что некооперированная часть кустарей и непользовавшиеся ссудами составляют самую бедняцкую часть кустарей. Ревкомиссия работала в контакте о этим составом правления.

На созванном общем собрании, где присутствовало 75 проц. пайщиков, „активисты" полтора часа бузили при выборах президиума, стараясь провести туда своих ставленников. После заслушания доклада инструктора Могпромсоюза об обследовании пайщики поняли, как опасно для них же самих не принимать своевременных мер против самовольных действий своего правления.

Собранием постановлено: из суммы дефицита 2.000 руб. разверстать между пайщиками и покр ть эту сумму до 1 августа 1928 г; также постановлено предать суду весь бывший состав правления и ревкомиссии и д срочно взыскать с них долгосрочные ссуды.

---

Д. К.

# Стан рабочага будаўніцтва г. Менску

(*Як пасоўваецца праца Белжылсаюзу*)

Белжылсаюзам у гэтым годзе вядуцца новыя работы, канчаюцца работы, распачатыя ў мінулым годзе, і вядзецца вялікая праца па аднаўленьні жыльлёвага фонду. Новыя работы заключаюцца ў пабудове 40-кватэрнага каменнага дому на вул. Карла Маркса, побач з другім домам Саветаў. Гэтыя 40 кватэр будуюцца ў двох карпусох: у адным—24 і ў другім—16 кватэр. Апал мяркуецца зрабіць цэнтральны. Абодвы карпусы ў гэтым годзе будуць пабудаваны толькі начорна. У сучасны момант блізка што зусім гатоў катлаван для большага корпусу Пабудову другога корпусу магчыма будзе распачаць пасьля разбурэньня старога драўлянага дому, які займае цяпер яго месца. Для перасяленьня кватэрантаў гэтага дому рамантуецца былая камсамольская сталоўка, у якой будуць зроблены 4 кватэры і кантора будоўлі. Абодва карпусы мяркуецца скончыць начорна гэтаю восеньню. У пасёлку „Друкар" (Глухая вул.) канчаецца праца па пабудоўцы трох драўляных дамоў на 6 кватэр, якія былі зрубаны ў мінулым годзе. Печная праца выканана на 70 проц. Вядзецца падрыхтоўчая праца па штукатурцы столяй—падбіваецца дранка. Бадай поўнасьцю выканана сталярная праца, не гатовы толькі часткі падлог і некаторыя перагародкі. Работы мяркуецца закончыць да 20 ліпеня. На „Працаасьвеце", каля гарадзкога саду, блізка што поўнасьцю гатовы печы, на 65 проц. пастаўлены перагародкі, вядзецца прыгонка ваконных рам, падшываюцца столі і штукатурыцца фасад. У гэтым годзе будзе 5 кватэр. Працу мяркуецца скончыць да 1 ліпеня.

На „Камвузаўцы", каля пошты, дзе ў трохпавярховай камяніцы зроблена 30 пакояў для сямейных студэнтаў камвузу, гатова жалеза-бэтоннае пакрыцьцё падвалу, у якім будзе зьмяшчацца кацельная цэнтральнага апалу і службы. Вядзецца падшыўка столяй, ставяцца перагародкі, пашыраецца цэгляная кладка фасаду. Атрыманы ўжо радыятарныя батарэі цэнтральнага апалу і часткі да іх. Катлы будуць атрыманы да 1 ліпеня. Усе работы, акрамя апалу, мяркуецца скончыць да 1 жніўня. Апал будзе гатоў да кастрычніка.

На „11 ліпеня" (Загародная вул.) у драўляным чатырохкватэрным доме, які быў зрубаны ў мінулым годзе пачалася кладка печак і прыгонка сталяркі. Работы мяркуецца скончыць да 1 ліпеня.

На „Іскры" (Беларуская, 4), дзе ў мінулым годзе быў закладзены фундамэнт аднаго чатырохкватэрнага дому і быў пабудаваны цокальны паверх другога чатырохкватэрнага дому, у гэтым годзе прыступлена да далейшае працы па установцы драўлянага шкілету будучых сьценак дому.

Работы зараз спынены дзеля таго, што каапэратыў да гэтага часу адцягвае заключэньне ўмовы з Белжылсаюзам на работы, якія апошні праводзіць.

З работ па аднаўленьні жыльлёвага фонду трэба адзначыць блізка што поўнае перабудаваньне трохпавярховае камяніцы (былая заля „Парыж") на рагу Яўрэйскае і Нова-Маскоўскае вуліц. У гэтай камяніцы мяркуецца абсталяваць 12 кватэр. Зараз адбываецца, галоўным чынам, праца па разбурэньні старога будынку: на 25 проц. разабраны сьцены, на 80 проц. перагародкі. Новых фундамэнтаў для тае часткі будынку, якая павінна быць дабудавана, гатова каля 50 проц. Матар'ялам забясьпечаны ўсе работы.

На ўсіх вышэй паказаных работах працуе зараз 150 чалавек рабочых розных кваліфікацый, у тым ліку і чорнарабочыя.

„Камінтэрн" (за Ляхаўкай), які старанна будаваўся ў мінулыя гады, сёлета намеціў пабудову толькі аднаго бэтанітавага дому на тры кватэры ў якасьці дасьледчага будаўніцтва.

„Сувязь" (на рагу Сьлёсарнае і Шпітальнае вуліц) мяркуе будаваць у гэтым годзе два драўляныя дамы па тры кватэры ў кожным.

Апошнімі двума пасёлкамі пакуль што нічога для намечанага будаўніцтва не падрыхтавана.

„Чыгуначнік" (Брылеўскі завулак) будзе дабудоўваць адзін двохкватэрны драўляны дом.

„Чырвоны Заходнік" у гэтым годзе будаваць нічога ня зьбіраецца.

# НАМ ПІШУЦЬ

**Лацыс**

## „Як ня трэба рэарганізоўваць“

У Межынскім раёне з 1924 году існавала Зайкаўскае сельска-гаспадарчае т-ва. Праіснаваўшы 3 гады, азначанае т-ва атрымала да 2.000 р. дэфіцыту і падлягала ліквідаваньню. Пры ліквідаваньні гэтага т-ва некаторыя арганізацыі павінны былі-б цярпець страту ў разьмеры дэфіцыту Зайкаўскага сельска-гасп. т-ва. Для того, каб ухіліцца ад страт, і каб хоць відны бок балянсу арганізацыі, якая павінна панесьці страту, захаваўся, Зайкаўскае сельска-гасп. т-ва з 6-га лютага 1927 г. рэарганізуецца ў Зайкаўскую малочную арцель. Зайкаўская малочная арцель, праіснаваўшы 10 месяцаў, мела таксама дэфіцыту да 400 рублёў, і тут-та ў некаторых работнікаў арцелі, пад кіраўніцтвам некаторых адказных таварышоў раёну, пасьпявае думка, што для таго, каб пазбавіцца ад адказнасьці за дэфіцыт Зайкаўскай малочнай арцелі, яго патрэбна ўзваліць на плечы кагось-ці.

Думалі і дадумаліся. У сьнежані 1927 г. склікаецца сход пайшчыкаў для падвядзеньня вынікаў працы і для перавыбараў праўленьня, і тут-та ўзьнікае думка аб тым, што неабходна правесьці рэарганізацыю арцелі і гэтым самым узваліць адказнасьць за дэфіцыт на плечы акруговага саюзу. Рэарганізацыя арцелі састаяла толькі ў абраньні новага праўленьня без утварэньня ліквідацыйнай камісіі, бяз прыняцьця новага статуту і без пераіменаваньня арцелі.

Гэты відавочны факт паказвае, як памылкова лінія рэарганізацыі дэфіцытных арганізацый і ўзвальваньне маючагася дэфіцыту на плечы новай, толькі што ўтворанай арганізацыі. Таксама зусім недапусьціма думка некаторых работнікаў з раёну, што дэфіцыт, атрыманы тэю ці іншаю арганізацыяй, магчыма ўзваліць на плечы акруговай арганізацыі, у прыватнасьці, на акрсельсаюз. І, нарэшце, вельмі часта на мясцох (у раёне) мала зварочваецца ўвагі на паасобныя гаспадарчыя адзінкі, разьлічваючы на ўсялякую дапамогу з акругі, што, зразумела, ненармальна і што небаходна зьнішчыць, пры чым, чым хутчэй, тым лэпш.

---

## Ці не перайсьці на картачную сыстэму

(*у парадку абгаварэньня*)

Кампанія па зборы паявых узносаў, якая зараз праводзіцца, прымушае прызадумацца, як зрабіць больш лёгкай працу па вядзеньні асабістых рахункаў пайшчыкаў.

Я лічу, што найлепшым спосабам спрашчэньня зьяўляецца пераход на картачную сыстэму, пры дапамозе якой у кожны момант можна надзвычайна лёгка атрымаць усялякія весткі і зрабіць больш лёгкай працу па разносцы паявых узносаў.

Рахункавод Слаўкоўскага сп. т-ва *Гельфанд.*

---

З. Левін

# За самакрытыку

## (у парадку прапановы)

Пытаньне аб самакрытыцы становіцца праблемай далейшага пасьпяховага разьвіцьця сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне.

Праз самакрытыку, якая праводзіцца працоўнымі масамі, мы маем магчымасьць праверыць, як ажыцьцяўляюцца на мясцох нашы дырэктывы пастановы.

Калі мы маем у гэтым напрамку значныя посьпехі ў нашай штодзённай газэтнай прэсе, то гэта немагчыма сказаць пра нашы часопісы.

А пісаць аб нашых недахопах, асабліва ў галіне каапэрацыйнага будаўніцтва, ёсьць аб чым, бо каапэрацыйныя органы так сама, як і прафсаюзныя, больш, як другія, павінны ажыцьцяўляць запраўдную савецкую дэмакратыю, павінны сачыць за тым, каб карысьць, якая атрымліваецца ад каапэраваньня, былі для працоўных, а не для каго-небудзь іншага.

З усялякімі скажэньнямі гэтае дырэктывы трэба весьці рашучае змаганьне ня толькі праз судовыя установы і шляхам адміністрацыйных ўзысканьняў, але таксама праз прэсу.

Мая прапанова: да Міжнароднага Дня Каапэрацыі пачаць выпуск ў нашым часопісу спэцыяльнае старонкі, прысьвечанае самакрытыцы, пад назваю «Нашы недахопы».

# МАТАР'ЯЛЫ ДА МІЖНАРОДНАГА ДНЯ КААПЭРАЦЫІ

Б.

## Як праводзіць міжнародны дзень каапэрацыі

### 1. Мэтавая ўстаноўка і задачы

Міжнародны дзень каапэрацыі ў гэтым годзе прыходзіцца на 7-е ліпеня.

Калі ў СССР міжнародны дзень каапэрацыі праходзіць ў абстаноўцы мірнага будаўнічага ўздыму пры наяўнасьці вялізных дасягненьняў савецкае каапэрацыі, дык у Заходняй Эўропе і на ўсходзе малюнак зусім іншы: міжнародны дзень каапэрацыі праходзіць там у абстаноўцы самага напруджанага клясавага змаганьня. Спробы капіталістычнае буржуазіі зьнішчыць пралетарскія арганізацыі, разрывы гандлёвых і дыплёматычных зносін з СССР з боку шэрагу капіталістычных краін, нарэшце, шалёны паход Заходняэўрапэйскіх каапэрацыйных бюракратаў супроць савецкае каапэрацыі і іх намер выключыць нашых дэлегатаў з цэнтральнага камітэту міжнароднага каапэрацыйнага Альянсу,—усё гэта разам вызначае тыя напруджаныя абставіны, у якіх сёлета будзе праходзіць міжнародны дзень каапэрацыі за мяжою.

Каапэрацыйная бюракратыя ўсе захады ўжыве да таго, каб прыкрыўшыся гэтак званаю каапэрацыйнаю «нэйтральнасьцю», яшчэ раз замазаць у сьвята міжнароднага дня каапэрацыі клясавую існасьць змаганьня, якое адбываецца, каб яшчэ раз адцягнуць 55 мільёнаў пайшчыкаў сусьветнае каапэрацыі ад пралетарскіх клясавых арганізацый і адарваць іх ад рэвалюцыйнае барацьбы.

Падрыхтоўка міжнароднай буржуазіяй новае вайны, якая мае сваёй мэтаю да-шчэнту зьнішчыць сусьветную рэвалюцыю, якая з кожным годам усё больш і больш нарастае, стварае небясьпеку зьнішчэньня ня толькі спажывецкіх каштоўнасьцяй гаспадаркі працоўных, але і фізычнага зьнішчэньня мільёнаў і мільёнаў працоўных усяго сьвету.

Улічваючы гэтую пагрозу для пралетарыяту, міжнародны дзень каапэрацыі сёлета трэба правесьці пры максімальным удзеле каапэраваных працоўных мас, з мэтаю мабілізацыі грамадзкае думкі навакол наступных задач і лёзунгаў дня:

1. На грунце гаспадарчых дасягненьняў каапэрацыі трэба улічыць і выявіць усе грамадзка-сацыялістычныя дасягненьні каапэрацыі, узмацніць сувязь унутры каапэрацыі і ступень удзелу мас ў практычнай каапэрацыйнай працы.

2. Трэба завастрыць увагу мас на правядзеньні здаровае самакрытыкі посьпехаў і недахопаў у каапэрацыі, з улікам усіх разумных прапаноў пайшчыкаў, якія сваёю мэтаю маюць паляпшэньне працы каапэрацыі.

3. Паляпшэньне якасьці і няўхільнае правядзеньне рацыяналізацыі ва ўсіх галінах каапэрацыйнае працы. Трэба падрахаваць вынікі зьніжэньня адміністрацыйных выдаткаў і дабіцца поўнага выкананьня дырэктыў па гэтым пытаньні.

4. Узмацніць паянамнажэньне і прыток у каапэрацыю сродкаў ад насельніцтва.

5. Каапэраваньне часткі насельніцтва, не ахопленага каапэрацыяй, і ў першую чаргу беднаты, батракоў, малазабясьпечаных рабочых, жанчын моладзі, чырвонаармейцаў і нацменшасьцяй.

6. Правядзеньне строгага і выразнага плянаваньня каапэрацыйнае працы на мясцох, узмацненьне саюзнае сыстэмы і каапэрацыйнае дысцыпліны.

7. Разгортваньне культурна-асьветнае і масавае працы з мэтаю ажыцьцяўленьня культурнае рэвалюцыі, ажыцьцяўленьне сапраўдных мер, накіраваных да паляпшэньня быту работніц і сялянак.

8. Рашучы пратэст супроць палітыкі правых правадыроў Альянсу, накіраванае да выключэньня з ЦК Альянсу прадстаўнікоў савецкае каапэрацыі, якая ўвасабляе палову ўсяе моцы сусьветнае каапэрацыі. Падтрыманьне вымаганьняў дэлегатаў савецкае каапэрацыі аб прыняцьці Альянсам пастаноў па барацьбе з дарагоўляю, супроць вайны, супроць разбурэньня адзінства рабочага руху і супроць спробы ўнесьці раскол у Альянс.

Пратэсты павінны быць прыведзены да вымаганьняў сьціслага супрацоўніцтва палітычных, прафэсыянальных і каапэрацыйных арганізацый работніцкае клясы, як да спосабу забесьпячэньня боездольнасьці працоўных супроць капіталу.

У сувязі з гэтым выключная ўвага на мясцох павінна быць аддана справе ўзмацненьня абароназдольнасьці СССР праз каапэрацыю.

## Падрыхтоўка сьвята МДК

Па нізавой сетцы спажывецкія, сельска-гаспадарчыя, саматужна-прамысловыя і інш. каапэратывы складаюць камісіі для правядзеньня МДК. Камісія разам з культкамісіямі каапэратываў вядзе працу, прыцягваючы ўвесь нізавы каапэратыўны актыў, членаў гурткоў, працаўнікоў хат-чытальняў і клюбаў, членаў крамных камісій і г. д.

Камісія праводзіць для актыву інструкцыйны даклад і шэраг гутарак аб задачах МДК і формах працы каапэрацыйнага актыву ў гэты дзень. Для выкананьня падрыхтоўчых мерапрыемстваў актыў неабходна разьбіць на групы па спэцыяльнасьці.

Асноўныя падрыхтоўчыя мерапрыемствы да МДК наступныя: каапэрацыйная выстаўка, гутарка, прэса, насьценгазэта, каапэрацыйныя экскурсіі, мастацкая частка сьвята, лёзунгі, плякаты, дыяграмы, арганізацыя ўрачыстага адчыненьня каапэрацыйных установ і прадпрыемстваў, якія могуць быць адчынены ў дзень сьвята.

Для правядзеньня арганізацыйнае і тэхнічнае падрыхтоўкі МДК, акрамя каапактыву, камісія прыцягвае мясцовыя культурныя сілы: загадчыка хатычытальні, аграномаў, лекароў, настаўнікаў, адпускнікоў рабочых, студэнтаў вучняў ВНУ, рабфакаў, саўпартшкол, рабкораў, селькораў і г. д.

У вёсках, далёка адлеглых ад валаснога цэнтру, у якіх няма ніводнага каапэратыву, але ў якіх можна арганізаваць сьвята, неабходна наладзіць правядзеньне МДК на другі, трэці дзень сьвята сіламі тае-ж камісіі. Напрыклад, аб'яднаць бліжэйшыя адна да другой 2-3 вёскі і паўтарыць усе нумары сьвята, пры чым спыніць увагу на працы бліжэйшых каапэратываў, якія па сваіх задачах абслугоўваюць гаспадаркі сялян і саматужнікаў гэтых вёсак.

## Гутаркі

У мэтах прыцягненьня да сьвяткаваньня шырокіх мас пралетарыяту і сялянства, за некалькі дзён да сьвята трэба правесьці шэраг гутарак з паглыбленай апрацоўкай асноўных пытаньняў, зьвязаных з задачамі МДК. Для гэтага трэба выкарыстаць сходы, гулянкі, пляцоўкі, сады і г. д.

1. Пры правядзеньні гутарак на вёсцы трэба падкрэсьліваць ролю каапэрацыі ў справе дапамогі бядняцкім і серадняцкім сялянскім і саматужніцкім гаспадаркам. Пры гэтым трэба прыводзіць прыклады такое

дапамогі з боку мясцовых каапэратываў: арганізацыя мясцовым каапэратывам фонду беднаты, арганізацыя вытворчага крэдыту беднаце і сераднякам, агрыкультурныя мерапрыемствы і інш. Пры гэтым належыць ня тоячыся выкрываць недахопы і памылкі мясцовых каапэратываў у працы з беднатою, зьвяртаючы на іх асаблівую ўвагу сялян.

Наступнае пытаньне, на якім трэба спыніць увагу ў МДК, гэта—ўдзел каапэрацыі ў індустрыялізацыі і рацыяналізацыі сельскае гаспадаркі і саматужных промыслаў.

Гутарку трэба пабудаваць так, каб на канкрэтным прыкладзе было паказана практычнае злучэньне гораду з вёскай праз каапэрацыю і роля каапэрацыі ў будаўніцтве сацыялізму на вёсцы.

2. У гутарках сярод рабочых трэба адзначыць значэньне каапэрацыі ў павялічэньні рэальнага заробку рабочага і работніцы і ў справе вызваленьня іх ад эксплёатацыі прыватнікам.

3. У гутарках з жанчынамі (работніцамі, сялянкамі, саматужніцамі, служачымі і хатнімі гаспадынямі), акрамя закранутых пытаньняў, высьветліць ролю каапэрацыі ў справе пабудаваньня новае культуры і быту (куток «Маці і Дзіця», дзіцячыя яслі, пляцоўкі, сталоўкі, кансультацыі, бібліотэкі і г. д.). Падкрэсьліць дасягненьні жанчын у працы мясцовых каапэратываў—у крамкамісіі, у праўленьні, рэвізыйнай камісіі і г. д.

З моладзьдзю належыць правесьці шэраг гутарак аб агульных задачах МДК, аб тым, што дала і што можа даць моладзі каапэрацыя ў справе ўзьняцьця культурнага ўзроўню, ў арганізацыі быту, а таксама падкрэсьліць удзел моладзі ў працы мясцовых каапэратываў. Даклад трэба пабудаваць так, каб сухія лічбы былі ілюстраваны прыкладамі і фактамі з працы мясцовае каапэрацыі.

Даклад можа цягнуцца ня больш, як 30 хвілін.

## Каапэрацыйная выстаўка

Найлепшым аглядам дасягненьняў мясцовых каапэратываў, паказам таго, што робяць паасобныя віды каапэрацыі і месцам каапэрацыйнай прапаганды і агітацыі можа быць наладжаная да МДК каапэрацыйная выстаўка. Да яе належыць загадзя падрыхтавацца, сабраць матар'ялы, падрыхтаваць дыяграмы, плякаты і лёзунгі. Выстаўка павінна быць разьбіта па відах каапэрацыі і мець, напрыклад, наступныя аддзелы:

1) арганізацыйна-інструктарскі, ў якім знаходзяцца матар'ялы па каапэрацыйным законадаўстве, статуты, інструкцыі і інш. кіруючыя матар'ялы, а таксама каапэрацыйная літаратура, справаздачы, пляны працы каапэратываў, дыяграмы росту ліку членаў, зваротаў, уласных і пазычакапіталаў і г. д.;

2) аддзел каапэрацыйнае вытворчасьці і збыту; у гэтым аддзеле разьмешчаны экспанаты мясцовае сельскае гаспадаркі і саматужнае прамысловасьці, з паказаньнем на экспанаце віду каапэрацыі, цаны, якасьці тавару, а таксама вытворцы—адрас і прозьвішча; у гэтым-жа аддзеле трэба паказаць у дыяграмах карысьць каапэрацыйнае вытворчасьці і збыту прадуктаў сельскае гаспадаркі і прадуктаў вытворчасьці саматужных промыслаў;

3) аддзел забесьпячэньня павінен мець узоры насеньня, угнаеньняў, сельска-гаспадарчых машын і прыладаў, інструмэнтаў, сыравіны і інш. матар'ялаў, якімі мясцовыя вытворчыя каапэратывы забясьпечваюць сельскіх гаспадароў і саматужнікаў, і прадукты шырокага спажываньня, якія праходзяць праз спажывецкія т-вы;

4) у аддзеле крэдыту трэба выявіць працу сельска-гаспадарчых крэдытных і саматужна-прамысловых крэдытных т-ваў, паказаўшы, які процант крэдыту выданы бедняком, серадняком і жанчынам бяднячкам, якія стаяць на чале гаспадаркі, з паказаньнем артыкулаў мэтавага крэдыту, вылучыўшы вытворчы крэдыт ад спажывецкага і адзначыўшы ўплыў крэдыту на паляпшэньне гаспадаркі і інш.

5. Культура і быт. У гэтым аддзеле трэба адбіць у дыяграмах працу мясцовых каапэратываў па каапэрацыйнай асьвеце; трэба высьветліць працу каапэратываў па паляпшэньні быту; у дыяграмах адбіць жыцьцё і працу дзіцячых устаноў, лекарскіх кансультацый, кутка «Маці і Дзіця», сталовак, праллен, бань і інш., з паказаньнем, каго яны абслугоўваюць. Паказаць лічбамі і жывымі прыкладамі, што і як розныя мерапрыемствы маглі бы палепшыць ці палепшылі: ці паменшылася сьмяротнасьць і захворваньні дзяцей, ці робяць паказаныя мерапрыемствы ўплыў на паляпшэньне быту жанчыны і ўсіх працоўных.

Дзе ня ўдасца ўтварыць каапэрацыйную выстаўку, там належыць арганізаваць каапэрацыйны куток пры клюбе ці хаце-чытальні, а калі ўжо маецца куток, папоўніць яго каапэрацыйнымі кнігамі, дыяграмамі, плякатамі і лёзунгамі.

Выстаўка адчыняецца напярэдадні сьвята, дні за тры. На выстаўцы арганізоўваюцца дзяжурствы кіраўнікоў, якія павінны тлумачыць экспанаты, даваць даведкі і вербаваць новых членаў у каапэратыў.

### Насьценгазэты і прэса

Камісіі павінны прыняць усе меры да таго, каб быў выданы спэцыяльны нумар насьценгазэты, прысьвечаны МДК. Загадзя зьнесьціся з рабкорамі, селькорамі, хатай-чытальняй, клюбам ці іншымі ўстановамі мастацкімі гурткамі, распрацаваць сумесна з імі плян нумару і разьмеркаваць абавязкі. Насьценгазэта павінна мець перадавіцу аб значэньні МДК у гэтым годзе, аб міжнародным каапэрацыйным руху, аб дасягненьнях савецкае каапэрацыі і, галоўным чынам, добра распрацаваць матар'ял працы мясцовых каапэратываў, увязаўшы яго з сучаснымі задачамі, якія высоўваюцца перад каапэрацыяй і яе паасобнымі відамі. Для ажыўленьня нумару даць каапэрацыйныя: фэльетон, дрындушкі, вершы, сцэнкі, малюнкі і г. д.

Выкарыстоўваньне прэсы. У мясцовай прэсе, дзе яна маецца, загадзя адкрыць кампанію па прыцягненьні шырокіх мас працоўных да сьвята МДК; загадзя надрукаваць артыкулы аб задачах МДК і плян яго правядзеньньня, а ў дзень сьвята выпусьціць спэцыяльныя нумары, прысьвечаныя МДК, завастрыўшы ўвагу на баявых пытаньнях, якія высоўваюцца савецкай уладай і партыяй перад каапэрацыяй; у насьценгазэце і ў мясцовай прэсе паказаць парадак правядзеньня МДК; вывесіць насьценгазэту ў тым памяшканьні, дзе будзе адбывацца ўрачыстае пасяджэньне.

### Падрыхтоўка да мастацкай і павесяліцельнай часткі сьвята

Камісія, сумесна з удзельнікамі драматычных, мастацкіх гурткоў, з актывам дэлегатак, настаўніцтвам і інш. культурнымі сіламі праводзяць падрыхтоўку да пастаноўцы спэктакляў сіняй блюзы, кіно, дзіцячае раніцы і гулянкі.

З дзяцьмі вывучыць для дэклямаваньня каапэрацыйныя вершы, дрындушкі, самім выдумаць інсцэніроўку, арганізаваць хор і інш.

### Каапэрацыйныя экскурсіі

Каб азнаёміць шырокія масы сялян і рабочых з добраю пастаноўкаю каапэрацыйнае справы і паасобнымі дасягненьнямі мясцовых каапэратываў, рэкамэндуецца правесьці шэраг экскурсій у добра пастаўленыя каапэрацыйныя сталоўкі, хлебапякарні, калектыўныя гаспадаркі, арцелі, дзіцячыя ўстановы, культасьветныя ўстановы; у прамкаапэрацыі трэба паказаць мастацкую працу саматужнікаў і саматужніц. Да кіраўніцтва экскурсіямі прыцягнуць каапэратара ці аграномa.

Перад экскурсіяй кіраўнік павінен правесьці гутарку аб тым, што яны будуць глядзець у часе экскурсіі у часе экскурсіі, кіраўніку належыць задаваць пытаньні і адказваць на іх, а пасьля экскурсіі наладзіць абмен думкамі аб тым, што яны бачылі, адзначыць тое, што асабліва спадобілася, а таксама заўважыць прыкмечаныя экскурсантамі недахопы. Экскурсіі належыць выкарыстоўраць для прыцягненьня новых членаў у каапэратывы.

## Падрыхтоўка да адчыненьня каапэрацыйных устаноў і іншыя мерапрыемствы

Каапэратывы, якія маюць матар'яльную магчымасьць арганізаваць мерапрыемствы, якія павышаюць прадукцыйнасьць працы, ці агрыкультурныя мерапрыемствы і мерапрыемствы па паляпшэньні быту і культурнага ўзроўню мас, павінны прыстасаваць ўсё гэта да дня сьвята. Напрыклад, можна арганізаваць пункт для спарваньня, зернаачышчальны пракатны пункты, усялякія дзіцячыя ўстановы, каапэрацыйную сталоўку і хлебапякарню, лазьню і пральню, куток «Маці і Дзьяця», хату-чытальню ці клюб, чырвоны і каапэрацыйны куток, кніжную паліцу, радыё і інш., выкарыстоўваючы ўрачыстае адчыненьне гэтых мерапрыемстваў для агітацыі за каапэрацыю.

Гэтыя мерапрыемствы можна арганізоўваць як на сродкі паасобных каапэратываў, так і на сродкі селькомаў, выканкомаў і сельсаветаў на вёсцы і фабзаўкомаў і прафсаюзаў у горадзе, а таксама выкарыстоўваючы добраахвотныя ўзносы паасобных грамадзян у фонды па паляпшэньні быту.

Усю падрыхтоўчую працу па арганізацый мерапрыемстваў неабходна скончыць да дню сьвята.

## Парадак правядзеньня сьвята МДК

1. Напярэдадні МДК наладзіць адкрытае ўрачыстае пасяджэньне кіруючых органаў усіх аб'яднаных мясцовых каапэратываў з прыцягненьнем каапэрацыйнага актыву пры ўдзеле прадстаўнікоў савецкіх устаноў, партыйных, камсамольскіх і прафэсыянальных арганізацый, палітасьветных устаноў, грамадзкіх арганізацый, аграномаў, лекароў, настаўнікаў і г. д.

На ўрачыстым пасяджэньні правесьці даклады: 1) аб міжнародным дню каапэрацыі, з выяўленьнем бягучых задач савецкае каапэрацыі (даклад пабудаваць коратка і цікава), 2) агульны агляд працы і задач мясцовых каапэратываў, 3) афармленьне мерапрыемстваў, якія арганізуюцца паасобнымі каапэратывамі і на аб'яднаныя сродкі і правядзеньне прыёму новых членаў у каапэратыў. Пасьля дакладаў паставіць канцэртнае аддзяленьне (інсцэніроўка, жывая газэта, кіно-фільмы, музычныя нумары, радыё і г. д.).

2. Мітынгі. У МДК для шырокае масы насельніцтва правесьці адкрытыя мітынгі. Пажадана іх наладжваць пад адкрытым небам: на вуліцах, плошчах, у садох, парках і на ваколіцах вёскі.

Мітынгі неабходна ажыўляць пастаноўкаю музычных і харавых нумароў, спэктакляў, кіно-фільмаў, радыё і інш. На мітынгах таксама арганізаваць прыём членаў у каапэратыў.

3. Сьвята для дзяцей. Каб прыцягнуць увагу дзяцей працоўных да агульнага каапэрацыйнага сьвята і адбіць яго ў іх памяці, належыць арганізаваць дзіцячую раніцу з уступным словам аб МДК, з пастаноўкай кіно-фільмы ці спэктаклю, гулянкі, экскурсіі і г. д. Калі гэта дапушчаюць сродкі, добра дзяцей пачаставаць, а у горадзе наладзіць для малых дзяцей катаньне на дэкараваных аўтамабілях і конях.

# Абежнік Белкаапсаюзу да Міжнароднага Дня Каапэрацыі

### райсаюзам, аддзяленьням і ЦРК

7-га чэрвеня—сьвята міжнароднага дня каапэрацыі. Разам з працоўнымі ўсяго сьвету, аб‘яднанымі ў каапэрацыю, савецкая каапэрацыя павінна прыняць самы актыўны ўдзел у гэтай урачыстасьці.

У сёлетнім годзе мы праводзім міжнародны дзень каапэрацыі пад наступнымі лёзунгамі.

1. Узмацненьне каапэраваньня і паенакапленьня.

2. Выяўленьне недахопаў у працы каапэратыву пры шырокім удзеле каапэраваных мас.

3. Узмацненьне індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскай гаспадаркі.

4. Узмацненьне працы па ўзмацаваньні каапэрацыі, паляпшэньні і патаненьні яе апарату пры адначасовым паляпшэньні якасьці працы па абслугоўваньні пайшчыкае.

5. Узмацненьне абароназдольнасьці СССР.

6. Узмацненьне каапэрацыйнае асьветы і больш шырокае ўцягненьне ў каапэрацыйную працу масы пайшчыкаў, у першую чаргу кааптыву.

Усю працу па правядзеньні міжнароднага дня каапэрацыі трэба падзяліць на дзьве часткі: падрыхтоўчую і правядзеньне самога сьвята.

### Падрыхтоўчая праца

1. Для правядзеньня міжнароднага дня каапэрацыі пры аргаддзелах ЦРК ствараюцца камісіі са складу каапэрацыйнага актыву. На вёсцы МДК праводзяць аргкаапэрацыйныя камісіі.

2. У часе падрыхтоўкі да сьвяткаваньні МДК трэба узмацніць работу па збору паёў і па каапэраваньні, асаблівую ўвагу зьвярнуць на каапэраваньне работніц, хатніх гаспадынь і моладзі. Праверыць каапэраваньне батракоў, рабочых саўгасаў і беднаты.

3. Не пазьней як з 5 ліпеня па прадпрыемствах, клюбах, нардамох і хатах-читальнях трэба пачаць праводзіць гутаркі аб каапэрацыі, аб значэньні МДК, аб працы мясцовага каапэратыву, выкарыстоўваючы для гэтага на прадпрыемствах перапынкі на абед, а ў вёсцы—сьвяточныя дні.

4. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на выяўленьне ўсіх недахопаў працы каапэратыву пры шырокім удзеле масы пайшыкаў і на зьнішчэньне гэтых недахопаў.

5. Праверыць каапэрацыйныя паліцы пры бібліотэках фабзаўмясцкомаў і ў хатах-чытальнях і папоўніць іх новай каапэрацыйнай літаратурай.

6. У тых клюбах, хатах-чытальнях, нардамох, дзе няма каапэрацыйных куткоў, арганізаваць іх, а таксама арганізаваць кніжныя каапэрацыйныя паліцы пры бібліотэках і пачаць плянавую працу.

7. На дэлегацкіх і агульных жаночых сходах правесьці даклады аб значэньні МДК, аб працы мясцовага каапэратыву і ўдзеле ў гэтай працы жанчын.

8. На пасяджэньнях каапэрацыйна-крамных камісій, крамных і аргасьветкамісій, там дзе, яны арганізаваны ,падагульніць вынікі іх працы: каапэраваньня, збору паёў, каапэрацыйна-асьветнай працы і г. д.

9. Асьвятляць працу каапэратыву ў газэце „Спажывецкая Каапэрацыя“, у лістку Белрабсэкцыі пры газэце „Рабочий“, а таксама і ў насьценгазэтах на прадпрыемствах і ў хатах-чытальнях.

10. Пры ўдзеле прадстаўнікоў каапактыву праверыць стан працы кніжнае паліцы ў краме спажыўтаварыства і працу кутку „Маці і Дзіця“.

**Сьвяткаваньне 7-га ліпеня**

1. У гэты дзень Белкаапсаюз рэкамэндуе праводзіць урачыстыя пасяджэньні каапэрацыйнага актыву, на якіх ушаноўваць лепшых каапэрацыйных актывістых.

2. Міжнародны дзень каапэрацыі трэба зрабіць масавым сьвятам. У гэты дзень мэтазгодна праводзіць таварыскія сходы членаў каапэратыву. Пасьля ўрачыстай часткі трэба наладжваць каапэрацыйныя вечарыны з каапэрацыйнымі пастаноўкамі і гульнямі.

3. Трэба ўжыць захады для таго, каб сад ці памяшканьне, дзе будзе адбывацца ўрачысты сход, былі адпаведным парадкам упрыгожаны дыяграмамі, якія характарызавалі-б працу мясцовага каапэратыву, каапэрацыйнымі лёзунгамі, плякатамі і г. д. Тут-жа трэба арганізоўваць стол для прыему ў пайшчыкі каапэратыву новых членаў і паявых узносаў.

4. Прыстасаваць да гэтага дня адчыненьне бытавых устаноў за лік фонду, асыгнаванага сходамі ўпаўнаважаных для гэтае мэты: дзіцячых садоў пляцовак, ясьляй і г. д.

5. Калі ёсьць каапэрацыйныя гурткі і сэкцыі дэлегацкіх сходаў, якія не закончылі свае заняткі, то прыстасаваць іх выпуск да ўрачыстых сходаў пайшыкаў у міжнародны дзень каапэрацыі.

6. У дзіцячых каапэрацыйных установах рэкамэндуем наладжваць дзіцячыя ранішнікі.

7. Усе крамы і каапэрацыйныя прадпрыемствы ў гэты дзень павінны быць упрыгожаны.

8. Да ўдзелу ў сьвяткаваньні прыцягнуць мясцовыя арганізацыі: партыйныя, савецкія, прафэсыянальныя, камсамольскія.

Намесьнік старшыні праўленьня Белкаапсаюзу *Гарноўскі.*

Інструктар-культурнік *Багарад.*

---

# Плян правядзеньня сьвята Міжнароднага Дня Каапэрацыі па сыстэме Белсельсаюзу

**А. Падрыхтоўчая частка**

1. Для правядзеньня ўсяе падрыхтоўчае працы да сьвята на мясцох ствараюцца камісіі з 3—5 асоб, з прыцягненьнем да працы ў вёсках наяўных культурных сіл: ізбача, агранома, настаўніка і г. д.

2. У мэтах эканамічнай мэтазгоднасьці і нераспыленьня сіл камісія павінна складацца з прадстаўнікоў усіх відаў каапэрацыі, пры чым на гэту камісію ўскласьці ўсю падрыхтоўчую працу па правядзеньні сьвята ў азначаным сяле, вёсцы, раёне.

3. Да падрыхтоўчай працы па правядзеньні сьвята неабходна прыцягнуць каапэрацыйны актыў і мясцовыя грамадзкія арганізацыі: прафсаюзы, камсамол, жанаддзел, КСУ і інш.

4. Кіраўніцтва працай камісіі ўскладаецца на прадстаўнікоў, вылучаных партыйнымі арганізацыямі.

### Б. Правядзеньне сьвята Міжнароднага Дня Каапэрацыі

1. Сьвята Міжнароднага Дня Каапэрацыі адчыняецца ўрачыстым пасяджэньнем актыву з запрашэньнем усіх кіраўнічых органаў данае каапэрацыйнае арганізацыі, а таксама прадстаўнікоў мясцовых партыйных, савецкіх і грамадзкіх арганізацый у акругах, а ў вёсках і сёлах з запрашэньнем пайшчыкаў і непайшчыкаў.

Увага. Урачыстае пасяджэньне не павінна цягнуцца больш 2 гадзін.

2. Пасьля ўрачыстага пасяджэньня арганізуюцца дэманстрацыя шырокіх мас насельніцтва, дзіцячае сьвята, забавы, працэсіі і г. д.

Дзецям раздаюцца падарункі. Для больш дарослых дзяцей школьнага ўзросту трэба практыкаваць раздачу каапэрацыйнай літаратуры.

3. У мэтах аб'яднаньня членаў каапэратыву, правесьці ў гэты дзень арганізацыю каапэрацыйных інсцэніровак, кіно, вечарын і г. д., прыцягваючы да гэтай справы ўсе культурныя сілы сяла, вёскі, раёну і г. д.

4. Шырока скарыстаць усе магчымасьці па выпуску спэцыяльных нумароў насьценных газэт, прысьвечаных МДК, у якіх павінны быць адбіты як дасягненьні, так і недахопы ў працы мясцовых каапэрацыйных арганізацый. Таксама ня трэба выпускаць пры гэтым з увагі і справу асьвятленьня бытавых момантаў.

5. Арганізаваць у часе сьвята лётарэі, продаж патрэбных сялянству тавараў, дапускаючы пайшчыкам прад нячленамі каапэратыву больш ільготныя ўмовы. Мясцовыя каапэратывы да гэтага часу павінны прадугледзець асьвяжэньне і папаўненьне асартымэнту тавараў.

6. Скарыстаць наладжаныя сходы, пасяджэньні, дэманстрацыі і г. д. у мэтах найбольшага каапэраваньня насельніцтва, вылучаючы ў асобную групу пытаньні ўцягненьня ў сябры каапэрацыі беднаты, жанчын і моладзі, для чаго перад сьвятам МДК павінны быць улічаны і скарыстаны ўсе спэцыяльныя сродкі (фонды), вылучаныя на ільготнае каапэраваньне, ужываючы ўсе дапушчаныя ільготы ў адносінах беднаты, моладзі і жанчын (таксама з бядняцкай часткі насельніцтва). У мэтах дасягненьня большых вынікаў практыкаваць залучэньне новых членаў шляхам абходу сялянскіх двароў, арганізацыі спэцыяльных хурманак, палатак і г. д.

7. У мэтах шырокай папулярызацыі як самога сьвята МДК, таксама і дзеля практычнага ажыцьцяўленьня пастаўленых задач найбольшага абхопу каапэрацыяй насельніцтва, забясьпечыць справу поўнага распаўсюджваньня спэцыяльна выдадзенай да МДК каапэрацыйнае літаратуры, каапэрацыйных часопісаў, лёзунгаў і г. д.

8. Прыстасаваць да сьвята МДК, там, дзе ёсьць магчымасьць, адчыненьне каапэрацыйных куткоў, выставак экспанатаў сель.-гасп. вытворчасьці данага раёну, бібліотэк і г. д.

9. Таксама лічыць неабходным прыстасаваць да МДК, пры наяўнасьці поўнай арганізацыйнай і эканамічнай падрыхтаванасьці і мэтазгоднасьці, арганізацыю новых каапэрацыйных аб'яднаньняў (калгасаў малочных арцеляй, машынных таварystваў і г. д.

10. Рэкамэндаваць мясцовым каапэрацыйным арганізацыям прыстасаваць да сьвята вылучэньне паасобных актыўных працаўнікоў, выдачу-

пахвальных грамат асобна заслужаным членам каапэратыву за інтэнсыўную грамадзкую працу. Асабліва пажадана, каб вылучэньне датычылася, галоўным чынам, жанчын і моладзі.

11. у тых раёнах, дзе згрупавана дастатковая колькасьць сельскагаспадарчых машын і прыладаў, у машынных таварыствах, пракатных пунктах і г. д. рэкамэндаваць наладжваньне дэманстрацыі сельска-гаспадарчых машын, з дачай адпаведных тлумачэньняў насельніцтву аб выгодах і карысьці мэханізаванае гаспадаркі.

12. Усе выдаткі па правядзеньні сьвята МДК робяцца за кошт сродкаў культфонда і павінны быць мінімальнымі.

---

# Циркуляр Белкустпромсоюза о проведении Международного Дня Кооперации

## УВАЖАЕМЫЕ ТОВАРИЩИ!

В первую субботу июля м-ца ежегодно, и в этом году, трудящиеся всех стран празднуют Международный День Кооперации.

В капиталистических странах революционные кооператоры проводят МДК под лозунгом вовлечения кооперированных масс в борьбу пролетариата за свое освобождение от гнета капитала, борьбы с реформистами и защиты СССР.

Кооперированные в разных видах кооперативных систем, существующих в Союзе ССР, в Международный День Кооперации подводят итоги практического строительства в стране.

Постановлением СНК СССР от 21 мая 1928 года промысловая кооперация получила ряд заданий в области кооперирования кустарей, смягчения безработицы и товарного дефицита, что может быть проведено в жизнь при условии полного уяснения широкими кооперированными массами целей и задач промысловой кооперации, выявления недочетов по лозунгу самокритики и при условии активного строительства социалистического хозяйства в СССР.

Основными моментами в практическом проведении МДК на местах должны быть следующие:

### а) В кустпромсоюзах

1. Союзы к МДК приурочивают открытие новых артелей, домов отдыха, детских яслей и прочих культурных учреждений, устраивая торжественные заседания, стараясь охватить возможно большее число кустарей.

2. Для широкого ознакомления кустарей с достижениями кустпромкооперации в деле механизации мастерских артелей, в культработе и пр. желательно устройство экскурсий кустарей в мастерские артелей, дома отдыха, детплощадки и пр.

3. К МДК союзы принимают меры к выпуску стенгазет в артелях и распространению периодической литературы среди кооперированных кустарей, в особенности к распространению газеты „Кустарь и Артель“, „Октябрь“, журналов „Шлях Коопэрацыі“ „Промыслы и Ремесла“ и т. д.

4. Организуются экскурсии в подшефные войсковые части и выезды работников союза в ближайшие местечки.

5. Издаются циркуляры по непосредственной сети и периферии, даются указания о порядке проведения МДК.

### б) В артелях

1. Накануне МДК, по согласовании с местными организациями, созываются общегородские собрания членов артелей с постановкой доклада о МДК.

2. К указанному дню приурочивается торжественный пуск новых машин, станков, открытие новых помещений, прием новых членов артелей, в особенности в укрупненных артелях.

3. Выпускается стенгазета, помещения мастерских украшаются плакатами, и распространяется периодическая литература среди членов артели.

4. Организуются экскурсии членов артелей за город и в дома отдыха с участием семей артельщиков.

5. По мере возможности, желательно изготовление показательных диаграмм о ходе развития артели с момента ее организации, особенно выпячивая состав членов, производство и финансовое состояние организации.

6. Артели принимают участие в устраиваемых местными организациями торжественных заседаниях, собраниях, спектаклях, лекциях, вечерах вопросов и ответов и проч.

### в) В кредитно-промысловых т-вах

1. Т-ва разрабатывают и согласовывают с местными организациями план проведения МДК в городах и местечках, входящих в их район деятельности, стараясь в этот день возможно шире охватить кооперированные и некооперированные массы кустарей.

2. Следует организовать торжественные заседания с постановкой докладов о МДК, спектакли, кино, спортивные выступления и проч.

3. По возможности, организовать массовые гуляния кустарей за город или в дома отдыха с членами семьи, устраивая карнавалы и проч.

4. Стенные газеты, выпускаемые т-вами, приурочивать к МДК, в специальных номерах освещая все стороны работы т-ва по обслуживанию бедняков и артелей.

5. Празднование должно охватить женщин кустарок, молодежь, кооперированную в т-ве, и некооперированных кустарей путем проведения общих собраний кустарей на окраинах города, где сконцентрированы кустари.

Основные перечисленные моменты празднования следует приспособить к местным условиям, обеспечив наиболее полное проведение МДК по системе.

Доклад о проведении вами МДК представьте в орготдел БКПС к 20 июля с. г. по прилагаемой анкете.

Газеты и журналы выпишите сами в потребных вам размерах.

С кооперативным приветом:

Зампредправления *Лиокумович.*

Инструктор *Хейфец.*

# АНКЕТА

## учета проведения МДК в 1928 году

1) Сколько поступило новых членов в ваш кооператив во время кампании МДК.

Из них: молодежи ..........
женщин ..........
бедноты ..........

Всего ..........

2) Сколько привлечено паев:
количество ..........
сумма ..........

3) Количество организованных в МДК мероприятий:
а) т-в ..........
б) артелей ..........
в) мастерских ..........
г) детских яслей ..........
д) площадок ..........
е) детских консультаций ..........
ж) библиотек ..........
з) коопер. уголков ..........
и) клубов ..........
к) выставок ..........
л) экскурсий ..........
м) помещ. статей в местной прессе ..........
н) помещ. статей в стенной газете ..........

4) Количество проведенных собраний и бесед:
в том числе: 1) митингов .......... 2) бесед ..........
3) собраний .......... 4) спектаклей ..........
а) по подготовке к МДК ..........
б) в день МДК ..........

Итого ..........

Сколько было присутствующих ..........

5) Участвовали ли представители местных организаций в проведении МДК ..........
..........
..........

6) Согласовывалась ли работа между кооперативными организациями района ..........
..........
..........

7) Сумма израсходованных денег на проведение МДК ..........

Примечание. Сведения должны быть представлены т-вами и артелями к 15 июля и сою ами к 1 августа 1928 г.

# ЛОЗУНГИ

## к международному дню кооперации 1928 г. по промысловой кооперации

1. Каждый член артели здоровой критикой помогает строительству промысловой кооперации.

2. Укрупнение артелей и введение в них новейших форм производства способствуют удешевлению себестоимости и улучшению качества выпускаемых фабрикатов.

3. Дальнейшее строительство крупных артелей тормозится отсутствием помещения для мастерскіх,—строительные кооперативы наша ближайшая задача.

4. Стопроцентное взыскание паев в артелях укрепляет артельные капиталы.

5. Все артели—в члены касс взаимопомощи (страховые) промысловой кооперации.

6. Повышение культурно-технического уровня членов артели—залог артельного благополучия.

---

# Тэзісы дакладу да свята М. Д. К.

## Значэньне Міжнароднага Дню Каапэрацыі ў справе арганізацыі і згуртаваньня каапэраваных мас усяго сьвету.

МДК, як сродак арганізацыі мас у барацьбе супроць капіталістычнага строю за адваёваньне праў працоўных і паляпшэньне іх эканамічнага становішча.

Розьніца ўмоў у сьвяткаваньні МДК у мінулым і сёлетнім годзе і асноўныя моманты, якія адсюль вынікаюць і якія вызначаюць ролю каапэрацыі ў яе міжнародным значэньні:

а) МДК, як дзень барацьбы за сапраўднае адзінства каапэраваных мас усяго сьвету і за прынцыпы рэвалюцыйнае каапэрацыі;

б) скарыстаньне МДК у справе барацьбы с антысавецкай палітыкай і пагрозай новай вайны;

в) удзел каапэрацыі ў працы камуністычнай партыі і прафсаюзаў.

МДК—у умовах СССР. Растлумачэньне шырокім масам каапэраванага і некаапэраванага насельніцтва задач і сутнасьці савецкае каапэрацыі:

а) роля савецкае каапэрацыі ў сацыялістычным будаўніцтве (цяжкасьці будаўніцтва, дасягненьні на гэтым шляху);

б) практычная праца мясцовай каапэрацыйнай арганізацыі (становішча арганізацыі, дасягненьні ў яе працы, недахопы і мерапрыемствы—пэрспэктывы на далейшае).

### Чарговыя задачы каапэрацыі:

а) каапэраваньне насельніцтва і падняцьце яго актыўнасьці:

1) каапэраваньне жанчын і моладзі;

2) роля каапэрацыі ў барацьбе за новы быт;

б) пытаньні капіталанамнажэньня каапэрацыі (павялічэньне паявых узносаў, пагашэньне паявое запазычанасьці, уклады сялянства і пазыкі ў насельніцтва);

в) каапэраваньне і прыцягненьне да практычнае каапэрацыйнае працы батрацтва і сялянскае беднаты;

г) узмацненьне працы па разыяналізацыі апарату, барацьбе з безгаспадарнасьцю, за скарачэньне выдаткаў, зьніжэньне цэн і паляпшэньне абслугоўваньня пайшчыкаў;

д) калектывізацыя бядняцкіх і серадняцкіх сялянскіх гаспадарак і сацыялістычнае пер態тварэньне савецкае вёскі;

е) узмацненьне тэмпу ўдзелу каапэрацыі ў барацьбе за культурную рэвалюцыю, шляхам паляпшэньня працы па абслугоўваньні бытавых і культурных патрэбнасьцяй пайшчыкаў.

# У КААПЦЭНТРАХ

## Ліквідацыя цэнтральнага каапэрацыйнага савету БСРР

5 чэрвеня 1928 году адбыўся пленум цэнтральнага каапэрацыйнага савету БССР, які пастанавіў:

Прыймаючы пад увагу значны ўзрост каапэрацыйных арганізацый усіх сыстэм, узмацненьне і ўрэгуляваньне сувязі між імі, а таксама і арганізацыйнага кіраўніцтва ў кожнай сыстэме з боку рэспубліканскіх цэнтраў каапэрацыі, — існаваньне цэнтральнага каапэрацыйнага савету ў далейшым не зьяўляецца неабходным, і дзеля гэтага лічыць мэтазгодным: а) цэнтральны каапэрацыйны савет БССР ліквідаваць; б) выданьне бюлетэню „Шлях Каапэрацыі“ лічыць мэтазгодным заставіць, перадаўшы рэдакцыі бюлетэню частку балянсу ЦКС па пасыве і актыве, якая адносіцца да выданьня бюлетэню.

---

## Новае кіраўніцтва Белкаапсаюзу

3 (8) Усебеларускі зьезд спажывецкай каапэрацыі абраў новае кіраўніцтва Белкаапсаюзу.

**Новае праўленьне Белкаапсаюзу** абрана ў складзе т. т.: **Наўлянскага** Міхася Міхасёва, **Кумкеса** Нахмана Залманава, **Кутая** Пётры Канстантынава, **Флеера** Гамшэя Рувінава, **Фальковіча** Самуіла Майсеева, **Бурага** Адама Янкава, **Бобікава** О. С.

**Кандыдатамі праўленьня** абраны т. т.: **Хаськін, Кац** Леў Хлаўнаў, **Врублеўская** Фэліцыя Францава і **Андросенка** С. В.

**Савет Белкаапсаюзу** пастаноўлена абраць у складзе наступных таварышоў:

1. **Васілевіч** (сэкратар ЦК КП(б)Б).
2. **Ляўкоў** (загад. сялян. аддз. ЦК КП(б)Б).
3. **Ісаеў** (сэкратар ЦСПСБ).
4. **Арановіч** (старшыня ЦП саюзу саўгандльслужачых).
5. **Адамайціс** (наркамгандлю БССР).
6. **Ершоў** (кіраўнік Дзяржбанку).
7. **Фрыд** (кіраўнік Усекабанку)
8. **Аксючыц** (старш. праўленьня Белсельсаюзу).
9. **Мар'ясін** (старш. праўленьня Белсампрамсаюзу)
10. **Шалімаў** (загад. арг. аддз. ЦК ЛКСМБ).
11. **Златкін** (старш. праўленьня Віцебскага АС).
12. **Эгле** (загад. арг. аддз. Полацкага АК КПБ).
13. **Зэль** (вайсковец).
14. **Рубо** (сябра праўленьня Віцебскага АС).
15. **Крэйнін** (старш. праўленьня Полацкага ЦРК).
16. **Галузаў** (намесьн. старш. праўленьня Віцебск ЦРК).
17. **Левіт** (работніца Вітшвею).
18. **Зінгэрман** (старш. праўленьня Менскага ЦРК).
19. **Альперовіч** (нам. старш. праўленьня Менск. ЦРК—жанчына).
20. **Ерафееў** (вайсковец).
21. **Клімаў** (Старобінскае сп. т-ва).
22. **Шымук** (аддзяленьне БКС Плешчаніцк. раёну, Меншчына).
23. **Стурнэ** (Вузьдз. сп.т-ва на Меншчыне).

24. **Манзік** (старш. Сьмілавіцк. сп. т-ва, на Меншчыне).
25. **Высакански** (сябра праўленьня Гомельск. АС. Мазыр).
26. **Ганзбург** (старш праўлен. Ленінск. сп. т-ва, на Гомельшчыне).
27. **Дордзік** (старш. Веткаўск. сп. т-ва на Гомельшчыне).
28. **Грудзінская** (Калінкавіц. сп. т-ва, на Мазыршчыне).
29. **Гінзбург** (старш. праўленьня Гомельскага ЦРК).
30. **Багданава** (работніца фабрыкі „Вэзуві“, Гомель).
31. **Файн** (старш. праўленьня Рэчыцкага ЦРК).
32. **Каждан** (раб. ад варштату, пасыўны член правл. Мазырск. ЦРК).
33. **Букацік** (загад. Магілеўск. аддз. Днепрасаюзу).
34. **Піліпаў** (селянін, старш. Старасельск. сп. т-ва, на Аршанчыне).
35. **Асмалоўскі** (старш. Крычаўскага сп. т-ва).
36. **Страд** (старш. праўленьня Днепрасаюзу).
37. **Краўцова** (пайшчыца Магілеўскай акругі—жанчына).
38. **Канцавы** (Магілеўскі ЦРК).
39. **Львовіч** (старш. праўленьня Шклоўскага ЦРК).
40. **Драпкін** (старш. праўленьня Аршанскага ЦРК).
41. **Рубэн** (старш. праўленьня Бабруйскага акрсаюзу).
42. **Чарэпка** (селянін ад сахі, Асіпавіцкае сп. т-ва).
43. **Шаевіч** (нам. старш. праўленьня Бабруйск. акрсаюзу).
44. **Шабрын** (вайсковец).
45. **Хазан** (старш. праўленьня Барысаўск. ЦРК).

**Кандыдатамі ў савет** абабраны т. т.:

1. **Рамановіч** (сябра савету Сеньненск. сп. т-ва, на Віцебшчыне, жанчына).
2. **Марголін** (старш. праўл. Лёзьнянск. сп. т-ва, на Віцебшчыне).
3. **Аржаны** (рабочы, пайшчык Віцебскага ЦРК).
4. **Зялічонак** (нам. старш. праўленьня Менскага ЦРК).
5. **Курбыка** (селянін, член праўленьня Пагосцкага сп. т-ва).
6. **Храпко** (селянін, пайшчык Барысаўскага раёну).
7. **Назарэнка** (старш. праўл. Буда-Кашалеўск. сп. т-ва на Гомельшч.).
8. **Файнбэрг** (загад. арг. аддз. Гомельскага акрсаюзу).
9. **Рыўкін** (нам. старш. праўленьня Гомельскага ЦРК).
10. **Чыжэўскі** (старш. праўленьня Добрускага ЦРК).
11. **Левін** (старш. праўленьня. Горацкага сп. т-ва).
12. **Пацёмкін** (Дубровенскага сп. т-ва).
13. **Агуркова** (работніца Магілеўскага ЦРК).
14. **Падольцаў** (старш. Сьвіслацк. сп. т-ва, на Бабруйшчыне).
15. **Запалоцкі** (старш. праўленьня Рагачэўскага сп. т-ва).

**Рэвізыйная камісія** Белкаапсаюзу абрана ў складзе: старшыні—т. **Розэна** (ЦСПСБ), намесьніка старшыні—т. **Бурачэўскага** (Днепрасаюз) і трох членаў—т.т. **Суходальскага** (старшыні Качынскага сп. т-ва), **Рубанца** (члена праўленьня Менскага ЦРК) і **Кантара** (старшыні Бабруйскага ЦРК).

**У прэзыдыум савету** абраны т. т.: **Васілевіч** (ЦК КПБ), **Ісаеў** (ЦСПСБ), **Ляўкоў** (ЦК КПБ), **Златкін** (Віц. АС), **Гінзбург** (Гом. ЦРК).

**Старшынёю прэзыдыуму савэту** Белкапсаюзу абраны т. **Васілевіч**.

**Старшынёю праўленьня** Белкаапсаюзу абраны т. **Наўлянскі** М. М., на якога, акрамя агульнага кіраўніцтва, ускладзена загадваньне плянава эканамічным кіраўніцтвам і часова загадваньне арганізацыйным кіраўніцтвам.

**Старшынёю прэзыдыуму Белрабсэкцыі і нам. старшыні праўленьня Белкаапсаюзу** абраны т. **Кумкес** П. З.

Загадваньне загатоўчым кіраўніцтвам ускладзена на тав. **Фальковіча**.

Між іншымі сябрамі праўленьня покуль што абавязкі не разьмеркаваны.

Апошнім днём перадачы спраў праўленьня старога складу праўленьню новата складу назначана 21 чэрвеня г. г.

Прыймаючы пад увагу, што новаабраныя ў склад праўленьня т. т. ня маюць магчымасьці прыступіць адразу да працы, пастаноўлена адтэрмінаваць т. **Сінгалоўскаму** З. М. даверанасьць на права загадваньня Маскоўскай канторай на адзін месяц (да 12/VII г. г.). гэта значыць га прыняцьця ад яго канторы ўноў вылучаны членам праўленьня.

**Склад прэзыдыуму Белрабсэкцыі** абраны з трох наступных т. т.: **Кумкеса** Н. З. (старшыня прэзыдыуму), **Наўлянскага** (сябра прэзыдыуму) і **Флеера** С. М. (сябра прэзыдыуму).

---

# Палажэньне аб рабоце з актывам нізоўкі сельска-гаспадарчай каапэрацыі і культурнаасьветнай рабоце

*(прынята праўленьнем Белсельсаюзу на пасяджэньні 5 красавіка 1928 г.)*

1. У склад каапэрацыйнага актыву пры праўленьні сел.-гасп. каапэратыву ўваходзяць члены і кандыдаты праўленьня, рэвізыйнай камісіі, упаўнаважаныя, радавыя пайшчыкі, актыўна дапамагаючыя рабоце каапэратыву, і работнікі іншых грамадзкіх і савецкіх устаноў вёскі, якіх датычыцца праца сел.-гасп. каапэрацыі; напрыклад, настаўнікі, члены саюзу сел.-гасп. і лясных рабочых, комітэты ўзаемадапамогі, каапэрацыйныя сэкцыі сельсавету, дэлегацкіх сходаў жанчын і інш.

2. У кожным сел. гасп. каапэратыве для ўзмацненьня і разьвіцьця арганізацыйнай і каапэрацыйна-асьветнай працы і работы з актывам вызначаецца сябра праўленьня, на якого ўскладаецца арганізацыйна-асьветная праца па разгортваньні работы, галоўным чынам, сярод новых кадраў каапэрацыйнага актыву, у прыватнасьці, сярод жаночага актыву. Бліжэйшымі яго памоцнікамі зьяўляюцца настаўнік, аграном і інш. асобы з вясковага актыву.

3. Асноўнымі задачамі яго зьяўляюцца праводзеньне мерапрыемстваў па абслугоўваньні культурных патрэб пайшчыкаў, разьвіцьцё каапэрацыйнай граматнасьці, арганізацыя каапэрацыйнага актыву і работа з ім, вядзеньне масавай коопэрацыйнай агітацыі і наогул узмацненьне каапэраваньня сялянства.

4. Сваю працу ён вядзе пры непасрэднай дапамозе каапэрацыйнага актыву сел.-гасп. каапэратыву, для чаго праўленьне сел.-гасп. каапэратыву склікае ня менш аднаго разу ў месяц нарады актыву, да якой падрыхтоўвае прапрацаваныя матар'ялы, у прыватнасьці — пастановы мінулых сходаў актыву.

5. Галавыя і квартальныя пляны працы па рабоце з актывам і культ.-асьветнай працы ўзгадняюцца з плянам агульнай культурнай працы хаты-чытальні і нардому на вёсцы і ўключаюцца як складаная іх частка, а таксама і агульнага пляну сел.-гасп. каапэратыву.

6. У асноўным гэта праца павінна быць зьвязана з гаспадарчаю дзейнасьцю таго ці іншага сел.-гасп. каапэратыву з тым разьлікам, каб праца мела ўплыў як на паляпшэньне якасьці працы новых кадраў каапэрацыйнага актыву, гэтак і наогул на паляпшэньне ўсяе дзейнасьці.

7. Орг. аддзел акрсаюзу сел.-гасп. каапэрацыі павінен даць належныя кіруючыя ўказаньні ў гэтым напрамку. Інструктары саюзаў с.-г. коопэрацыі пры ўсякім абсьледваньні, рэвізіі, пры іншых наведваньнях с.-г. каапэратыву павінны інструктаваць праўленьне ў тым напрамку, каб яго зьвязвалася з каапэрацыйным актывам і ўцягвала апошні ў працу. Абавязаць склікаць актыў і зрабіць вывады аб праведзенай працы па абсьледваньні.

8. Практычная дзейнасьць вызначанага члена праўленьня с.-г. каапэратыву ў асноўным выражаецца ў распрацоўцы мерапрыемстваў па актыўным удзеле пайшчыкаў у каапэрацыйнай працы, па распаўсюджваньні каапэрацыйнай асьветы. Пры дапамозе каапэрацыйнага актыву ён організоўвае гурткі і куткі пры хатах-чытальні, кіруе апошнімі, а таксама пастаноўкаю справаздачнай работы, гутарак, лекцый і інш. даведак, дыяграм, характарызуючых працу мясцовага с.-г. каапэратыву.

9. Паколькі ўсё больш і больш пашыраецца нізавая сецьсел.-гасп. каапэрацыі, побач з мэтадамі індывідуальнага інструктаваньня трэба ўсё шырэй прымяняць сыстэму калектыўнага інструктаваньня як нізавых работнікаў, гэтак і актыву нізовак.

10. Калектыўнае інструктаваньне нізавых працаўнікоў па кіраўніцтве актыву можна праводзіць праз пэрыядычна склікаемыя на 1—2 тыдні курсы-зьезды пры акруговых саюзах альбо ў раёнах пры буйных сел.-гасп. каапэратывах.

11. Курсы-зьезды павінны даць працаўнікам нізавой сеткі і актыву агульную орыентыроўку ў шэрагу практычных пытаньняў сёньняшняга дню.

12. Выдаткі на выкананьне вызначаных вышэй задач праводзяцца з культфонду сел.-гасп. каапэрацыі.

13. Нормы выдаткаў складаюцца з прыбыткаў сел.-гасп. каапэратыву, добрахвотных адлічэньняў і інш. паступленьняў мясцовых культ.-асьветных устаноў, а таксама частка сродкаў можа быць складзена ў каштарысным парадку.

---

# Палажэньне аб фондах каапэраваньня беднаты ў сыстэме сельгасп. каапэрацыі БССР

*(прынята на пасяджэньні праўленьня БСС 5 красавіка 1928 г.)*

1. У мэтах узмацненьня каапэраваньня беднаты па сыстэме сельска-гаспадарчай каапэрацыі БССР вызначаюцца спэцыяльныя капіталы—фонды па коопэраваньні беднаты, якія маюць сваім прызначэньнем выдачу пазык на аплату паявых узносаў некаапэраваным бедняком пры ўступленьні іх членамі ва ўсе віды каапэратываў сельска-гаспадарчай каапэрацыі.

2. Фонд каапэраваньня беднаты складаецца з штогодных адлічэньняў ад прыбыткаў каапэрацыйных арганізацый ва ўсіх ступенях сыстэмы сельска-гаспадарчай каапэрацыі, а таксама з спэцыяльных узносаў на ўзмацненьне фондаў беднаты, атрымліваемых ад іншых грамадзкіх і савецкіх устаноў (Белсельбанку, акрсельбанкаў, КСУ і інш.), і адлічэньняў у яго тых грошай, якія зварочваюцца беднатою.

3. Колькасьць адлічэньняў ад прыбыткаў сельска-гаспадарчых коопэрацыйных арганізацый вызначаецца агульнымі сходамі пайшчыкаў ці сходамі ўпаўнаважаных гэтых арганізацый у залежнасьці ад іх фінансавых магчымасьцяў, пры чым з прыбыткаў сельска-гаспадарчага каапэратыву, таварыства, саюзу і г. д. павінна быць адлічана 10 проц. чыстага прыбытку.

4. Фонд коопэраваньня бядняты разьмяркоўваецца паміж беднатою як доўгатэрміновыя беспроцантныя пазыкі, тэрмінам на 5 гадоў, з зваротам іх у гэты-ж фонд каапэраваньня беднаты.

5. Фонды каапэраваньня беднаты, якія складаюцца нізавою сеткаю, карыстаюцца ёю для выдачы пазык беднаце свайго раёну дзейнасьці.

Фонды каапэраваньня беднаты, якія складаюцца пры акруговых саюзах і Белсельсаюзе, разьмяркоўваюцца паміж нізоўкамі ў суадпаведнасьці з патрэбнасьцю паасобных раёнаў, у залежнасьці ад колькасьці беднаты і недастатных сум, для здавальненьня бядняцкіх гаспадарак гэтых раёнаў, пры чым кіраўніцтва разьмеркаваньнем фонду па сыстэме сельска-гаспадарчай каапэрацыі БССР ажыцьцяўляецца Белсельсаюзам.

6. Фонд каапэраваньня беднаты, які складаецца ва ўсіх ступенях сельскагаспадарчай каапэрацыі, цалкам скарыстоўваецца на каапэраваньне бядняцкіх гаспадарак.

7. Фонд каапэраваньня беднаты скарыстоўваецца пярвічнымі каапэратывам па асобна складзеным пляне, для абмеркаваньня якога ўцягваюцца савецкія і грамадзкія арганізацыі: камітэты ўзаемадапамогі, сходы беднаты, жаночыя дэлегацкія сходы і г. д.

Канчатковае разьмеркаваньне фонду робіць савет і праўленьне пярвічнага сельска-гаспадарчага каапэратыву.

8. Па ўзгадненьні з бядняцкімі членамі каапэратыву магчыма пагашаць пазыкі з фонду шляхам пакрыцьця запазычанасьці атрымліваемымі імі даплатамі па збыте, дывідэндамі па апэрацыях і інш. заробкамі беднаты ў сельска-гаспадарчым каапэратыве.

9. Праўленьні акрсельсаюзаў, а таксама рэвізыйныя камісіі каапэратываў павінны сачыць як за рухам каапэраваньня беднаты, гэтак і за правільным выдаваньнем фондаў каапэраваньня беднаты ў нізоўках, зварочваючы на гэта асаблівую ўвагу.

10. Інструктары саюзаў сельска-гаспадарчай каапэрацыі пры ўсякім абсьледаваньні, рэвізіі і інш. прыезьдзе ў сельска-гаспадарчы каапэратыў павінны праверыць работу праўленьняў па каапэраваньні беднаты і скарыстаньні фондаў на каапэраваньне беднаты, інструктуючы органы кіраўніцтва і кантролю сельскагаспадарчых каапэратываў у гэтай галіне.

11. Праўленьні саюзаў на сваіх пасяджэньнях, сумесна з камітэтамі ўзаемадапамогі і іншымі мясцовымі грамадзкімі арганізацыямі, заслухоўваюць пэрыодычныя справаздачы аргаддзела саюзу аб ходзе работы па ўцягненьні бядняцкіх

гаспадарак у сельска-гаспадарчую каапэрацыю, складаюць паўгадавыя пляны работ па коопэраваньні беднаты, даюць кіруючыя ўказаньні па правядзеньні іх ў жыцьцё і сыстэматычна сачаць за выкананьнем іх месцамі.

12. Справаздачнасьць, вучот работы па каапэраваньні беднаты і скарыстаньні фондаў уключаюцца ў агульныя квартальныя і гадавы я справаздачы коопэратываў і саюзаў.

13. У выпадках выбыцьця з складу членаў сельска-гаспадарчага каапэратыву беднякоў, каапэраваных за кошт фондаў каапэраваньня беднаты, аплочаная частка разыкі зварочваецца пазычніку згодна статуту, а неаплочаная сума сьпісваецца з рахунку паявых капіталаў сельска-гаспадарчага каапэратыву і запісваецца на рахунак фонду каапэраваньня беднаты.

14. Аб умовах атрыманьня і пакрыцьця пазык на каапэраваньне беднаты, атрыманых ад Белсельбанку, робяцца спэцыяльныя згоды паміж Белсельсаюзам і Белсельбанкам, акруговымі саюзамі сельска-гаспадарчай каапэрацыі і вобчаствамі сельска-гаспадарчага крэдыту, сельска-гаспадарчымі коопэратывамі і беднатою.

15. Усе сродкі, вызначаныя ў фонды каапэраваньня беднаты па сыстэме сельска-гаспадарчай каапэрацыі, на працягу 1927-28 г. павінны быць выдадзены беднаце не пазьней 1-га чэрвеня 1928 г.

# Палажэньне аб каапэраваньні моладзі і рабоце з ёю

(*Прынята праўленьнем Белсельсаюгу на пасяджэньні ад 17 мая 1928 г.*)

У мэтах большага каапэраваньня моладзі і ўцягненьня яе ў практычную работу сел.-гасп. коопэрацыі прызнаць неабходным правядзеньне ў жыцьцё наступных асноўных мерапрыемстваў:

1. Для больш шырокага ўцягненьня моладзі ў рады каапэрацыйнай сыстэмы скарыстаць на каапэраваньне бядняцкай часткі моладзі сродкі з фонду па каапэраваньні беднаты, а ў адносіне да серадняцтва дапусьціць растэрміноўку паю, памяншэньне гэтакага і рад другіх ільгот і пераваг.

2. Зьвярнуць большую увагу на ўцягненьне актыўнай часткі моладзі (членаў сель.-гасп. каапэрацыі) у праўленчаскія і кантрольныя ворганы каапэрацыйных аб'яднаньняў, скарыстоўваючы для гэтай мэты ў першую чаргу праводзімыя справаздачна-перавыбарныя кампаніі і МЮД.

Аднача́сова скарыстаць гэтыя моманты для ўцягненьня моладзі ў каапэрацыйнае членства, асабліва зьвярнуўшы ўвагу на ўцягненьне ў вытворчага віду каапэратывы.

3. У мэтах утварэньня кадру маладых коопэратараў прызнаць неабходным уцягненьне актыўных прадстаўнікоў моладзі ў арганізуемыя коопэрацыйныя курсы, гурткі і г. д., а таксама скарыстоўваючы ў гэтых мэтах палепшаньне вучнёўства і практыканства.

4. Для распаўсюджваньня каапэрацыйных ідэй сярод моладзі зьвярнуць увагу на арганізацыю пры сел.-гасп. гуртках, нардамах, ячэйках ЛКСМБ каапэрацыйных бібліятэчак з падборам літаратуры па найбольш актуальных пытаньнях.

5. Забясьпечыць актыўны ўдзел каапэрацыйных арганізацый на мясцох у работах школ сялянскай моладзі, скарыстоўваючы для гэтай мэты правядзеньне розных лекцый, гутарак і інш. на каапэрацыйныя тэмы выясьняюча-агітацыйнага характару, з мэтай выяўленьня перад моладзьдзю карысьці і пераваг пайшчыка перад ня членамі коопэратыву. Таксама лічыць мэтазгодным скарыстаць вучняў школ сялянскай моладзі ў справе каапэраваньня моладзі.

Лічыць неабходным у праграмы школ сялянскай моладзі ўключыць пытаньні па каапэрацыйным будаўніцтве ваогул і калектывізацыі—у прыватнасьці.

6. Зьвярнуць увагу на скарыстаньне ў мэтах каапэраваньня моладзі дзейнічаючых у вёсцы сельска-гаспадарчых гурткоў, аказваючы апошнім у гэтай галіне ўсялякую дапамогу і падтрыманьне як культурнымі сіламі, гэтак і матар'яльнаю дапамогаю.

7. Для стварэньня большай зацікаўленасьці моладзі ў коопэрацыйнай рабоце і стварэньня навычак грамадзянскай работы і гаспадараваньня прызнаць неабходным наладзіць сувязь на мясцох з аграноміяй, праз якую (сувязь) разьвіваць культурныя навычкі ў моладзі па вядзеньні сельскай гаспадаркі, аблякаючы гэтую работу ў практычныя формы праз прылажэньне ведаў моладзі, атрыманых у с.-г. гуртках у зімавы пэрыод, да закладкі вопытных палёў, вопытных гародаў і г. д.

Работа гэта павінна быць правадзіма праз актыўных прадстаўнікоў моладзі з максымальным уцягненьнем у гэтую работу ўсяе моладзі з аднача́совым скарыстаньнем магчымасьці вярбоўкі ў пайшчыкі каапэратыву прыймаючай удзел моладзі.

8. Лічыць мэтазгодным скарыстаць раённую аграномію ў справе прапагандаваньня каапэрацыйных ідэй сярод моладзі.

9. Прызваць неабходным устанаўленьне абавязковага ўдзелу моладзі ў пра
валзімых у раёнах і вёсках сьвятах „Дзень Ураджаю“. сель-гасп. выстаўках, кон
курсах і г. д., а таксама ў рознага віду кампаніях кааперацыйнага характару (паі
кааперавань не беднаты, загатоўкі і інш.).

10 У мэтах папулярызацыі кааперацыйных ідэй сярод моладзі і асабліва ў
бядняцкай яе частцы, адзначыць неабходнасьць прыцягненьня моладзі ў цэлым і
паасобных яе прадстаўнікоў да практычнай работы кааперацыйнага актыву таго ці
іншага кааперацыйнага аб'яднаньня.

11. Прапанаваць кааперацыйным арганізацыям прадугеджваць у галавых і
квартальных справаздачах даныя аб кааперываньні моладзі, вылучаючы гэтакія з
агульных зьвестак па кааперываньні насельніцтва.

Пералічаныя вышэй мерапрыемствы ў сваім практычным ажыцьцяўленьні
патрабуюць абавязковай узгодненасьці на мясцох паміж кааперацыйнымі арганіза-
цыямі, ячэйкамі ЛКСМ і інш. палітыка-асьветнымі ўстановамі.

---

# Праэкт мерапрыёмстваў па мясазагатоўках

## Па інфармацыі тав. Мацьвеева

*(Прынята праўленьнем Белсельсаюзу на пасяджэньні ад 17 мая 1928 г.)*

1. Недавыкананьне пляну 1-га паўгодзьдзя прызнаць неабходным разьмерка
ваць на II паўгодзьдзе па акрсельсаюзах, прымаючы пад увагу рынкавыя магчы-
масьці, а таксама падрыхтаванасьць апарату. Прапанаваць тав Мацьвееву ў трох-
дзённы тэрмін разьмеркаваць недавыкананьне, адначасова прапанаваўшы акрсель-
саюзам у тыднёвы тэрмін разьмеркаваць колькасьць падлягаючых выкананьню у
II-м паўгодзьдзі па месяцах, а таксама па с.-г. таварыствах, адбітак накіраваўшы
Белсельсаюзу.

2. Да гэтага часу па галіне с. г. кааперацыі не было ўзаемнага абслугоўваньня,
а кожны саюз прадстаўляў толькі свае асабістыя інтарэсы, зусім не ведаючы ста-
новішча мяснога рынку у БССР і яго ёмістасьці, што стварала цяжкае становішча для
асобных саюзаў пры забесьпячэньні спажыўцоў, а ў гэты самы час другія саюзы
ня мелі куды збываць загатаваную жывёлу. На падставе гэтага прызнаць неаб-
ходным перараьзмеркаваньне лішкаў асобных акруг, для чаго абавязаць акрсель-
саюзы прадстаўляць пакварта льныя заяўкі як на лішкі, гэтак і недахоп кожнага
саюзу па гатунках. Усе лішкі, падлягаючыя вывазу за межы БССР, павінны накі-
роўвацца ў адрас нашага прадстаўніка у Ленінградзе, а патрэбнае завозу павінна
завозіцца праз Белсельсаюз, для чаго прапанаваць аперацыйнаму аддзелу ўзяць
курс на заключэньне дагавароў на забесьпячэньне ўсей сеці завозным мясам.

3. Устаноўленую ўзаемную інфармацыю прызнаць патрэбнаю, зьвярнуўшы
ўвагу акруговых саюзаў на неабходнасьць своечасовага выкананьня, асабліва інфар-
мацыю с. г. таварыстваў аб становішчы, цэнах і запатрабаваньні рынку.

4. Адзначаючы, што да гэтага часу меліся недарэчнасьці і недахопы па мяса-
загатоўках па прычыне нездавальняючага кіраўніцтва працаю с.-г. таварыстваў і
з-за адсутнічаньня ў акрсельсаюзах спэцыяльных працаўнікоў па мясу, для зьніш-
чэньня гэтага лічыць неабходным прызначэньне ў кожным саюзе загадчыка мяснымі
аперацыямі, абавязкова спэцыялістага, на якога ўскласьці ўсю адказнасьць за мяса-
загатоўкі. Аднчасова зьвярнуць асаблівую ўвагу на кваліфікацыю спэцыялістых
с.-г. таварыстваў і мала вопытных не дапушчаць да працы, ведаючы, што ад ква-
ліфікацыі спэцыялістых залежыць посьпех працы па мясазагатоўках.

5. Прапанаваць усім саюзам будаваць працу выключна арыентуючыся на мяс-
цовы рынак, узяўшы рашучы курс на заключэньне дагавароў на забесьпячэньне
Ваенведу, ЦРК і інш. лічучы вываз, як дадатковы рынак.

6. Меўшыяся выпадкі па галіне с. г. кааперацыі несвоечасовага зварочваньня
ўвагі на недарэчнасьці і памылкі па мясазагатоўках, а таксама несвоечасовыя ад-
казы на запытаньні, як мела месца з запытаньнямі аб розьніцах, аб справаздач-
насьці, аб устаноўленай інфармацыі і інш. Гэта сьведчыць аб незразумеласьці, што
мясцовы рынак патрабуе асаблівай гібкасьці і чуткасьці і неабходнасьці рашучага
адхіленьня недахопаў. без чаго нельга дабіцца добрых вынікаў па мясазагатоўках.
На падставе гэтага зьвярнуць увагу акрсельсаюзаў на вышэйпаказанае і прапана-
ваць прыняць усе крокі да недапушчэньня зазначанага.

7. Адзначаючы атрыманьне с.-г. кааперацыяй нездавальняючых крэдытаў па
мясазагатоўках, што ў сваю чаргу затрымлівае магчымае павялічэньне загатовак,
гэта здаралася па прычыне няпрысылкі акрсельсаюзамі сваіх заявак Белсельсаюзу,
што не давала магчымасьці адстайваньня крэдытаў асобных саюзаў. На падставе
гэтага прапанаваць акрсельсаюзам крэдыты на мясазагатоўкі, пачынаючы з IV квар-
талу 1927-28 г. вылучаць асобнаю графою і своечасова прысылаць Белсельсаюзу.

8. Для зьнішчэньня неабходнасьці дагаварваньня па галіне с.-г. кааперацыі
аб проц. камісіі на кожную партыю жывёлы, пры ўзаемным абслугоўваньні, пры-
знаць неабходным устанаўленьне сталага проц. камісіі і устанавіць камісію ў разь-
меры 5 проц. ад сумы сабекаштоўнасьці, плацімай с.-г. таварыствамі за жывёлу.
Накладныя выдаткі па загатоўцы, як-та: праезд агэнта, гонка і карміленьне жывёлы

прымаюцца па сабекаштоўнасьці, але ня звыш прадзельных норм, устаноўленых Наркамгандлю. Абавязаць акрсельсаюзы пасьля здавальненьня сваіх спажыўцоў па дагаварох, у першую чаргу выконваць нарады Белсельсаюзу і заяўкі па ўзаемным абслугоўваньні.

9. Наглядаюцца выпадкі, калі спэцыялісты с. г. таварыстваў не актыўна прымаюць удзел у барацьбе з недарэчнасьцямі мяснога рынку, а нават адмаўляюцца ад гэтай працы па прычыне сваяцкіх сувязей, а таксама як масцовыя ўраджэнцы. Гэткае становішча лічыць недапушчальным і прапанаваць акрсельсаюзам у месячны тэрмін пераглядзець увесь склад спэцыялістых па с. г. таварыствах і маючых за сабою паказанае, тэрмінова звальняць, а, калі спэцыялісты здольны працаўнік, прызнаць неабходным пераброску ў другі раён, чым будзе зьнішчана паказанае.

10. Значным недахопам у працы па мясазагатоўках с. г. таварыстваў зьяўляецца іх невялікая адносная вага, што ў сваю чаргу павялічвае накладныя выдаткі і не дае магчымасьці своечасовай пагрузкі жывёлы з прычыны няпоўных вагонаў і пры такіх выпадках прыходзіцца трымаць жывёлу па некалькі тыдняў. Прапанаваць акрсельсаюзам у месячны тэрмін вывучыць пытаньне аб магчымасьці арганізацыі пунктаў пагрузак, трыманьні гурту для некалькіх с. г. таварыстваў у адным пункце, а таксама аб вызначэньні агульных шляхоў для гонкі жывёлы і падборы па дарозе жывёлы с.-г. таварыстваў, якія знаходзяцца на шляху гонкі жывёлы, што значна патаніць кошт накладных выдаткаў.

11. Для лепшага і своечасовага выкананьня дагавароў с.-г. каапэрацыі, а таксама для карысьнейшай прадажы сала прызнаць неабходным захаваць права за Белсельсаюзам манэўраваньня запасамі сала, для чаго прапанаваць акрсельсаюзам штомесячна прадстаўляць наяўнасьць сала на першае чысло кожнага месяцу.

12. Адзначаючы, што ад правільнага саправаджэньня, г. зн. кармленьня і пойкі жывёлы пры дастаўцы па чыгунцы, а таксама і гонам у значнай меры залежыць выхад вагі і якасьці жывёлы з вызначэньнем агэнта. Гэтаму пытаньню с. г. каапэрацыяй недастаткова зьвернута увагі тым больш, што ня было патрэбнай сувязі паміж саюзаў, для паляпшэньня гэтага пытаньня прызнаць неабходным стварэньне кантрольных пунктаў з. с. г. таварыстваў і акрсельсаюзаў на шляху праходжаньня вагонаў ці гонам партый жывёлы. Прапанаваць тав. Мацьвееву ўстанавіць пункты і абавязаць акрсельсаюзы, каб яны далі загад праваднікам і пагоншчыкам зьвяртацца ў кантрольныя пункты і паведамляць аб становішчы жывёлы, а кантрольныя пункты абавязаны пэрыодычна аглядаць жывёлу і як аб яўцы, гэтак і аб аглядзе абавязкова рабіць адзнакі ў дакумэнтах аб вывіку агляду.

13. Пры разьліках за дастаўленую жывёлу шмат мелася супярэчнасьцяў па прычыне перавышэньня накладных выдаткаў па загатоўцы жывёлы, што фактычна павялічвала кошт мяса. Акрсельсаюзы, атрымаўшы пастанову Наркомгандлю аб гранічных нормах, не прапрацавалі і не ўстанавілі для кожнага с. г. таварыства норм накладных выдаткаў. На падставе гэтага прапанаваць акрсельсаюзам у месячны тэрмін устанавіць нормы накладных выдаткаў для кожнага с. г. т-ва, ня выходзячы з норм Наркамгандлю і адзін экзэмпляр накіраваць Белсельсаюзу.

14. У большай частцы Беларусі маецца магчымасьць загатоўкі гусей на вываз. Прызнаць неабходным своечасовае вывучэньне і падрыхтоўку гэтага пытаньня акрсельсаюзамі. Адначасова абавязаць тав. Мацьвеева павесьці перамовы з Дзяржгандлем і птушгалоўчым саюзам па пытаньні вывазу гусей і ў канцы ліпеня зрабіць інфармацыю аб становішчы гэтага пытаньня.

15. Мясазагатоўкі с.-г. таварыстваў да сучаснага моманту праводзіліся без паказаньня раёну іх загатоўкі і агэнты с.-г. таварыстваў раз'яжджалі па ўсёй акрузе, вынікам чаго зьявілася канкурэнцыя паміж агэнтамі с. г. таварыстваў і неахоп свайго раёну. На падставе гэтага прапанаваць акрсельсаюзам устанавіць раёны загатовак для кожнага с. г. таварыства, лічыць дапушчальным прымацаваньне раёнаў, у якіх с. г. таварыствы не вядуць мясазагатовак, а таксама дазваляць паездкі на буйныя кірмашы і базары, але з абавязковым паказаньнем, каму і на які, і з абавязковай узгодненасьцю выступленьня з с. г. таварыствам раёну кірмашу ці базару.

16. Да гэтага часу маюцца выпадкі калі с. г. таварыствы прадаюць жывёлу спажыўцам і мясазагатаўцам бяз ведама і дазволу акрсельсаюзаў, а акрсельсаюзы прадаюць у другія акругі і не праводзяць гэтай працы праз акрсельсаюз. Гэткае становішча прызнаць ненармальным і прапанаваць акрсельсаюзам аб'яднаць гэтую працу.

17. Прызнаючы вострую неабходнасьць большага вывучэньня мясной справы, а таксама агульнага азнаямленьня старшынь с. г. таварыстваў, прызнаць неабходным закупку літаратуры па мясной справе. Даручыць тав. Мацьвееву зрабіць адбор і на падставе пастаноў акрсельсаюзаў накіраваць 1 паасобнік.

18. Адсутнасьць добра распрацаванай справаздачнасьці па мясазагатоўках, а таксама інструкцый па складах і наогул для кожнага працаўніка, стварае магчымасьць непаразуменьняў, тым больш, што трэба браць пад увагу малапісьменнасьць спэцыялістых па мясазагатоўках. Для ўстанаўленьня адзіных форм і інструкцый па ўсёй с. г. коопэрацыі прапанаваць праўленьням акрсельсаюзаў у 10-ці дзёны тэрмін скончыць прапрацоўку форм і інструкцый і даслаць Белсельсаюзу, даручыць т. т. Мацьвееву і Слабодкіну на падставе матар'ялаў распрацаваць адзіныя формы і інструкцыі і прадставіць на зацьвярджэньне праўленьня Белсельсаюзу.

19. Для стварэньня лепшых умоў для працы с. г. таварыстваў па мясазага-тоўках прызнаць неабходным устанаўленьне загатоўчых цэн на кожны раён, чым будзе адхілена магчымасьць плацяжоў іншымі загатавіцелямі цэн акруговых гарадоў. Практыкаваўшыяся да гэтага часу згаворкі, што цэны раёнаў павінны быць танней выдаткаў па дастаўцы жывёлы, фактычна давалі магчымасьць пераплат. На падставе гэтага прапанаваць акрсельсаюзам дабіцца ўстанаўленьня цэн для кожнага раёну.

20. Найбольш зацікаўліваючай спэцыяліста формай аплаты лічыць камбініра-ваную форму аплаты, устанаўляючы мінімум зарплаты і загатоўкі, а загатоўка, звыш мінімума павінна аплачвацца процантам ад кошту жывёлы, але для гэтага павінны рабіцца асабістыя ўмовы, дзе таксама паказваецца адказнасьць за якасьць, вагу жы-вёлы, а таксама і выкананьне конвэнцыйных цэн. Прапанаваць акрсельсаюзам у ме-сячны тэрмін распрацаваць гэтае пытаньне і даць належн. ўказаньні с.г. таварыствам.

21. Меўшыяся выпадкі перавышэньня загатоўчых цэн на жывёлу, а таксама неправільныя вызначэньні вагі і якасьці фактычна павялічвалі сабекаштоўнасьць жывёлы і пры продажы прыносілі стратнасьць. Трэба адначасова адзначыць, што ў пунктах прыёму жывёлы несваечасова паведамляліся адправіцелі аб недахопах, а некаторыя акруговыя саюзы не зьвярталі ўвагі на пераплаты, якія відны з доку-мэнтаў, прадстаўляемых с. г. таварыствамі ў акрсельсаюз. Былі таксама выпадкі, калі па ўказаньні недахопаў адправіцелі шукалі вінаватасьці прымаючых жывёлу і ад паказанага ствараліся нездаровыя узаемаадносіны. На падставе гэтага прапана-ваць акрсельсаюзам прыняць рашучыя меры для недапушчэньня паказанага, а так-сама прызнаць неабходным устанаўленьне контролю за адпраўляемай с. г тавары-ствамі жывёлай і праверкі якасьці вагі і цэн як пры адпраўках, гэтак і пры прахадженьні вагонаў з абавязковаю адзнакаю вынікаў праверкі ў докумэнтах,а таксама прысутні-чаньне пры збоі ў мясцох прызначэньня жывёлы спэцыялістых акрсельсаюзаў. Прызнаць дапушчальным для азнаямленьня з умовамі здачы пасылку спэцыялістых с.-г. таварыстваў з жывёлай і здачу гэтакай.

22. Пасылка жывёлы бяз сьпісаў, а таксама накладных не давала магчы-масьці зьверкі якасьці, вагі і цэн і вызав адправіцеляў для прысутнасьці пры за-бое жывёлы, а складаньне актаў аб недахопах вагі і якасьці стварала непаразу-меньні. Прапанаваць акрсельсаюзам даць указаньне с. г. таварыствам, каб даку-мэнты пасылалі абавязкова з правадніком, а ў крайнім выпадку на другі дзень з хуткаю поштаю. Пры буйных недахопах вагі і якасьці тэлеграфна вызываць адпра-віцеля для прысутнічаньня пры забоі жывёлы і ўсе выдаткі па вызаву і паездц адносіць на вінаватую старану.

23. Каштоўныя адхопы, як та: скура, збой, кішкі і інш. складаюць да 25 проц. каштоўнасьці жывёлы. Пагэтаму належная ўвага да здачы скуры, рэалізацыі збою і інш. значна можа патаньніць сабекаштоўнасьць мяса. Гэта пытаньне дагэтуль ня вывучана і ёсьць думка, што на гэтым мы нясем страты.

Зьвярнуць увагу акрсельсаюзаў на неабходнасьць вывучэньня пытаньня аб лепшым скарыстаньні каштоўных адходаў і дачы паказаньняў с. г. таварыствам, якія вядуць забоі жывёлы.

24. С.-г. каапэрацыя мае разгалінаваную сетку с. г. таварystваў і мее поўную магчымасьць узяць на сябе зборку іператопку тэхнічнай тлустасьці.

Даручыць опэрацыйнаму аддзелу паставіць перад Наркамгандлем пытаньне аб перадачы Белсельсаюзу тэхнічнай тлустасьці дзяржаўнымі і каапэрацыйнымі ор-ганізацыямі, а таксама правядзеньне мер да здачы тэхнічнай тлустасьці прыватнымі асобамі.

---

## 5-ы выпуск Беларускага дзярж. каапэрацыйнага тэхнікуму

Гэтымі днямі каалтэхнікум падагуліў свой навучальны год урачы-стым выпускам маладых каапэратараў. Усяго выпушчаны 44 каапэра-тары, з якіх 18 — для сыстэмы сельска-гаспадарчай і 26 — для спажы-вецкай каапэрацыі. Усе 18 каапэратараў, якія прызначаны для сыстэмы с.-г. каапэрацыі, і 20—для спажывецкай разьмяркованы на стаж у вя-сковай нізавой сетцы каапэрацыі і 6—у ЦРК; наогул-жа ўсе 100 проц. забясьпечаны стажам. Частка таварышоў, якія скончылі тэхнікум, зразу ўзята на сталую працу, напрыклад, Віцебскім спажывецкім саюзам.

Настрой выпускнікоў бадзёры, энтузыязм і жаданьне працаваць у каапэрацыі вялікія.

С-кі

---

## Атэстаты выпускнікам каалтэхнікуму

Асобы, якія скончылі Беларускі дзяржаўны каапэрацыйны тэхнікум, для атрыманьня атэстату аб сканчэньні свае адукацыі павінны зьвяртацца ў рэд. «Шляху Каапэрацыі» (Менск, Савецкая вул., 43) або прысылаць у рэдакцыю свой адрас, пасьля чаго атэстаты будуць высланы поштаю.

---

# РЭЗАЛЮЦЫІ І ПАСТАНОВЫ

## III (VIII) ЗЬЕЗДУ ЎПАЎНАВАЖАНЫХ БЕЛАРУСКАГА САЮЗУ КААПЭРАЦЫЙНЫХ СПАЖЫВЕЦКІХ АБ'ЯДНАНЬНЯЎ „БЕЛКААПСАЮЗУ“

(7-12 чэрвеня 1928 года)

# I.

# Па справаздачным дакладзе праўленьня Цэнтрасаюзу

Заслухаўшы справаздачны даклад праўленьня Цэнтрасаюзу, сход упаўнаважаных Белкаапсаюзу канстатуе, што за апошнія два гады праца спажыўкаапэрацыі характарызуецца наступным:

1. Спажыўсыстэма ў галіне абхопу рынку прамтавараў дасягнула значных посьпехаў і сапраўды зрабілася асноўным і галоўным таваправодным каналам на ўнутраным рынку.

2. Сыстэма генумоў з дзяржпрамысловасьцю ў працягу апошніх трох год цалком сябе спраўдзіла, як лепшая форма ўзаемаадносін спажыўкаапэрацыі з дзяржпрамысловасьцю і ўнесла элемэнты пляна-васьці ў справу забесьпячэньня ўнутранага рынку прамтаварамі. Правядзеньне сыстэм генумоў дало магчымасьць спажыўкаапэрацыі ўдзельнічаць у тэй ці іншай меры і ўплываць на вытворчы асартымэнт дзяржпрамысловасьці ў інтарэсах арганізаванага спажыўца. Сыстэма папярэдніх заказаў, якая ўведзена ў канцы 1927-28 гаспадарчага году, зьяўляючыся ўдасканаленай формай разьвіцьця ўзаемаадносін дзяржпрамысловасьці з спажыўкаапэрацыяй, дае спажыўцу магчымасьць праз сыстэму спажыўкаапэрацыі ўплываць на арганізацыю вытворчага асартымэнту дзяржпрамысловасьці.

3. Кампанія па зьніжэньні цэн і адміністрацыйна-праўленчых выдаткаў, якая праведзена сыстэмаю спажыўкаапэрацыі пад кіраўніцтвам партыі і савецкай улады, пры шырокім удзеле прафэсыянальных саюзаў і каапэраваных мас дала значныя вынікі як для самога спажыўца ў сэнсе патаненьня цэн, так і для сыстэмы спажыўкаапэрацыі ў сэнсе патаненьня і рацыяналізацыі яе тавараправоднага апарату. Адным з найбольш значных дасягненьняў спажыўкаапэрацыі зьяўляецца тое палажэньне, што ўзровень зьніжаных цэн быў утрыманы ёю ў пэрыяд наймацнейшай дыспрапорцыі між попытам і прапанаваньнем прамтавараў.

4. Прызнаючы наогул і цалком неабходнасьць і мэтазгоднасьць агульнага рэгуляваньня ўнутранага рынку з боку дзяржавы, сход упаўнаважаных лічыць канечна патрэбным падкрэсьліць, што ў працягу мінулага пэрыяду меў месца шэраг ненармальнасьцяй у галіне рэгуляваньня з боку органаў Наркамгандлю, якія выявіліся ў шэрагу выпадкаў ўжыцьця няправільных мэтадаў і форм, якія паводле свае існасьці часам пераходзілі ў адміністраваньне і ў ігнараваньне з боку органаў Наркамгандлю саюзных зьвеньняў і, нарэшце, у некаторых раёнах у дробнае апякунства над спажыўкаапэрацыяй, што дзякуючы недастатковаму ўліку ўсяе абстаноўкі працы спажыўкаапэрацыі, асабліва з сельска-гаспадарчымі прадуктамі, прыводзіла паасобныя каапэрацыйныя арганізацыі да ўбытковае працы.

5. У галіне арганізацыі фінансовае гаспадаркі спажыўкаапэрацыя за мінулыя два гады таксама дасягнула значных посьпехаў, але рост фінансавае базы сыстэмы адстае ад росту зваротаў і гаспадарчае нагрузкі спажыўкаапэрацыі.

6. Сход упаўнаважаных адзначае дасягненьні спажыўкаапэрацыі ў галіне паскарэньня зваротаў, адноснага скарачэньня таварных астаткаў, сьцісьненьня балянсаў паасобных зьвеньняў за лік ліквідацыі маларухлівых сродкаў

7. У галіне каапэраваньня спажыўкаапэрацыяй праароблена значная праца: за апошнія два з паловаю гады ўцягнута і арганізавана звыш дзесяці мільёнаў новых пайшчыкаў.

8. Тэмп збораў паявога капіталу за апошняе паўгодзьдзе ўзмацніўся, даўшы магчымасьць уцягнуць новыя сродкі ў гандлёвы зварот спажыўкаапэрацыі (збор 50 мільёнаў руб. паявога капіталу за першае паўгодзьдзе 1927-28 гасп. году).

9. У галіне грамадзка-культурнай працы маецца прыкметны зрух у бок узмацненьня элемэнтаў грамадзкасьці ў працы каапэрацыі і ўздыму культурнага ўзроўню арганізаваных пайшчыкаў.

Побач з гэтым сход упаўнаважаных адзначае, што спажыўкаапэрацыя мае шэраг недахопаў у сваёй працы, якія выяўляюцца ў наступным:

1. Гандлёвая праца спажыўсыстэмы пры яе колькасным росьце пастаўлена яшчэ недастаткова рацыянальна і добра ў якасным сэнсе.

2. Недастаткова разгорнута плянавая праца ў паасобных зьвеньнях спажыўкаапэрацыі і слаба арганізаваны ўнутраны рынак.

3. Арганізацыйная пабудова сыстэмы спажыўкаапэрацыі незакончана ва ўсіх яе зьвеньнях, слаба разгорнута ўнутрыкаапэрацыйнае рэгуляваньне і ў недастатковай ступені ўкаранёны элемэнты ўнутракаапэрацыйнае дысцыпліны.

4. У галіне каапэраваньня насельніцтва недахопы выяўляюцца ў слабым каапэраваньні бядняцкіх мас насельніцтва, жанчын-работніц і сялянак, моладзі і ў няпоўным абхопе арганізаваных у прафсаюзы мас.

5. Тэмп прыросту паянакапленьня, хаця і ўзмацніўся за апошняе паўгодзьдзе, тым ня менш зьяўляецца яшчэ недастатковым і не адпавядае тым заданьням, якія пастаўлены перад спажыўкаапэрацыяй у галіне забесьпячэньня пайшчыкаў таварамі пільнейшае патрэбнасьці.

6. Культурна-грамадзка-арганізацыйная праца спажыўкаапэрацыі адстае ад тэмпу росту гаспадарчых дасягненьняў. Культурнаасьветная праца сярод самых пайшчыкаў пастаўлена яшчэ не на належную вышыню, і каапэрацыйныя арганізацыі сыстэмы ня ў дастатковай ступені яшчэ ўсьвядомілі сабе ўсю важнасьць гэтае працы і неабходнасьць яе разгортваньня.

7. Да сучаснага моманту яшчэ ня створаны нармальныя ўмовы для загатоўчае працы спажыўкаапэрацыі, і Цэнтрасаюз недастаткова абараняў захаваньне спажыўсыстэмы, як асноўнага загатоўцы сельскагаспадарчае сыравіны, што прыводзіла да цэлага шэрагу непаразуменьняў на мясцох у самы гарачы час загатоўчае кампаніі. Сход упаўнаважаных адзначае слабае кіраўніцтва з боку Цэнтрасаюзу загатоўкаю сельска-гаспадарчае сыравіны і прадуктаў другараднага экспарту. Замежныя канторы Цэнтрасаюзу ня ў дастатковай ступені вывучылі рынкі экспартнае сыравіны, а таксама слаба інфармавалі сыстэму Белкаапсаюзу аб рынкавай кан'юнктуры.

У далейшай працы спажыўкаапэрацыі сход упаўнаважаных лічыць неабходным зьвярнуць увагу праўленьня Цэнтрасаюзу на наступныя асноўныя моманты працы спажыўкаапэрацыі:

1. Неабходна разьвіваць у далейшым практыку гендагавораў і папярэдніх заказаў усімі магчымымі спосабамі, абстойваючы і пашыраючы пазыцыі спажыўкаапэрацыі ў большым абхваце прадукцыі дзяржпрамысловасьці і адначасова дабіваючыся паляпшэньня ўмоў разрахунку і тэрмінаў крэдыту, якія даюцца дзяржпрамысловасьцю спажыўкаапэрацыі на аснове ўліку фінансавых магчымасьцяй сыстэмы.

Сход упаўнаважаных катэгарычна адхіляе прапановы дзяржпрамысловасьці аб дэцэнтралізацыі разрахункаў і дэцэнтралізацыі заказаў, бо ўвядзеньне ў тэй або іншай ступені гэтае практыкі можа дэзарганізаваць наладжанае плянавае забесьпячэньне сыстэмаю спажыўкаапэрацыі арганізаваных пайшчыкаў. Разам з тым сход упаўнаважаных даручае праўленьню Цэнтрасаюзу дабівацца максымальнага спрашчэньня тэхнікі разрахункаў і дакумэнтазвароту як з прамысьловасьцю, так і ўнутры сыстэмы.

2. Побач з дзяржаўным рэгуляваньнем сход упаўнаважаных лічыць неабходным узмацненьне ўнутрыкаапэрацыйнага рэгуляваньня шляхам наданьня саюзнаму зьвяну і цэнтру спажыўсыстэмы большых правоў у галіне разьмеркаваньня тавараў за лік зжываньня няправільных мэтадаў і форм рэгуляваньня, а таксама дробнага апякунства з боку органаў Наркамгандлю.

3. Сход упаўнаважаных даручае праўленьню Цэнтрасаюзу дабівацца забесьпячэньня нармальных умоў ў загатоўчай працы спажыўсыстэмы, выходзячы з яе арганізацыйных і гаспадарчых магчымасьцяй і ўзмацніць кіраўніцтва ўсёй загатоўчай працаю, зьвярнуўшы ўвагу на паляпшэньне пастаноўкі працы як цэнтральнага апарату Цэнтрасаюзу, гэтак і замежных кантор у справе загатоўкі другарадных прадуктаў і забесьпячэньня для іх рынкаў збыту, а таксама на інструктаваньнэ пэрыфэрыі па гэтых пытаньнях.

4. Лічачы, што ўзмацненьне фінансавае базы спажыўкаапэрацыі зьяўляецца ключом да вырашэньня асноўных праблем сыстэмы (пашырэньне сеткі, крамнае і складзкае будаўніцтва, абхоп рынку сельскагаспадарчых прадуктаў і інш.), сход упаўнаважаных даручае праўленьню Цэнтрасаюзу распрацаваць пытаньне аб неабходнасьці канцэнтрацыі фінансавых рэзэрваў і капіталаў і кіраваньні імі ў вышэйшых каапэрацыйных арганізацыях. З гэтаю-ж мэтаю сход упаўнаважаных зьвяртае ўвагу сыстэмы Белкаапсаюзу на неабходнасьць узмацненьня збору паёў, разьвіцьця ўкладных апэрацый, ліквідацыі нярухомых каштоўнасьцяй і ўсіх іншых мерапрыемстваў, якія спрыяюць узмацненьню фінансавае гаспадаркі сыстэмы.

Сход упаўнаважаных даручае праўленьню Цэнтрасаюзу дабіцца юрыдычнага афармленьня палажэньня аб укладных апэрацыях і распрацаваць шэраг практычных мерапрыемстваў для іх разьвіцьця.

5. Надаючы вялізнае значэньне пытаньням пасьпяховага каапэраваньня насельніцтва, сход упаўнаважаных лічыць неабходным асабліва завайстрыць увагу сыстэмы на пытаньнях каапэраваньня беднаты і батрацтва, уцягненьня жанчын і моладзі, а таксама іншых членаў сям'і. Сход упаўнаважаных даручае праўленьню Цэнтрасаюзу прапрацаваць пытаньне аб неабходнасьці ўвядзеньня дыфэрэнцаванага паю як у рабочым, так і ў вясковым сэктары, унесшы гэта пытаньне на абмеркаваньне бліжэйшага сходу ўпаўнаважаных Цэнтрасаюзу. Неабходна таксама паставіць пытаньне аб дыфэрэнцыяцыі абслугоўваньня сыстэмы, зьвяртаючы асаблівую ўвагу на найбольш поўнае абслугоўваньне маламоцных і бядняцкіх сялянскіх гаспадарак.

6. Сход упаўнаважаных асабліва падкрэсьлівае неабходнасьць разгортваньня культурна-асьветнае працы сярод членаў-пайшчыкаў, рацыянальна выкарыстоўваючы ўсе сродкі, якія маюцца для культурна-асьветных мэт; адначасова з гэтым сход упаўнаважаных зьвяртае ўвагу Цэнтрасаюзу на неабходнасьць узмацненьня падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі працаўнікоў спажыўкаапэрацыі, такім чынам вырашыўшы пытаньне аб кадрах кваліфікаваных працаўнікоў сыстэмы. Побач з гэтым сход упаўнаважаных лічыць неабходным узмацніць з боку Цэнтрасаюзу кіраўніцтва ў адносінах працы з радыё, кіно і ў адносінах гандлю кніжкамі, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на забесьпячэньне спажыўсыстэмы гэтымі таварамі, а таксама на выданьне кніжак па каапэрацыі на мовах нацыянальных меншасьцяй.

7. Сход упаўнаважаных зьвяртае ўвагу праўленьня Цэнтрасаюзу на неабходнасьць паляпшэньня пастаноўкі кіраўнічага пэрыядычнага друку спажыўсыстэмы, а таксама і на свачасовае высьвятленьне пытаньняў працы спажыўкаапэрацыі ў партыйнай і савецкай прэсе.

8. Сход упаўнаважаных даручае праўленьню Цэнтрасаюзу палепшыць пастаноўку вучоту каапэрацыйнага актыву і правільнага выкарыстаньня каапэрацыйных працаўнікоў, зьвяртаючы ўвагу на іх прасоўваньне і вылучэньне працаўнікоў з нізоўкі.

9. Улічваючы, што пастанова праўленьня Цэнтрасаюзу аб узаемаадносінах з транспартнай каапэрацыяй ня ў поўнай меры ўрэгулявала іх ўзаемаадносіны з іншымі сэктарамі сыстэмы ў выніку таго, што ільготны тарыф, які атрымлівае транспартная каапэрацыя, у пераважнай сваёй частцы адбіваецца на цэнаўтварэньні грамозных тавараў, як соль, цукер і мука, значна паніжаючы іх адпускную цану для транспартнае каапэрацыі, сход упаўнаважаных лічыць, што для поўнага ўрэгуляваньня пытаньня і выжыцьця канкурэнцыі між транспартнымі спажывецкімі т-вамі і іншымі сэктарамі сыстэмы неабходна, каб такія тавары, як цукар, соль і мука, адпускаліся толькі членам пайшчыкам транспартных спажывецкіх т-ваў, у сувязі з чым даручае праўленьню Цэнтрасаюзу прапрацаваць гэтае пытаньне і зьмяніць сваю пастанову згодна з пастановаю сходу ўпаўнаважаных Белкаапсаюзу.

10 Лічачы, што спажыўкаапэрацыя можа выканаць ускладзеныя на яе задачы толькі пры дапамозе ўсіх арганізаваных ёю пайшчыкаў, сход упаўнаважаных падкрэсьлівае неабходнасьць разгортваньня грамадзка-арганізацыйнае працы спажыўкаапэрацыі, уцягваючы ўсіх пайшчыкаў у штодзённую практычную працу каапэрацыйных арганізацый.

---

II

# Па справаздачах праўленьня БКП, прэзыдыуму Белрабсэкцыі і рэвізыйнай камісіі

1. Сход упаўнаважных канстантуе, што мінулы 1926-27 гасп. год і першая палова 1927-28 гасп. году для спажыўкаапэрацыі БССР зьявіліся гадамі ўпартай і настойлівай працы за колькасны рост гаспадарчай і арганізацыйнай працы каапэрацыі і ў асаблівасьці за паляпшэньне якасьці гэтае працы.

2. Грамадзкая абстаноўка, у якой працякала праца спажыўсыстэмы, характарызуецца вялізным ростам увагі да яе партыйнай, прафэсыянальнай і савецкай грамадзкасьці, з аднаго боку, і столькі-ж значным ростам увагі зацікаўленнасьці ў працы спажыўкаапэрацыі з боку шырокіх слаёў рабоча-сялянскіх мас насельніцтва, уцягнутых у каапэрацыю. Гэта акалічнасьць дазваляла спажыўсыстэме дабівацца вялізных посьпехаў у справе разгортваньня яе гаспадарчай і арганізацыйнай працы.

3. Абстаноўка гандлёва-эканамічная, нараўне з адмоўнымі для спажыўкаапэрацыі зьявішчамі (наяўнасьць таварнага голаду, пагаршэньне ўмоў разрахункаў з прамысловасьцю і інш.), у выніку шэрагу ўрадавых мерапрыемстваў фінансава-эканамічнага парадку (рэгуляваньне ўзаемаадносін з дзяржгандлем і прамысловасьцю, плянавы завоз тавараў і інш.) і ўсё большага росту значэньня ролі гендагавароў, як асноўнай формы ўзаемаадносін з прамысловасьцю, таксама садзейнічала асноўным посьпехам спажыўсыстэмы ў справе росту яе адноснай вагі ў агульным таваразвароце краіны.

4. Сход упаўнаважных адзначае наступныя асноўныя посьпехі спажыўсытэмы ў справе яе гаспадарчай і арганізацыйнай працы:

а) рост гандлёвых зваротаў усяе сыстэмы, які выказаўся ў 1926-27 гасп. годзе ў суме 203,0 міл. рублёў супроць 160,8 міл. руб. 1925-26 г., ці на 26,2 проц.; адпаведна з ростам зваротаў рост

адноснай вагі спажыўкаапэрацыі на рынку да 36,0 проц. супроць 32,6 проц. 1925-26 гасп. году; столькі-ж шпаркі рост зваротаў за першаю палову 1927-28 г., які выказаўся паводле папярэдніх даных ў ў суме 128,5 м. руб., ці 50 проц. выкананьня кантрольных лічбаў гадовага гандлёвага пляну сыстэмы. Асабліва належыць адзначыць рост працы сыстэмы па забесьпячэньні гарадзкіх і сельскіх мясцовасьцяй хлебапрадуктамі, які выразіўся ў 1926-27 г. у 7 міл. 309 тыс. супроць 3 міл. 367 тыс. 1925-26 г. (бяз Гомеля) і ў 9 міл. 47 тыс. у першай палове бягучага гаспадарчага году;

б) поўнае выкананьне партыйнай і ўрадавай дырэктывы аб 10-проц. зьніжэньні цэн і правядзеньне шэрагу мерапрыемстваў, якія дапамагаюць пасьпяховаму выкананьню гэтае дырэктывы (узбуйненьне райсаюзаў і г. д.), прасоўваньне працы па далейшым зьніжэньні цэн у бягучым гаспадарчым годзе, якое выразілася ў агульным выніку зьніжэньня на 1 сакавіка 1928 г. па сельскай сетцы на 12,75 проц. і па рабочай—на 12,12 проц.;

в) выкананьне за 1926-27 г. дырэктывы ўраду аб 15-проц. скарачэньні адміністрацыйна - гаспадарчых выдаткаў супроць выдаткаў 1925-26 г.;

г) амаль поўны пераход Белкаапсаюзу на транзытныя апэрацыі ў сваёй працы з райсаюзамі і ЦРК і некаторы рост павялічэньня транзытаў з боку райсаюзаў у нізавую сетцу;

д) разам з рацыяналізацыяй і узбуйненьнем нізавой сельскай і рабочай сеткі—вялікі рост гандлёвых прадпрыемстваў гэтай сеткі, які вырашае сабою значнае выкананьне дырэктывы аб набліжэньні тавару да спажыўца: лік гандлёвых прадпрыемстваў рабочай каапэрацыі складаў на I/X-26 г. 377, на I/X-27 г.—417. Адпаведна па сельскай сетцы ў 25-26 г. было 1.766 крам, у 1926-27 г.—1.832;

е) разгорнутая роўналежна з гаспадарчай праца па каапэраваньні насельніцтва і збору паёў уцягнула ў каапэрацыю новыя масы рабочых і сялян; вынікі каапэраваньня за 26-27 гасп. год супроць 25-26 г. далі рост пайшчыкаў: па рабочай сетцы—з 90.503 чал. у 25-26 г. да 115.439 чал. у 26-27 г., з адначасовым ростам сярэдняаплачанага паю з 4 р. 26 к. у 25-26 г. да 5 р. 90 коп. у 26-27 г.; па сельскай сетцы—з 294.025 чал. у 25-26 г. да 378.187 чал. у 26-27 г. і ростам паю з 2 р. 13 к. у 25-26 г. да 2 р. 73 к. у 26-27 г. Пастаўленая ў цэнтры ўвагі з студзеня месяца бягучага году задача каапэраваньня насельніцтва і збору паёў дала значныя вынікі, якія выразіліся ў росьце ліку пайшчыкаў за першае паўгодзьдзе 27-28 гасп. году на 75.864 чал. і ў зборы паёў у суме 1 міл. 185 тыс. руб. па сельскай сетцы і 24.000 пайшчыкаў і 370,0 тыс. руб. паёў па рабочай каапэрацыі, што складае на I/IV-28 г. 63,4 проц. выкананьня пляну кантрольных лічбаў 27-28 г. па каапэраваньні сельскага насельніцтва і 114,7% рабочага насельніцтва, 110,7 проц. выкананьня кантрольных лічбаў збору паёў па селькай сетці і 80,9 проц. па сетцы ЦРК;

ж) аднačасова з ростам агульнага каапэраваньня насельніцтва значна ўзрасло каапэраваньне беднаты за кошт стварэньня фондаў. Гэта каапэраваньне выражаецца ў 25-26 г. у 29.293 чал., у 26-27 г. у 39.918 чал. і ў 1-м паўгодзьдзі 1927-28 г. (арыентыравальна)—у 11.000 чал.

5 Сход упаўнаважных адзначае, што гэтыя посьпехі ў працы спажыўкаапэрацыі, разам з дапамогай, якая аказвалася ёй з боку партыйных і савецкіх арганізацый зьяўляюцца вынікам узмацненьня працы і росту аўтарытэту як самога БКС, так і ўсяе сыстэмы, ростам унутры гаспадарчых сувязей паміж асобнымі зьвеньнямі сыстэмы, ростам і ўзмацненьнем плянавага пачатку ў працы каапэрацыі.

6. Разам з гэтымі асноўнымі посьпехамі сход упаўнаважных адзначае шэраг цяжкасьцяй, якія мелі месца ў працы спажыўкаапэрацыі і не дазволілі ёй яшчэ больш разьвіваць і паляпшаць рост і якасьць сваё працы. Асноўнымі з гэтых цяжкасьцяй зьяўляюцца:

а) грашовая напруджанасьць як БКС, так і райсаюзаў і шэрагу ЦРК. Асноваю напруджанасьці зьявіліся: скарачэньне накапленьняў у выніку зьніжэньня цэн, пагаршэньне ўмоў разрахункаў з прамысловасьцю па генумовах і скарачэньне бюджэтных асыгнаваньняў ураду і ўкладаньня значных сродкаў у будаўніцтва па пашырэньні сеткі крам;

б) недаацэнка ролі спажыўкаапэрацыі, як загатоўцы, шляхам скарачэньня яе ўдзельнай вагі ў загатоўках і нават поўнага зьняцьця з рынку некаторых відаў сыравіны (лён, пшаніца і інш.), у выніку чаго ў цэлым шэрагу райсаюзаў зьявіліся ліквідатарскія тэндэнцыі ў адносінах загатовак; нізоўка-ж непасрэдна зьвязвалася з дзяржзагатоўцамі, працавала без належнага кіраўніцтва і пляну;

в) лішняе пераадміністраваньне з боку органаў НКГандлю на мясцох, якое часта пераходзіла ў дробнае апякунства і ўмешаньне ў працу каапэрацыі, што зьніжала ўнутрыкаапэрацыйную дысцыпліну і аўтарытэт вышэй стаячых зьвеньняў;

г) усё-ж яшчэ недастаткова здавальняючае выкананьне генумоў з боку прамысловасьці і пастаўшчыкоў хлебапрадуктаў, якое выразілася ў няпоўным выкананьні прынятных заказаў і ў несваечасовай адгрузцы тавараў, ускладненым дакумэнтазвароце (несваечасовая высылка рахункаў, дублікатаў і інш.);

д) вытворчы асартымэнт усё яшчэ не зжыты па цэлым шэрагу тавараў, які ў выніку прыводзіць да стварэньня на складах сыстэмы лішкавых запасаў некаторых груп тавараў і пагоршае і без таго напруджанае грашовае становішча сыстэмы;

е) вялікае неўпарадкаваньне складскае гаспадаркі райсаюзаў і ЦРК, якое вядзе да лішкавых страт па лініі перавозак і належнага захаваньня тавараў.

7. Адначасова лічыць неабходным адзначыць, што ў працэсе працы за мінулы час з боку сыстэмы быў выяўлены цэлы шэраг недахопаў, і недаглядаў, якія перашкаджалі лепшай пастаноўцы працы спажыўкаапэрацыі.

Асноўнымі з гэтых недахопаў і недаглядаў былі:

а) недастаткова разгорнутая арганізацыйна-асьветная праца сыстэмы, вынікам чаго зьявіўся павольны тэмп каапэраваньня насельніцтва і зусім недастатковы тэмп збору паёў як у 1926-27 г., так і ў 1 кварт. бягучага гаспадарчага году;

б) недастаткова гнуткая праца па рацыяналізацыі мэтадаў працы і перабудоўцы свайго апарату ў бок патаненьня ў сувязі з зьніжэньнем цэн, у выніку чаго як цэлы шэраг саюзных арганізацый, так і першастковых каапэратываў скончыў год без прыбытку і нават са стратай;

в) няпоўнаеяшчэ выкананьне як БКС, так і шэрагам арганізацый дырэктыў ураду аб 20-проц. зьніжэньні адмін-гаспадарчых выдаткаў у бягучым 1927-28 гасп. г.;

г) адсталасьць бухгалтэрыі БКС, якая часта прыводзіць да затрыманьня рахункаў з пэрыфэрыяй і затрудняе яе працу;

д) недастатковая ўзаемная інфармацыя сыстэмы паміж сабою слабая камэрцыйная інфармацыя з боку інагародных кантор БКС;

е) павольны рост транзытных апэрацый з боку райсаюзаў і нізоўкі і нерашучае вышуканьне спосабаў, якія могуць яго узмацніць.

ж) слабая дысцыплінаванасьць цэлага шэрагу арганізацый у справе выкананьня прыйманых на сябе абавязкаў і выкананьня дырэктыў вышэй стаячых каапэрацыйных зьвеньняў і дзяржаўных органаў.

з) слабае ўцягненьне ў пайшчыкі і практычную працу каапэрацыі моладзі як з боку каапэрацыйных, так і з боку камсамольскіх арганізацый, у выніку чаго зьнізіўся проц. моладзі ў складзе пайшчыкаў і кіруючых органаў.

Адзначаючы ўсе вышэйадзначаныя перашкоды і недахопы ў працы спажыўкаапэрацыі, сход упаўнаважных пастанаўляе:

### Па арганізацыйнай лініі

а) абавязаць усю сыстэму няўхільна прадаўжаць з інтэнсыўнасьцю разгорнутую ў 2 квартале працу па каапэраваньні насельніцтва і па збору паёў з такім разрахункам, каб забясьпечыць да 1 кастрычніка 1928-29 г. поўнае выкананьне кантрольных лічбаў па каапэраваньні насельніцтва і збору сярэдня-аплачанага паю па сельскай сетцы у разьмеры 6 р. 25 к., а ў акругах, дзе гэты пай ужо дасягнуў гэтай цыфры да кантрольнай цыфры па данай акрузе, і па рабочай сетцы—у разьмеры 11 р. 15 к., за выключэньнем ільготных груп пайшчыкаў. Забясьпечыць поўную рэалізацыю наяўнага фонду каапэраваньня беднаты не пазьней 1 месяца. Правесьці адлічэньні авансаў у ФКБ з прыбыткаў за 1 паўгодзьдзе 1927-28 г. і да 1/X-28 г.; скарыстаць гэтыя адлічэньні;

б) улічваючы вялікі рост каапэрацыйнага актыву, які ўцягвае ў свае шэрагі ўсё новыя і новыя масы рабоча-сялянскага насельніцтва, ўхваліць і зацьвердзіць мерапрыемства БКСаюза па падрыхтоўцы гэтага актыву да практычнай каапэрацыйнай працы шляхам арганізацыі ў працягу летняга пэрыяду часу цэлага шэрагу курсаў; асаблівая ўвага ў працы з каапэрацыйным актывам павінна быць зьвернута на ўцягненьне яго ў практычную працу ў нізавой сельскай сетцы і рабочых каапэратывах. Улічваючы яшчэ слабы ўдзел у працы каапэрацыйнага актыву жанчын і моладзі, лічыць неабходным зьвярнуць асаблівую ўвагу на ўцягненьне ў практычную працу каапэрацыі гэтых груп насельніцтва. Адзначыць, што на каапэраваньне моладзі, на ўцягненьне яе ў практычную працу каапэрацыі не зьвярталася ўвага як з боку спажыўсыстэмы, так і з боку камсамольскіх арганізацый.

### Па лініі гаспадарчай працы

в) у мэтах далейшага разгортваньня гандлёвых зваротаў сыстэмы, даручыць праўленьню БКСаюза і Белрабсэкцыі прадаўжаць далейшы ахоп асобных таварных груп у сыстэму гендагавароў, зьвярнуўшы сур'езную ўвагу на пашырэньне і разгортваньне ўзаемаадносін з мясцовай прамысловасьцю;

г) улічваючы, што менш за ўсё належнай часткай гандлёвай працы сыстэмы зьяўляецца яе праца па лініі сельска-гаспадарчых тавараў, лічыць неабходным прадаўжаць інтэнсыўнае разгортваньне працы сыстэмы з мясам і сельска-гаспадарчымі прадуктамі. Асаблівая ўвага па гэтай лініі працы павінна быць зьвернута рабочай каапэрацыяй.

Даручыць праўленьню БКС і БРС распрацаваць у месячны тэрмін парадак, які-б забясьпечваў рабочую каапэрацыю гэтымі відамі прадуктаў, улічваючы мэтазгоднасьць непасрэднай сувязі ЦРК с нізавой спажыўсеткаю;

д) абавязаць райсоюзы на працягу бліжэйшых месяцаў забясьпечыць пашырэньне працы па транзытным завозу тавараў у нізавую сетку, мкнучыся абхапіць яе ўсімі групамі грамозных тавараў у першую чаргу.

Даручыць праўленьню БКС пры заключэньні гендагавароў прадуглядзець памяншэньне разьмераў адпраўленых партый тавараў і іх асартыроўкі ў мэтах пашырэньня транзыту;

е) улічваючы вялікае значэньне для спажыўкаапэрацыі яе загатоўчае працы, сход упаўнаважаных даручае праўленьню БКС усямерна дабівацца перад дзяржаўнымі органамі павялічэньня ролі спажыўкаапэрацыі ў справе загатовак і у прыватнасьці загатовак на экспарт. Адначасова сход абязвае ўсе райсаюзы і ўсю нізавую сетку забясьпечыць нармальнае кіраўніцтва і разгортваньне загатоўчае працы ў межах пляну загатовак, ускладзеных на спажыўкаапэрацыю.

ж) вялікі рост гандлёва-загатоўчае працы спажыўкаапэрацыі, неабходнасьць далейшага патаненьня пасярэдніцкіх паслуг у гэтай працы ва ўсёй вострасьці ставяць перад спажыўсыстэмай пытаньне аб рацыянальнай пабудове свае складзкае і крамнае гаспадаркі;

Улічваючы, што праца па рацыяналізацыі пабудовы складаў і магазынаў сыстэмы патрабуе ўкладаньня вялікіх сродкаў, даручыць праўленьню БКС паставіць перад дзяржаўнымі арганізацыямі пытаньне аб аказзаньні дапамогі спажыўсыстэме ў гэтай справе шляхам адкрыцьця спэцыяльных доўгатэрміновых крэдытаў на будаўніцтва.

Пляны будаўніцтва па нізоўцы павінны загадзя зацьвярджацца акруговымі саюзамі.

Пляны будаўніцтва каапэрацыі павінны ўключаюцца ў плян акруговага будаўніцтва. Даручыць Праўленьню БКС дабівацца асыгнаваньня на гэта сродкаў па бюджэце.

Адзначаючы, што будаўніцтва сыстэмы ідзе без усялякага кіраўніцтва і пляну як у разьмеры гэтай працы, так і ў тыпах будоўлі, абавязаць праўленьне БКС узяць на сябе кіраўніцтва гэтаю працаю ў справе азначэньня маштабу працы і аднатыпнага яе пабудаваньня.

Улічваючы, што арэндная практыка камгасаў складаецца з сыстэматычнага павышэньня арэндных ставак, адзначаючыся па розных гарадох надзвычайнай пярэстасьцю, сход упаўнаважаных даручае праўленьню БКС дабіцца ў законадаўчым парадку цьвёрдых норм на арэндныя памяшканьні і першачарговага іх атрыманьня без аддачы з таргоў.

Улічваючы працу каапэрацыі па с.-г. прадуктах, якая разгортваецца, лічыць неабходным забясьпечыць спаж. каапэрацыю месцамі хаваньня гэтых тавараў (халадзільнікамі і г. д.);

з) надзвычайная напруджанасьць грашовага становішча цэлага шэрагу арганізацый спажыўсыстэмы ставяць пад пагрозу магчымасьць далейшага нармальнага разгортваньня гаспадарчай працы сыстэмы ў межах, назначаных кантрольнымі лічбамі.

У мэтах забесьпячэньня фінансавай сталасьці спажыўкаапэрацыі Беларусі і для забесьпячэньня магчымасьцяй нармальнага разьвіцьця працы, сход упаўнаважаных лічыць неабходным правесьці наступныя мерапрыемствы:

1. Прадаўжаць неаслабным тэмпам працу па зьбіраньні паявога капіталу ад насельніцтва, лічачы гэта адным з важнейшых мерапрыемстваў паляпшэньня фінансавага становішча сыстэмы. Усямерна дабівацца ў гэтых адносінах поўнага і своечасовага выкананьня кантрольных лічбаў. Разам з гэтым праводзіць рэгулярныя ўнутры сыстэмныя разрахункі па ўнясеньні паёў у спажыўсаюзы і БКС.

2. Разам з зборам паёў накіроўваць узмоцненую ўвагу на прыцягненьне сродкаў ад насельніцтва ў выглядзе ўкладаў. У гэтых мэтах прапанаваць праўленьню БКС паставіць у законадаўчых органах рэспублікі пытаньне аб распаўсюджаньні на спажыўкаапэрацыю

укладных апэрацый усіх існуючых у крэдытнай каапэрацыі і дзяржаўных касах ашчаднасьці правіл прыёму, хаваньня і выдачы ўкладаў.

3. Дабіцца забесьпячэньня ўсіх зьвеньняў сыстэмы нормамі намнажэньняў, устаноўленымі СПА, для чаго лічыць неабходным прывесьці нормы накладаньня на асобныя тавары ў адпаведнасьці з сярэднімі нормамі накладаньня. Даручыць праўленьню БКС паставіць гэта пытаньне перад урадавымі ўстановамі.

4. Усім арганізацыям спажыўсыстэмы неабходна накіраваць узмоцненую ўвагу да давядзеньня ўзроўню выдаткаў да ўстаноўленых норм, забясьпечыўшы пры гэтым поўнае правядзеньне 20-проц. скарачэньня адмін. кіраўнічых выдаткаў. Пры немагчымасьці поўнага скарачэньня арганізацыі спажыўсыстэмы павінны ўзгадняць гэтае пытаньне з органамі НК РСІ.

5. Усім арганізацыям зьвярнуць увагу на ліквідацыю ненармальнавысокае дэбіторскае запазычанасьці, на давядзеньне таварных запасаў да нармальных разьмераў і на рэалізацыю таварнае залежы, якая часам назіраецца ў некаторых мясцох.

6. Падцьвердзіць пастанову праўленьня БКС ад 7 сакавіка г. г. аб разьмерах і спосабах стварэньня, на падставе пастановы СНК Саюзу ад 20 лютага-28 г., фонду доўгатэрміновага крэдытаваньня спажыўкаапэрацыі шляхам адлічэньняў з прыбыткаў усіх арганізацый спажыўсыстэмы за 26-27 і 25-26 гады. Абавязаць спажыўсаюзы і ЦРК учыніць тэрмінова з ФДК Беларускага Аддзяленьня Ўсекабанку поўны разрахунак па сваіх адлічэньнях. Абавязаць спажыўсаюзы неадкладна прыступіць да збору 10 проц. адлічэньняў у ФДК ад спажыўтаварыстваў і скончыць гэту працу не пазьней 1-га жніўня г. г. прапанаваць спажыўсаюзам устанавіць і прадставіць на зацьверджаньне Праўленьня БКС сьпісак с/т., якія павінны рабіць адлічэньні з прыбыткаў у ФДК. Прапанаваць праўленьню БКС мець нагляд за выкананьнем гэтае пастановы.

7. Усім арганізаціям праводзіць строгую плянавасьць ва ўсіх галінах працы і ў прыватнасьці ў галіне вядзеньня фінансавае гаспадаркі. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на своечасовае складаньне і поўнасьць фінансава-крэдытных плянаў, дзе павінны дакладна паказвацца патрэбныя банкаўскія сродкі, у тым ліку і на пакрыцьце астаткаў тавараў, якія бранююцца НКГандлем.

Даручыць Праўленьню БКСаюзу мець нагляд за выкананьнем гэтага пастанаўленьня. Улічваючы цэлы шэраг недарэчнасьцяў у ўзаемаадносінах з Беларускім Аддзяленьнем Усекабанку, даручыць праўленьню БКС урэгуляваць гэтыя пытаньні.

8. Улічваючы вялікую складанасьць сучаснае сыстэмы дакумэнтазвароту, якая перашкаджае нармальнаму ходу гандлёвай працы сыстэмы ў межах назначаных плянаў, даручыць Праўленьню БКСаюзу дабівацца скарачэньня і спрашчэньня сучаснае сыстэмы дакумэнтазвароту і разрахункаў. Адначасова ўжыць рашучыя меры да ўпарадкаваньня бухгальтэрыі БКС.

У мэтах забесьпячэньня нармальных узаемаадносін з органамі НКГандлю, даручыць праўленьню БКС распрацаваць і ўнесьці ў урадавыя органы шэраг мерапрыемстваў, якія маюць удакладніць гэтыя ўзаемаадносіны і якія могуць забясьпечыць значэньне кіраўнічае ролі вышэйшых каапэрацыйных зьвеньняў над ніжэйшымі.

Значэньне працы спажыўкаапэрацыі ў справе правільнага яе ста новішча ў пабудове таваразвароту рэспублікі, якое ўсё больш і больш узрастае, абавязвае ўсе каапэрацыйныя арганізацыі адносіцца з максымальнай адказнасьцю да прыйманых на сябе абавязкаў і да своечасовага выкананьня дырэктыў вышэйшых органаў, абавязвае ўсе

каапэрацыйныя арганізацыі поўнасьцю і без агаворак забясьпечыць усе пытаньні, зьвязаныя з выкананьнем гэтых задач, што стаяць перад спажыўкаапэрацыяй.

10. Сход упаўнаважаных лічыць дзейнасьць праўленьня Белкаапсаюзу, прэзыдыуму Белрабсэкцыі і рэўкамісіі здавальняючай.

Прадстаўленую на зацьвярджэньне грашовую справаздачу і заключальны балянс на 1 кастрычніка 1927 г. зацьвердзіць.

Чысты прыбытак за 1926-27 г. (за выключэньнем з яго сумы, якая патрэбна для выплаты падаходнага падатку), усяго ў суме 106.224 р. 91 к., разьмеркаваць наступным парадкам:

| | | |
|---|---|---|
| Фонд каапэраваньня беднаты | 10 проц. | —10622 р. |
| „ доўгатэрміновага крэдытаваньня каапэрацыі | 10 „ | —10622 „ |
| „ паляпшэньня быту служачых | 10 „ | —10622 „ |
| На культурна-асьветную працу | 16 „ | —16922 „ |
| Фонд на пабудаваньне самалёту імя Беларуск. каапэрацыі | 6½ „ | — 5000 „ |
| Запасны капітал | 10 „ | —10622 „ |

Астатнія 46.334 р. у асноўны капітал.

---

## III.

# „Аб чарговых задачах арганізацыйнае і культурнае працы спажыўкаапэрацыі БССР“

1. Арганізацыйная і культурная праца спажыўкаапэрацыі БССР, хоць і ўзрасла ў сваім значэньні і сваім маштабе, але прадаўжае адставаць ад росту гаспадарчых дасягненьняў сыстэмы. Такое становішча арганізацыйнае і культурнае працы тлумачыцца, галоўным чынам, тым, што каапэрацыйныя арганізацыі завяршалі пэрыод утварэньня першапачатковай гаспадарчай і грашовай падставы для сваёй працы, калі іх увага і сілы амаль што цалком паглыналіся працэсам бурнага гаспадарчага росту каапэрацыі і імкненьнем заваяваць на рынку палажэньне асноўнага тавара-правадзячага апарату.

2. Разьвіцьцё і ўзмацненьне арганізацыйнае і культурнае працы патрабуюць да сябе з усёй настойлівасьцю яшчэ большай увагі і сіл у адпаведнасьці з агромністым павялічэньнем народна-гаспадарчай ролі спажывецкай каапэрацыі і неабходнасьцю вырашэньня насьпеўшых задач першараднай важнасьці—павышэньня якасьці каапэраваньня, разьвіцьця каапэрацыйнай грамадзкасьці і культурна-бытавой працы каапэрацыі.

3. Галоўнейшыя напрамкі арганізацыйнае і культурнае працы на наступны пэрыод павінны вызначацца, выходзячы з наступных асноўных задач спажыўсыстэмы ў цэлым;

а) усё большае разьвіцьцё спажыўкаапэрацыі, як грамадзка-масавай і культурнай арганізацыі, і ўзмацьненьне арганізацыйных і матар'яльных сувязей і ўзаемнай зацікаўленасьці пайшчыкаў з каапэрацыяй;

б) далейшае павышэньне адноснай вагі спажыўсыстэмы ў таваразавароце краю і павышэньне ролі спажыўкаапэрацыі ў бюджэце працоўных;

в) скарачэньне выдаткаў гандлю і паляпшэньне абслугоўваньня спажыўцоў: рацыяналізацыя будаўніцтва, мэтадаў і тэхнікі працы каапэрацыйнага апарату;

г) пашырэньне ўласнай грашовай базы за лік прыцягненьня сродкаў ад каапэраванага і некаапэраванага насельніцтва і за лік нармальнага намнажэньня ад гаспадарчай працы каапэрацыі;

д) далейшае паляпшэньне сацыяльнага складу пайшчыкаў і далейшае павялічэньне ролі беднаты і батрацтва ва ўсёй працы каапэрацыі;

е) узмацненьне сувязі паміж зьвеньняў сыстэмы і павышэньне каапэрацыйнае дысцыпліны.

4. Разьвіцьцё спажыўкаапэрацыі, як грамадзка-масавай і культурнай арганізацыі, вызначаецца наступнымі важнейшымі задачамі:

а) далейшы рост каапэраваньня насельніцтва,

б) разгортваньне каапэрацыйнай грамадзкасьці і ўтварэньне каапэрацыйнага актыву;

в) культурна-бытавая і масавая праца;

г) разьвіцьцё сыстэмы каапэрацыйнай асьветы (распаўсюджваньне каапэрацыйных ведаў, падрыхтоўка новых кадраў і г. д.).

### Каапэраваньне.

1. У галіне каапэраваньня насельніцтва спажывецкая каапэрацыя Беларусі мае значныя дасягненьні:

агульны рост пайшчыкаў у сельскай сеці дасягнуў на 1 красавіка 1928 г. 62,7 проц. у адносінах да ліку пайшчыкаў на 1 кастрычніка 1926 г. Процант каапэраваньня гаспадарак павысіўся за той-жа пэрыяд з 33,0 да 51,7.

Па рабоча-гарадзкой сеці агульны рост пайшчыкаў дасягнуў на 1 красавіка 54,1 проц. у адносінах да ліку пайшчыкаў на 1 кастрычніка 1926 г. Процант каапэраваньня членаў прафсаюзаў павысіўся з 60,7 (1/X—26 г.) да 73 (1/IV—28 г.). Тэмп росту каапэраваньня ў сельскім сэктары значна паскорыўся.

Асноўным мэтадам, стымулюючым рост каапэраваньня насельніцтва, зьявілася павялічэньне момантаў матар'яльнай зацікаўленасьці пайшчыкаў у выглядзе пераважнага забесьпячэньня недахватнымі таварамі і больш шырокага разьвіцьця ўсяе арганізацыйна масавай і культурнай працы.

Утварэньне і скарыстаньне спэцыяльных фондаў каапэраваньня беднаты значна павысілі ролю беднаты ў каапэрацыі і палепшылі агульны сацыяльны склад пайшчыкаў.

За мінулыя два гады спажыўкаапэрацыя БССР уцягнула ў лік пайшчыкаў звыш 88.000 беднякоў (за лік фондаў беднаты), што складае прыблізна 45 проц. да агульнага ліку прыросту каапэраванага сельскага насельніцтва за гэты-ж пэрыод.

2. Аднак, побач з гэтымі дасягненьнямі ў галіне каапэраваньня неабходна адзначыць наступныя асноўныя недахопы: слабы тэмп каапэраваньня жанчын (9,3 проц.) і моладзі, які не адпавядае іх адноснай вазе ў агульнай масе насельніцтва; недастатковы тэмп каапэраваньня па паасобных прафсаюзах (будаўнікі, нархарч і інш.); адсутнічаньне вучоту каапэраваньня батракоў і батрачак; адставаньне тэмпу каапэраваньня сельскага насельніцтва па паасобных спажыўсаюзах ад агульна-сярэдняга ўзроўню па БССР (раёну дзейнасьці Дняпросаюзу, БКС); практыкаваўшыся некаторымі арганізацыямі спажыўсыстэмы мэханічны і фармальны падыход да справы каапэраваньня беднаты; маруднае выкарыстаньне фондаў каапэраваньня беднаты; адсутнічаньне да гэтага часу вучоту сацыяльнага складу пайшчыкаў; адсутнічаньне дастатковага вучоту і вывучэньня асноўных і найбольш устойлівых мэтадаў каапэраваньня і адсюль недастаткова сыстэматычнае ўжываньне і паляпшэньне гэтых мэтадаў.

3. Чарговыя задачы, якія могуць забясьпечыць далейшы рост каапэраваньня і бязупыннае прасоўваньне па шляху пагалоўнага каапэраваньня, павінны ў асноўным зьвесьціся да наступнага:

а) па рабоча-гарадзкой каапэрацыі неабходна паставіць перад сабою задачу пагалоўнага ўцягненьня ў каапэрацыю ў працягу бліжэйшага году членаў індустрыяльных прафсаюзаў, максымальна падцягваючы да іх паасобныя адстаючыя саюзы пры актывным удзеле ў справе ажыцьцяўленьня гэтай задачы прафэсыянальных арганизацый. Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на каапэраваньне новых груп рабочых, якія ўліваюцца ў прамысловасьць у сувязі з яе ростам;

б) у галіне каапэраваньня сельскага насельніцтва асноўнаю задачаю зьяўляецца ў найбольш кароткі тэрмін дасягнуць поўнага ахопу беднаты і большасьці сераднякоў. Неабходна на працягу бліжэйшых двух гадоў ажыцьцявіць поўнае каапэраваньне бядняцкіх гаспадарак, усіх батракоў і батрачак і сельска-гаспадарчых рабочых. Для пасьпяховага выкананьня гэтай задачы неабходна пасіліць адлічэньні ў фонд каапэраваньня беднаты і дабіцца рэгулярнага пагашэньня беднатою раней атрыманых ёю пазык ва ўстаноўленыя тэрміны; разам з тым неабходна зьнішчыць мэханічны падыход да справы каапэраваньня беднаты, дабіваючыся праяўленьня самою беднатою максымальнай грамадзкай самадзейнасьці; батрацкія колы вёскі неабходна каапэраваць за лік фондаў каапэраваньня беднаты;

в) ва ўмовах росту калектыўнай гаспадаркі ў вёсцы перад спажыўкаапэрацыяй высоўваецца ў якасьці аднае з важнейшых задач арганізацыя абслугоўваньня спажывецкіх патрэб членаў сельгаскалектываў; найбольш мэтазгоднай формай абслугоўваньня сельска-гаспадарчых камун зьяўляецца ўваход іх, як цэлых калектываў, у мясцовыя каапэратывы ў якасьці юрыдычных асоб;

г) у мэтах пасіленьня каапэраваньня жанчын і моладзі неабходна для тых з іх, якія зьяўляюцца другімі членамі сямей пайшчыкаў батракоў беднякоў і сераднякоў, а таксама сямей пайшчыкаў рабочых і служачых, прымяняць ільготнае каапэраваньне, дапушчаючы ўнясеньне паю ў паніжаным разьмеры; савет Белкаапсаюзу павінен устанавіць разьмеры ільгот. для паасобных груп у залежнасьці ад матар'яльнай забясьпечанасьці пайчыкаў з тым, каб найменш матарь'яльна забясьпечаныя слаі атрымалі большыя ільготы; лічыць мэтазгодным скарыстаньне часткі ФКБ і на каапэраваньне бядняцка-батрацкай моладзі іншых сяброў сямей пайшчыкаў;

д) у справе найбольш пасьпяховага выкананьня пляну каапэраваньня насельніцтва неабходна ўсю працу па каапэрацыйным абслугованьні, як правіла, весьці пераважна з пайшчыкам і для пайшчыка; найбольш рэальнымм і сапраўдным сродкам матар'яльнай зацікаўленасьці пайшчыка належыць лічыць пераважнае забесьпячэньне пайшчыкаў недахватнымі таварамі

Побач з гэтым неабходна адмовіцца ад прэмій на забор, а практыкаваць замест гэтага, найбольш мэтазгодныя формы матар'яльнай зацікаўленасьці ў выглядзе павялічэньня адлічэньняў з прыбыткаў на культурныя і бытавыя мерапрыемствы (дзіцячыя яські, пляцоўкі, кансультаціі, чырвоныя куткі, куткі „Маць і Дзіця“ і іншыя), якія набываюць усё большае значэньне, як мэдаты матар'яльнай зацікаўленасьці, асабліва ў адносінах да каапэраваньня жанчын.

## II. Каапэрацыйная грамадзкасьць, каапактыў і масавая праца

1. Далейшае разьвіцьцё каапэрацыйнай грамадзкасьці і масавай працы спажыўкаапэрацыі неабходна разглядаць як новы этап каапэрацыйнага руху, калі спажыўсыстэма, пасьля агульнага гаспадарчага і арганізацыйнага замацаваньня, павінна ва ўсёй шырыні разгарнуць „сапраўдны ўдзел сапраўдных мас“ у каапэрацыйным будаўніцтве. Далейшы рост і паляпшэньне каапэрацыйнай працы—кантроль за ўсё ўзрастаючай каапэрацыйнай гаспадаркай, мабілізацыя сродкаў ад насельніцтва, рацыяналізацыя працы, павялічэньне каапэрацыйных кадраў і да таго падобнае,— упіраюцца ў неабходнасьць пасіленага разьвіцьця актыўнасьці і самадзейнасьці пайшчыкаў, а таксама пасіленьня працы каапэрацыйных органаў у масах.

2. У мэтах павышэньня актыўнасьці і самадзейнасьці бядняцкіх колаў неабходна больш паступовае ажыцьцяўленьне практыкі спэцыяльных бядняцкіх сходаў, як у пэрыод перавыбарчай кампаніі, гэтак і ў парадку штодзённай дзейнасьці, ставячы перад гэтымі сходамі задачу пасіленьня арганізацыйнага і гаспадарчага абслугоўваньня беднаты, павышэньня яе каапэраваньня і праверкі скарыстаньня фондаў каапэраваньня беднаты.

3. Каапэрацыйныя арганізацыі павінны ставіць сваю грамадзкую масавую працу шляхам цеснай увязкі і супрацоўніцтва з партыйнымі, савецкімі, прафэсыянальнымі і іншымі грамадзкімі арганізацыямі, паколькі каапэрацыйная грамадзкасьць прадстаўляе сабою адну з форм савецкай дэмакратыі.

4. Аднэй з важнейшых і асноўных умоў пасьпяховага разгортваньня каапэрацыйнай грамадзкасьці зьяўляецца правільная арганізацыя нізавога каапэрацыйнага актыву, які прымае практычны і штодзённы ўдзел у каапэрацыйным будаўніцтве і які зьвязвае каапэратыў з шырокімі масамі каапэраванага насельніцтва. Арганізацыйнае афармленьне каапэрацыйнага актыву павінна ў асноўным зьвесьціся да наступнага.

## Па рабоча-гарадзкой каапэрацыі:

а) рэўкамісіі, як органы грамадзкага кантролю, якія рэвізуюць і кантралююць дзейнасьць праўленьняў і апарату каапэратываў у цэлымі сходы ўпаўнаважаных, якія ахапляюць усю працу каапэратыву; сэкцыі сходаў упаўнаважаных, якія ахапляюць паасобныя бакі дзейнасьці каапэратыву—арганізацыйную, гандлёвую, грашовую і г. д.; каапэрацыйна-крамныя і сталовачныя камісіі, як органы масавага грамадзкага кантролю, якія дапамагаюць паляпшэньню працы паасобных прадпрыемстваў каапэратыву, зьвязваюць пайшчыкаў гэтых прадпрыемстваў з каапэратывам і арганізуюць працу каапэрацыйнага актыву на месцы.

б) усе гэтыя арганізацыйныя ячэйкі грамадзкай самадзейнасьці (каапэрацыйна-крамныя камісіі, сэкцыі ўпаўнаважаных і інш.) павінны быць утвораны па ўсёй сыстэме рабоча-гарадзкой каапэрацыі і дапамагаць пашырэньню складу каапэрацыйнага актыву.

## Па сельскай сеці:

а) асноўнымі формамі каапэрацыйнай грамадзкасьці тут зьяўляюцца агульныя сходы і сходы ўпаўнаважаных, пашыраныя пасяджэньні праўленьняў спажывецкіх таварыстваў з каапактывам, крамныя камісіі і арганізацыйна-асьветныя камісіі; акрамя таго, ва умовах росту многакрамнага будаўніцтва неабходна для пашырэньня і паляпшэньня працы нізавога сельскага каапактыву ўтварыць кадр каапарганізатараў і сэкцыі сходаў упаўнаважаных па раёнах дзейнасьці аддзяленьняў многакрамных спаж. таварыстваў; Белкаапсаюзу выпрацаваць інструкцыю аб працы сэкцый;

б) асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на сацыяльны склад сельскага каапэрацыйнага актыву; склад сельскага каапактыву павінен вызначацца задачаю аб'яднаньня батрацкіх і бядняцкіх колаў вёскі з серадняком і проціпастаўленьня іх актыўнасьці кулацкіх элемэнтаў.

5. У склад каапактыву, як у рабоча-гарадзкой, гэтак і ў сельска-местачковай сеці, павінны быць уцягнуты жанчыны і моладзь, а ў раёнах, дзе ёсьць групы насельніцтва нацменшасьцяй, у склад каапактыву ўцягваюцца пайшчыкі адпаведных нацыянальнасьцяй.

6. Работа нізавога каапэрацыйнага актыву не павінна абмяжоўвацца, як гэта было да гэтага часу, удзелам толькі ў правадзімых каапэрацыйных кампаніях (зьніжэньне цен, збор паёў, загатоўкі і інш.).

Неабходна дабіцца сыстэматычнай, сталай і штодзённай працы каапактыву над паляпшэньнем якасьці працы каапэратыву, прыцягненьнем усяе масы пайчшыкаў да ўдзелу ў каапэрацыйным будаўніцтве і забясьпечыць сталы прыток новых пайшчыкаў.

7. Асноўны практычны зьмест працы нізавога каапэрацыйнага актыву вызначаецца наступнымі задачамі: каапэраваньне насельніцтва, мабілізацыя ўласных сродкаў каапэратыву і ўцягненьне вольных зьберажэньняў насельніцтва ў каапэрацыйны зварот (паі, уклады), рацыяналізацыя працы

каапэратыву (паляпшэньне якасьці працы, зьніжэньне цэн і выдаткаў, правільнае таваразабесьпячэньне), разьвіцьцё каапэрацыйна-асьветнай і культурна-бытавой працы, удзел сумесна з савецкімі і партыйнымі арганізацыямі ў правядзеньні асноўных мерапрыемстваў па сацыялістычнай перабудове вёскі.

8. Праца каапактыву павінна быць бясплатнаю. Разам з тым да паасобных ячэек каапактыву ці паасобных актыўных пайшчыкаў за выдатную працу можа ўжывацца прынцып прэміраваньня ў выглядзе забесьпячэньня газэтамі, літаратураю, пасылкі на курсы і ў экскурсіі, арганізацыі конкурсаў і г. д.

9. Арганізацыйна-інструктарскія аддзелы райсаюзу, ЦРК і праўленьні сельскіх спажывецкіх таварыстваў павінны ўзяць курс на пасіленьне кіраўніцтва ўсёю працаю каапэрацыйнага актыву. Вучастковыя інструктары павінны лічыць простым сваім абавязкам праводзіць працу па сталым інструктаваньні нізавога каапактыву, па выяўленьні праз актыў запытаньняў пайшчыкаў, па падрыхтоўцы і ўдзеле ў шырокіх нарадах актыву. Разам з тым неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на навучаньне і выхаваньне каапактыву, на павышэньне яго каапэрацыйнай пісьменнасьці, уцягваючы яго ў каапгурткі, гурткі завочнага навучаньня, абслугоўваючы яго газэтамі, літаратураю і забясьпечваючы яго неабходным інструкцыйным матар'ялам.

10. Пастаноўка якаснага вучоту і праверка працы каапактыву павінны будуць дапамагаць больш рашучаму высоўваньню асоб з колаў найбольш праявіўшых сябе актывістых на практычную працу ў каапэрацыю.

11. Акрамя ўласнага каапэрацыйнага актыву, неабходна прыцягваць да ўдзелу ў каапэрацыйнай працы і забясьпечыць сталую сувязь з іншымі блізкімі па характары працы грамадзкімі органам!: гандлёва-каапэрацыйнымі сэкцыямі гарадзкіх і сельскіх саветаў, каапэрацыйнымі сэкцыямі дэлегацкіх жаночых сходаў, каапэрацыйнымі арганізацыямі ЛКСМБ і інш.

### III. Культурная і бытавая праца

1. Прыліў значных мас новых пайшчыкаў у спажывецкую каапэрацыю патрабуючых адпаведнай каапэрацыйна-асьветнай апрацоўкі, і ўзяты курс на практычнае разгортваньне культурнай рэвалюцыі ставяць перад спажыўсыстэмай ва ўвесь рост задачу ўзмоцненага ўздыму культурнай працы каапэрацыі.

Неабходна прызнаць сваечасовым плянавы пераход у вядомых галінах на агульнае культурнае абслугоўваньне праз спажыўкаапэрацыю шырокіх мас насельніцтва.

Такім чынам, далейшы напрамак культурнай працы каапэрацыі павінен праходзіць па двух асноўных лініях: па лініі каапэрацыйна-асьветнай і па лініі агульнага культурнага абслугоўваньня мас.

2. Каапэрацыйна-асьветная праца павінна прасьледаваць мэты прапаганды ў шырокіх масах ідэй каапэрацыі і павышэньня каапэрацыйнай сьвядомасьці:

а) у гэтых мэтах, акрамя належнай арганізацыі і правядзеньня каапэрацыйных кампаній (Міжнародны Дзень Каапэрацыі і г. д.) неабходна забясьпечыць больш шырокае ўдзельнічаньне каапэрацыйных арганізацый ў агульных кампаніях і сьвятах—перавыбарчыя кампаніі саветаў, прафсаветаў, прафсаюзаў, сьвяткаваньне Кастрычнікавай гадавіны, 1 мая, Міжнароднага Жаночага Дню, М. Ю. Д. і г. д.;

б) у якаці асноўных форм сыстэматычна-правадзімай асьветнай працы павінны служыць каапэрацыйныя гурткі, куткі, выданьне папулярных кніжак па каапэрацыі, плякаты, пэрыодычны друк. У адносінах узмацненьня дзейнасьці каапгурткоў неабходна зьвярнуць увагу на стварэньне

неабходных кадраў кіраўнікоў гурткоў; у сувязі з гэтым неабходна ў большай меры прыцягваць да гэтай справы настаўніцтва за вызначаную матар'яльную ўзнагароду, утвараючы для іх каротка-тэрміновыя курсы для падрыхтоўкі па спэцыяльна-каапэрацыйных пытаньнях у часе іх штогодных з'ездаў-курсаў.

У галіне пэрыодычнага друку неабходна, уключаючы яго ў якасьці абавязковай часткі асноўнай каапасьветнай працы, імкнуцца да пашырэньня тыражоў існуючых органаў каапэрацыйнага друку, дамагаючыся таго, каб кожнае спажывецкае т-ва, ЦРК, кожны загадчык крамы і кожная ячэйка каапэрацыйнай грамадзкасьці—крамная камісія, аргасьветкамісія і др.—былі-б дапішчыкамі гэтых органаў. У гэты-ж самы час неабходна пашыраць асьвятленьне каапэрацыйных пытаньняў у агульнай прэсе, умаўляючыся з мясцовымі газэтамі аб асобным аддзеле або старонцы, спэцыяльна прысьвечаных спажыўкаапэрацыі.

3. Агульна-культурнае абслугоўваньне мас праз спажыўкаапэрацыю павінна мець месца ў тых галінах, якія больш за ўсё да яе прыстасаваны па арганізацыйным і гаспадарчым досьледзе, і ў якіх спажыўкаапэрацыя найбольш непасрэдна зацікаўлена. У сувязі з гэтым неабходна вызначыць разьвіцьцё агульна-культурнай працы спажыўкаапэрацыі ў наступных напрамках:

Кніжны гандаль, які ўжо даўно мае агульны асартымэнт, кіно і радыё.

а) у адносінах кніжнага гандлю неабходна паўсюды ўключаць яго, як абавязковую частку агульнай працы каапэрацыйных арганізацый і ў адпаведнасьці з гэтым будаваць моцны кнігагандлёвы апарат: кніжны і папяровы магазына бо зачыненую базу пры саюзе, кнігарню ЦРК, Гарпо, кніжную краму пры спажыўтаварыствах у раёнах цэнтру і кніжную паліцу пры вясковых спажывецкіх таварыствах; у нашых умовах асабліва важнае значэньне мае прасоўваньне нацыянальнай кнігі, дапамагаючае партыі і ўраду ў правядзеньні нацыянальнай палітыкі і беларусізацыі;

б) у галіне кіно спажыўкаапэрацыя павінна перайсьці на сыстэматычнае абслугоўваньне вёскі ў справе здавальненьня яе культурных запытаньняў праз кіно. У адпаведнасьці з маючыміся магчымасьцямі спажыўкаапэрацыі (шырокая сувязь з насельніцвам, разгалінаваны апарат, наяўнасьць пэўнага гаспадарчага вопыту і інш.) неабходна паставіць спажыўкаапэрацыю на становішча аднае з асноўных арганізацый, ажыцьцяўляючых кінофікацыю вёскі. Працуючы пад агульным кіраўніцтвам органаў наркамасьветы, спажыўкаапэрацыя павінна разгортваць кіно ня толькі як культурнае, але і як гаспадарчае прадпрыемства з неабходным намнажэньнем сродкаў для далейшага разьвіцьця кіно. Спажыўарганізацыі павінны ўключыць кіно-працу ў якасьці складанай часткі свае агульнае працы і плянава разгортваць неабходную кіно-сетку: набываньне кіно-перасовак, арганізацыя сталых кіно-установак, падрыхтоўка адпаведных кадраў кіно-мэханікаў, арганізацыя пэрыодычнага паказу кіно-малюнкаў на мясцох. У гэтых жа мэтах неабходна наладзіць правільнае снабжэньне вясковай кіно-сеткі спажыўкаапэрацыі кіно-фільмамі з боку Белдзяржкіно. Неабходна паставіць практычным лёзунгам на працягу двух бліжэйшых гадоў—мець ў сярэднім на кожныя 10 спажыўтаварыстваў ня менш як 1 кіно-апарат;

в) у галіне радыё неабходна арганізаваць забесьпячэньне насельніцтва радыё-прыладамі праз каапэрацыйныя арганізацыі, у першую чаргу па лініі рабоча-гарадзкой сеці. Разам з гэтым самастойна або сумесна з другімі арганізацыямі неабходна працягваць і далей арганізацыю мясцовай радыё-сеткі шляхам арганізацыі адпаведных радыё-установак на мясцох. З мэтай паляпшэньня пастаноўкі своечасовай інфармацыі агульных дырэктыў цэнтру ў адносінах нізавое пэрыфэрыі лічыць мэтазгоднай устаноўку кожным спажывецкім таварыствам радыё-прыемніка і арганізацыю рэгулярнай перадачы праз цэнтральныя станцыі інфармацыі Белкаапсаюзу;

г) у мэтах здавальненьня растучых культурных запатрабаваньняў несельніцтва спажывецкая каапэрацыя павінна адпаведным чынам прыстасоўваць свой асартымэнт. У прыватнасьці рабоча-гарадзкой каапэрацыі належыць пачаць забесьпячэньне насельніцтва фото-апаратурай, спортпрыладамі і г. д.

4. Для плянавага разьвіцьця ўсіх каапэрацыйна-асьветных і культурна-бытавых мерапрыемстваў неабходна дамагацца па ўсёй сыстэме правільнай арганізацыі і скарыстаньня культфонду. Разьмеры адлічэньняў на каапасьветпрацу за рахунак нармальных каштарысных асыгнаваньняў і адлічэньняў з прыбыткаў павінны быць устаноўлены па ўсёй спажыўсыстэме наступным чынам:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Па сельск. спаж. т-вах . . | 0,25 | проц. да звароту і | 10 | проц. ад прыбыткаў |
| „ рабоча-гарадзк. „ . . | 0,05 | „ „ „ „ | 15 | „ „ „ |
| „ саюзах . . . . . . . | 0,05 | „ „ „ „ | 10 | „ „ „ |
| „ БКС . . . . . . . . . | 0,03 | „ „ „ „ | 10 | „ „ „ |

У мэтах найбольш мэтазгоднага выкарастаньня сродкаў на культурныя і бытавыя мерапрыемствы, маючыя агульнае значэньне для ўсяе сыстэмы, неабходна стварыць цэнтралізацыю часткі культфондаў спажыўтаварыстваў пры саюзах.

Належыць рашучым чынам перасячы наглядаючыяся яшчэ выпадкі выдаткаваньня культфондаў не па простым іх прызначэньні, прыцягваючы кіраўнікоў адпаведных арганізацый у гэтых выпадках да вызначанай адказнасьці.

5. Па лініі ўзаемаадносін з другімі відамі каапэрацыі і другімі культурнымі ўстановамі спажыўкаапэрацыя павінна ўвязаць сваю культурную працу з культурнымі мерапрыемствамі другіх арганізацый, дапускаючы магчымасьць аб‘яднаньня як сваіх культурных мерапрыемстваў, гэтак і сродкаў у вызначаных выпадках, як-то: устаноўка радыё, правядзеньне Міжнароднага Дню Каапэрацыі, Кастрычнікавай рэвалюцыі і др., захоўваючы ў асноўным прынцып самастойнасьці культурнай працы.

6. Культурна-бытавыя мерапрыемствы спажыўкаапэрацыі (дзіцячыя ясьлі, кансультацыі, куткі „Маць і дзіця“ і г. д.), якія надаюць вызначаны культурны аблік агульнай працы мясцовых арганізацый і прыцягваюць значную зацікаўленасьць з боку мясцовага насельніцтва і асабліва жанчын, павінны займаць усё большае месца ў агульна-культурнай працы каапэрацыйных арганізацый. Дзеля гэтага неабходна адводзіць гэтым мерапрыемствам адпаведнае месца па лініі адлічваньня сродкаў з прыбыткаў.

Разам з гэтым каапэрацыйным арганізацыям, як у горадзе, так і на вёсцы, неабходна зьвярнуць большую ўвагу на правільную арганізацыю і пастаноўку чайных, як месца для культурнага адпачынку насельніцтва і адцаведнай каапасьветнай працы.

7. Для належнай арганізацыі і кіраўніцтва культурнай працай каапэрацыі неабходна пашырыць і ўзмацніць інстытут інструктароў-культурнікаў пры спажыўсаюзах і цэрабкопах.

8. Для ўзмацненьня каапэраваньня моладзі і ўцягненьня яе ва ўсю працу каапэрацыі лічыць неабходным ускласьці на аднаго з працаўнікоў аргаддзелаў Райсаюзаў і ЦРК, па згодзе з адпаведнымі камітэтамі камсамолу, кіраўніцтва гэтай працай.

9. Спажыўкаапэрацыя павінна прыняць матар‘яльны і арганізацыйны ўдзел у справе ліквідаваньня няпісьменнасьці сярод сваіх пайшчыкаў шляхам адпаведнай увязкі гэтай працы з органамі НКАсьветы і Т-вам „Прэч няпісьменнасьць“.

## IV. Падрыхтоўка і перападрыхтоўка каапэрацыйных працаўнікоў

1. Неперарыўны рост каапэрацыйнага будаўніцтва і ўсё больш ускладняючыяся арганізацыйныя і гаспадарчыя задачы спажыўкаапэрацыі зараз шчыльна ўпіраюцца ў недахоп новых кадраў кваліфікаваных каапэратараў, упіраюцца ў праблему падрыхтоўкі новых культурна-тэхнічных сіл. Разам з гэтым наяўнасьць значнага кадру практычных працаўнікоў, налічваючыхся спажыўсыстэмай БССР да 10.000 чалавек (сяброў Праўленьняў, Рэўкамісій, рахункаводаў, прыкашчыкаў), несталасьць і тякучасьць складу, адставаньне іх ад растучых задач спажыўкаапэрацыі высоўваюць сур'ёзную задачу сыстэматычнага павышэньня кваліфікацыі гэтых кадраў працаўнікоў і арганізацыі сеткі курсаў па перападрыхтоўцы.

2. У галіне падрыхтоўкі новых кадраў каапэрацыйных працаўнікоў ажыцьцяўляемай па лініі агульна-дзяржаўных мерапрыемстваў органамі Наркамасьветы, удзел спажыўсыстэмы павінен выражацца ў сумеснай апрацоўцы праграмных матар'ялаў і прыстасаваньні каапэрацыйных навучальных устаноў да запытаньняў спажыўсыстэмы, да вучоту запатрабаваньняў спажыўкаапэрацыі ў вызначаных катэгорыях працаўнікоў і г. д.

Акрамя гэтага неабходна арганізаваць падрыхтоўку працаўнікоў з дэмабілізуемых чырвонаармейцаў.

Лічыць неабходным далейшае камплектаваньне Віцебскага каапэрацыйнага тэхнікуму рабіць па камандыроўках спажыўтаварыстваў.

3. У галіне перападрыхтоўкі кадраў практычных працаўнікоў спажыўкоопэрацыя павінна разгарнуць сваю сетку вучэбна-курсавых мерапрыемстваў шляхам арганізацыі розных кароткатэрміновых курсаў. У асноўным нармальнымі тыпамі каротка-тэрміновых курсаў па падрыхтоўцы працаўнікоў павінна быць штогодна арганізоўваемыя па сельскай сетцы 2—3 тыднёвыя курсы для сяброў Праўленьня, рэвізійных камісій, рахункаводаў, закупшчыкаў і прадаўцоў; 3—4-дзённыя курсы-зьезды для каапактыву (крамныя камісіі, упаўнаважаныя і інш.): па саюзах і ЦРК—1—1/½-месячныя курсы перападрыхтоўкі загадчыкаў аддзелаў, інструктароў, статыстыкаў і кніжных працаўнікоў; вячэрнія курсы па перападрыхтоўцы гандлёвых і рахункавых працаўнікоў.

4. У мэтах больш шырокага распаўсюджваньня каапэрацыйнай самаадукцыі каапэрацыйнага актыву неабходна дамагацца ў спажыўсыстэме БССР арганізацыі сеткі завочных каапэрацыйных курсаў.

## V. Мабілізацыя сродкаў насельніцтва

1. Бурны гаспадарчы рост спажыўкаапэрацыі, заняўшае ўжо зараз пануючае становішча на таварным рынку, ставіць перад спажыўсыстэмай ва ўвесь рост праблему мабілізацыі ўсіх крыніц фінансаваньня каапэрацыйнага звароту. Гэта павінна выразіцца ў узмоцнёным уцягваньні свабодных сродкаў і зберажэньняў ад каапэраванага насельніцтва ў выглядзе няперарыўнага паянамнажэньня і прыцягваньня ўкладаў і авансаў ад насельніцтва.

2. У бліжэйшы-ж пэрыяд спажыўкаапэрацыя павінна дамагацца такога прытоку паявых капіталаў, каб яны занялі асноўнае і рашучае месца ў уласных сродках сыстэмы.

Арганізацыйныя задачы ў галіне паянамнажэньня павінны зьвясьціся да наступнага:

а) ліквідаваньня паявой завінавачанасьці ў устанаўліваемыя тэрміны, пры чым пры ўстанаўленьні тэрмінаў пагашэньня заможняя частка вёскі ніякімі растэрміноўкамі карыстацца не павінна;

б) давядзеньня сярэдняга фактычна-аплачанага паю да 1 кастрычніка 1929 году па сельскай сетцы да 10 руб., па рабочай сетцы—да 15 руб.

3. У якасьці новай праблемы ў галіне паянамнажэньня неабходна высунуць ідэю дыфэрэнцыяцыі паю адпаведна матар'яльнаму становішчу розных катэгорый пайшчыкаў. Практычна гэта можа выказацца ў выглядзе:

а) збору другіх дадатковых паёў ад найбольш матар'яльна забясьпечаных катэгорый пайшчыкаў,

б) больш шырокага дапасаваньня ільгот па аплаце паю для бяднейшых груп;

в) устанаўленьня меншага паю для другіх членаў сям'і пайшчыкаў без распаўсюджваньня гэтай ільготы на заможных;

г) аслабаненьня ад паявых узносаў беспрацоўных да атрыманьня імі працы і г. д.

4. Важнейшай задачай ў галіне ўцягваньня свабодных сродкаў і зьберажэньняў ад насельніцтва зьяўляецца шырокае разьвіцьцё і пастаноўка укладных апэрацый. Неабходна дамагацца ў карацейшы тэрмін арганізацыі ўкладных апэрацый ва ўсіх бяз выключэньня спажыўтаварыствах і паляпшэньня тэхнічнай пастаноўкі гэтых апэрацый. Неабходна праз заканадаўчы органы Рэспублікі распаўсюджваць на спажыўсыстэму правілы прыёму, захаваньня і выдачы ўкладаў, існуючых у крэдытнай каапэрацыі і дзяржаўных ашчадных касах. Укладныя апэрацыі павінны праводзіцца ўсёй спажыўкаапэрацыяй у плянавым парадку шляхам устанаўленьня пакварталььных норм па зборы ўкладаў для кожнага спажывецкага таварыства паасобку.

## VI. Рацыяналізацыя

1. Плянава праводзімая рацыяналізацыя працы і павышэньне тэхнічнай базы разьмеркаваньня стала зусім насьпеўшай перад ўсёй спажыўсыстэмай. Неабходнасьць значных капітальных затрат затрымлівае тэмп рацыяналізацыі. Тым ня менш патрэбна ажыцьцяўляць сыстэматычныя мерапрыемствы па гэтай лініі з вучотам фінансавых магчымасьцяй спажыўсыстэмы, ствараючы і ўзмацняючы фонды доўгатэрміновага крэдытаваньня на будаўніцтва. Акрамя мерапрыемстваў па новым будаўніцтве, у каапэрацыйнай працы існуе цэлы шэраг галін, якія не патрабуюць для свайго паляпшэньня ўкладаньня колькі-небудзь значных сродкаў і падаюцца паляпшэньню ў парадку правядзеньня вызначаных арганізацыйных мерапрыемстваў.

2. У галіне рацыяналізацыі тэхнікі гандлёвай працы асноўная ўвага павінна быць зьвернута на:

а) пытаньне аб арганізацыі транзыту тавараў;

б) пашырэньне практыкі папярэдніх заказаў, арганізацыі камісыйна-пасрэдніцкага абслугоўваньня пісьмовых заказаў, аб'яднаньне закупак спажыўтаварыстваў;

в) у галіне арганізацыі гандлёвай тэхнікі гарадзкіх і сельскіх дробнагандлёвых арганізацый спажыўкаапэрацыі рацыяналізатарская праца павінна быць накіравана на арганізацыю стандартнай упакоўкі тавараў, папярэдняга разважваньня тавараў у магазынах і на манэўраваньне рабочай сілай адпаведна з прылівам пакупцоў у магазінах і крамах.

3. У галіне рацыяналізацыі складзкіх памяшканьняў і магазынаў задачамі працы павінна стаць наступнае:

а) пераабсталяваньне існуючых магазынаў і крам;

б) пабудаваньне новых магазынаў і крам за кошт спэцыяльных капіталаў, прызначаных для фінансаваньня новага будаўніцтва;

в) пераабсталяваньне існуючых складаў, увядзеньне ў іх працу мэханічных прыстасаваньняў па разгрузцы і пагрузцы тавараў;

г) мэтазгоднае разьмяшчэньне складзкіх памяшканьняў пры лініях чыгункі;

д) пабудова новых складаў;

е) рэгуляваньне з боку цэнтраў усёй працы пэрыфэрыі па пабудоўках: БКС і Белрабсэкцыя у саюзах і ЦРК, саюзы—ў нізавой сетцы.

4. Рацыяналізацыя арганізацыі сродкаў павінна мець сваёй задачай плянаваньне сродкаў каапарганізацыі, аслабаненьне іх у меры магчымасьці для мэт рацыянальнага іх выкарыстаньня.

5. Рацыяналізацыя разрахункавых і апэрацыйных адносін павінна ўключаць ў сябе.

аналіз умоў разрахунку па тых ці іншых зьдзелках і ўмовах, спрашчэньне ўмоў разрахунку, правядзеньне, як вопыт, разрахункаў на асновах адзінай касы (адчынены рахунак, бязвэксальныя разрахункі і г. д.)

6. У галіне рацыяналізацыі працэсаў працы і пабудаваньня штату задачамі працы павінны стаць:

а) распрацоўка норм нагрузак на паасобных працаўнікоў аппарату каапарганізацый;

б) уплатненьне працоўнага часу складзкага, канцэлярскага і рахунковага апарату;

в) распрацоўка стандарту, дакумэнтацыі розных катэгорый апэрацый, распрацоўка правільных шляхоў руху дакумэнтаў і іх рэгістрацыі.

7. У галіне рацыяналізацыі рахункавай працы павінны быць ажыцьцяўлены спрашчэньне і скарачэньне справаздачнасьці і правядзеньне ў саюзных арганізацыях і ЦРК бяскніжных і другіх навейшых сыстэм рахункаводзтва, а ў сельскіх спажывецкіх таварыствах спрошчаных, захоўвываючых працу, форм рахункаводзства.

## VII. Узмацненьне адзінства сыстэмы і павышэньне каапэрацыйнай дысцыпліны

1. За мінулы пэрыод спажыўкаапэрацыя дасягнула некаторых посьпехаў у адносінах узмацьненьня сябе, як адзінай сыстэмы, узмацненьня унутрыкаапэрацыйных, арганізацыйных і гаспадарчых сувязяй. Аднак, гэта адзінства сыстэмы ня можа лічыцца яшчэ досыць моцным, а каапэрацыйная дысцыпліна дастатковай. Занадта жорстка палітыка і практыка рэгуляваньня органамі Наркамгандлю, з аднаго боку, і слабая каапэрацыйная дысцыпліна паасобных арганізацый сыстэмы, з другога, у значнай ступені аслабяць значэньне і практычныя вынікі ўнутрыкаапэрацыйнага рэгуляваньня. Выкананьне спажыўкаапэрацыяй складаных і адказных задач па арганізацыі звароту краіны з ўсё большай неабходнасьцю і вострасьцю высоўваюць пытаньне аб узмацненьні каапэрацыйнай дысцыпліны і ўнутрыкаапэрацыйных гаспадарчых і арганізацыйных сувязяй.

2. Узаемаадносіны цэнтральных і мясцовых арганізацый спажыўкаапэрацыі павінны быць пабудованы на такім дэмакратычным цэнтралізме, калі мясцовыя арганізацыі ажыцьцяўляюць адзіную лінію арганізацыйнай і гаспадарчай палітыкі, вызначаемую цэнтрам спажыўкаапэрацыі, і праводзяць поўнасьцю без прамядленьня пастановы вышэйстаячых арганізацый, аказваючы ў той самы час арганізаваны ўплыў на апошнія шляхам шырокага ўдзельнічаньня ў абгаворваньні важнейшых пытаньняў сыстэмы і абгаварваньня на сваіх зьездах справаздач вышэйстаячых органаў.

## VIII. Аб працы інструктара

Пасьпяховае разьвязваньне вялікіх і складаных задач, якія стаяць перад спажыўкаапэрацыяй патрабуе адпаведнай працы інструктарскіх кадраў. Некаторыя посьпехі, дасягненьні ў апошні час спажыўсыстэмай, у сэнсе якасьці і арганізацыі інструктарскага абслугоўваньня, зьяўляюцца відавочна недастатковымі і дзеля гэтага на гэтыя пытаньні неабходна зьвярнуць самую значную ўвагу ўсяе сыстэмы.

Неабходна з усёй рашучасьцю зрабіць перабудоўку працы вучастковага інструктара саюзу ў тым сэнсе, каб асноўны ўпор у працы інструктар рабіў на актыў і апарат спажыўтаварыстваў. Гэтакі кірунак інструктарскай працы павінен у бліжэйшы-ж час даць сваім вынікам узмацьненьне і напаўненьне канкрэтным, спраўным зьмест працы органаў каапэрацыйнай грамадкасьці (Крамныя, рэвізыйныя, арганізацыйна-асьветныя камісіі, сход упаўнаважаных, іх сэкцыі і г. д.).

### IX. Аб барацьбе з крадзежамі і растратамі

Неабходна прыняць энэргічныя меры барацьбы з крадзежамі і растратамі дабіўшыся пазачарговага разгляданьня гэткіх спраў судовымі органамі і ажывіць працу рэвізыйных камісій, а таксама прыцягнуць да актыўнага кантролю за каапэрацыйнай гаспадаркаю шырокія масы пайшчыкаў, у першую чаргу каапэрацыйны актыў.

---

## IV

## Аб пяцёхгадовым пляне разьвіцьця спажывецкай каапэрацыі БССР

1. Ажыцьцяўленьне асноўных задач сацыялістычнага будаўніцтва, пры наяўнасьці заканчваючагася адбудоўчага працэсу ў асноўных галінах народнай гаспадаркі, упіраецца ў неабходнасьць рэканструкцыі капіталаў усяе народнай гаспадаркі на больш высокай тэхнічнай базе пры ўмове забесьпячэньня вядучай ролі дзяржаўнай прамысловасьці ва ўсёй гаспадарцы СССР (індустрыялізацыя) і такога разьвіцьця сельскай гаспадаркі, якое забясьпечвала-б пашырэньне спажываньня шырокіх мас, рост экспарту і найбольш поўнае забесьпячэньне прамысловасьці сыравінаю. Такая грандыёзная задача можа быць пасьпяхова вырашана толькі пры ўмове максымальнага скарыстаньня ўсіх рэсурсаў і магчымасьцяў савецкай дзяржавы.

2. Адзіная плянавая сыстэма забясьпечвае савецкай дзяржаве арганізуючы ўплыў на эконамчку краю і зьяўляецца надзвычайна важнай прадпасылкай пасьпяховага сацыялістычнага будаўніцтва. Работа па складаньні пяцёхгадовага пляну, які ахапляе 1927-28—1932-33 гады, зьяўляецца вельмі важнаю. Спажывецкая каапэрацыя, якая выконвае адну з асноўных функцый у справе пабудаваньня сацыялістычнае грамады, да складаньня свайго пяцёхгадовага пляну павінна падыйсьці з вучотам усіх яе магчымасьцяў, чоткім выяўленьнем стаячых задач і намячэньнем шляхоў да іх вырашэньня.

3. Задача наступнае працы па складаньні пяцёхгадовага пляну зводзіцца да таго, каб намеціць асноўную лінію разьвіцьця спажыўсыстэмы і стаячыя перад ёю цэнтральныя задачы, устанавіць агульны характар узаемаадносін паміж спажыўкаапэрацыяй і іншымі галінамі народнай гаспадаркі, увязаць паасобныя часткі працы, падлічыць срокі, сілы і аб'ектыўныя магчымасьці з вучотам пэрспэктыў канкрэтных абставін плянуемага пэрыяду, якія маюцца для выкананьня пастаўленых задач, і выявіць чакаемы ад выкананьня плянаў эфэкт.

4. Арганізацыя таваразвароту краю набывае вялікае значэньне. Задачы каардынаваньня і ўвязкі вытворчасьці з спажываньнем, ажыцьцяўленьне ўплыву гандлёвага апарату на асартымэнт і якасьць выраблěемых прамысловасьцю тавараў, знаходжаньне найбольш нармальных шляхоў прахаджэньня таварных мас і ўстанаўленьне найбольш танных і выгодных шляхоў і ўмоў сувязі паміж асноўных сэктараў народнай гаспадаркі, што

пры максымальнай эканоміі нявытворчых выдаткаў павінна дапамагаць больш хуткаму ажыцьцяўленьню задач, якія пастаўлены перад усёю народнаю гаспадаркаю ў цэлым.

5. Пэрспэктыўнае плянаваньне на цэлы шэраг гадоў носіць адносны і ўмоўны характар, тым больш у сфэры звароту. Ва ўмовах-жа Беларусі, як рэспублікі спажывецкай, якая грунтуецца ў падаўляючай масе на завозных таварах, дзе разьмеры завозу, як адна з асноўных велічынь, якая вызначае магчымасьць здавальненьня попыту насельніцтва, не знаходзяцца пад нашым плянавым уплывам і рэгуляваньнем, гэта задача асабліва цяжкая. Адзначаныя вышэй цяжкасьці ў пэрспэктыўным плянаваньні ў поўнай меры адносяцца і да спажыўсыстэмы.

6. Спажыўкаапэрацыя ў справе арганізацыі тавараз вароту краю выпаўняе вялікія функцыі: яна арганізуе вучот і здавальненьне спажывецкага попыту рабоча-сялянскіх мас, аграмаджвае спажываньне, праводзіць забесьпячэньне прамысловасьці сельска-гаспадарчаю сыравінаю. У сваёй працы каапэрацыя ажыцьцяўляе сувязь паміж прамысловасьцю і сельскаю гаспадаркаю, уцягваючы ў сфэру сацыялістычнага ўплыву паасобныя распыленыя сялянскія гаспадаркі.

7. Асноўнаю прадпасылкаю для разьвіцьця спажыўсыстэмы на працягу плянуемага пяцёхгодзьдзя зьяўляецца рост плацежаздольнага попыту насельніцтва, як вынік уздыму і падняцьця дабрабыту працоўных мас, і адчыняючыяся ў сувязі з гэтым рэальныя пэрспэктывы пашырэньня каапэрацыйнага звароту пры адначасовым далейшым выцісканьні прыватнага гандлю, гэтак сама і далейшае замяшчэньне дзяржгандлю.

8. Пры складаньні пяцёхгодкі неабходна выходзіць з таго, каб абавязкова і сыстэматычна павышалася адносная вага сацыялістычнага гаспадарчага сэктару (рашэньне XV зьʻезду ЎсеКПБ (б). Далейшы ўзрост спажыўкаапэрацыі павінен праходзіць на падставе захаваньня роўнавагі паасобных галін каапэрацыйнай працы і правільнага злучэньня гаспадарчай і арганізацыйна-грамадзкай працы каапэрацыі.

9. Пэрспэктыўным плянаваньнем у адносінах каапэраваньня павінен быць намечан цьвёрды курс на пагалоўнае каапэраваньне працоўнага насельніцтва.

На працягу пяцёхгодзьдзя неабходна:

1) У сельскіх мясцовасьцях:

Каапэраваць большасьць гаспадарак сераднякоў, усю беднату, батракоў і сельгасрабочых, усё неземляробскае працоўнае насельніцтва і каля 35 проц. другіх членаў сямей (жанчын і моладзі), пры чым уцягненьне ў каапэрацыю ўсіх бядняцкіх гаспадарак, усіх батракоў і сельгасрабочых павінна быць праведзена ў першыя гады пяцёхгодкі, для чаго неабходна прадаўжаць адлічэньні ва ўсіх каапэрацыйных арганізацыях у фонд каапэраваньня беднаты і арганізаваць рэгулярнае пакрыцьце беднатою атрыманых пазык.

2) У гарадох:

Каапэраваць усіх членаў прафсаюзаў і іншых груп працоўных, якія могуць быць членамі каапэрацыі, і 50 проц. другіх членаў сямей, прычым на працягу бліжэйшых гадоў пяцёхгодкі неабходна дасягнуць пагалоўнага каапэраваньня членаў індустрыяльных прафсаюзаў; павінны быць распрацаваны мерапрыемствы, якія дапамагаюць уцягненьню ў каапэрацыю найменш забясьпечаных груп рабочых.

10. Разьмеры статутнага і аплочанага паю як у рабоча-гарадзкой, гэтак і ў сельскай сеці павінны павышацца ў адпаведнасьці з ростам зваротаў, паляпшэньнем абслугоўваньня пайшчыка і неабходнасьцю забесьпячэньня зваротаў каапэрацыі ўласнымі сродкамі (вызваленьне з каапзвароту сродкаў прамысловасьці).

11. Каапэраваньне павінна адначасова саправаджацца мерапрыемствамі па ўсіленьні самадзейнасьці шырокіх каапэраваных мас і ўплыву іх на якасьць усяе каапэрацыйнай працы.

12. Нізавы сельскі каапэратыў павінен быць пабудован па тыпу многакрамным.

Гранічная колькасьць крам павінна ўстанаўляцца ў адпаведнасьці з задачамі найбольш мэтазагоднага гаспадарчага абслугоўваньня, бязумоўнай рэнтабельнасьці каапэратыву, паасобных яго прадпрыемстваў і забесьпячэньня пайшчыкам актыўнага ўдзелу і ўплыву на справу каапэратыву.

Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на правільнае разьмяшчэньне гандлёвай сеці каапэрацыі і запаўненьне ёю „каапэрацыйных пустынь“.

13. Пабудаваньне гандлёвай сеці рабочай каапэрацыі павінна выходзіць з максымальнага набліжэньня сеці крам да прадпрыемстваў, рабочых пасёлкаў, акраін гарадоў і г. д.

Колькасьць крам у гарадзкіх мясцовасьцях павінна быць павялічана за лік ліквідуючайся сеткі прыватнага капіталу і згортваючайся дзяржаўнай драбніцы.

14. Гандлёвы зварот спажыўкаапэрацыі на працягу пяцёхгодзьдзя павінен знайсьці сваё далейшае разьвіцьцё да граніц амаль што поўнага ахопу спажывецкага попыту каапэраванага насельніцтва і ўдзелу побач з сельгаскаапэрацыяй у загатоўках сельгассыравіны і продуктаў, пры чым неабходна загатоўчую працу будаваць на падставе матар'яльнай зацікаўленасьці вытворцаў у прыбытках ад рэалізацыі сыравіны.

15. Рацыяналізацыя таварапасоўваньня павінна праходзіць па наступных напрамках:

а) далейшае пашырэньне сыстэмы гендагавораў, як формы, якая апраўдвае сябе і забясьпечвае плянавасьць у гандлёвым звароце; павінен быць пашыран круг тавараў, якія ахопліваюцца гендагаварамі (рыбныя тавары, трыкатаж, галянтарэя, цукерныя вырабы, папяровыя і іншыя другарадныя тавары), што мае прывесьці да далейшага ліквідаваньня прадстаўніцтваў сындыкатаў і трэстаў;

б) далейшае пашырэньне транзытнага завозу ў спажыўтаварыствы, пры чым для ўтварэньня спрыяючых і магчымых умоў ахопу ўсіх спажыўтаварыстваў лічыць патрэбным аб'яднаньне спажыўтаварыстваў для закупачных мэт (куставаньне нізавой сеці), распаўсюджаньне транзыту на нізоўку выклікае ўпаўне мэтазгоднае пераразьмеркаваньне таварных запасаў ад сярэдзіннага ў нізавое зьвяно, павядзе да скарачэньня складзкой гаспадаркі саюзаў і паскорыць таварапасоўваньне;

в) пераход на сыстэму папярэдніх заказаў знізу даверху, якая дае эфэкт з пункту гледжаньня прыстасаваньня попыту і прапанаваньня, якая патаняе таварапасоўваньне, як і мэтад, садзейнічаючы ажыцьцяўленьню транзыту ў нізавое зьвяно;

г) спрашчэньне тэхнікі разьліковых і крэдытных апэрацый;

д) рэканструкцыя складзкой гаспадаркі на падставе павышэньня тэхнічнай базы яе і арганізацыі баз пры чыгунках і водных шляхох зносін у мэтах патаненьня каштоўнасьці складзкой гаспадаркі, скарачэньня выдаткаў па перавозцы грузаў і г. д., пабудаваньне халадзільнікаў, памяшканьняў для захаваньня гародніны і г. д.;

е) больш шырокае скарыстаньне воднага транспарту, як найбольш таннага і забясьпечваючага завоз у далёкія ад чыгункі раёны;

ж) далейшае пашырэньне каапэрацыйнага асартымэнту і прыстасаваньне яго да здавальненьня ўзрастаючых запытаньняў спажыўца (абутак, гатовае адзеньне, трыкатаж, радыё-вырабы, спорт-прылады, кнігі и г. д.).

16. Вялікая ўвага павінна быць зьвернута на тэхніку і якасьць абслугоўваньня спажыўца. Скарачэньне выдаткаў звароту за лік пагоршаньня

якасьці абслугоўваньня спажыўца павінна быць прызнана зусім недапушчальным. У сувязі з гэтым арганізацыя і рацыяналізацыя дробнага гандлю павінны зьявіцца ў каапэрацыйнай сыстэме мерапрыемствамі першараднымі.

Магчымае павялічэньне выдаткаў звароту, якое зьвязана з палепшаньнем абслугоўваньня спажыўца, не павінна быць у даным выпадку затрымліваючай абставінай, як выкліканае інтарэсамі абслугоўваемага насельніцтва.

Пытаньні рацыяналізацыі і тэхнікі драбнічнага апарату павінны найсьці вырашэньне ў правядзеньні наступных мерапрыемстваў:

а) крамнае будаўніцтва ў гарадох і сельскіх мясцовасьцях;

б) мэханізацыя крамнай справы на падставе ўвядзеньня машын, тэхнічных прыспасабленьняў і нармалізацыі тэхнічных працэсаў водпуску тавару (папярэдняе разважваньне тавараў, штучныя тавары замест вагавых, набліжэньне тавараў да жыльля спажыўца і развозка на дом—малако, дровы, газа і г. д.).

17. Пытаньням аграмаджваньня працэсаў спажываньня павінна быць удзелена адпаведная ўвага. На працягу пяцёхгодзьдзя павінна быць значна пашырана сець сталовак, павышана якасьць іх прадукцыі. У першыя гады пяцёхгодзьдзя рабочыя прадпрыемствы павінны атрымоўваць гарачае сьнеданьне. Хлебапячэньне павінна быць пашырана да разьмераў, забясьпечваючых поўнае здавальненьне працоўнага насельніцтва хлебам. Такая работа патрабуе павышэньня тэхнічнай базы і адпаведных капітальных укладаньняў (фабрыкі-кухні, хлебазаводы, абсталяваньне і пераабсталяваньне сталовак, арганізацыя развозкі па прадпрыемствах гарачага харчу і г. д.).

18. Пры распрацоўцы пляну павінна быць улічана, што матар'яльны рост і ўмацненьне каапэрацыі дае магчымасьць больш шырокай працы ў галіне арганізацыі рабоча-сялянскага спажыўца і побач з выкананьнем матар'яльных функцый забясьпечвае шырокае разьвіцьцё каапэрацыйнай асьветы і культурна-бытавога абслугоўваньня каапэраваных мас (кніга, радыё, кіно, бытавыя ўстановы і г. д.).

19. Пры пабудаваньні грашовай гаспадаркі спажыўкаапэрацыі неабходна выходзіць з таго, што на працягу пяці гадоў адбудзецца рост таварнай массы ў народнай гаспадарцы Савецкага Саюзу, зьбліжэньне разьмераў попыту і прапанаваньня, далейшае выцісканьне прыватніка з пасрэдніцкага звароту—усё гэта выклікае, побач з ростам абаротаў спажыўкаапэрацыі, павялічэньне таварных запасаў. На працягу плянуемага пэрыяду будуць зроблены вялікія капітальныя затраты і ўкладаньні, а таксама вызвалены ў значнай меры сродкі прамысловасьці з таварнага звароту. Для забесьпячэньня строгіх суадносін паміж грашовымі і іншымі галінамі каапэрацыйнае гаспадаркі неабходна прадугледзець ажыцьцяўленьне наступных мерапрыемстваў:

а) мабілізацыя сродкаў насельніцтва ў відзе інтэнсыўнага каапэраваньня насельніцтва, якое павінна сапраўджацца яшчэ большым зьбіраньнем паявых капіталаў—павялічэньне разьмераў статутнага і фактычна сабранага паю, якія павінны заняць асноўнае месца ва ўласных сродках спажыўсыстэмы;

б) нармальнае намнажэньне ў выніку гандлёвай дзейнасьці на ўзроўні устаноўленых норм і скарачэньне нявытворчых затрат;

в) вызваленьне ў зваротныя сродкі каапэрацыі сродкаў, якія ўкладзены ў маларухомыя і нярухомыя каштоўнасьці (маемасьць, дэбіторы і г. д.);

г) арганізацыя ў шырокіх разьмерах укладных апэрацый;

д) утварэньне і намнажэньне амартызацыйных адлічэньняў;

е) прадастаўленьне спажыўсыстэме на капітальнае будаўніцтва сродкаў па дзяржаўных і мясцовых бюджэтах і фондзе доўгатэрміновага крэдытаваньня.

# ЗЬМЕСТ



## Практыка нашае працы



## Праца на мясцох



## Нам пішуць



## Матар‘ялы да Міжнароднага Дня Каапэрацыі



## У каапцэнтрах



## Рэзалюцыі і пастановы III (VIII) зьезду ўпаўнаважаных Белкаапсаюзу.

